АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА» МІНСК 1975

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# ЗІМОВЫЯ ПЕСНІ

## КАЛЯДКІ І ШЧАДРОЎКІ



ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА» МІНСК 1975

Рэдакцыйная калегія:
**В. К. Бандарчык, М. Я. Грынблат,
К. П. Кабашнікаў, А. С. Фядосік, В. І. Ялатаў**

Укладанне, сістэматызацыя тэкстаў,
уступны артыкул і каментарыі
**А. І. Гурскага**

Укладанне, сістэматызацыя, характарыстыка
і рэдагаванне напеваў
**З. Я. Мажэйкі**

Рэдактар тома
**М. Я. Грынблат**

Рэцэнзенты:
Кандыдат гістарычных навук **У. М. Іваноў,**
кандыдат філалагічных навук **І. У. Саламевіч**

З62 **Зімовыя песні.** Рэд. М. Я. Грынблат. Мн., «Навука і тэхніка», 1975.
736 с. (АН БССР. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Беларус. нар. творчасць). У перапл.

У томе сабраны лепшыя беларускія калядныя і шчадроўскія песні, якія асобнай кнігай выдаюцца ўпершыню. Творы класіфікаваны і сістэматызаваны ў раздзелах па функцыянальна-тэматычнаму прынцыпу. Шмат якія ўзоры гэтага выдатнага жанру беларускай народнай песеннай творчасці друкуюцца разам з напевамі. Значная частка запісаў публікуецца ўпершыню. Том забяспечаны шырокай характарыстыкай зімовых песень і іх мелодый, суправаджаецца навуковым каментарыем.

З $\frac{70700\text{-}049}{М316\text{-}75}$ 45-75 С(Бел)Ф

# БЕЛАРУСКІЯ ЗІМОВЫЯ ПЕСНІ

Сярод безлічы беларускіх каляндарна-абрадавых песень асобна вылучаюцца калядныя (калядкі і шчадроўкі), якія ў багатым песенным фальклоры беларусаў займаюць вельмі прыкметнае месца і належаць да адметных асаблівасцей старажытнага зімовага абрадавага цыклу.

Спецыяльных фальклорных зборнікаў, дзе былі б змешчаны толькі беларускія зімовыя песні, да гэтага часу не выдавалася. Публікаваліся яны разам з іншымі песеннымі жанрамі беларускай народнай вуснапаэтычнай творчасці.

Да зімовых могуць быць аднесены і так званыя піліпаўскія песні, якія спяваліся не толькі ў піліпаўку, у час перадкаляднага посту, але і на каляды. Таму яны таксама ўвайшлі ў дадзены том. Паколькі большую частку тома складаюць калядныя і шчадроўскія песні, то мы і спынім сваю ўвагу на іх разглядзе.

Найбольш раннія запісы беларускіх калядных песень знаходзім мы ў публікацыях А. Рыпінскага, які ўжо ў 20—30-я гады XIX ст. займаўся збіраннем народнай паэзіі. Калядкі і шчадроўкі ён змясціў у сваёй кнізе «Białoruś», выдадзенай у Парыжы ў 1840 г. У гэтай кнізе А. Рыпінскі не толькі прыводзіць тэксты народных песень, але і выказвае свае меркаванні пра звычаі беларускага народа і характар яго песень, у некаторых выпадках адзначае, калі выконвалася тая ці іншая песня, падкрэслівае блізкасць беларускіх песень да песень іншых славянскіх народаў і г. д. Услед за А. Рыпінскім друкуе беларускія калядкі і Я. Чачот у зборніку «Piosnki wieśniacze z-nad Niemna i Dźwiny» (1846), дзе побач з песнямі іншых жанраў змясціў 8 калядных. Р. Зянькевіч у часопісе «Radegast» (1843, т. I) надрукаваў беларускую песню з Піншчыны, якую спявалі пры абходзе з «казой», а на старонках часопіса «Athenaeum» (1847, т. IV) — яшчэ 9 калядак. У зборніку «Piosenki gminne ludu Pińskiego» (1851) Зянькевіч змясціў 15 беларускіх калядных песень. Ім жа ў часопісе «Biblioteka Warszawska» (1852, т. IV) надрукаваны артыкул пра звычай калядавання на Піншчыне.

Аднак большасць публікацый гэтага жанру прыходзіцца на другую палавіну XIX і пачатак XX ст. Так, у 1871 г. П. Бяссонаў уключыў у свой зборнік «Белорусские песни...» 34 тэксты калядных і шчадроўскіх песень, запісаных галоўным чынам на Піншчыне і часткова ў Магілёўскай,

Мінскай і Смаленскай губернях. Без спробы класіфікаваць складальнік у раздзеле «Калядкі, песні калядны, ко́ляды, каляда» падаў 17 агульна-калядных і віншавальна-калядных песень, адзначаючы, каму яны адрасаваны, даў тлумачэнне незразумелых слоў, зрабіў паясненне да некаторых тэкстаў і звярнуў увагу на падабенства віншавальна-велічальных калядак і шчадровак да песень валачобных. У гэты ж раздзел П. Бяссонаў уключыў і адзін верш народнага зместу, агаварваючы, што падобныя творы хоць і не мелі ніякага дачынення да калядных свят, аднак даволі часта выконваліся «калянднікамі» замест рацэяў пры абходзе са «звяздою» і ў час прадстаўлення «Батлейкі». 16 песень, змешчаных П. Бяссонавым у канцы раздзела, суправаджалі калядныя гульні.

У 1872 г. выйшаў у свет трэці том «Трудов этнографическо-статистической экспедиции в Западно-Русский край, снаряженной ИРГО» П. П. Чубінскага. Са 176 апублікаваных калядных і 64 шчадроўскіх песень прыкладна 10 запісаны на Беларусі (у Пінскім, Мазырскім і Кобрынскім паветах). Да некаторых з іх дадзены нотныя запісы. П. Чубінскі дакладна ўказвае, дзе запісаны песні, адзначае вядомыя варыянты іх. Значную колькасць беларускіх калядных і шчадроўскіх песень надрукаваў І. І. Насовіч у «Записках ИРГО по отделению этнографии» (1873). Пазней гэтыя песні выйшлі асобным выданнем «Белорусские песни, собранные И. И. Носовичем» (1874).

Звыш 30 калядных песень і 19 рацэяў надрукаваў П. В. Шэйн у зборніку «Белорусские народные песни...» (1874). Запісы, зробленыя ў Лепельскім, часткова ў Дзісенскім і Быхаўскім паветах, вызначаюцца сваёй тыповасцю і паўнатой. Але найбольшую колькасць беларускіх калядак і шчадровак П. Шэйн апублікаваў у «Материалах для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края» (т. I, ч. 1, 1887). Разам з варыянтамі ў томе надрукавана 64 песні, не лічачы песень, звязаных з каляднымі гульнямі: «Жаніцьба Цярэшкі», «Яшчур» і інш. (яны ўвайшлі ў том «Народная драма»). Спасылаючыся на публікацыі П. Чубінскага, П. Шэйн указвае на блізкасць беларускіх калядак да ўкраінскіх.

Беларускія песні мы знаходзім і ў польскіх антрапалагічных выданнях. Так, у кн. «Zbiór wiadomości do Antropologii krajowej...» (т. II, 1878) П. Быкоўскім былі ўключаны «Pieśni obrzędowe ludu ruskiego z okolic Pinska», сярод якіх знайшлі сваё месца і беларускія калядкі.

У «Виленском Вестнике» за 1881 г. А. М. Булгакоў змясціў беларускія калядныя і шчадроўскія песні, сабраныя ім у Мінскай губерні. Некалькі беларускіх калядак апублікаваў М. А. Янчук у «Известиях общества любителей естествознания, антропологии и этнографии» (LXI, 1882).

46 калядных і наогул зімовых песень надрукаваны ў «Опыте описания Могилевской губернии...» (кн. I, 1882) А. С. Дэмбавецкага. Песні, запісаныя ў Чэрыкаўскім, Быхаўскім, Чавускім і іншых паветах Магілёўскай губерні, пададзены, як і ў папярэдніх зборніках, бессістэмна, толькі пранума-

раваныя, нават без указання, ад каго запісаны. Самі ж песні вельмі поўныя і добрыя па ідэйнаму зместу і мастацкіх якасцях.

Рад калядных песень запісаў у Навагрудскім і Трокскім паветах Я. Ф. Карскі, змясціўшы іх на старонках «Русского филологического вестника» (тт. 12, 13, 21; 1884, 1885, 1889).

Найбольшую колькасць беларускіх калядных песень (90 тэкстаў, з іх тры з напевамі) надрукаваў Е. Р. Раманаў у «Белорусском сборнике» (вып. 1—2, 7 і 8; 1886, 1910, 1912). У восьмым выпуску акрамя песень дадзены апісанні калядных абрадаў і звычаяў. Песні ж змешчаны пэўнымі тэматычна-функцыянальнымі групамі. Спачатку Е. Раманаў вылучыў песні, што спяваюцца ў час абходу з «казой», затым велічальна-віншавальныя гаспадару, гаспадыні, дачцэ, сыну, пасля песні пры калядных гульнях («Жаніцьба Цярэшкі», «Яшчур») і, нарэшце, агульна-калядныя. Тут ужо назіраецца спроба сістэматызаваць калядкі, хаця ў межах раздзелаў яны пададзены без усякай паслядоўнасці. Яшчэ 13 запісаў калядных песень Е. Раманаў апублікаваў у другім сваім выданні — «Материалы по этнографии Гродненской губернии» (вып. I, 1911). Ён падзяліў іх на тыпова калядныя, шчадроўскія і іншыя песні, якія спяваліся ў час каляд. Як бачым, з дарэвалюцыйных выданняў самы багаты збор і публікацыя беларускіх калядных песень належыць выдатнаму фалькларысту і этнографу Е. Р. Раманаву. Усяго разам з варыянтамі ім надрукавана звыш 100 беларускіх калядак і шчадровак.

У зборніку З. Радчанкі «Гомельские народные песни» (1888) змешчана 33 запісы калядак і шчадровак з крайняга паўднёвага ўсходу Беларусі. Параўноўваючы гэтыя запісы з запісамі Е. Раманава і П. Шэйна, З. Радчанка выявіла іх блізкае падабенства.

Цікавую калекцыю калядных песень сабраў Д. Г. Булгакоўскі. У сваім этнаграфічным зборніку «Пинчуки» (1890) ён надрукаваў 34 тэксты, якія па свайму зместу і эпічнаму складу, бадай, не маюць сабе роўных. Гэта сапраўдныя ўзоры мастацтва ў каляднай паэзіі. Д. Булгакоўскі падкрэсліваў асаблівую блізкасць сваіх запісаў беларускіх калядак і шчадровак да ўкраінскіх і да песенных тэкстаў П. Шэйна і З. Радчанкі. Песні, сабраныя Д. Булгакоўскім у Пінскім павеце Мінскай губерні, добра захоўваюць моўныя асаблівасці, характэрныя для гэтага самабытнага кутка Палесся.

19 калядак з Вішнёўскай воласці Свянцянскага павета апублікаваны А. Гурыновічам у кнізе «Zbiór wiadomości do Antropologii krajowej...» (t. XVII, dz. II, 1893). У XVIII томе гэтай жа кнігі (1895) разам з напевамі змясціў беларускія калядкі А. Чэрны, назваўшы іх «Pieśni białoruskie z powiatu Dziśnieńskiego, gubernii Wileńskiej». Зборам і публікацыяй беларускіх калядных песень займаўся і М. Доўнар-Запольскі — «Белорусское Полесье. Сборник этнографических материалов. Вып. I. Песни пинчуков» (1895).

Шмат калядак і шчадровак запісаў У. М. Дабравольскі на Смаленшчыне. Сярод 113 калядных песень, надрукаваных у «Смоленском этнографическом сборнике» (ч. IV, 1903), значную частку складаюць беларускія. Акрамя асноўных тэкстаў Дабравольскі падаў шэраг варыянтаў, згрупаваўшы іх у гнёзды пад літарамі ў алфавітным парадку. Пры запісванні народных твораў ён стараўся захоўваць моўныя асаблівасці мясцовых гаворак.

Па адной-дзве беларускія калядныя песні мы знаходзім у С. Малевіча «Белорусские народные песни» (1907); А. Грыневіча «Biełaruskije pieśni z notami» (t. I, 1910 i t. II, 1912); І. Бычко-Машко «Сборник народных песень» (1911) і інш.

З паслярэвалюцыйных выданняў трэба перш за ўсё адзначыць «Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны» А. Шлюбскага (ч. 1, 1927), у якіх змешчана 18 тэкстаў калядных песень, вельмі дакладна запісаных, са спасылкамі на раней надрукаваныя варыянты. У адрозненне ад папярэднікаў А. Шлюбскі ў канцы свайго зборніка дадае алфавітны і геаграфічны паказальнікі, а таксама паказальнік песенных сюжэтаў, што з'яўляецца важным і неабходным для такога выдання.

Без навуковага падзелу 24 калядныя і шчадроўскія песні, запісаныя ў мазырскім Палессі, надрукаваў К. Машынскі ў сваёй працы «Polesie Wschodnie» (1928).

У вядомым зборніку М. Гарэцкага і А. Ягорава «Народныя песні з мелодыямі» (1928) надрукавана 38 пііпаўскіх і калядных песень, запісаных у в. Багацькаўка Мсціслаўскага раёна. Цікава, што ўназванай мясцовасці многія з піліпаўскіх песень у роўнай ступені выконваліся і на каляды.

Калядныя песні запісаны і ў беларусаў Латгаліі. С. П. Сахараў у сваім зборніку «Народная творчасць Латгальскіх і Ілукстэнскіх беларусаў» (1940) прывёў пяць узораў калядных песень з напевамі. У канцы зборніка аўтар падае алфавітны спіс песень, паказальнік мясцовасцей і асоб, ад якіх зроблены запісы. У гэтым жа (1940) годзе выйшаў I том «Песень беларускага народа», складзены М. Я. Грынблатам. У томе надрукаваны чатыры калядныя песні з шырокім каментарыем да іх.

З найбольш важных зборнікаў беларускай песеннай творчасці пасляваеннага часу, куды ўвайшлі калядныя і шчадроўскія песні, варта адзначыць «Песні беларускага народа» (1959) і «Анталогію беларускай народнай песні» (1968) Г. І. Цітовіча, у якія складальнік уключыў разам з напевамі 14 калядак і шчадровак.

Самая багатая публікацыя калядных песень у пасляваенныя гады належыць Р. Р. Шырму. Толькі ў трэцім томе свайго чатырохтомнага выдання «Беларускія народныя песні» (1962) ён змясціў каля 30 тэкстаў калядных песень з напевамі. Пасляваенныя выданні тым і вызначаюцца, што песні часцей публікаваліся разам з нотнымі запісамі напеваў. Аднак усе песні падзяляліся толькі па жанрах. Ніхто са збіральнікаў нават не

спрабаваў зрабіць унутрыжанравую класіфікацыю па тэматычных групах, функцыях, прымерkаванне да ходу абрада і г. д. Такі падыход да падачы фальклорнага матэрыялу з глыбокім і ўсебаковым вывучэннем кожнага фальклорнага жанру, з навуковай класіфікацыяй і сістэматызацыяй, з усімі неабходнымі паказальнікамі да кожнага асобнага тома акрэсліўся толькі цяпер пры выданні сектарам фальклору АН БССР шматтомніка беларускай народнай творчасці (БНТ).

З тэарэтычных прац, прысвечаных беларускім калядным і шчадроўскім песням, у першую чаргу неабходна назваць раздзел «Колядские обряды и песни» ў фундаментальнай манаграфіі Я. Ф. Карскага «Белорусы»[1], дзе аўтар спрабуе растлумачыць паходжанне назвы «каляда», коратка спыняецца на ўзнікненні некаторых песень у розныя гістарычныя перыяды і ўпершыню дае агляд іх асноўнай тэматыкі. Увагі заслугоўвае таксама разбор каляднай абраднасці, зроблены П. Бяссонавым[2]. П. Шэйн[3] і Е. Раманаў[4] даволі падрабязна разглядаюць калядную абраднасць, калядныя звычаі, прыкметы і варажбу ў розных мясцовасцях Беларусі.

Некаторыя пытанні беларускай каляднай абраднасці разглядаліся і на старонках перыядычнага друку. Да найбольш важных артыкулаў можна аднесці «Ко́ляда»[5], «Святочные девичьи гаданья в Могилевской губернии[6], «Ко́ляда»[7] (невядомых аўтараў), «Рождественские святки у крестьян Мозырского уезда» А. Васільевай[8], «Местные народные обычаи в рождественские праздники» М. Г.[9], «Васильев день и святки»[10] (невядомага аўтара), «Коляды в Сенненском уезде» К. А.[11] і інш.

У навейшых даследаваннях савецкіх аўтараў беларускія калядкі і шчадроўкі разглядаюцца ў «Нарысах» К. П. Кабашнікава[12], у раздзеле «Абрадавая паэзія» (аўтар П. П. Ахрыменка) вучэбнага дапаможніка для

---

[1] Е. Карский. Белорусы, т. III, ч. 1. М., 1916, стар. 97—141.

[2] П. Бессонов. Белорусские песни, с подробными объяснениями их творчества и языка, с очерками народного обряда, обычая и всего быта. М., 1871, стар. 87—138.

[3] П. Шейн. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. I, ч. 1. СПб, 1887, стар. 37—56.

[4] Е. Романов. Белорусский сборник, вып. VIII. Вильно, 1912, стар. 68—142.

[5] «Могилевские губернские ведомости», 1852, к № 4, стар. 77—79.

[6] Там жа, к № 8, стар. 133—135.

[7] «Виленские губернские ведомости», 1852, ч. неофициальная, к № 14, стар. 53—55.

[8] «Минские губернские ведомости», 1878, № 5, стар. 74—75.

[9] «Гродненские губернские ведомости», 1892, № 2, стар. 2—3.

[10] «Могилевские губернские ведомости», 1893, № 6, стар. 23.

[11] «Могилевские губернские ведомости», 1898, ч. неофициальная, № 103—104, стар. 451—452.

[12] К. П. Кабашнікаў. Нарысы па беларускаму фальклору. Мінск, 1963, стар. 40—53.

філалагічных факультэтаў пад рэдакцыяй М. Р. Ларчанкі [13], у раздзеле «Каляндарна-абрадавая паэзія» (аўтар М. Я. Грынблат) калектыўнага гісторыка-тэарэтычнага даследавання аб беларускай вуснапаэтычнай творчасці [14] і інш.

У гадавым кругу народных каляндарных абрадаў і святкаванняў мінулага першае месца па парадку займалі каляды. Тэрмін «каляда», на думку многіх вучоных, паходзіць ад лацінскага calendae, calendae januavii. У старажытных рымлян першы дзень кожнага месяца называўся «календа». Усе календы святкаваліся, а асаблівай урачыстасцю адзначаліся календы навагоднія. Гэтыя назвы разам са святкаваннямі ў розныя часы і былі засвоены славянскімі і неславянскімі народамі: ва ўсходніх славян — каляда, у палякаў — kolęda, у чэхаў — koleda, у балгар — kolada, у сербаў — koleda, у румын — colinda, албанцаў — kolěndre і г. д.

У кожнага народа святкаванне каляд праводзілася радасна і весела. Лічылася, што калі весела правесці пачатак Новага года, то ўвесь год будзе вясёлым і шчаслівым. Святочная абраднасць суправаджалася пераадзяваннем у звяроў і хатніх жывёл. Пераадзяванне, звычай вадзіць «казу», «мядзведзя», «каня» ці «кабылу», «жорава» і г. д.— сляды тых язычніцкіх святкаванняў, якія праследаваліся царквой. Так, у летапісцаў можна знайсці наступнае: «Нецін памяти того беса Коляды и доселе не перестают обновляти, наченше от самаго рождества Христова, по вся святыя дни собирающеся на богомерзскія игралища, песни поют, ■ ■ них аще о рождестве Христовом воспоминают, но зде же беззаконно ■ Коляду, ветхую прелесть дьявольскую, много повторяюще присовокупляют...» [15]

Ва ўсходнеславянскіх народаў назва «каляды» (рус. святки) замацавалася за перыядам — з 24 снежня па 6 студзеня (па ст. ст.). На працягу гэтых двух тыдняў забараняліся некаторыя работы (гнуць, віць і інш.). Дазвалялася рабіць самае неабходнае па гаспадарцы. Вечары ж усе называліся святымі.

Да каляд сяляне пачыналі рыхтавацца з піліпаўкі. К святу кожная сям'я старалася забяспечыць сябе патрэбнымі прадуктамі харчавання.

На Беларусі вячэра ў першы дзень каляд насіла агульную назву — «куцця», таму што ў гэты дзень абавязкова варылася «куцця» (каша з ячных круп). На працягу ўсіх каляд спраўляліся тры куцці. Паколькі першая куцця служыла пачаткам каляд і спраўлялася з вялікай урачыстасцю, то і атрымала назву «вялікай куцці». Яна яшчэ называлася «поснай», таму што стравы гатаваліся без жывёльнага тлушчу.

У гэты дзень з самай раніцы кожная гаспадыня спачатку вымывала ўсё ў хаце, а пасля пачынала рыхтаваць вячэру, якая павінна была скла-

[13] Беларуская вуснапаэтычная творчасць. Мінск, 1966, стар. 71—85.

[14] Беларуская народная вуснапаэтычная творчасць. Гісторыка-тэарэтычнае даследаванне. Мінск, 1967, стар. 61—77.

[15] Цыт. па: Е. Карский. Белорусы, т. III, ч. 1. М., 1916, стар. 101.

даџца прыкладна з такіх страў: селядзец з алеем ці рыба, квас з грыбамі, бліны з макам, аўсяны кісель і, нарэшце, куцця. На ўсе тры куцці каша варылася ў адным і тым жа гаршку і з аднолькавай колькасці круп. Звараная куцця перад заходам сонца ставілася на покуць. Каштаваць яе забаранялася не толькі да вячэры, але і ў час гатавання. Як толькі пачынала цямнець і зоркі з'яўляліся на небе, на стол клалі сена і засцілалі абрусам. Уся сям'я к гэтаму часу павінна была быць дома. Быў такі звычай, што маладыя жанчыны ў першы год свайго замужжа прыходзілі на куццю дамоў, каб павячэраць у роднай сям'і. Гаспадар, месца якога было на покуці, садзіўся за стол першым, пасля па старшынству садзіліся каля яго сыны. Па другі бок стала сядзела гаспадыня з астатнімі дзецьмі. Кожны павінен быў пакаштаваць ад усіх страў. Апошняй стравай абрадавай вячэры была куцця.

З першай куццёй было звязана ў народзе многа прыкмет, звычаяў, варожбаў. Так, падсохлы верх куцці за вячэрай здымалі і аддавалі курам, «каб добра яйкі неслі». Зачэрпнуўшы першую лыжку куцці, гаспадар стукаў у акно і клікаў мароз «ісці куццю есці», каб не марозіў ячмень, пшаніцу, гарох, грэчку і да т. п., а гаспадыня зазывала мароз на куццю, каб не марозіў расаду, гуркі, гарбузы, моркву, буракі і інш.

На куццю ў час вячэры за сталом адбываліся і такія «прадстаўленні»: жонка, седзячы насупраць свайго мужа, пыталася ў яго:

— Ці бачыш ты мяне?

— Не бачу!

— Каб жа ты не бачыў за стагамі, за копамі, за вазамі, за снапамі свету!

Тады, як бы ў адказ, гаспадар пытаўся ў сваёй жонкі:

— А ці бачыш ты мяне?

— Не бачу!

— Каб жа ты не бачыла за гуркамі, за гарбузамі, за капустаю, за буракамі свету!

У канцы такога дыялогу гаспадыня брала качаргу і асцярожна дакраналася да свайго мужа, які павінен быў хутка паваліцца на лаўку і адказаць:

— Каб твае снапы так хутка падалі на ніве! [16]

У гэты ж вечар варажылі аб будучым ураджаі льну: выцягвалі з-пад абруса сяніну. Калі выцягвалася доўгая, то лён будзе высокі. Добра зваранaя куцця служыла прыкметай багатага ўраджаю ячменю; калі ноччу на небе многа зорак — летам будзе многа грыбоў або калі з паўдня пасыплецца град, то будзе ўмалотны гарох, калі снег — будуць раіцца пчолы.

На першы дзень каляд гаспадар лыжкай лавіў бурбалкі ў кіпячай вадзе і гэтым варам паліваў авёс. Раніцай ён аддаваў яго коням, каб былі

[16] П. Шейн. Материалы..., т. I, ч. 1, стар. 47.

такія ж гладкія і так шпарка бегалі, як гэтыя бурбалкі. Свінням сыпалі ў вочы снег, каб летам не глядзелі ў поле, на гарод і не бегалі ў шкоду. Каб авечкі не адбіваліся ад дому і прыходзілі ў свой двор, пасля вячэры не мылі лыжкі, звязвалі іх шарсцянай ніткай і пакідалі на стале. Сена, якое было разаслана пад абрусам, аддавалі каровам і авечкам.

Як бачым, у час каляд усе клопаты селяніна былі скіраваны на тое, каб з дапамогай розных магічных дзеянняў, традыцыйных для каляднага абраду, забяспечыць будучы ўраджай у новым годзе, ад якога цалкам залежаў дабрабыт сялянскай сям'і.

З другога дня калядных свят пачыналі хадзіць калядоўшчыкі, «цыганы», хлопчыкі-звездары са звяздою, вадзіць «казу», «кабылу», «жорава» і інш. «Казу» рабілі наступным чынам: кажух, вывернуты поўсцю наверх, надзявалі адным рукавом на канец дугі, якая ставілася выпукласцю ўніз. Рукаў завязвалі, ён служыў шыяй і галавой, да якой прымацоўвалі рогі з саломы. Да другога канца дугі прывязвалі хвост, таксама з саломы. Хлопца падбіралі звычайна невысокага росту і здатнага да танцаў. Ён залазіў пад кажух і выконваў ролю казы. Другі хлопец высокага росту, які ўмеў складна гаварыць, ішоў за павадыра (дзеда). Яго апраналі ў вывернуты кажух, рабілі горб на спіне, надзявалі маску, прывешвалі ільняную бараду, у адну руку давалі табакерку, у другую — доўгі кій. Павінна была быць і «маладзіца». Для гэтай ролі падбіралі шчуплага хлопца, апраналі яго ў дзявочае адзенне і падмазвалі сажай бровы. У кампаніі каляднікаў павінны былі быць яшчэ «цыган», механоша і музыка.

Падышоўшы да двара, павадыр пасылаў гаваркога хлопца да гаспадара прасіцца ў хату. Хлопец вітаўся, а пасля гаварыў:

— Іду ад пана нашага. Ідучы пытаю, што сказаці маю свайму пану Году, што носіць бароду, шыроку, як лапату, сіву і касмату. Ці шырокі лавы, каб нам паляжаці? Ці добра гаспадыня, каб нас частаваці?

— Адкуль вы?

— Мы людзі не простыя, з далёкага краю, хлопцы ўсе сталыя, з-пад самага раю.

— Адкуль ідзеце?

— Ідзём кругом света, аж ад пана Лета. Мы к лету ідзём, казу вядзём і радасць нясём.

— Дык просім у хату! [17]

Першым уваходзіў павадыр, вёў за сабой «казу», пасля — «цыган» з «маладзіцай», музыка, механоша і ўся «світа». «Каза» станавілася пасярод хаты, пры ёй павадыр і «цыган» з «маладзіцай», астатнія стаялі ў парозе. Пахваліўшы гаспадароў, павадыр пачынаў муштраваць кіем казу, пасля пеўчыя пачыналі співаць:

---

[17] Газ. «Беларусь», 1920, № 3.

Го-го-го, каза,
Го-го, шэрая!
Ну-тка, козачка,
Расхадзіся-тка
Па ўсяму двару
Гаспадарскаму...[18]

Музыка падыгрываў, а «каза» дробнай ступой хадзіла то ўперад, то назад, паварочвалася то налева, то направа. У беларусаў і ў іншых земляробчых народаў «каза» ўшаноўвалася, як даўца ўраджаю:

Дзе каза ходзіць,
Там жыта родзіць,
Дзе не бывае,
Там вылягае...

Пасля заканчэння песні «каза» клалася і прыкідвалася мёртвай, затым падымалася і кланялася гаспадарам. Павадыр звяртаўся да «маладзіцы» і «цыгана» з просьбай патанцаваць. Музыка іграў «барыню», «казачка» ці «падушачку», а яны танцавалі. Пакідаючы хату, павадыр зычыў гаспадару:

Будзь ваша здароў,
Як рыжык бароў!
Май торбу грошы,
Жыві ў раскошы!
Май ўсяго даволі
А бяды ніколі!
Стары год канчаем,
Новы зачынаем:
З ранняю вясною,
З буйнаю травою,
З збожжам каласістым,
З зярном ядраністым
Ды з прыятным летам,
І з грашом пры гэтым,
І з восенню яснай,
І з долечкай шчаснай!

— Дзе вы гэту казу дасталі? — пытаў, нарэшце, гаспадар...

— На кірмашы ад старога купіў,— адказваў павадыр,— семсот грошай заплаціў.

— А дзе сам так вывучыўся?

— Па ўсім свеце ходзячы, торбу хлеба носячы, між людзей бываючы, дзівы дзіўныя відаючы, розныя кнігі чытаючы, уверх нагамі трымаючы. А вы здаровы бывайце, за год нас чакайце.[19]

---

[18] Усе прыклады, прыведзеныя ва ўступным артыкуле, узяты з тэкстаў, якія ўвайшлі ў дадзены том.
[19] Газ. «Беларусь», 1920, № 3.

Атрымаўшы ад гаспадароў падарункі (сала, каўбасу ці грошы), калядоўшчыкі пераходзілі ў другую хату.

Вечар перад Новым годам (другая куцця) называлі багатай, тоўстай, шчодрай, мясной куццёй. Такую назву давалі гэтаму вечару таму, што кожная гаспадыня старалася згатаваць больш багатую вячэру, сустрэць Новы год у поўным дастатку, каб увесь год быў сыты.

У гэты ж вечар шчадравалі. Дзяўчаты хадзілі са «шчодрай», на ролю якой выбіралі прыгожую дзяўчыну. Яе апраналі ў святочнае адзенне, на галаву ўскладалі папяровы вянок з рознакаляровымі стужкамі. Прыбраўшы «шчодру», дзяўчаты адпраўляліся па хатах і спявалі шчадроўкі.

У навагоднюю ноч вялікае значэнне надавалася варажбе. Найбольш распаўсюджанай была варажба на штыкецінах. Вечарам дзяўчаты бралі міску з кашай (куццёю) ці каўбасой, выносілі на двор і ставілі каля сметніка, а самі беглі да плоту і, беручыся рукой за кожную штыкеціну, гаварылі: «Маладзец, удавец, маладзец, удавец». Апошняя штыкеціна і «паказвала», хто будзе мужам — маладзец ці ўдавец.

Варажылі і на блінах. Сутнасць гэтай варажбы заключалася ў тым, што дзяўчына тайком ад усіх хатніх брала першы спечаны блін і, выбегшы на вуліцу, пыталася ў мужчыны, якога сустракала, як яго імя. Пачуўшы, яна амаль была ўпэўнена, што ведае імя свайго суджанага. Неабходна было яшчэ дазнацца, ці выйдзе яна замуж у новым годзе. Для гэтага трэба было з тым жа блінам падысці да суседзяў пад акно і паслухаць, аб чым гавораць у хаце. Калі да вушэй дойдзе слова «ідзі», значыць, яна выйдзе замуж, а калі пачуе слова «сядзь», то ў лепшым выпадку прыйдзецца яшчэ год «сядзець у дзеўках».

Каб даведацца, у якім баку жыве яе суджаны, дзяўчына выходзіла на раздарожжа і прыслухоўвалася: дзе забрэша сабака, у той бок і выйдзе замуж. З такой жа мэтай кідалі зняты з нагі чаравік: у які бок ён ляжа наском, там быць і замужам.

А каб ведаць, ці багаты будзе суджаны, трэба было ноччу з блінам у руках пайсці ў лазню, прасунуць руку ў акенца і пастарацца што-небудзь абмацаць. Калі ў руку papaдзецца што-небудзь касматае, быць дзяўчыне за багатым, калі ж пападзецца гладкае (камень, кавалак дрэва і г. д.), усё жыццё прыйдзецца гараваць у беднасці.

Для дзяўчыны заставалася яшчэ адна загадка: ці добры будзе яе муж ці сярдзіты. Адгадаць гэта можна было так: пайсці да калодзежа або на рэчку і кінуць у ваду камень. Калі камень пойдзе на дно ціха, то муж будзе ціхі і добры чалавек, а калі з шумам — не будзе згоды ў сям'і.

Дзень Новага года ў вёсцы быў раней больш вядомы пад назвай «васілле», у чым праявіўся вонкавы ўплыў царкоўнага календара (1 студзеня — дзень св. Васіля Вялікага). Раніцай у гэты дзень сялянскія дзеці з мяшочкамі, напоўненымі збожжам, заходзілі ў хаты і, віншуючы гаспадароў

традыцыйнымі навагоднімі звычаннямі, «засявалі» — пасыпалі кругом зярнятамі. Пры гэтым яны часта выконвалі спецыяльна прысвечаныя васіллю песенькі:

Ходзіць Ілля на васілля,
Носіць пугу жыцяную,
Дзе замахне — жыта расце,
Дзе не махае — там не бывае.
А ў полі ядром, а ў доме дабром!
Радзі, божа, жыта-пшаніцу,
Усякую пашніцу.

«Засявальнікаў» прымалі вельмі ахвотна, давалі ім хлеб, сала, арэхі, абаранкі і інш.

Трэцюю куццю (перад вадохрышчам), як і першую, называлі «посную», або «галодную», ці «вадзяною». У гэты вечар гаспадар браў гаршчок з куццёю, хлеб, крыж, зроблены з дрэва, і крапілам з жытніх каласоў асвячаў ваду. Пасля гэтай жа вадою акрапляў хату і іншыя будынкі. Адначасова маляваў крэйдай крыжы на вокнах, сценах, дзвярах, варотах і г. д. Гэта называлася «запісаць каляды». Крыжы ж прызначаны былі адагнаць «нячыстую сілу», абараніць ад «чар» і захаваць здароўе ўсім, хто жыў у гэтым двары. Вярнуўшыся ў хату, гаспадар ставіў на стол гаршчок з куццёю і ўся сям'я пачынала вячэраць. Стравы падаваліся такія ж, як і на першую куццю.

З прыкмет і павер'яў, звязаных з трэцяй куццёй, можна адзначыць наступныя: мяцеліца на вадохрышча прадракала добры ўраджай грыбоў, ягад і арэхаў. Калі хата ў гэты дзень трымалася ў чысціні, летам лён павінен урадзіцца чысты. За вячэрай спяшаліся з ядой, каб летам хутчэй управіцца з палявымі работамі і інш.

У калядныя вечары моладзь наладжвала танцы і гульні. Звычайна яна збіралася ў больш прасторнай хаце ў добрага гаспадара, а больш за ўсё — у карчме. Танцы зацягваліся да самай раніцы, і спынялі іх музыка, які ад знямогі засынаў на тым месцы, дзе іграў. Танцавалі «мяцеліцу», «барыню», «вераб'я», «падушачку», «польку», «кадрыль» і інш.[20]

Рэшткі каляднай абраднасці захаваліся яшчэ і цяпер у некаторых мясцовасцях Беларусі, але змест і функцыі іх зусім змяніліся. Усё гэта набыло характар вясёлай забавы.

---

[20] Апісанне калядных абрадаў, звычаяў, прыкмет і варажбы зроблена на падставе наступных крыніц: П. Бессонов. Белорусские песни..., стар. 87—138; П. Шейн. Материалы..., т. I, ч. 1, стар. 37—56; Е. Романов. Белорусский сборник, вып. VIII, стар. 68—142; Е. Карский. Белорусы, т. III, ч. 1, стар. 97—141; А. Васильева. Рождественские святки у крестьян Мозырского уезда. «Минские губернские ведомости», 1878, № 5; Н. Гашкевич. Щедрец. «Могилевские губернские ведомости», 1852, № 11; П. Марковский. Встреча Нового года в Гомельском уезде Могилевской губернии. «Могилевские губернские ведомости», 1870, № 6; С. Микуцкий. Коляда. «Виленский вестник», 1860, № 37 і шмат інш.

Коратка спыняючыся на разглядзе зімовых песень, неабходна адзначыць, што ў вядомых нам беларускіх народных калядных і шчадроўскіх песнях няма ўпамінання аб прынашэнні ахвярнага казла, што сустракаем у песнях такога жанру іншых славянскіх народаў. У беларускіх калядных песнях можна знайсці ўпамінанне, што ў пана Івана на двары агні гарацъ і катлы кіпяць, але ж у тых катлах варыцца віно, піва і мяды для гаспадара, гаспадыні і іх дзяцей. Напрыклад:

У нашага пана Івана двор гараджоны,
Двор гараджоны жалезным тынам,
На тым жа двары тры агні гарацъ,
Тры агні гарацъ, тры катлы кіпяць:
А ў першым катле пшанічна віно,
А ў другім катле чырвона піва,
А ў трэцім катле салодкі мядкі.
Пшанічно віно — то хазяіну,
Чырвона піва — то жане яго,
Салодкі мядкі — то дзеткам яго...

Няма ў беларусаў і так званых аўсеневых песень, з прыпевам «Ой, оўсень!», якія можна сустрэць у рускім фальклоры. Матывы аўсеневых песень наогул супалі з матывамі калядных, а матывы апошніх адны і тыя ж, што і ў шчадроўскіх. Калядныя песні, якія выконваліся напярэдадні Новага года з прыпевам «шчодры вечар», называліся шчадроўскімі. Зімовыя песні, асноўную масу якіх складаюць калядкі і шчадроўкі, належаць да характэрных асаблівасцей беларускай каляндарна-абрадавай паэзіі, і нездарма яны складаюць цэлы том.

Па ідэйна-тэматычнаму зместу беларускія калядныя песні можна падзяліць на некалькі раздзелаў: агульнакалядныя (гэта песні, якія па іх зместу ўмоўна можна назваць прадкаляднымі), гаспадару і гаспадыні, дачцэ, сыну, жартоўныя канцоўкі да песень, каза, вяселле, калядныя карагоды і гульні і песні, прымеркаваныя да каляд.

Песні, якія па іх зместу мы ўмоўна назвалі прадкаляднымі, адзначаюць пярэдадзень свята і з'яўляюцца нібы пераходнымі ад піліпаўскіх да ўласна калядных. У гэтых песнях выказана пажаданне аб хутчэйшым надыходзе каляд, паколькі цяжкая паднявольная праца ў паноў, напаўгалоднае жыццё і перадкалядны пост зусім знясільвалі чалавека. Каляды, як і кожнае іншае народнае свята, прыносілі на нейкі час ажыўленне, весялосць у шэры, пануры быт селяніна. Да таго ж, свята давала мажлівасць сытна паесці пасля доўгага посту і адпачыць:

Ой, калядачкі, калядачкі,
Вы барджэй, вы барджэй,
Вы прынясіце ў бліны дражджэй.
Нам піліпаўка надакучыла,
Жываты нашы пазамучыла,
А нам жамеры — зубы праелі.

Ой, калядачкі, прыбліжыцеся,
А кілбасачкі, паніжыцеся.
А калядачкі — на двор, на двор,
А кілбасачкі — на стол, на стол.

Іншы раз у песнях такога роду гучыць і сацыяльны пратэст. Вось прыклад песні пра наёмных панскіх батракоў, тэрмін службы якіх канчаўся перад калядамі:

— Тыдзень, тыдзень да каляд,
Пан наш ды чэлядзі не рад.
Пашла чэлядзь скачучы,
Пан за ёю плачучы...
— Каб ты, пане, не даждаў,
Каб ты намі замысляў.
Твая пані ліхая
На ўсю чэлядзь гукае.
Твой хамут і дуга,
А я табе не слуга!

Чакала каляд і моладзь, якой свята прыносіла вясёлыя ігрышчы і карагоды:

А калядачкі, нашы нежанькі,
А панежылі нашых дзевачак.
Убілі дзевачкі чорны сцежачкі,
То на йгрышчанька, то з ігрышчанька...

Наступны раздзел — гэта ўласна віншавальна-велічальныя калядкі і шчадроўкі, якія славяць гаспадароў і зычаць ім усялякіх даброт. Беларускія калядныя і шчадроўскія песні, як украінскія і рускія,— песні велічальна-зычлівага характару, якія першапачаткова выконвалі магічную функцыю. Адсюль зусім нязвыклыя для сялянскага быту карціны дастатку, багаты двор гаспадара, да якога прыйшлі калядоўшчыкі. Двор яго «на сямі вярстах, на васьмі стаўбах», з трыма, чатырма і нават з пяццю церамамі ды яшчэ і з прыцяромкамі.

Мы хадзілі, гулялі калядоўшчыкі,
Прыходзілі, прыгулялі
К гаспадарскаму двару.
Гаспадарскі двор
На сямі вярстах,
На васьмі стаўбах.
Стаўбы тачоныя,
Пазалачоныя.
А на самым двары
Стаяць тры церамы...

Ды хадзілі, гулялі калядоўшчыкі,
Ды сачылі, пыталі багатага двара,
Багаты двор — Пятроў дом...

2. Зак. 1420

На яго двары ды чатыры церамы стаяць...

...Іване, слаўны пане!
У тваім дворыку, як у вянку:
Пяць церамоў з прыцяромкамі...

Гаспадар, гаспадыня і іх дзеці ўпадабляюцца месяцу, сонцу, зоркам:

...Ды ў тым цераму тры вакошачкі,
Тры вакошачкі сцякляныя:
У першым вакне — ясны месяц,
У другім вакне — красна сонца,
У трэцім вакне — дробны зоркі.
Ясен месяц — пан Іван,
Красна сонца — яго жана,
Дробны зоркі — яго дзеткі...

Такое ўпадабленне нябесным свяцілам, якое вынікае з анімістычнага і міфічнага светапогляду,— адно са сведчанняў старажытнасці калядак і шчадровак. Калядоўшчыкі ў сваіх песнях велічалі ўсю сям'ю разам або асобна гаспадара, гаспадыню, дачку, сына.

Першаму пачыналі спяваць гаспадару, паважліва называючы яго панам. У песні ў ідэальным выглядзе ўзвелічалася яго гаспадарка, усялякая ўдача, якая чакалася ў доме, у хляве, на полі:

Ой, добры вечар, пане гаспадару!..
Надзень шубку, выйдзі на вулку,
Стань, паслухай, што ў небе гудзе,
Што ў небе гудзе, прачыстая ідзе,
Прачыстая ідзе, тры радасці нясе:
Першая радасць — у тваім доме,
Другая радасць — у тваёй аборы,
Трэцяя радасць — у чыстым полі.
У тваім доме — дробныя дзеткі,
У тваёй аборы — валы, каровы,
У чыстым полі — буйна жыта...

Добра, па-гаспадарску ідуць справы і на пасецы:

Сядайце, пчолкі, пану Івану
На завулейку, на заборцейку,
Насіце мяды ўсё салодкія...

Гаспадар прадстаўляецца калядоўшчыкамі дзелавым, удачлівым чалавекам не толькі ў хатніх абставінах і ў гаспадарчым жыцці. Величанне-ўшанаванне гаспадара праяўлялася часта і ў тым, што яго малявалі ў вобразе нейкага князя-ваяводы, які ў горадзе з вялікім уменнем «судзіць суды» і «раду радзіць».

...Івана самаго дома нетуці,
Дома нетуці, у дарозе.

Паехаў ён у Сібір-горад,
Суды судзіць, раду радзіць.
За суд бярэ сто рублёў,
А за раду — дзве тысячы...

Такія калядкі, відаць, адносяцца да таго часу, калі вялікія князі асобных членаў сваёй дружыны пераводзілі з наёмных воінаў на становішча земскіх баяр, надзялялі іх маёнткамі і даручалі ім «суды судзіць».

У песнях гэтага ж роду, як і ў іншых віншавальна-велічальных песнях, усе поспехі гаспадара яўна гіпербалізуюцца. Такая гіпербалізацыя не выпадковая. Тут дзейнічаў яшчэ закон першабытнай прадуцыруючай магіі, таксама як у больш старадаўніх песнях, дзе гаспадара, да якога прыйшлі калядоўшчыкі, усюды чакае ўдача і шчасце; да яго прыходзяць у госці нават само сонца, месяц, дождж, дапамагаючы яму вырасціць хлеб і спрыяючы яго дабрабыту:

Ой, добры вечар, пане гаспадару!
Засцілай сталы, кладзі пірагі.
Да будзе ў цябе да трое гасцей:
А першы госць — жарка сонейка,
А другі госць — ясны месечка,
А трэці госць — дробны дожджык...

Зразумела, што гаспадар пасля таго, як ён паказваўся ў калядных і шчадроўскіх песнях такім багатым і паважаным чалавекам, гасцінна прымаў калядоўшчыкаў і даваў ім добры пачастунак.

Песень, якія асобна велічаюць гаспадыню, значна менш, але і з іх выступае вобраз працавітай, гаспадарлівай жанчыны, рукадзельніцы, майстрыхі:

...А ці дома, дома пані гаспадыня?
А няма ў доме, сядзіць у каморы,
Сядзіць у каморы, шые, вышывае.
А на рукаўцы — сівы галубцы,
А на палічкі — дробныя пташачкі.
Сівы галубцы, як не паляцяць,
Дробныя пташкі, як не шчабечуць,
Малыя дзеткі, як не гавораць.

Асноўны змест песень, прысвечаных гаспадыні,— гэта праслаўленне яе гаспадарчага ўмельства і клапатлівасці. У яе таксама, як і ў мужа, многа грошай, яна можа купляць цэлыя гарады:

У пана Івана — вумная жана...
Закупіла яна да тры гарады:
Першы горад усё з панамі,
Другі горад усё з казакамі,
Трэці горад усё з мужыкамі.
Што з панамі — дай панаваці,
Што з казакамі — ваяваці,
Што з мужыкамі — поле пахаці...

У велічальных песнях да дачкі гаспадароў гаварылася пераважна пра яе блізкае замужжа. Яна заўсёды самая прыгожая дзяўчына. Адзенне яе багатае, вылучаецца сваімі цудоўнымі аздобамі з залатой кары чарадзейнай бярозы або вярбы:

Ой, у перавоза стаяла бяроза,
На той бярозе — залатая кара.
Да наляцела розных птушак,
Да тую кару да паабівалі.
Да вышла, выбегла красная панна
Да тую кару пасабірала,
Да ў рукавец склала,
Да й занесла да злотнічка:
— Ой, злотнічку, да й кавальчыку,
Скуй жа мне тры надобанькі.
Адна надобка — залаты венчык,
Другая надобка — залаты пояс,
Трэцяя надобка — залаты персцень.
Да ў венчыку — звянчаціся,
Пярсцёнак — памяняціся,
А паясок — падперазаціся.

Велічальныя песні да сына таксама, як і да дачкі, развіваюць шлюбныя матывы. Сын — удачлівы паляўнічы. Ён можа застрэліць любога звера, але пакіне жывым толькі таго, хто паабяцае дапамагчы яму ў сватанні ці жаніцьбе:

...Тыя арлы да й прамоўлілі:
— Малады Іванка, да не бі арлоў,
Да як будзеш да жаніціся,
Да не будзе табе перавозу.
Прыедзеш ты к ціхаму Дунаю,
Тваю дзевачку Хіму добра знаю.
Пасаджу цябе на правым крыле,
Тваю дзевачку Хімачку да й каля цябе,
А твой поезд на левым крыле,
Тваіх музыкантаў на сізым хвасце,
Шчэдры вечар да й добрым людзям!

Добраму молайцу ў жаніцьбе абяцае дапамагчы і яго конь, якога ён намерыўся прадаць:

— Молад Іванька, не прадавай мяне,
[Не прадавай мяне], дзяржы ля сябе.
Як будзеш ты да жаніціся, памашчу масты,
[Памашчу масты] ўсё калінавыя,
Пастаўлю стаўбы да ўсё залотыя,
Павешу хусты ўсё шаўковыя...

Добры моладзец і сам прымае актыўны ўдзел у сватанні. Ён рана ўстае, пабуджае сваіх братоў, каб хутчэй ехаць па сваю нарачоную:

А рана, рана куры папелі,
А раней за таго Іванька ўстаў.
Па двару пахадзіў, званком пазваніў,
Званком пазваніў, хлопцаў пабудзіў:
— Уставайце, хлопцы-братцы, коней сядлайма,
Коней сядлайма да й выяджайма
У чыстае поле на прагулянне
Куню сачыці, дзеўку сватаці.

Сваю нявесту ён нават гатоў адваяваць у татар, што забралі яе ў палон:

...Я ж тых татараў мячом пасяку,
Я ж тую дзевачку за сябе вазьму.

У калядныя вечары моладзь ладзіла карагоды і гульні, якія былі прымеркаваны толькі да гэтага свята і якія суправаджаліся адпаведнымі песнямі. Не выпадкова калядны цыкл беларускай народнай паэзіі ўбірае ў сябе асобную групу карагодных і гульнёвых песень. Гэта лірычныя песні з вясёлым, часта з жартоўным зместам:

...Сівы коню, сівы, маляваны санкі,
Як сяду, то паеду да сваёй каханкі.
Да ў маёй каханкі смаляныя лаўкі,
Як сеў — так і прыкіпеў.

Да каляднага цыклу адносіцца і значная група песень, знешне зусім не звязаных з каляднай абраднасцю. Мы вылучылі іх у раздзел «Розныя». Гэта пераважна песні пра сямейнае жыццё, пра няшчасную долю маладой жанчыны, што жыве на чужыне без свайго роду:

Піце, людзі, гарэлачку,
Шэры гусі — воду.
Худа жыці на чужыне,
Не маючы роду...

Паказваецца горкае і цяжкае яе жыццё ў свекрыві, якая прымушае працаваць не толькі з раніцы да позняй ночы, а яшчэ і ў нядзелю:

...Свякроў мая шалёная,
Загадала мне тры дзела дзелаці:
Першае дзела — у нядзелю плацце мыць,
Другое — на моры бяліць,
Трэцяе дзела — верх лесу сушыць...

Становішча нявесткі ў сям'і было настолькі бяспраўным, што яе кожны мог пакрыўдзіць і нават пабіць:

А ўчора мяне ды свякор набіў,
Набіўшы мяне, сам у пір пайшоў...
— Ой, добра, добра піць піва п'янае
І добра біці дзіця чужое.

Піва п'янoе не співаецца,
Дзіця чужое не спіраецца,
Толькі слёзкамі абліваецца.

З гэтага невялікага агляду калядная паэзіі відаць, што беларускія калядныя песні тэматычна разнародныя. Разнародныя яны і па свайму паходжанню. Да найбольш даўніх адносяцца песні з выразнымі матывамі аграрнай магіі. Гэта песні, напрыклад, звязаныя са звычаем ваджэння «казы».

Віншавальна ж велічальныя песні належаць да класавага грамадства. Хаця асновай іх былі больш даўнія песні, але ў тым выглядзе, у якім яны дайшлі да нас, а таксама мяркуючы па іх вобразнай сістэме, у якой адлюстраваліся рысы быту пануючых класаў, віншавальна-велічальныя песні, на наш погляд, аформіліся ў эпоху феадалізму. Значная частка калядных песень мае больш позняе паходжанне.

Некаторыя калядныя песні, такія, як «Саўка ды Грышка ладзілі дуду», «Куды едзеш, Сілівон», «Дзе ж ты быў, мой чорны баран», «Сіўка-варонка» і іншыя, адарваўшыся ад абраду, з цягам часу перайшлі ў дзіцячы рэпертуар. Таму яны і апублікаваны ў томе «Дзіцячы фальклор» (Мінск, 1972, стар. 329—330, 336—338, 321, 274—284).

У калядных песнях, якія належаць да класічнай спадчыны беларускага абрадавага фальклору, выдатна праявілася багацце мастацкіх прыёмаў песеннай паэзіі. У кампазіцыйнай будове калядак-ушанаванняў звычайна вылучаюцца тры часткі: запеў у форме звароту або эмацыянальнага воклічу, які перадае святочны настрой; асноўная частка песні, у якой заключаны песенны сюжэт і якая перадае дзеянне ў форме апавядання ад трэцяй асобы або ў форме маналога ці дыялога, і канцоўка — зычэнне або жартоўнае выпрошванне пачастунку.

Запеў:

Ой, добры вечар, пане гаспадару!
Святы вечар!
Ці спіш, ці ляжыш,
Ці пацiху сядзіш...

Асноўная частка:

А ці дома, дома сам гаспадар?
А няма ў доме, сядзіць пры дварэ,
Ён усё сядзіць, да суды судзіць...

Іване, слаўны пане!
У тваім двару, як у вянку,
Пяць церамоў з прыцяромкамі...

— Коню, коню, прадам цябе
За трыста злотых, за тры чырвоных!
— Пане, пане, не прадавай мяне...

Канцоўкі:

Дай божа, за рок даждаці,
Новага року дачакаці
Да яшчэ закалядаваці.

Мы не варагі,
Бяром хлеб і пірагі,
Каўбасу — для запасу
І барана за рагі...

Як і ў іншых традыцыйных народных песнях, у калядках і шчадроўках няма правільнага чаргавання рыфмы. Некалькі радкоў падрад могуць зусім не рыфмавацца, а наступныя 2—4 радкі звязваюцца згушчэннем рыфмы:

Ці ты спіш-ляжыш,
Ці нас не чуеш?
Пане Ляксею, дары каляду!
Калі не дасі бочкі пшаніцы,
Бочкі пшаніцы, другой ярыцы...

Замест рыфмы часцей знаходзім асанансы і кансанансы:

Адчыні хлявы,
Каб валы раўлі...
Адчыні сені,
Каб людзі селі...

Многія калядкі, як і іншыя абрадавыя народныя песні, не маюць выразнай страфічнай будовы. Рытмічная будова песні вызначаецца ў асноўным яе мелодыяй.

Улюбёнымі мастацкімі прыёмамі калядных песень з'яўляюцца паўторы, трохкратнасць, паралелізмы:

Вы калядачкі, бліны-ладачкі,
Ай, люлі-люлі, бліны-ладачкі...

...А на самым двары
Стаяць тры церамы,
А ў першым цераму — ясна сонейка,
У другім цераму — свецел месяц,
А ў трэцім цераму — часты зорушкі...

Ля калодзежа, ля сцюдзёнага,
А ўсе галубы пазляталіся,
На галубку паспіраліся.
— А каму ты, галубка, ўсё й застанешся,
Ай, ці сізаму, ай, ці беламу?
— А я застануся аднаму галубку...
А ў Іванкіных у вароціках
Добры молайцы ўсё паз'ехаліся,
На адну Кацю паспіраліся,

— А каму ты, Каця, усё й застанешся,
Ай, ці сельскаму, ай, ці меснаму?
— Ай, застануся добру молайцу...

Для калядных песень асабліва характэрна гіпербала, якая выклікана самой абрадавай функцыяй калядак:

А ў лузе, лузе каліна красна,
Ой, ясней-красней, Ганна, у татачкі,
Па двары хадзіла, увесь двор красіла,
У сені ўвайшла — сені заззялі...

Шырока скарыстана і алегорыя:

Едуць, едуць калядкі,
Вязуць бліны і аладкі,
А на шэранькім канёчку...

Вобразная сімволіка калядак блізкая да сімволікі традыцыйнай народнай лірыкі і асабліва вясельнай паэзіі. У калядках сімвалам маладой дзяўчыны часта з'яўляецца белы лебедзь, молайца — ясны сокал, маладых мужа і жонкі — селезень, вутачка, іх дзяцей — вуцянятачкі:

Плавала вутачка
Да й па рэчачцы...
Сера вутачка
З вуцяняткамі...
З селязенечкам.
Сера вутачка —
То Сахвеечка,
Селязенечка —
То сам Хомачка,
Вуцянятачкі —
То іх дзетачкі.

Як і ў іншых жанрах народнай песеннай паэзіі, мы знаходзім у калядных песнях дэталізацыю апавядання:

У варoцечках зелен явар стаіць,
На тым явары сіў сокал сядзіць,
Сіў сокал сядзіць, далёка глядзіць,
Ой, як далёка на сіняе мора.
На сінім моры карабель плыве,
А ў тым караблі да й два молайцы...

Багата прадстаўлены і такія традыцыйныя элементы народнай песеннай паэтыкі, як сталыя эпітэты:

Зажурылася крутая гара,
Што не ўрадзіла шаўкова трава,
Толькі ўрадзіла зеляно віно;

інверсія:

...Яго жана дасужа была,
Закінула тры невады, тры шаўковых...
Улавіла яна трох акунёў златаперанькіх
Златаперанькіх, златакрыленькіх;

параўнанне:

Высока клён дзераўца, высока,
Зелен явар — яшчэ вышэй,
Сасоначка над усімі;

метафара:

Засцілайце сталы, кладзіце пірагі,
К вам наедуць любыя госці:
Першы госць — ясен месяц,
Другі госць — жаркае сонейка,
Трэці госць — дробен дождджык.

Гукавую выразнасць песеннай мовы ўзмацняе алітэрацыя:

Трахнуў-махнуў правай рукой,
Зраніў, званіў залот персцень...

Як бачым, паэтыка народнай песні вельмі багатая і разнастайная. Яна невычарпальная, як невычарпальная сама крыніца вуснапаэтычнай творчасці народа.

Нельга не адзначыць асаблівую блізкасць паміж беларускімі і ўкраінскімі калляднымі і шчадроўскімі песнямі. Тлумачыцца гэта цеснымі і даўнімі гістарычнымі, эканамічнымі і культурнымі ўзаемасувязямі двух братніх народаў. Такое падабенства песень было заўважана яшчэ дарэвалюцыйнымі збіральнікамі народнай вуснапаэтычнай творчасці. Вось некалькі прыкладаў.

У беларускіх калядках:

Да ці дома, дома сам пан гаспадар?
Да самі ж мы знаем, што ён дома,
Сядзіць на ўслонцы, лічыць чырвонцы.
Пайдзём да яго, ізвясцім яго,
Ці не дасць жа нам хоць па чырвонцу?..

У пана Івана вумная жана...
Сенечкі мяла, шэляжок знайшла.
Закупіла яна да тры гарады:
Першы горад — усё з панамі,
Другі горад — усё з казакамі,
Трэці горад — усё з мужыкамі...

Го-го-го, козанька,
Го-го-го, шэра,
Го-го-го, бела.

Ой, расхадзіся,
Развесяліся,
Па ўсяму даму,
Па вясёламу!..

Ва ўкраінскіх калядках:

Чи дома, дома хазяїн дома?
Ой вже він дома, нам не сказали.
Ой що він робить? — Червінці лічить.
Ой чи не дасть нам хоч по червінцю?..[21]

У пана Івана умная жена,
Умная жена сінечки мела,
Сінечки мела, шажок ізнайшла.
Закупила вона да три города:
Що первий город, то все з панами,
А другий город — із козаками,
А третій город — із мужиками...[22]

Го-го-го, коза сірая,
Го-го, сірая, го-то, білая.
Ой розходися, розвеселися,
По сьому дому, по веселому!..[23]

Такіх прыкладаў можна прывесці шмат. Гэта лішні раз паказвае, што ў вуснапаэтычнай творчасці беларускага народа ёсць нямала калядак і шчадровак, якія, набыўшы самабытныя рысы, маюць агульнаўсходнеславянскую аснову.

Прызначэннем каляднай абраднасці ў даўнія часы было жаданне хутчэй наблізіць надыход сонечнага цяпла (згодна з народным выразам, ад каляд «сонца паварочвала на лета») і забяспечыць добры ўраджай у новым гаспадарчым годзе пры дапамозе адпаведных слоў і розных магічных дзеянняў. З цягам часу функцыі каляднай абраднасці змянілі сваё прызначэнне. Некаторыя элементы каляднага абраду адышлі ў мінулае, а разам і звязаныя з імі звычаі (закліканне мароза, варажба і інш.). Тыя ж рэшткі каляднага абраду (ваджэнне «казы», калядныя гульні), якія захоўваюцца яшчэ з замацаванымі да іх песнямі ў некаторых мясцовасцях Беларусі, набылі зусім новае адценне, ператварыўшыся ў вясёлую забаву. Сяляне палескай вёскі Тонеж Лельчыцкага раёна пра цяперашняе калядаванне і шчадраванне гавораць так: «Нельга закрываць гэту моду, яна павялася з колішнега (здаўна). Гэта ж не то, што хлеба ў нас няма, а спяваем та-

---

[21] Колядки та щедрівки. Упорядкування, передмова і примітки О. І. Дея. Київ, 1965, стар. 80.
[22] Там жа, стар. 129.
[23] Там жа, стар. 568.

му, што без каляды ўся зіма сумная»[24]. А вось як разважаюць жыхары іншых палескіх вёсак (Букча, Глушкавічы, Клетная, Сямігосцевічы): «Калядуем таму, што нам трэба за што-небудзь зачапіцца, каб пагуляць» [25]. «Цяпер каляндарныя святы,— піша вядомы савецкі вучоны-этнограф С. А. Токараў,— там, дзе яны яшчэ захаваліся,— гэта перш за ўсё традыцыйная форма адпачынку, забаў, гульняў, масавых відовішчаў. Іх прымеркаванне да пэўных каляндарных тэрмінаў... зусім не выпадкова: яно абумоўлена агульным рытмам жыцця прыроды і рытмам гаспадарчай дзейнасці чалавека; у першую чаргу гэта адносіцца да вясковага насельніцтва і ўскосна да гарадскога.

У апошнія гады ў многіх краінах наглядаецца вельмі важная справа: узбагачэнне традыцыйных абрадаў, прымеркаваных да старых дат, але часам ужо і без дакладнага прытрымлівання іх,— узбагачэнне іх дэманстрацыяй скарбаў народнага мастацтва (танцы, песні, музыка, артыстычныя спаборніцтвы, нацыянальныя касцюмы, іншы раз спартыўныя гульні і выступленні). Падобнага роду фестывалі нацыянальнага мастацтва за апошнія паўтара-два дзесяцігоддзі (і, відаць, у сувязі з агульным ажыўленнем цікавасці да народнай культуры) набываюць год ад году ўсё больш шырокі размах. Яны вядомы ў Францыі, Чэхаславакіі, Югаславіі, Балгарыі і ў іншых краінах. Гэтыя фестывалі, якія дэманструюць лепшыя бакі нацыянальнай культуры, служаць цудоўнай формай узаемнага культурнага абмену і ўзаемнага ўзбагачэння людзей розных краін. Калі яны і не заўсёды прама звязаны з датамі старога абрадавага календара, то па сутнасці яны арганічна прадаўжаюць і развіваюць тую ж векавую традыцыю, але ўжо на новым, больш высокім узроўні» [26].

Такім чынам, захаваўшы сваю традыцыйную форму і атрымаўшы новае асэнсаванне, сапраўдныя ўзоры беларускай калядмай абраднасці, як і ўзоры іншых народных абрадаў, незалежна ад часу іх узнікнення працягваюць сваё самастойнае існаванне і бытуюць яшчэ ў сучасным жыцці.

*А. І. ГУРСКІ*

---

[24] З. Я. Можейко. Коляда в белорусском полесском селе. «Советская этнография», 1969, № 3, стар. 127.
[25] Там жа.
[26] С. А. Токарев. Народные обычаи календарного цикла в странах зарубежной Европы. «Советская этнография», 1973, № 6, стар. 28.

# НАПЕВЫ ЗІМОВЫХ ПЕСЕНЬ

## (Сучасны стан; тыпы калядных напеваў і раёны іх пашырэння)

Напевы зімовых песень складаюць неад'емную і ў многіх адносінах адметную рысу старажытнага калядняга абраду. Разам з усім працэсам калядавання яны зліліся ў народным уяўленні ў адно паняцце «каляды», якое ахоплівае традыцыйныя святы зімовага сонцазвароту. Гэты перыяд калядных святкаванняў спрадвеку ўсталяваўся ў побыце народа як перыяд найбольш яркага, моцнага і канцэнтраванага праяўлення іграввой карнавальнай народнай культуры, стыхія якой ідзе яшчэ ад старажытнарымскіх сатурналій. Маляўнічасць гульняў, вынаходніцтва пераапранутых, трапнасць слова, віхор танца, песенныя «пераклічкі» — усё гэта стварала сваю асобную, «калядную» атмасферу, пры якой усё, гаворачы словамі М. Бахціна, амбівалентна [1].

У сучасным быце беларускага сяла калядныя звычаі разам з прымеркаванымі да іх і замацаванымі за імі песнямі захаваліся нераўнамерна. Само сабой зразумела таксама, што многае ў гэтых звычаях змянілася, пераасэнсавалася і набыло новыя сучасныя адценні.

Найбольш жыццяздольным звычай калядавання аказаўся на Палессі (Гомельшчына, Брэстчына), дзе ён і ў цяперашні час нярэдка разгортваецца (у песенных, па народнаму азначэнню «вясёлых», вёсках) у своеасаблівы стыхійны зімовы карнавал, які ў аднолькавай ступені прыцягвае і людзей старэйшага ўзросту і моладзь [2]. Пры гэтым грамадска-бытавое прызначэнне калядавання вызначаецца палескімі спевакамі дастаткова выразна: «І цяпер яшчэ ставім гэту моду (калядаваць), таму што хоць раз у год і старым нада павесяліцца так, як маладым» (в. Клетная, Пінскі р-н). «Ходзяць па калядніках радзі смеха. Я пашла, за мной другая, трэцяя, глядзіш — усё сяло ўжо на вуліцы! Весела!» (в. Тонеж, Лельчыцкі р-н). «У царкве на раждзяство спявалі колісь кніжныя, святыя песні, а мы ў

---

[1] Прырода, сутнасць і шматграннасць праяўлення народнай карнавальнай культуры («смехавой культуры») з незвычайнай глыбінёй і пранікнёнасцю раскрыты ў даследаванні М. Бахціна «Творчество Франсуа Рабле и народная культура Средневековья и Ренессанса». М., 1965.

[2] Асобныя элементы гэтага народнага звычаю нам разам з кіназдымачнай групай студыі «Беларусьфільм» удалося ўвасобіць у хранікальна-дакументальным этнаграфічным фільме «Палескія калядкі», Беларусьфільм, «Летапіс», 1972 (вв. Тонеж, Глушкавічы, Тышкавічы, Клетная, Моталь).

каляды — свае, прасцецкія, гульнёвыя» (в. Лугі, Лунінецкі р-н). «Цяпер ужо ўсе так закультурыліся, што і заспяваць голасна і нават слова сказаць няма як. А на каляды — воля! Рабі, што хочаш!» (в. Тышкавічы, Іванаўскі р-н). «На кожны сезон нада свая асобная песня, а то што гэта за зіма будзе, калі нават каляды не завядзеш» (в. Глушкавічы, Лельчыцкі р-н).

У цэлым калядная гульня ў сучасных сёлах беларускага Палесся ўключае два этапы: уласна калядаванне і калядная бяседа-застолле. Гульнёвы тон каляды пачынаецца з моманту падрыхтоўкі да калядавання і вырабу мясцовымі майстрамі масак, а таксама іншых прылад для пераапранутых. Кожны сельскі жыхар становіцца з гэтага моманту ўдзельнікам своеасаблівага карнавалу; мяжа паміж «артыстамі» (актыўнымі ўдзельнікамі), гледачамі і слухачамі тут вельмі рухомая і ўзаемапераходная. Тым не менш, падобна да рытуалу вяселля, у каляднай гульні маюцца абавязковыя традыцыйныя ўдзельнікі, без якіх гэты звычай страціў бы сваю якасную акрэсленасць. Галоўнымі з'яўляюцца запявала («пачынальнік», «зачынальнік») велічальна-віншавальных «абходных»[3] песень, а таксама «механоша» і шматлікая чарада пераапранутых.

Сам працэс калядавання набывае ў палескіх вёсках характар усеабдымнага стыхійнага спаборніцтва пераапранутых («артыстаў»), танцораў, музыкантаў, ансамбляў («гуртоў») спевакоў. Акрамя велічальна-віншавальных абходных песень асаблівае значэнне ў гэтым спаборніцтве набываюць песні-«дражнілкі»: традыцыйныя жартоўныя калядкі і пераасэнсаваныя ў жартоўныя калядкі «сур'ёзныя» (з нежартоўным зместам), якія атрымалі сваё новае жыццё ўжо ў сучаснай вёсцы. З дапамогай такіх песень-«дражнілак» калядоўшчыкі «крытыкуюць» сваіх аднавяскоўцаў[4]. Але што б ні заспявалі калядоўшчыкі свайму аднавяскоўцу, крыўдзіцца ён не павінен: тут, як і на купалу, «што здзелаў, то прапала». Імёны святых, якія нярэдка сустракаюцца ў традыцыйных калядках, таксама «па-чалавечы» зніжа-

---

[3] «Абходнымі» народныя спевакі называюць тыя песні, з якімі ў пэўныя традыцыйныя святы яны абходзяць двары аднавяскоўцаў. На поўдні Беларусі абходнымі песнямі з'яўляюцца калядкі і шчадроўкі, якія спяваюць зімой; у цэнтральных і некаторых паўночных раёнах — калядкі; у паўночных і заходніх — песні валачобныя, якія спяваюцца вясной; у заходнім Палессі (Піншчына) — «траецкія», «куставыя» песні (з імі «водзяць куст»). У апошніх экспедыцыях нам давялося зафіксаваць у якасці абходных таксама песні масленічныя і купальскія (усходнія раёны Віцебшчыны).

[4] Цікава, што аналагічнае прызначэнне маюць і некаторыя валачобныя песні. Па расказах сельскіх жыхароў Лепельскага р-на, усе сяляне вёскі з цікавасцю чакаюць, што каму праспяваюць валачобнікі. У гэтым плане вельмі цікавае таксама паведамленне жыхароў в. Кавалі Сенненскага р-на (якое прыводзіць В. Ялатаў) аб тым, што разам з валачобнымі песнямі пад вокнамі нядбайных аднавяскоўцаў-калгаснікаў выконваліся сатырычныя частушкі на тэму калгаснага жыцця. Гл. В. Е л а т а ў. Ад песні да песні. Мінск, 1961, стар. 37.

юцца да звычайнага будзённага жыцця і ў звароце да іх пануе вольны, карнавальны тон:

А ў тым возеры сам бог купаўся,
Сам бог купаўся, да й умываўся,
Скарэй дарыце, нас не барыце,
Кароткі світкі — памерзлі лыткі.

Або:

Раждзяство тваё, што дасі — маё,
Дасі кусок сала, каб звязда сіяла,
Дасі кусок каўбасы, каб танчэй былі галасы. [5]

Другі этап гульні — калядная бяседа — наступае пасля заканчэння абходу двароў з велічальна-віншавальнымі і жартоўнымі песнямі. У адрозненне ад першага этапу (уласна калядавання) за каляднай бяседай няма цвёрда замацаваных асобных песень са спецыфічнымі тыповымі напевамі. Тым не менш і тут галоўнае месца належыць песням, што знаходзяцца «ў адным ключы» з агульным святочна-гульнёвым струменем. У асноўным гэта песні бяседныя, у паршую чаргу «гульнёвыя» і «пірушачныя».

Дастаткова дзейсны «абходны» звычай таксама і ў раёнах беларускага Паазер'я (Віцебшчыны), але разгортваецца ён тут па-іншаму. Урачысты святочна-віншавальны і гульнёвы бок традыцыйнага земляробчага свята тут як бы падзелены і замацаваны за рознай парой года. Асноўны ўрачысты «цырыманіял» з абходам двароў аднавяскоўцаў і спяваннем віншавальных песень у Паазер'і адбываецца вясной. Галоўнымі ўдзельнікамі гэтай урачыстасці з'яўляюцца валачобнікі, якія спяваюць пад вокнамі аднавяскоўцаў валачобныя песні, аналагічныя калядным па функцыі, характару, вобразнасці і стылістыцы. Гульнёвы ж бок з яго па-народнаму неўтаймаванай весялосцю сканцэнтроўваецца ва ўласна калядных звычаях і разгортваецца ў поўную меру ў зімовыя традыцыйныя святы. Падобна да пераапранання на Палессі, у раёнах Паазер'я таксама маецца сваё ўлюбёнае «каляднагульнёвае дзейства» — «Жаніцьба Цярэшкі», якое разыгрываецца на сяле на працягу некалькіх дзён, але ўжо не на вуліцы, а ў хаце. Маюцца тут і свае любімыя калядныя «артысты» — «бацька» і «матка» — галоўныя «цырымоніймайстары» гэтага «каляднага вяселля». Як і выхад на палескую сельскую вуліцу пераапранутых, збор на «Жаніцьбу Цярэшкі» ў паўночных раёнах з'яўляецца тым «калядным сігналам», пасля якога імправізацыйная вынаходлівасць калядоўшчыкаў праяўляе сябе ва ўсім ззяючым бляску народнай дасціпнасці і карнавальнай амбівалентнасці. Вобраз «нявроўні», які нарадзіў шмат песень высокага драматызму ў сапраўдных вяселлях, тут, у вяселлі несапраўдным, «калядным», па-карнавальнаму выварочваецца на-

[5] Большасць песенных прыкладаў узята з рукапісных матэрыялаў (з Палесся і Паазер'я).

выварат. «Няроўны дзед» («муж») у «Жаніцьбе Цярэшкі» —асноўны яе запал, спружына жартоўных куплетаў, якія разгортваюцца бясконца:

Ай божа ж мой, якая бяда,
Далі мне старога дзяда,
У лапцікі абуўшыся,
У кручочак сагнуўшыся.
А ні з ім у пір пайсці,
А ні з ім дома быці:
Дома быці — сварыціся,
У пір паехаць — пабіціся.

Тое ж у адносінах паміж «дзедам» і «бабай» на гэтым «калядным вяселлі»:

Дзед бабу тапіць вядзе,
А баба сапіць — не йдзе.
Дзед бабу чабох на дно!
— А мне і тут, дзедзька, ладно!

Калядныя песні на Віцебшчыне так ці іначай канцэнтруюцца вакол вядомай «Жаніцьбы Цярэшкі», па-рознаму дапаўняючы і адцяняючы яе. Каляднае ж застолле з'яўляецца тут арганічнай часткай «Жаніцьба Цярэшкі», вынікам гэтай шматэтапнай, шырока разгорнутай вясёлай народнай гульні.

Цэнтральныя раёны Беларусі вельмі цікавыя ў плане перапляцення і скрыжавання паўднёва- і паўночнабеларускіх калядных традыцый. Аднак непасрэднага вывучэння калядных звычаяў і песень у натуральных умовах іх бытавання ні аўтарам артыкула, ні іншымі фальклarыстамі ў гэтых раёнах не праводзілася. Невялікія ж звесткі, якія ў нас маюцца (мяркуючы па асобных эмпірычных запісах песень у гэтых раёнах), не дазваляюць пакуль што зрабіць вывад аб ступені і характары распаўсюджання тут калядных звычаяў.

Ва ўсходніх і заходніх раёнах Беларусі даўні звычай народнага каляндавання захаваўся ў цяперашні час толькі ў асобных яго элементах. Іменна ў гэтых раёнах моцна адбіліся познія напластаванні, звязаныя з прапагандуемым царквой хрысціянскім святам з яго асобымі песнапеннямі і рацэямі. Тым не менш спрадвечнае народнае мастацтва і тут было толькі прыглушана, але не памерла пад цяжарам позніх пластоў і дажыло да нашых дзён у форме featureгa роду калядных песень і гульняў, распаўсюджаных у заходніх раёнах Беларусі («Яшчур», «Халімон», «Зязюля» і інш.).

З другога боку, народнае мастацтва прабівала тут сабе дарогу і шляхам асіміляцыі хрысціянска-біблейскіх сюжэтаў і матываў у народным калядна-гульнёвым характары. Ва ўсходніх раёнах гэта мастацтва прабівалася скрозь розныя напластаванні, перш за ўсё праз глыбокую тут карагодную і шырэй танцавальную стыхію. Танцавальныя калядныя напевы дзейсныя на Магілёўшчыне і цяпер. У традыцыйныя зімовыя святы яны

выліваюцца тут у своеасаблівую калядна-танцавальную сюіту «гусароў», «касароў», «цыган» і г. д., перакідваючы вобразна-меладычныя масткі да пышных і маляўнічых вясенне-летніх карагодаў.

* * *

Мелодыі беларускіх народных песень зімовага каляндарнага цыклу аб'ядноўваюць сабой у цэлым складаны комплекс напеваў, розных па функцыянальнай і жанравай акрэсленасці, гістарычнай і геаграфічнай стабільнасці.

Ядро гэтага комплексу складаюць напевы ўласна калядныя, г. зн. усе тыя напевы, строгая прымеркаванасць якіх знаходзіць сваё ўвасабленне і ў адпаведнай форме выражэння — устойлівым музычна-стылявым тыпе.

У свядомасці народнага спевака такія напевы ўзнікаюць іменна ў дадзены і толькі ў дадзены час, з'яўляючыся як бы яго своеасаблівым музычным сімвалам. Адсюль і непаўнацэннасць запісаў гэтых напеваў у любы іншы (некалядны) час, калі яны не спяваюцца па ўнутранаму імкненню спевака, а толькі «ўспамінаюцца» па просьбе збіральніка. Адзін такі напеў абагульняе вялікую групу прымацаваных да яго паэтычных тэкстаў і мае свае дакладна акрэсленыя раёны пашырэння.

Да другой катэгорыі адносяцца напевы, якія таксама дастасаваны да каляднага перыяду, але не маюць стабільнай функцыянальнай акрэсленасці і больш індывідуалізаваныя ў музычна-стылявых адносінах, г. зн. зімовыя напевы ў самым шырокім сэнсе гэтага слова.

Пачынаючы ў гэтым томе сістэматызацыю беларускіх калядных напеваў, мы павінны канстатаваць неадпаведнасць паміж высокаразвітай у Беларусі традыцыяй старажытных земляробчых святкаванняў зімовага сонцазвароту, багаццем і разнастайнасцю калядных мелодый і іх вельмі сціплым адлюстраваннем у публікацыях[6]. У дарэвалюцыйны перыяд публікацыі беларускіх калядных напеваў налічваюцца адзінкамі. У зборніках савецкага перыяду гэтыя напевы мы знаходзім таксама ў невялікай колькасці, і толькі ў трох зборніках ім аддаецца дастатковая ўвага[7].

Па колькасці прадстаўленага матэрыялу (прыкладаў калядных напеваў), а таксама па яго якасці — тыповасці гэтых напеваў для пэўных раёнаў Беларусі (заходняга Палесся і некаторых цэнтральных раёнаў) самым багатым з'яўляецца зборнік Р. Шырмы «Беларускія народныя песні» (т. 3),

---

[6] Пры гэтым напевы ўласна калядныя і прымеркаваныя да каляд у апублікаваных беларускіх зборніках звычайна не дыферэнцыраваны, што нярэдка прыводзіць да падмены першых напеваў апошнімі (часам нават лірычнымі песнямі, якія тыя або іншыя спевакі аднеслі да калядных выпадкова) і заблытвае карціну тыпалогіі калядных напеваў на беларускай этнічнай тэрыторыі.

[7] М. Гарэцкі, А. Ягораў. Народныя песні з мелодыямі. Мінск, 1928; Песні беларускага народа, т. 1. Мінск, 1940; Беларускія народныя песні, т. 3. Мінск, 1962.

дзе калядкам адведзены спецыяльны раздзел. Некалькі яркіх узораў калядных мелодый апублікавана ў вельмі каштоўным сваёй навуковай мэтанакіраванасцю зборніку «Песні беларускага народа» (склаў М. Грынблат, муз. рэд. Е. Гіпіуса і З. Эвальд). Больш за ўсё калядных (і піліпаўскіх) напеваў (38 прыкладаў) апублікавана ў зборніку М. Гарэцкага і А. Ягорава, дзе напевам разам з калядннымі і піліпаўскімі песнямі ў цэлым адводзіцца два раздзелы: «У піліпаўку і ў каляды» і «Узімку, як прадуць». Каштоўнасць гэтага зборніка для нас, аднак, заключаецца не столькі ў прадстаўленых тут тыповых для Магілёўшчыны ўзорах уласна калядных напеваў (якіх тут нямнога), колькі ў шырокім і ўсебаковым паказе каляднага рэпертуару адной спявачкі[8], па якому можна меркаваць аб сістэме ўцягнення рознага роду напеваў у зімовы каляндарны цыкл.

Параўнальна большая частка калядных напеваў знаходзіцца цяпер у рукапісных фондах Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, Белдзяржкансерваторыі і фальклорнай камісіі Саюза кампазітараў БССР. Тут перш за ўсё трэба назваць рукапісныя матэрыялы беларускіх музыказнаўцаў-фалькларыстаў Г. І. Цітовіча, Л. М. Фёдарава, Л. С. Мухарынскай, магнітафонныя запісы праведзеных у апошнія гады экспедыцый фалькларыстаў-філолагаў ІМЭФ АН БССР, а таксама матэрыялы шматгадовага абследавання раёнаў беларускага Палесся і Паазер'я аўтарам артыкула. Напевы гэтыя ўпершыню друкуюцца ў дадзеным томе шматтомнага выдання беларускага фальклору.

У цэлым музычная частка дадзенага тома ўключае два вялікія раздзелы. Першы склалі ўласна калядныя тыповыя напевы.

Для азначэння гэтых напеваў у паўднёвых раёнах Беларусі вядомы два тэрміны — калядкі і шчадроўкі. Мясцовыя разнавіднасці назваў: каляды, коляды, шчадруха, шчодзер, шчадруванне, шчадрэц, шчодрык, шчодры, шчадрэчная, шчадрыцы. Ужываюцца гэтыя назвы (калядкі і шчадроўкі) у розных раёнах па-рознаму. Як сінонімы: «Ці шчадрэц ці коляды — усё адно» (в. Выганашчэ, Івацэвіцкі р-н); як прыкмета адрознення песень, што выконваюцца непасрэдна на каляды і перад Новым годам. У некаторых заходніх раёнах яны ўжываюцца ў якасці адметнай прыкметы калядак народных ад напеваў царкоўных (літаратурнага паходжання). Ужываюцца яны і ў якасці адметнай полаўзроставай прыкметы: «Каляды спяваюць толькі мужчыны, а шчадруху ўсе» (г. Драгічын). Паводле іншых мясцовых звестак, каляды спяваюць мужчыны, а шчадроўкі — маладыя дзяўчаты (в. Тышкавічы, Іванаўскі р-н) або каляды — дарослыя, а шчадроўкі — дзеці (вв. Глушкавічы, Букча, Лельчыцкі р-н). Іншы раз гэтыя два тэрміны

---

[8] Спявачка, ад якой запісаны песні гэтага зборніка, маці збіральніка Прося Гарэцкая, характарызуе калядныя і піліпаўскія напевы вельмі дэталізавана: «дзецям у каляды», «у каляды гуляючы», «узімку, як прадуць», «як прадуць, каб не спаць у каляды», «у піліпаўку і ў каляды», «у піліпаўку і абы-калі» і г. д.

ўжываюцца і для адрознення музычна-стылявых прыкмет: «шчадраваць — толькі прыказваць, а калядаваць — на голас весці» (в. Смалегаў, Нараўлянскі р-н). Нарэшце, тэрмін калядкі ўжываецца ў больш расшыраным сэнсе, чым шчадроўкі: «Каляды — гэта адрывак на два тыдні, а шчадруха — адзін дзень» (в. Азершчына, Рэчыцкі р-н). У паўночных раёнах Беларусі тэрмін «шчадроўка» невядомы, а калядка бытуе ў мясцовых тэрміналагічных варыянтах: каляды, калёды, каледа, коліда.

Аналіз беларускіх напеваў зімовага цыклу паказвае, што большасць (за нямногім выключэннем) так званых шчадровак стылістычна аднатыповыя калядкам і адрозніваюцца ад апошніх толькі словамі прыпеву («шчодры вечар» замест «гэй, калядкі»), а часам маюць і аднолькавы прыпеў («святы вечар»). Зыходзячы з гэтага, у асобны падраздзел напеваў шчадроўкі намі не выдзяляюцца, а падаюцца разам з калядкамі ў першым раздзеле як уласна калядныя напевы (з адзнакай асобных музычна-стылявых тыпаў: як толькі калядных, толькі шчадроўных або ж калядных і шчадроўных).

У сістэме песень каляндарна-земляробчага круга тыповыя напевы ўласна калядных песень сінтэзуюць два пачаткі — моўны і маторны (рухальны) і імкнуцца да розных вобразна-інтанацыйных сфер: святочнай сферы з урачыста-прыўзнятымі воклічамі, характэрнымі для песень абходнага прызначэння; сферы клікання, часам на грані з інтанацыяй заклінання, характэрнай для абрадавых «загуканняў» (асабліва для веснавой абраднасці); скорагаворкавай інтанацыі іграных дзеянняў.

Моўны і маторны пачатак у тыповых калядных напевах таксама праяўляецца ў рознай ступені і ў розных суадносінах.

Зыходзячы з усяго сказанага, пры ўстанаўленні тыпалагічнай класіфікацыі гэтых напеваў мы ў першую чаргу маем на ўвазе тыя іх тыпалагічныя прыкметы, якія набываюць арганізуючую ролю ў стабілізацыі пэўнага музычна-стылявога тыпу (пры ўліку ўсяго комплексу інтанацыйна-меладычных і структурна-рытмічных прыкмет).

На тэрыторыі Беларусі (наколькі гэта магчыма ўстанавіць, мяркуючы па наяўнаму ў нашым распараджэнні некалькі нераўнамернаму матэрыялу) распаўсюджаны сем асноўных песенных тыпаў уласна калядных напеваў, арганізуючым пачаткам якіх выступае ў першую чаргу рытм руху (і асноўнымі прыкметамі якіх становяцца, такім чынам, структурна-рытмічныя). Рэчытатыўны тып, у якім на першы план выступае інтанацыйна-моўны пачатак. Гульнёвыя калядкавыя тыпы, якія валодаюць у аднолькавай меры стабільнымі тыпалагічнымі прыкметамі як музычнымі, так і паэтычнымі (гэты тып напеваў будзем надалей умоўна характарызаваць як песенна-тэкставы).

Першы з асноўных калядкавых тыпаў (абазначым яго адпаведна літарай А) аб'ядноўвае напевы найбольш тыпалагічна выразныя і найбольш «чыстыя» ў функцыянальных адносінах. Адсюль і іх характэрная маторыка, адсутнасць меладычнай імправізацыйнасці, дакладнасць і перыядычнасць

структуры[9]. Калядныя песні, якія выконваюцца на напевы тыпу А (у большасці гэта святочна-віншавальныя песні гаспадару, гаспадыні і г. д., што спяваюцца непасрэдна пры абходзе двароў), з'яўляюцца найбольш дзейснымі з усяго песеннага каляднага комплексу. Дынаміка іх праяўляецца і ў пругкай накіраванасці рытмічнай арганізацыі, і ў яркай акрэсленасці інтанацыі воклічу («святочнай» інтанацыі, паводле вызначэння Ф. Рубцова)[10], і ў тэмбравай звонкасці і маляўнічасці гучнага «вулічнага» спявання на адкрытым паветры.

Гэты тып калядкавых напеваў паслужыў асновай для вызначэння вобразнай і структурнай спецыфікі калядак у фундаментальнай працы А. Патабні[11] і для ўстанаўлення іх структурнай тыпалагічнай класіфікацыі Ф. Калесай[12]. Ён жа з'явіўся асноўнай базай для абагульненняў К. Квіткі ў артыкулах «Аб абласцях пашырэння некаторых тыпаў беларускіх калядных і вясельных песень» і «Песні ўкраінскіх зімовых абрадавых святкаванняў»[13]. Гэтыя ж калядкі ў цэнтры ўвагі нарыса ўкраінскага даследчыка В. Гашоўскага «Тыпы ўкраінскіх калядак і іх структурна-рытмічныя разнавіднасці ў славян»[14] (дзе разглядаемы тып напеваў таксама адзначаны як асноўны і абазначаны літарай А) і іншых сучасных украінскіх фалькларыстаў, якія даследуюць мелодыі калядных песень.

Спецыфічнымі і найбольш устойлівымі рысамі калядных напеваў тыпу А, якія адзначаны амаль усімі даследчыкамі калядак, з'яўляюцца ў першую чаргу прыкметы структурна-рытмічныя: дакладна акрэслены, спецыяльна выдзелены рэфрэн, які паўтараецца пасля кожнага верша; дзесяціскладовая структура асноўнага верша з цэзурай пасярэдзіне (5+5), якому ў напеве звычайна адпавядае двойчы паўтораная «калядкавая» рытмаформула з зацягваннем апошняга гуку (адпаведнага пятаму складу ў складовых групах верша):



Тып А вядомы ў Беларусі ў дзвюх разнавіднасцях. Першая разнавіднасць — А-1 (№ 1—21) характарызуецца наступнымі стабільнымі рысамі:

---

[9] Характэрна, што іменна калядкі гэтага тыпу нярэдка выконваюцца (або выконваліся) у суправаджэнні музычных інструментаў (скрыпкі, гармоніка).

[10] Гл. Ф. Рубцов. Интонационные связи в песенном творчестве славянских народов. Л., 1962.

[11] А. А. Потебня. Объяснения малорусских и сродных народных песен. II. Колядки и щедровки. Варшава, 1887.

[12] Старинні мелодії українських обрадових пісень (весільних і колядок) на Закарпатті. У кн. Ф. М. Колесса. Музикознавчі праці. Київ, 1970.

[13] К. Квитка. Избранные труды в двух томах. Том I. М., 1971.

[14] У кн. В. Гошовский. У истоков народной музыки славян. М., 1971.

напеў нестрафічны (аднарадковы), рэфрэн аднафразавы, «аднакаленны» (паводле вызначэння Ф. Калесы). У цэлым форма верша АБ/R, меладычная форма аднарадковага напеву АВС, складовая структура верша (5+ +5)+R4:

А ў полі, ў полі туманы ходзяць.
Вой, калядкі

Музычна-рытмічная формула асноўнага напеву (запеву) вельмі стабільная:



Рытмічная формула рэфрэну (прыпеву) мабільная і характарызуецца рознымі дыялектнымі варыянтамі:



— усходняя частка гомельскага Палесся

— Лунінецкі р-н

— Тураўскі, Лельчыцкі, Мазырскі р-ны

— Іванаўскі р-н

— Давыд-Гарадоцкі р-н

— некаторыя ўчасткі заходніх раёнаў

— Пінскі р-н

— Івацэвіцкі р-н

У інтанацыйна-меладычных адносінах напевы разглядаемых калядак характарызуюцца дастатковай стабільнасцю. Як правіла, іх ладава-меладычную аснову складаюць мажорны (ці мінорны) пентахорд [15] (радзей гексахорд, тэтрахорд, іншы раз з ніжняй квартай), ці замкнуты ў квінце ці за-

---

[15] Наогул, для напеваў беларускіх калядак квінтавая ладавая ячэйка і квінтавая інтанацыя ў характары меладычнага руху набываюць такое ж якасна вызначальнае значэнне, як тэрцавая ячэйка з ніжняй квартай для напеваў жніўных.

хоплiваючы сексту (септыму). Сустракаюцца i напевы больш шырокага дыяпазону[16], ладавая арганiзацыя якiх вызначаецца счэпленымi меладычнымi ячэйкамi (пераважна квартавай i квiнтавай). Меладычная лiнiя гэтых калядак дынамiчная i контурна ўступчатая, квiнтавая iнтанацыя «святочнага воклiчу» акрэслена даволi выразна. У ярка выражаных (iнтанацыйна i рытмiчна) рэфрэнах асаблiвае значэнне набывае завяршальны тон. Зыходзячы з яго гукавысотнага становiшча, можна вызначыць тры групы калядных напеваў тыпу А-1: рэфрэн заканчваецца на квiнтавым гуку (№ 1—9); на другой ступенi (№ 10—15); на танiчным гуку (№ 16—21).

Найбольшае распаўсюджанне набыла група напеваў з завяршэннем рэфрэну на квiнтавым гуку (Гомельшчына, а таксама некаторыя цэнтральныя раёны Беларусi). Разам з аналагiчнымi напевамi тыпу Б (пра якiя гутарка наперадзе) яны складаюць значную частку найбольш функцыянальна яркiх i меладычна характэрных тыповых калядак з прыпевам-воклiчам. Калядкi з заканчэннем рэфрэну на 2-й ступенi (тыповае заканчэнне i для гульнёвых калядак «Каза») зафiксаваны ў асноўным у Рэчыцкiм, а таксама ў Iванаўскiм i Давыд-Гарадоцкiм раёнах. З заканчэннем рэфрэну на танiчным гуку напевы тыпу А-1 зафiксаваны ў некаторых раёнах Гомельшчыны i Брэстчыны. (У параўнаннi з напевамi, што завяршаюцца на квiнтавым гуку, яны менш характэрны для калядак дадзенага тыпу).

У канцы разглядаемага падраздзела калядак прыводзiцца прыклад прымыкальнага да iх напеву асабiста шчадроўнага (№ 22), рытмiзаванага iнакш, чым калядкавыя напевы тыпу А-1. (Запiсы гэтай разнавiднасцi шчадровак абмяжоўваюцца, на жаль, нешматлiкiмi ўзорамi, хаця шчадроўкi гэтыя i распаўсюджаны на поўднi брэсцкага Палесся).

Калядныя напевы тыпу А-1 вызначаюцца, як правiла, лаканiчнасцю харавога iзлажэння. Выключаючы першы запеў, якi iншы раз пяецца адным «зачынальнiкам», што дапускае ў некаторай ступенi iмправiзацыйныя моманты, уся песня (i запевы, i прыпевы) спяваецца звычайна ўсiм хорам. Тым не менш сярод напеваў разглядаемага намi тыпу сустракаюцца шырока распетыя ўзоры, у якiх iх пяцiдольная рытмiчная аснова «на слых» адразу амаль не адчуваецца (№ 15). Цiкавы ўзор падобнага напеву нам удалося запiсаць у час калядавання ў вёсцы Вялемiчы Столiнскага раёна. Спачатку запеў у калядцы пяе адзiн «зачынальнiк». Потым гэты ж запеў i наступны прыпеў пяе хор. Наступны верш «зачынальнiк» пачынае спяваць, не чакаючы заканчэння прыпеву, на яго апошнiм доўга зацягнутым гуку:

---

[16] Больш шырокi меладычны дыяпазон назiраецца звычайна ў тых выпадках, калi харавы напеў выконваецца адной спявачкай, якая зводзiць у адзiн голас харавую партытуру.

Адзін

Усе

1. Да за_лей_мо пе _сню слав(ы)_на_ му па _ ну

Да за_лей _ мо пе _сню слав(ы)_на _му па _ ну.

2. Сла_в(ы)_на _ му па _ ну...

С (і) _ вя _ты вэ ... [хор]!

Другая разнавіднасць разглядаемага намі тыпу калядных напеваў — А-2 (№ 23—55) адрозніваецца ад першай двухкаленным рэфрэнам, роўным па працягласці асноўнаму вершу, з якім ён утварае двухрадкоўе.

Двухкаленны рэфрэн у калядках гэтага тыпу ўтвараецца наступным чынам: пасля кароткага аднакаленнага рэфрэну (як у калядках А-1) ідзе другое паўрадкоўе асноўнага верша:

Ў лузе каліна вясну скрасіла,
Шчодры вечар, вясну скрасіла,

ці з дзвюх самастойных фраз (нібы з двух аднакаленных рэфрэнаў): «Святы вечар, святы васілле»; «Шчодры вечар, святы вечар»; «Ой, грай, мора, радуйся, зямля» і інш. У першым выпадку форма паэтычнай страфы АБRБ, у другім АБRR₁; меластрафа ABCB₁ (у групе напеваў ABCC₁). Іншы раз увесь двухкаленны рэфрэн паўтараецца двойчы: першы раз —

з паўтарэннем другога паўрадкоўя асноўнага верша, другі — з дзвюма самастойнымі «прыпевачнымі» фразамі:

Ходзіць, паходзіць месяц па небу.
Шчодры вечар, месяц па небу,
Шчодры вечар, святы васілле (№ 34).

У залежнасці ад рытмічнай структуры прыпеву і яго суадносін з асноўным вершам (запевам) можна вызначыць тры групы калядак тыпу А-1 : 1. Абедзве фразы прыпеву знаходзяцца з запевам у адным рытмічным пульсе (№ 23—34). Складовая структура верша гэтых калядак (5+5)+R(4+5), радзей R(5+5);

музычна-рытмічная форма




2. Першая фраза прыпеву ўносіць рытмічны кантраст, рытмічныя перабоі:



у другой вяртаецца асноўная «калядкавая» рытмаформула з зацягваннем апошняга складу ў пяціскладовіку (№ 35—46). Пераважная колькасць напеваў гэтай групы мае складовую структуру верша (5+5)+R (4+5); дыялектная разнавіднасць (Пружаншчына) — трохскладовая група рэфрэну (5+5)+R(3+5). У параўнанні з напевамі тыпу А-1 разглядаемыя намі калядныя напевы крыху дынамічна змякчаны (чаму садзейнічае перш за ўсё вяртанне стабільнай «калядкавай» рытмаформулы пасля рытмічнага перабою ў першай фразе рэфрэну і танічная ўстойлівасць завяршаючай фразы). Сярод іх сустракаюцца ўзоры лірычна распетыя, з гнуткай ладава-меладычнай пераменнасцю (№ 46). 3. Абедзве фразы прыпеву рытмічна кантрастуюць запеву (47—54). Складовая структура верша гэтых калядак (5+5)+R(4+4) [17]. У цэлым напевы дадзенай групы адроз-

[17] У даследаванні В. Гашоўскага напевы з падобнай рытмічнай структурай верша аднесены да шчадровак у адрозненне ад калядак. Гл. «Типы украинских колядок и их структурно-ритмические разновидности у славян». (В. Г о ш о в с к и й. У истоков народной музыки славян).

ніваюцца разнастайнасцю мясцовых разнавіднасцей, дзе вар'іруецца не толькі рытмаформула прыпеву, але і асноўная «калядкавая» рытмаформула запеву (Лунінецкі раён, № 53, 54).

Асобную групу калядак (змешчаных намі ў канцы падраздзела напеваў тыпу А) складаюць напевы са значна працяжным, «доўгім» (паводле вызначэння К. Квіткі) прыпевам (№ 56, 57), якія часам набываюць асіметрычную форму.

Напевы тыпу А-1 з'яўляюцца пераважна калядкавымі, А-2 — калядкавымі і шчадроўнымі.

Тэрыторыя распаўсюджання калядных напеваў тыпу А вельмі вялікая. Яна ахоплівае ўсе раёны Палесся (гомельскага і брэсцкага) і вялікі масіў цэнтральных раёнаў Беларусі (паўночная граніца ідзе прыкладна па лініі Навагрудак — Дзяржынск — Чэрвень). У паўночных раёнах Беларусі напевы тыпу А як калядкавыя не бытуюць, але гэты музычна-стылявы тып характэрны тут для вялікай групы валачобных песень.

Другі калядкавы тып — Б(№ 58—73) вызначаецца таксама функцыянальнай акрэсленасцю і яркасцю тыпалагічных адзнак. Па агульнаму прынцыпу функцыянальных суадносін запеву і прыпеву, як і па форме верша, ён аналагічны тыпу А-1. Для яго таксама характэрны нестрафічны напеў, які адпавядае аднаму вершу паэтычнага тэксту, з выразна вылучаным (інтанацыйна і рытмічна) рэфрэнам. Форма верша АБ/R (ці АБ$rr_1$), меладычная форма аднарадкавага напеву АВС (ці АВ$cc_1$).

Характэрнай рысай калядак тыпу Б з'яўляецца васьміскладовая структура асноўнага верша (запеву) з цэзурай пасярэдзіне і трохскладовы рэфрэн, часцей за ўсё паўтараемы двойчы: (4+4)+R3 або R (3+3), а таксама спецыфічная музычна-рытмічная форма напеву, заснаваная на рытме шэсця з дактылічнай (у групе напеваў анапестычнай) формулай рэфрэну:




У адрозненне ад калядак тыпу А, дзесяціскладовая структура верша якіх вельмі стабільная, калядкі тыпу Б характарызуюцца вялікай варыянтнай рухомасцю складовай структуры асноўнага верша (4+4, 4+5, 5+4, 6+4, 5+5, 6+5, 8+5, 6+7, 7+7) пры нязменнай яго васьміскладовай аснове, устойлівасці цэнзуры і стабільнасці мерна паўтараемай асноўнай рытмаформулы з роўных кароткіх рытмічных працягласцей.

Пры павелічэнні колькасці складоў у складовай групе, якая пашырае верш за межы нормы, адбываецца драбленне рытмічных адзінак на «ліш-

ніх» складах у строгай адпаведнасці з сілабічным прынцыпам захавання ўстойлівай цэзуры:




Песні, якія выконваюцца на напевы тыпу Б, з'яўляюцца таксама дзейснымі калядкамі і спяваюцца на адкрытым паветры пры абыходзе двароў аднавяскоўцаў. Але ў адрозненне ад ярка выражанай святочна-віншавальнай функцыі калядак тыпу А, у калядках тыпу Б на першы план выступае святочна-іграві момант, што знаходзіць сваё адлюстраванне і ў іх музычна-стылявых якасцях (частым рытмічным драбленні пры роўнай маторнасці асноўнай рытмаформулы, «пераліўчатасці» апорных таноў — секундавай, тэрцавай, трыхордавай пераменнасці). Асноўная сфера паэтычнай вобразнасці гэтых песень — апяванне саміх калядоўшчыкаў, якія ідуць па вуліцах, прыйшоўшай каляды з частым уключэннем вобразаў прыроды («мяцеліца»), звяроў, птушак.

Ладава-меладычную аснову калядак тыпу Б складае мажорны або мінорны пентахорд (радзей гексахорд, тэтрахорд), часам з захопам ніжняй кварты або секунды. У цэлым калядкі гэтага тыпу адрозніваюцца лаканічнасцю і імпульсіўнасцю. Тут мы не знаходзім больш або менш шырока распетых узораў нават у індывідуалізаванай лірычнай трактоўцы напеву.

У залежнасці ад гукавысотнага становішча завяршаючага рэфрэн тону можна вылучыць тры групы напеваў разглядаемага тыпу: рэфрэн заканчваецца на квінтавым (часам пры ладава-меладычнай пераменнасці на квартавым) гуку (№ 58—62); на 2-й або 3-й ступені (№ 63—67); на танічным гуку (№ 68—73).

У апошняй групе вылучаецца мясцовая разнавіднасць напеваў, характэрных для заходніх (асабліва Пружаншчыны) і некаторых цэнтральных раёнаў Беларусі (№ 71—73). Напевы гэтыя характарызуюцца асаблівай урачыстасцю і прыўзнятасцю характару і супадаюць па сваму вобразна-эмацыянальнаму строю (а таксама музычна-стылявых якасцях) з адным з відаў валачобных — так званых ранцавальных песень (таксама распаўсюджаных у асноўным на Пружаншчыне). Гэта мажорныя напевы з ярка выражанай інтанацыяй усклікання, якая падкрэсліваецца і ў запеве, і ў прыпеве. Прыпеў такіх калядак, як і ранцавальных песень, надае ўсяму напеву характар асаблівай устойлівасці, ураўнаважваючы яго меладычна

(першае правядзенне — квартавы скачок-ускліканне, другое — плаўны спуск да зацягнутага танічнага гуку) і рытмічна:




У канцы падраздзела напеваў тыпу Б даецца прымыкаючая да іх калядка з апаясваючым прыпевам (№ 74), зафіксаваная пакуль што ў адзінкавых узорах.

Напевы тыпу Б з'яўляюцца выключна калядкавымі. Тэрыторыя іх распаўсюджання — паўночныя раёны Віцебшчыны [18].

Трэці тып калядак — В (№ 75—77) функцыянальна аналагічны напевам тыпу А і Б, з якімі яго звязвае таксама і агульнасць дынамікі і імпульсіўнасці развіцця.

Характэрнымі структурна-рытмічнымі рысамі напеваў тыпу В з'яўляюцца васьміскладовая структура асноўнага верша з цэзурай пасярэдзіне, ідэнтычнасць складовай структуры запеву (асноўнага верша) і роўнага яму па працягласці двухкаленнага прыпеву (утвараючага з ім двухрадкоўе):

Стала рана, ранесенько.
Дай жа, божа, на здароўе,

а таксама паўтараемая спецыфічная рытмаформула з зацягваннем гуку на трэцім і чацвёртым складзе чатырохскладовіка. У цэлым форма паэтычнай страфы АБRR₁, меластрафа АВСС₁ або АВСD, складовая структура верша (4+4)+R(4+4) або R(4+3), музычна-рытмічная форма




Сярод разглядаемых калядак пераважаюць напевы квінтавыя, хоць сустракаюцца таксама квартавыя, секставыя і больш шырокага меладычнага дыяпазону (нярэдка з ніжняй квартай).

[18] Да гэтага тыпу беларускіх калядак у пэўнай меры падобны латышскія калядкі этнаграфічных раёнаў Латгаліі, якія шырока прадстаўлены ў адным з тамоў шматтомнага выдання латышскага фальклору: Gadskartu ieražu dziesmas. Rīga, 1973.

Напевы тыпу В з'яўляюцца пераважна калядкавымі (але могуць быць і шчадроўнымі) і распаўсюджаны ў асобных раёнах брэсцкага Палесся. Вельмі характэрна, што паэтычныя тэксты некаторых з гэтых калядак з дакументальнай дакладнасцю могуць пацвердзіць раёны іх пашырэння: «Адзін любіць *берасцянку*, другі любіць *кабрынянку*, трэці любіць *камень-чанку*».

Калядныя напевы чацвёртага тыпу — Г (№ 78—88) па асноўных структурна-рытмічных адзнаках аналагічныя напевам тыпу А-1. Форма паэтычнай страфы гэтых калядак АБRБ, меластрафа $ABCB_1$ (або $ABB_2B_1$), складовая структура верша (5+5)+R(4+5) або R(5+5):

Ай, калядачкі, вы вярніцеся.
Люлі, люлі, вы вярніцеся.

Або: Ай, люлі, люлі, вы вярніцеся.

Аднак інтанацыйнае развіццё і характар мелодыкі (а таксама музычная рытмізацыя верша) разглядаемых калядак прынцыпова адметныя ад напеваў тыпу А, што абумоўлена ў першую чаргу іх функцыяй і формай бытавання. Калядкі тыпу Г не з'яўляюцца абходнымі ва ўласным сэнсе гэтага слова; іх выкананне не замацавана за якімі-небудзь спецыфічнымі каляднa-абрадавымі дзеяннямі і характарызуецца больш індывідуалізаванай трактоўкай напеву. Меладычная лінія іх адрозніваецца пластычнасцю і закругленасцю. Мяккасці, песеннасці садзейнічае і музычна-рытмічная арганізацыя напеву дзякуючы «амфібрахічнасці» рытмічнага рысунка асноўнай рытмаформулы (з зацягваннем сярэдняга складу ў пяціскладовіку):



Інтанацыйна напевы гэтых калядак бліжэй да вяснянак-закліканяў. (Асабліва ярка інтанацыя закліку выступае ў групе напеваў без рэфрэну, № 78, 79). Асноўная сфера іх паэтычнай вобразнасці — любоўнае, нават ідэалізаванае апяванне саміх калядак, якіх так доўга чакаюць і якія так хутка праходзяць, ласкавы зварот да іх, нежаданне з імі развітвацца: «Ай, калядачкі, нашы нежачкі», «Ай, калядачкі, мае мамачкі», «Ай, калядачкі, вы пабліжайце», «Ай, калядачкі, вы вярніцеся», «Ай, калядачкі, вы барджэй, барджэй», «Каб вас, калядкі, нядзель з дзесятак», «Каб калядачак цэлы гадочак».

Большасць зафіксаваных калядак дадзенага тыпу квінтавыя (радзей секставыя і квартавыя), як правіла, мажорнага накланення.

Напевы тыпу Г з'яўляюцца толькі калядкавымі. Яны спяваюцца на працягу ўсяго каляднага перыяду (а таксама напярэдадні каляд, «у піліпаўку», калісьці «за кудзеляй») і збіраюць вакол сябе значную колькасць блізкіх ім па мелодыцы і агульнай структуры песень лірычных і баладных

(гл., напрыклад, напевы № 91, 92). Тэрыторыя пашырэння гэтых калядак — усходнія раёны Беларусі (Магілёўшчына, усходняе Паазер'е).

Калядныя напевы пятага тыпу — Д(№ 93—98) функцыянальна блізкія да разгледжаных напеваў тыпу Г, але ў адрозненне ад апошніх могуць быць і абходнымі (выконваюцца непасрэдна пры калядаванні). Аднак бытуючы ў паўднёва-ўсходніх раёнах тэрыторыі распаўсюджання калядак тыпу А, яны ў параўнанні з апошнімі як бы функцыянальна прыглушаны і выступаюць непасрэдна пры абыходзе двароў як свайго роду лірычнае дапаўненне да дынамічных калядных напеваў тыпу А.

Падобна да калядных напеваў тыпу Г, у калядках тыпу Д на першы план выступае песенны пачатак; напевы іх адрозніваюцца плаўным рухам мелодыі, мяккімі яе контурамі. Як правіла, напевы гэтыя мажорнага нахілення; у аснове іх ладава-меладычнай арганізацыі (як і ва ўсіх разгледжаных намі калядных напевах) ляжыць пентахорд.

Спецыфічная структурна-стылявая адзнака калядных напеваў тыпу Д — злітнасць рэфрэну з асноўным вершам; рэфрэн тут пачынаецца ўжо на першым вершы (арганічна яго завяршаючы) і прадаўжаецца на другім, утвараючы такім чынам двухрадкоўе:

Ой там стаяла красная панна, каліна,
Каліна мая, ружа чырвона, ягада.

У цэлым для гэтых калядак характэрна ідэнтычнасць абодвух вершаў двухрадкоўя (ізаметрычнасць): $(5+5+\overbrace{3)\ (5+5+3}^{R})$ і музычна-рытмічнай формы абодвух сказаў (з зацягваннем чацвёртага склада ў пяціскладовіку і трохскладовым «адсячэннем»):



Напевы дадзенага тыпу з'яўляюцца ў асноўным калядкавымі[19]. (У асобных выпадках яны зафіксаваны збіральнікамі як калядкавыя і шчадроўныя.)

Шосты тып калядак — ГД (№ 99—102) аб'ядноўвае структурна-рытмічныя прыкметы напеваў тыпу Г і Д. Як і для апошніх, для калядак тыпу ГД характэрна злітнасць напеву з асноўным вершам, арганічнае завяршэнне «калядкавага» дзесяціскладовага верша трохскладовай групай рэфрэну, які пачынаецца ўжо на першым радку верша і працягваецца на другім.

---

[19] Дадзены тып напеваў вельмі шырока распаўсюджаны на Украіне і прадстаўлены шматлікімі ўзорамі і варыянтамі ў томе «Колядки та щедрівки» (Кіеў, 1965) шматтомнага выдання ўкраінскага фальклору. Як адзін з асноўных песенных тыпаў украінскіх калядак ён адзначан у нарысе В. Гашоўскага «Типы украинских колядок и их структурно-ритмические разновидности у славян». (У В. Гашоўскага ён абазначаны як тып Б).

З напевамі тыпу Г разглядаемыя калядкі збліжае музычная рытмізацыя верша (з зацягваннем сярэдняга складу ў абодвух яго пяціскладовіках):



Спецыфічная асаблівасць калядных напеваў тыпу ГД заключаецца перш за ўсё ў тым, што другі сказ напеву паўтарае не ўвесь радок верша, а толькі апошняе паўрадкоўе:

А ў гаспадара пасярод двара, каляда,
Пасярод двара, каляда.

Напевы гэтага тыпу зафіксаваны як толькі калядкавыя і распаўсюджаны ў раёнах заходняга Палесся (галоўным чынам на Пружаншчыне).

Сёмы песенны тып калядак — Е (№ 103—106) займае некалькі асобнае месца сярод асноўных калядных напеваў, пашыраных на тэрыторыі Беларусі. Па сутнасці ён з'яўляецца калядна-масленічным і змыкаецца непасрэдна з некаторымі тыпамі вясенніх напеваў. Як калядныя (у асноўным са словамі «Прыехала каляда ўвечары, ўвечары») напевы гэтыя зафіксаваны намі пераважна ў цэнтральных раёнах Беларусі; як масленічныя (са словамі «А ў нас сёння масленка, масленка» або «Радзі, божа, лён даўгі, лён даўгі») — ва ўсходніх раёнах Паазер'я.

Вылучаюцца калядкі тыпу Е сярод усіх разгледжаных намі песенных тыпаў і сваім грамадскім прызначэннем. Як правіла, яны спяваюцца дзецям, у сувязі з чым урачыстасць іх жартаўлівая, гуллівая. (Па народнаму азначэнню калядкі гэтыя спяваюцца «не сапраўды, а смехам».)

Напеў разглядаемых намі калядак нестрафічны, аднарадковы. Спецыфічны рэфрэн, які з'яўляецца звычайна жанравай адзнакай калядак, у напевах тыпу Е адсутнічае. Але ролю яго тут выконвае апошняя двойчы паўтораная трохскладовая група верша, для музычнай рытмізацыі якой характэрна антыметабала. У цэлым форма верша АББ, меладычная форма аднарадковага напеву АВС. Складовая структура верша 4+3+3 (пры гэтым першая складовая група можа вар'іравацца: 4, 5, 6, 7, а другая два разы не паўтарацца); музычна-рытмічная форма



Зафіксаваныя калядкі тыпу Е, як правіла, мажорнага накланення (квартавыя, квінтавыя, секставыя), з ярка выражанай інтанацыяй усклікання ў другой меладычнай фразе і з заканчэннем напеву на розных ступенях лада (2, 5, 3), радзей на танічным гуку. Ім уласціва некаторая імпра-

візацыйнасць меладычнага развіцця, што ў першую чаргу абумоўлена іх жартаўліва-гульнёвым эместам.

Рэчытатыўны тып напеваў (№ 107—119) ярка адлюстроўвае моўную дынаміку каляднага звычаю і непасрэдна звязаны з калряднымі прыгаворкамі, слоўнымі «застаўкамі» (якія папярэднічаюць песні і завяршаюць яе), рознага роду воклічамі шумнага святочнага натоўпу. Наогул, у напевах гэтага тыпу выяўляюцца тыя ж інтанацыі, якія характэрны і для разгледжаных вышэй асноўных песенных тыпаў калядак. Але ў адрозненне ад апошніх у рэчытатыўных калядках інтанацыйна-моўны пачатак набывае галоўную ролю ў тыпізацыі напеву.

Сярод зафіксаваных на тэрыторыі Беларусі калядных напеваў рэчытатыўнага тыпу можна вылучыць тры асноўныя разнавіднасці. Напевы першай разнавіднасці (абазначым яе Рэч.— 1, № 107—113) заснаваны на адной паўтараемай папеўцы (пераважна тэрцавай або трыхордавай у межах кварты) з прызыўна-заклінальнай інтанацыяй, вельмі характэрнай для дзіцячых заклічак, часткова і «дражнілак» («дождждык, дождждык, дзергані», «свяці, свяці, сонца» і г. д.). Магчыма ў далёкім мінулым падобнага роду напевам надавалася заклінальна-магічнае значэнне[20].

Напевы тыпу Рэч.— 1 з'яўляюцца спецыфічна шчадроўнымі і спяваюцца ў асноўным дзецьмі і падлеткамі непасрэдна пры шчадраванні. Спяванне іх чаргуецца з рознымі выкрыкамі (патрабуючымі адарыць — заахвоціць шчадроўшчыкаў) і часта набывае паўнапеўны, паўгутарковы характар (калі высотная фіксацыя гуку становіцца вельмі прыблізнай). Тэрыторыя пашырэння гэтых шчадровак — паўднёвыя раёны Палесся.

Другая разнавіднасць напеваў — Рэч.— 2 (№ 114—117) заснавана на свабодным вар'іраванні квінтавай папеўкі-ўсклікання, таго «святочнага пентахорда», інтанацыйна-сэнсавая сутнасць якога тонка раскрыта ў даследаванні Ф. Рубцова «Інтанацыйныя сувязі ў песеннай творчасці славянскіх народаў»[21].

Вобразна-сэнсавы змест разглядаемых напеваў — непасрэднае выказванне радасці з прычыны наступлення святочнай каляднай пары або прамое «заклікание» да гаспадара:

Ці ты, дзядзька, спіш, не чуеш,
Ці ты дома не начуеш?!

---

[20] Па характару гэта той жа тып асцінатнага напеву (у шматлікіх узорах прадстаўленага ва ўкраінскім каляндарна-абрадавым фальклоры), які набыў усеагульную вядомасць дзякуючы тонкай і маляўнічай апрацоўцы Н. Леантовічам «Шчэдрыка».

[21] Не выпадкова сярод беларускіх калядак у сферы ўвагі Ф. Рубцова ў першую чаргу аказаліся іменна калядкі дадзенай тыповай групы, даволі поўна прадстаўленыя ў рукапісных матэрыялах (з Магілёўшчыны) М. Зубава. (Аддзел фальклору Інстытута рускай літаратуры (Пушкінскі дом) АН СССР, Ленінград).

Інтанацыя вокліча ў напевах гэтых калядак гучыць амаль на грані ўсклікання моўнага.

Трэцяя разнавіднасць напеваў — Рэч.— 3 (№ 118—119) характарызуецца таксама квінтавай папеўкай, але найгалоўнейшай інтанацыяй тут становіцца скорагаворкавая. Напевы гэтай разнавіднасці прадстаўляюць сабой своеасаблівыя прыпеўкі-прыгаворкі, скорагаворкава-іграваая інтанацыя якіх спалучаецца з рытмікай танцавальнага характару.

Другая і трэцяя разнавіднасці рэчытатыўных напеваў з'яўляюцца калядкавымі і пашыраны па ўсёй Беларусі, але пераважна на Магілёўшчыне і Віцебшчыне.

З гульнёвых калядак у Беларусі найбольшае значэнне і пашырэнне набылі два тыпы напеваў з мноствам прымацаваных да іх гульнёвых тэкстаў. Гэта песенна-тэкставыя тыпы напеваў «Каза» і «Цярэшка», якія нельга аддзяліць ад калядных гульняў «Вадзіць казу» і «Жаніць Цярэшку».

Асноўная зона пашырэння гульнёвых калядак «Каза» (№ 120—131) — паўднёвыя раёны Беларусі з захопам цэнтральных раёнаў прыкладна да лініі Мінск — Магілёў. Тэрыторыя, размешчаная на поўнач ад гэтай лініі (найбольш заходняя яе палавіна), — зона «Цярэшкі».

Рытмічная структура напеваў «Каза» заснавана на паўтарэнні (вядомага нам па напевах тыпу А) «калядкавага пяцісклadовіка» без рэфрэну. Іх ладава-меладычная аснова, як правіла, мажорны пентахорд (часам тэтрахорд), але сустракаюцца і напевы больш шырокага дыяпазону, заснаваныя на двух счэпленых меладычных ячэйках з танічным устоем пасярэдзіне.

Тыпалагічнай адзнакай напеваў «Каза» з'яўляецца завяршэнне меладычных фраз 2-й ступенню, якая патрабуе развіцця і стварае ў цэлым кальцавую, «незамкнутую» (паводле вызначэння Ф. Калесы)[22] форму напеву, нібы бясконцы меладычны круг, што вельмі арганічна адпавядае гульнёваму прызначэнню песні. Заканчэнне меладычнай фразы на танічным гуку для напеваў «Каза» менш тыповае. (Падобныя напевы сустракаюцца галоўным чынам у цэнтральных раёнах Беларусі).

Гульнёвае прызначэнне гэтых калядак ярка адлюстравана і ў іх паэтычных тэкстах, якія ў розных варыянтах і ацэнках прадстаўляюць нам галоўны «калядны персанаж» «казу» з усімі яе карнавальна-«магічнымі» дзеяннямі. У гэтую ж гульнёвую сферу нярэдка ўцягваюцца і іншыя тэксты жартоўнага зместу, якія замацоўваюцца за тыповым напевам «Каза» (№ 132—135). Перш за ўсё гэта рознага роду жартоўныя «неверагоднасці» («кабылку украў, пад печку схаваў»), асабліва характэрныя для калядна-карнавальнай атмасферы традыцыйнага народнага свята.

Калядна-гульнёвы тып «Цярэшка» (№ 136—151) таксама мае свае ўстойлівыя тыпалагічныя адзнакі, музычныя і паэтычныя. Вызначаючай

---

[22] Незамкнутую форму Ф. Калеса адзначаў у калыханках і песнях, якія выконваліся «пры хаджэнні з казой». Гл. яго нарыс «Народна музика на Поліссі». (Ф. М. К о л е с с а. Музикознавчі праці. Київ, 1970).

структурна-рытмічнай яго прыкметай з'яўляецца сямі-, васьміскладовая структура верша, якой у напеве адпавядае рытмаформула з роўных рытмічных працягласцей з зацягнутым гукам на пятым і апошнім складзе (пры сяміскладовай структуры верша) або толькі на апошнім (пры васьміскладовай):




Для «Цярэшкі» амаль у роўнай меры характэрны напевы квінтавыя і «двух'ярусныя» (з танічным устоем пасярэдзіне) напевы больш шырокага дыяпазону (септымавага, актаўнага) з супастаўленнем фраз, сказаў або больш разгорнутых частак у парадку пытання — адказу. Як правіла, усе гэтыя напевы мажорнага накланення. Але час ад часу сярод іх трапляюцца і напевы мінорныя, якія тонка адцяняюць характар гумарыстычнага змяшчэння «важных» вясельных слаўленняў «жаніцьбы Цярэшкі» (гл. напеў № 150):

— Не ровен, дзядулька, ты мне:
Ты росту вышэйшага,
Гонару важнейшага.

Як і напеў «Каза», гульнёвы тып напеву «Цярэшка» канцэнтруе вакол сябе значную колькасць песень, прымеркаваных да каляд і маючых у сваёй аснове па-рознаму вар'іруемую «цярэшкаўскаю» рытмаформулу (№ 152—156).

Апрача ўстаноўленых намі вышэйапісаных тыпаў калядак (кожны з якіх ахоплівае больш або менш шырокую тэрытарыяльную зону), у розных этнаграфічных раёнах Беларусі існуе яшчэ нямала іх музычна-стылявых разнавіднасцей, якія прадстаўляюць сабой тыповыя калядкавыя напевы лакальнага значэння. Аднак з-за невялікай колькасці запісаў гэтых напеваў улічыць іх у цяперашні час даволі цяжка. Некалькі разнавіднасцей такіх лакальных песенна-тэкставых тыпаў прыводзіцца ў дадзеным томе:

1. «Ішла каляда калядуючы» (№ 157, 158) — цэнтральная Віцебшчына і прылягаючыя да яе раёны.

2. «Ішла-пайшла сівая свіння» (№ 159—162) — паўночна-заходнія раёны Віцебшчыны.

3. «Не кур, не вей, мяцеліца, каліда» (№ 163, 164) — паўночна-заходнія раёны Беларусі.

4. «Ясен месяц, каліда» (№ 165, 166) — паўночна-заходнія раёны Беларусі.

5. «Ой ішла калядка калядуючы праз сяло» (№ 167, 168) — паўднёва-заходнія раёны Беларусі.

6. «Дзе мы хадзілі, дзе мы гулялі» (№ 169, 170) — Ляхавіцкі раён (паўночнае Палессе).

У канцы першага раздзела музычнай часткі зборніка прыводзяцца прыклады народных напеваў на хрысціянска-біблейскія сюжэты, якія асімляваліся ў сялянскім асяроддзі і набылі паўбытавую, паўлегендарную паэтычную афарбоўку. Сярод іх вылучаюцца тры сюжэтна-тэматычныя групы, кожнай з якіх адпавядаюць свае тыповыя напевы: «Новая навіна» (№ 171); «А ўчора з вячора» (№ 172—173); «А ў Ярдані ціха вода стаяла» (№ 174—176).

Другі раздзел музычнай часткі зборніка склалі рознага роду напевы, якія прымяркоўваюцца да каляднага перыяду. Сюды ўваходзяць, па-першае, напевы дастасаваных да каляд гульняў і карагодаў (№ 177—198), а таксама жартоўных «гульнёвых» і бяседных «пірушачных» песень (№ 199—223); па-другое, мелодыі песень «піліпаўскіх» («пасядзелачных» і «на попрадках», № 224—250).

Для азначэння ўсіх гэтых напеваў найбольш вядомы наступныя тэрміны: ражстоўскія (паўночна-заходнія раёны Віцебшчыны), калядныя, калядныя, піліпаўскія, зімовыя (розныя этнаграфічныя раёны Беларусі).

Сярод напеваў першай групы найбольш моцна замацаваны за калядамі мелодыі спецыфічных калядных гульняў: «Яшчур» (№ 177, 178), «Халімон» (№ 180), «Зязюля» (№ 181), «Гусары» (№ 183), да якіх прымыкаюць рознага роду танцавальныя мелодыі. З карагодных на першым плане таксама напевы з ярка выражаным гульнёвым пачаткам (№ 182, 184, 185, 188, 189, 190).

Піліпаўскі цыкл прадстаўлены ў сістэме народнай каляндарнай творчасці перш за ўсё напевамі апавядальнага характару. (Нярэдка ў гэтых песнях на пярэдні план выступаюць баладныя матывы.) Але сустракаюцца тут і лірычныя напевы з ярка выражанай адзіночнай традыцыяй свабоднага распявання, якія змыкаюцца па характару з песнямі асенняга цыклу. У калядны цыкл яны звычайна ўцягваюцца цераз пабочныя лірычныя асацыяцыі (паэтычныя вобразы «мяцеліцы», «халоднай зімы», «цёмнага вечара», «піліпаўскай ночкі» і г. д.).

Прымеркаваныя разам з уласна каляднымі песнямі да аднаго і таго ж каляндарнага часу, піліпаўскія песні з'явіліся свайго роду «лабараторыяй» стабілізацыі тыповых калядных напеваў (у гэтым сэнсе вельмі характэрныя напевы песні «І вароты рыпяць і марозы чуюць», № 224—226), прадстаўляючы разам з тым больш шырокую карціну напеваў зімовага каляндарна-земляробчага круга ў аспекце не толькі ўжо каляднага жанру, колькі рэпертуару.



Музычная частка гэтага тома ўключае 250 мелодый песень зімовага цыклу, адабраных намі з друкаваных і рукапісных крыніц. Першы раздзел — напевы ўласна калядныя (№ 1—176); другі раздзел — напевы, якія прымеркаваны да каляд (№ 177—250).

Унутры першага раздзела напевы сістэматызаваны па калядных тыпах. (Прымыкаючыя да таго ці іншага песеннага тыпу калядкавыя мелодыі пададзены ў канцы адпаведных падраздзелаў тыповых калядак.) Унутры другога раздзела — па жанрава-тэматычных групах і далей па ступені прыстасавання і мелодыка-тэкставых варыянтах.

Парадкавыя нумары напеваў прастаўлены з левага боку нотнага прыкладу; парадкавыя нумары паэтычных тэкстаў (аднаго або некалькіх) да дадзенага напеву — з правага боку.

У тых выпадках, калі паэтычны тэкст да таго ці іншага напеву ў гэтым томе не публікуецца (адсутнічае поўны запіс, заменены больш мастацка-паўнацэнным паэтычным варыянтам), у падтэкстоўках да мелодыі даюцца толькі яго першапачатковыя радкі (без адсылкі да поўнага тэкставага варыянта). У невялікай групе напеваў (№ 171—176) мелодыі даюцца без падтэкстоўкі.

У падтэкстоўках да напеваў захоўваюцца ўсе лексічныя, а таксама некаторыя фанетычныя асаблівасці мясцовай гаворкі (калі яны адзначаны былі аўтарам запісу).

Парадкавыя нумары напеваў, якія ўжо публікаваліся раней, адзначаны зорачкамі.

Пры рэдагаванні напеваў, што публікаваліся раней (часткова і рукапісных), мы імкнуліся захаваць іх аўтарскую тактыроўку, прапануючы ў асобных выпадках свой варыянт у выглядзе дадатковага абазначэння над натаносцам размеру і тактавых рыс.

У сучасных натыроўках мелодый, запісаных у нядаўніх экспедыцыях і публікуемых упершыню, прынцыпы тактыроўкі уніфікаваны: тактавая рыса выкарыстоўваецца ў якасці ўмоўнага раздзельнага знака, які ўказвае на рытмічную перыядызацыю напеву.

У тых выпадках, калі мелодыя зімовых песень запісана адным збіральнікам (на магнітафонную стужку), а натавана другім, яе натыроўшчык указваецца разам з аўтарам запісу ў звестках пра запісы напеваў.

*З. МАЖЭЙКА*

## 1. ПОЗНА, ПОЗНА ЗВЕЧАРА СЯДЗЕЛА

Позна, позна звечара сядзела,[1]
Тонка, тонка белы кужаль прала,
Часта, часта ў акно паглядала,
— Адкуль, адкуль ды й месяц узойдзець,
Адтуль, адтуль мой татухна прыдзець.
Правай ручкай вароты адчыняла.
— Чаго, дочка, так жаласна плача?
Ці твой свёкар дужа ненавісны,
Ці твая свякроўка дужа ліхая?
— А татулька ж ты мой, салавейка,
Мой жа свёкар, як родны татка,
А свякроўка, як родная матка.
А татулька ж ты мой, салавейка,
Мой жа мужык дужа ненавісны:
У карчму ідзець — як мак расцвітаець,
А з карчмы ідзець — як ліст ападаець,
Дамоў прыдзець — сям'ю разганяець:
— Вары, матка, смашную вячэру,
Сцялі, жонка, мяккую пасцелю,
Хадзі, жонка, са мною вячэраць.
— Лучшай буду горкі палын есці,
Чым з табой вячэраці сесці.
— Хадзі, жонка, ночку начаваці.
— Лучшай буду асінку гладаці,
Чым з табою ночку начаваці.

## 2. ДОЎГА, ДОЎГА ЗВЯЧОРА СЯДЗЕЛА

Доўга, доўга звячора сядзела,
Тонкі я, белы кужалёчак я прала,

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

Часта я, часта праз ваконца паглядала.
Адкуль, адкуль ясны месяц узойдзець,
Адтуль, адтуль мой татулька прыедзець.
Кіну я пралку пад белую лаўку,
Сама пайду татку пераймаць.
Правай ручкай татульку вітаю,
Левай ручкай слёзкі выціраю.
— Чаго, чаго, мая дзіцяці, плачыш?
Ці табе свякроўка ліхая!?
— Мне свякроўка, як родна матулька.
— Ці табе свёкарочак ліх?
— Мне свёкарочак, як родны татулька.
— Ці табе дзеверочкі ліхія?
— Мне дзеверочкі, як родныя браточкі.
— Ці табе зальвіцы ліхія?
— Мне зальвіцы, як родны сястрыцы.
— Ці табе міленькі ліхі?
— Згадаў, згадаў, мой татулька родненькі:
Ціха іду — як свіння паўзу я,
Скора іду — як каза скачу я,
Бела нашу — то жана хваслівa,
Чорна нашу — то жана лянівa.

## 3. ОЙ, ПОЗНА, ПОЗНА Я ЗВЕЧАРУ СЯДЖУ

Ой, позна, позна я звечару сяджу,
Ой, тонка, звонка белы кужаль праду,
Ой, праду, праду, ў ваконца гляджу.
А пад ваконцам быстра рэчка цячэць,
А па той рэчцы шэра вутка плывець.
Ой, там не вутка, родная матулька.
О, кіну, кіну я пражу пад лаўку,
А сама пайду з мамачкай вітацца.
— Мая мамачка! Нічым не ўгадзіла:
Ані ахвоткай, ані сваёй работкай,
Ані я ежай, ні белай адзежай.
Як не іду есці — кажуць гняўлівая,
А як пайду есці — кажуць жарлівая,
Як не мыюся — кажуць лянівая,

А як памыюся — кажуць хваслівая,
Як пайду скора — кажуць каза дзіка,
Як пайду ціха — кажуць свіння біта.

## 4. ДОЎГА, ДОЎГА Я ЗВЕЧАРА СЯДЖУ

Доўга, доўга я звечара сяджу,
Тонкі белы кужалёк праду,
Часта, часта праз аконачка гляжу.
Я думала: ясен месяц усходзіць,
Ажно мой міленькі каля аконца ходзіць...

## 5. ПРАДУ Я, ПРАДУ, СПАТАНЬКІ ХАЧУ

Праду я, праду, спатанькі хачу.
Як пайду я ў каморачку,
Прыкладу я галовачку там,
Ці не засну, ці не паляжу.
Свёкарка ідзець, мяне судзячы:
— Санлівая, драмлівая,
На работу лянівая.
Толькі ёй ўсё спаць,
Толькі ёй ўсё драмаць.
Праду я, праду, спатанькі хачу.
Як пайду ж я ў каморачку,
Прыкладу я галовачку там,
Ці не засну, ці не задрамлю.
Свякроўка ідзець, мяне судзячы:
— Санлівая, драмлівая,
На работу лянівая.
Толькі ёй ўсё спаць,
Толькі ёй ўсё драмаць.
Праду я, праду, спатанькі хачу.
Як пайду я ў каморачку,
Прыкладу я галовачку там,
Ці не засну, ці не паляжу.
Мамачка ідзець, мяне жалеець:
— Дзіця ж маё дарагое
Пашло замуж маладое,
Дзеткі абнялі, спаткі не далі.

## 6. ПРАДУ, САКОЧУ

Праду, сакочу,
Спацечкі хочу.
Палажу я галовачку
На свёкраву падушачку,
Ці не падрамлю.
Свёкар ідзець,
Як бура гудзець:
— Санлівая, драмлівая,
На работу лянівая
Нявестачка наша.

Праду, сакочу,
Спацечкі хочу.
Палажу я галовачку
На свякрусіну падушачку,
Ці не падрамлю.
Свякруха бяжыць.
Як каршун ляціць:
— Санлівая, драмлівая,
На работу лянівая
Нявестачка наша.

Праду, сакочу,
Спацечкі хочу.
Палажу я галовачку
На дзевераву падушачку,
Ці не падрамлю.
Дзевер шуміць,
Як сокал ляціць:
— Вясёлая, харошая
Нявестачка наша.

## 7. ПРАЛА, ПРАЛА КУДЗЕЛЕНЬКУ

Прала, прала кудзеленьку —
Галоўка баліць.
Пайшла бы да карчомкі,
Мне муж не вяліць.
Пайшоў мой муж поле сеяць,
Я млада-младзюсенька—ў карчомку гуляць.
— А бадай ты, мая жонка, здарова была.
Перавяла ж ты мае волы і каровы.

## 8. ПРАЛА Б Я КУДЗЕЛЕЧКУ

Прала б я кудзелечку —
Галоўка баліць.
Пайшла б я ў карчомачку,
Ды мой муж не вяліць.

Прала-прала кудзелечку,
Ды аб зямлю бразь!
Сама пайшла ў карчомачку,
Ды й п'яна напілась.

Прыязджае мой міленькі
З поля дамоў
І пытаецца ў дзетачак
— А дзе ваша маць?

— Ціха, тата, ціха, тата,
Няхай мама спіць,
А як прыдзе шынкарачка,
Дык трэба заплаціць.

— Устань, міла, устань, міла,
Устань, прабудзіся,
Вазьмі сабе саракоўку,
Ідзі пахмяліся.

— Ціха, тата, ціха, тата,
Няхай мама спіць,
А як прыдзе шынкарачка,
Дык трэба заплаціць.

— Устань, міла, устань, міла,
Устань, прабудзіся,
Вазьмі сабе карбоньчык,
Ідзі расплаціся.

— Не паможыць твой карбонец,
Не памогуць два,
Учора піла на карову,
Сягоння — на вала.

— А бадай ты, мая міла,
Здарова была,
Як ты маю хазяічку
Навекі звяла.

## 9. ОЙ, ПРАЛА Б Я КУДЗЕЛЕНЬКУ

Ой, прала б я кудзеленьку —
Галоўка баліць.
Ой, пашла б я ў карчомку —
Муж мой не вяліць.

Ой, паехаў мой міленькі
Па сена ў стэп,
А я сваю кудзеленьку
Пад прыпечак гэп!

Ой, жа мая кудзеленька
Начулася,
А я, маладзенька,
Упілася.

Ой, прыехаў мой міленькі
Са стэпу дадому,
Пытаецца ў малых дзетак,
Ці мама ў дому?

— Наша мама маладая
П'е, гуляе
І прыходзіць на дыване
Аддыхае.

— Ціха, дзеці, не крычыце,
Няхай мама спіць,
Бо ей, маладзенькай,
Галоўка баліць.

— Уставай, мая міла,
Прахадзіся.
Дам табе я карбаванец —
Пахмяліся.

— Мне не значыць карбаванец,
Мне не значыць два,
Ўчора піла на карову,
Сёння — на вала.

— О, бадай жа, мая міла,
Здарова была,
Як ты мяне, маладога,
З гаспадаркі звяла.

## 10. ПРАЛА Б Я КУДЗЕЛЕЧКУ

Прала б я кудзелечку —
Галоўка баліць.
Піла б я гарэлачку —
Муж не вяліць.

Я тую кудзеліцу
Аб зямліцу гоп.
А сама малада-маладзенька
Да карчомкі гоц.

А як першы кур запяе,
Я ў карчомцы п'ю,
А як другі кур запяе,
Я ні аб чым не дбаю.

А як другі кур запяе,
Я ні аб чым не дбаю,
А як трэці кур запяе,
Я з карчомкі йду.

Сустрэў мяне дзеверка
У вішнёвым саду.
— Братавая, залатая,
Я шкадую це.

Братавая, залатая,
Я шкадую це.
Нагатовіў твой міленькі
Нагайку на це.

— Дзеверка-саколік,
Барані мяне.
Есць у мяне шолкаў пояс,
Дару я цябе.

— Я твой шолкаў пояс
Сам знашу.
А табе плечы нагайкай,
Як нажом, спішу.

## 11. КІНУ ТОНКУ, КІНУ ПРАЖУ

Кіну тонку, кіну пражу,
Сама пайду, на печ ляжу.
Буду на печанькі ляжаць,
Сяроданькі ажыдаць.

А ў сераду з паўначы
Да паедуць таргачы,
Яны будуць таргаваць,
А я буду кукаваць.

Пакуплю сабе платок,
Пакуплю сабе другой.
Трэці — шоўкавы куплю
І да мілага пашлю.

Мілы шоўку не бярэць,
Мне атвету не даець.
Ні атвету, ні прывету,
Еслі яго дома нету.

Ходзе мілы па двару,
Усю спавіўшы галаву.
— От прыдзі ка мне пад чай,
Я пастаўлю самавар,
Прыдзі ка мне вечарком,
Напаю цябе чайком.

## 12. ПРАДУ, ПРАДУ ТОНКА, ПАГУЧЫВАЮ ЗВОНКА

Праду, праду тонка, пагучываю звонка.
Гэй, каліна, маліна мая! [1]
Пастаўлю кросенцы ў новай святліцы.
Прыдзе муж п'яніца, на кросенцы ўзваліцца,
Нітачку парвець, мяне маладу паб'ець,
А мілы нітачку звяжыць, са мной радам сядзіць.

## 13. ЯК ПАЙШОЎ ЖА КУЖАЛЬ ПА КУТАХ, ПА ЛАЎКАХ

Як пайшоў жа кужаль па кутах, па лаўках.
Каліна, маліна мая! [1]
Па кутах, па лаўках, па дзеўках-красаўках.
Ды прышоў жа кужаль ды к нашай Насцінькі.
А наша Насцінька — ды тонкая пралля,
Ды тонкая пралля, ды звонкая ткалля:
Увадзіла ніткі пароўна калена,
Пароўна калена, таўсцей за палена.
Задумала Насцінька красёнкі ткаці,
Пайшла ў добры людзі бёрды дабываці.
Бёрды не дабыла — сабак надражніла,
Сабак надражніла, людзей насмяшыла.
Параілі людзі па пнёўю снаваці,
Па пнёўю снаваці, у ізгароду ткаці,
У ізгароду ткаці, калом прыбіваці.
Ехалі баяры, бог помач давалі:
— Бог помач, Насцінька, красёнцы ткаці!
Красёнцы ткаці, калом прыбіваці,
Дочкам—на платочкі, сынам—на парточкі.
Павязла Насцінька бялізну бяліці:
На рэчку — каламі, а з рэчкі — валамі.

## 14. ЯК ПАЙШОЎ ЖА КУЖАЛЬ ПА КУТУ, ПА ЛАЎКАХ

Як пайшоў жа кужаль па куту, па лаўках.
Каліна, маліна мая! [1]

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Па куту, па лаўкі к маладой Наталкі,
Паставіла кросны за печкай, у куточку.
Стой яны тыдзень, стой яны другі,
Разыграліся кошкі, паламалі кросны,
Разыграліся мышкі, разарвалі ніткі,
Прыбегла лісіца, пачала сварыцца,
Прыбег заяц, пачаў лаяць:
— Ты, дзеўка, дурна ды ты неразумна,
Ты доўга спала, кросны не ткала.

## 15. ЯК ПРЫШОУ, ЯК ПРЫШОУ КАЗЁЛ ПАД АКОНЦА

Як прышоў, як прышоў казёл пад аконца.
Ці прадуць, ці прадуць дзеўкі валаконца?
А ўсе дзевачкі прадуць, адна Манька не прадзе.
Аддадзім мы яе за казла, за казла.

За карасліва пуза, за крывую за нагу,
За крывую за нагу, за сівую бараду.[1]

А крывою нагою жар заграбаці,
А сівою барадою комін выціраці.

А сівою барадою комін выціраці,
А караслівым пузам печ засланяці.

## 16. СКАЧЫЦЬ КУЖАЛЁЧАК, СКАЧЫЦЬ КУЖАЛЁЧАК

Скачыць кужалёчак, скачыць кужалёчак.
Каліна-маліна.[2]
Ды й па белых лаўках, ды й па красных дзеўках.
Прыйшоў кужалёчак да маладой.
Яна тонка прала, яна звонка ткала.
Кроіць кужалёчак сабе на кашульку.
Сабе на кашульку, Марылькі на другую.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 17. КАЛІНУШКА ПА РЫНУШКУ ХАДЗІЛА

Калінушка па рынушку хадзіла,
На тры дзенюшкі кудзелюшку купіла,
На алтынец верацёнец заплаціла.
— Ты ляжы, мая кудзеля, усю нядзелю!
У панядзельнік я банюшку тапіла,
Ва ўторак я ў банюшку хадзіла,
У сераду я са ўгару праляжала,
У чацвер буйну голаву часала,
А ў пятніцу добрыя жоны не прадалі,
А ў суботу радзіцелей памінала,
У васкрасенне на вяселлі прагуляла,
У панядзельнік стала кудзель прасці.
Я напрала два клубочкі, два маточкі,
Я нацёрла два крывавых мазалёчкі,
Паказала свайму міламу дружочку.
— Прадзі, мая мілая, не нявольсся,
Саш'ю табе сарахванчык-размаханчык.
Не хадзі, мая мілая, кала тыну:
Как завідзюць паповы козы-воўцы,
Разарвуць сарахванчык-размаханчык на кусочкі.

## 18. ДУНЯ МАЯ, ДУНЯ, СЕМ НЯДЗЕЛЬ ПРАЛА

Дуня мая, Дуня, сем нядзель прала,
[Сем нядзель прала,] сем праснёў напрала.

Дуня мая, Дуня, танкапрадзіца была,
[Танкапрадзіца была, сем сцен аснавала.]

Сем сцен аснавала, у згароду ткала,
У згароду ткала, калом прыбівала.

Ехалі баяры, бог помач сказалі:
— Бог помач,— сказалі,— рагожу снаваці!

— Глупыя баяры, няпраўду сказалі:
Ета не рагожа, ета рагазіна.

[Ета не рагожа, ета рагазіна.]
Пайду к суседу, папрашу я лугу.

Спасіба суседу, што мне даў лугу,
А я ў ваду котам, а з вады я лётам.

## 19. ПОЙДЗЕМ, ДЗЕВАЧКІ, У НАЧЛЕЖАЧКІ

Пойдзем, дзевачкі, у начлежачкі.
Люлі, люлі, у начлежачкі.[1]
Возьмем, дзевачкі, паўтары мычачкі,
Напрадзём, дзевачкі, паўтары цэвачкі,
Аснуём, дзевачкі, паўтары губачкі.
Пайдзём, дзевачкі, на сяло бёрда шукаць.
Ўсё сяло абыйшлі, бёрда не найшлі.
Будзем, дзевачкі, ў прасла кросны снаваць,
Будзем, дзевачкі, у тын кросны ткаць.

## 20. АВЕЧАЧКА-ПУХНАТАЧКА

— Авечачка-пухнатачка,
А хто цябе напасець?
— Мая матачка.
Матка стара,
Дачка мала,
А я маладзенька,
Кросны ткала:
То ў ніць, то ў ніць,
То ў бердзечка,
Прыбівай, прыбівай,
Маё сэрдзечка.

## 21. ЯК СЯДУ Я ПАД ВАКОШАЧКАМ ПРАСЦІ

Як сяду я пад вакошачкам прасці,
Кіну я валаконца за аконца.

Як пайду я, куды іздаўна хадзіла,
Ці не ўвіджу, каго верна любіла.

---

[1] Прыпеў «Люлі, люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Хоць не яго, дык таварыша яго,
Папытаю аб здароўіка яго,
Ці не балела галованька ў яго.

Хоць балела я, не буду казаці,
Бо ты, маладзенькі, будзеш ташнаваці.

Цераз мой двор цяцера ляцела,
Не судзіў мне бог, каго я хацела.

Ці бог не судзіў, ці злыя людзі,
Бог знаець, бог ведаець,
Дзе мой мілы начаваць будзець.

Ці дома, ці дома, ці ён у дарозе,
Бог знаіць, бог ведаіць,
Ці на беленькай ложы.

## 22. ЯК УСТАНУ Я РАНЕНЬКА

Як устану я раненька,[1]
Я памыюся бяленька,
Памалюсь богу вярненька.
Як сяду я пад вакошкам
Бялешанькі кужаль прасці,
Тонкі ніці вывадзіці.
Як гляжу я ў вакошка:
Там мой мілы каня поіць,
Каня поіць, ён сам тонець,
На ратуначку гукаіць:
— Ты ратуй, ратуй, мілая,
Ратуй, радасць дарагая!
— Што я рада б ратаваці,
Рада ж ба я ратаваці,
З стараны людзі глядзяць,
Не чужыя, да ўсё свае,
Ацец, матушка радная.

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 23. СЯДУ ПРАСЦІ, НІТКА РВЕЦЦА

Сяду прасці, нітка рвецца,
Лягу спаці, ложка гнецца.
Воха, воха, воя, воя,
Бедна галовушка мая!

Няхай пражу мышы рубяць,
Няхай мяне хлопцы любяць.
Воха, воха, воя, воя,
Бедна галовушка мая!

На вуліцы скрыпка грае,
Мяне маці не пускае.
Каб я тое верна знала,
То я б маткі не слухала.

А мой мілы муку сее,
А я рада, што ўмее.
А мой мілы кветку робіць,
Да ён жа мне не ўнаровіць.

Яго боты глянцаваты —
Відны пальцы, відны пяты.
Яго шапка драпавая,
На дзень сем раз зашывае.

## 24. КАБ НА РЭЧЦЫ, РЭЧЦЫ

Каб на рэчцы, рэчцы
Ды на гібкай досцы,
А тама дзяўчына
Бела плацце мыла.
Прыехаў дзяцінка:
— Бог помач, дзяўчынка,
Бог помач, дзяўчынка,
Бела плацце мыці!
Дзяўчына спяшала,
Не кажаць спасіба.
— Красная дзяўчонка,
Напой майго каня
Сярод сіня мора,

Каб конік напіўся,
Капыт не ўзмачыўся.
— Беленькі малойчык,
Сашый мне шляхрочык
З макавага цвету.
— Красная дзяўчонка,
Напрадзі мне нітак,
З дажджавыя каплі.
— Беленькі малойчык,
Вытач верацёнца,
Вытач верацёнца
З камарова сэрца.

## 25. КАЛЯ МАЙГО ЦЕРАМА

Каля майго церама
Пралягала сцёжанька,
Бітая дарожанька.

А па той дарожаньке
Тры малойцы хадзілі,
У гуселькі іграючы
Й песні запяваючы.

Услышала малада,
У цераме седзячы,
У маманькі роднай:

— Пусці, пусці, маманька,
На вулку пагуляці,
Гуселек паслухаці,
Песенак наўчыціся.

— Не пушчу, дзіцятанька,
Ой, гуслі з ума звядуць,
Песенькі састараюць.

— Пусць мяне з ума звядуць,
Хужа я за мужаньком,
Нялюба падружанька,
Састараюсь малада.

## 26. ХАТКУ ПАДМЯТУ — НЕ СТУПЕ

Хатку падмяту — не ступе.
Ох ты, татачка, салавеечка,
Не рубі дзераўца, куды яно хіліцца,
Не 'тдавай дачкі замуж,
За каго не хочацца:
Ні за старога, ні за малога.
Аддай дочку да за роўнага,
Не за роўным быць — сухата мая,
А за любым быць — красата мая.
Самі вароцечкі адкрываюцца,
Як мой татухна ў госцейкі едзе.

## 27. СЯДЗЕЛА РЫНДА ДЫ НА ПЕЧЫШЧЫ, РЫНДА, РЫНДА

Сядзела Рында ды на печышчы, Рында, Рында.[1]
Задрала ногі, ногі ды на гарадзішча, Рында, Рында,
Прышлі к Рындзе жаніхі, узялі рынду варухі, Рында, Рында.
Ой, пашла яна па суседачках, Рында, Рында:
— Да суседачкі, мае матушкі, Рында, Рында,
Па сарочачцы, па намётачцы, Рында, Рында.
— Не спаць было Рындзе піліпавай ночы, Рында, Рында,
Прадзіраць было дзеркачом вочы, Рында, Рында.
— Чорт жа вас бяры, мае суседачкі, Рында, Рында.
У майго бацькі да бяроз многа, Рында, Рында.
Да здзяру жа я берасцiначку, Рында, Рында.
Да пашыю ж я хвартушыначку, Рында, Рында.
Падзёрачкам як падпяражуся, Рында, Рында,
Перад сваім-сваім жанішком як наражуся, Рында, Рында,
Накрыюся ■ мяшком, мне не сорам жанішком, Рында, Рында.

## 28. БАЛІЦЬ МАЯ Й ГАЛОВАЧКА

Баліць мая й галовачка,
Можа я й памру.
Вы схадзіце, прывядзіце,
Каго ж я люблю.

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

Вы сходзіце, прывядзіце,
Каго ж я люблю.
Пасадзіце ў галовачках,
Можа я 'тыйду.

Пасадзіце ў галовачках,
Можа я 'тыйду.
Паехаў мой міленькі
У гарадочак.

Паехаў мой міленькі
У гарадочак,
А я, малада, маладзюсенька,
У садочак.

Гнала, гнала й мілага,
Не дагнала й.

## 29. СЕЛЯЗЕНЬ ПЛАВАІЦЬ

Селязень плаваіць,
Утак выбіраіць.
Выбраў сабе
Белашыечку, белакрылачку.
Ліпка ў чыстым полі стаяла
І свечка гарэла,
Іскра пала і мястэчка стала.
Па тым мястэчку Іванка ездзіць,
Дзевачак выбіраіць.
Выбраў сабе жонку,
Высоку, белу й румяну,
Марысю паню.

## 30. А ЗРАДНІЦА НЯВЕСТКА

А зрадніца нявестка,
Ай, рана-рана, нявестка.[1]

---

[1] Прыпеў «Ай, рана-рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

А зрадзіла залоўку:
— Хадзі, залоўка, у клетку спаць.

Мая клетка каменная,
Мае дзверы медзяныя.

Мае ключы залатыя,
Ніхто клеці не 'таб'ець.

Ніхто дзеўкі не возьмець.
Ішла дзеўка ў клетку спаць,

На ёй шаты шумелі,
У руках ключы звінелі.

Прыехала к дзеўцы да тры панічы:
Адзін паніч у чырвоным,

Другі паніч у зялёным,
Трэці паніч у атласе.

Што ў чырвоным — клетку біў,
Што ў зялёным — плацця браў,

Што ў атласе — дзеўку ўзяў...
А плакала дзеўка сільненька.

Што не татухна выдаець,
Што не матухна сураджаець.

Што не братненька праважаець,
Што не сястрыцы песні пяюць.

Выдала дзеўку цёмна ноч,
Сураджала дзеўку нявестка.

Праваджаў дзеўку месячык,
Пелі песенькі пташачкі.

## 31. ОЙ, СНЕГ ІДЗЕ, ЗІМА БУДЗЕ

— Ой, снег ідзе, зіма будзе,
Развівайся, сухі дубе.

— Я марозу не баюся,
Голле маю , разаўюся.
Галлё маю высокае,
Родзіць лісце шырокае.
Зязюленькі прылятаюць,
[Прылятаюць], шчабятаюць.
Салавейкаў прывабляюць:
— Салавейка харошанькі,
Мой брацанька маладзенькі,
Скажы бо мне шчыру веру,
Куды ехаці жаўнеру?
Ой, паехаў ён да гаю,
Да й да ціхага Дунаю.
Ой, стаў конік ваду піці,
Казачэнька рукі мыці.
Яшчэ конік не напіўся,
Яшчэ ж бо я не ўтапіўся,
За каліваньку ўхапіўся.
— Ты каліна, ты маліна,
Ты чырвоная ягадка,
Што не дала мне ўпасці
Да на чужыне прапасці,
Што не дала мне ўтануці,
На чужыне загінуці.

## 32. ОЙ, ЗІМА, ЗІМА МАРАЗЯНАЯ

— Ой, зіма, зіма маразяная,
Чаго рана становішся? [1]

— А не я рана, не я позна,
Калі мая пара прышла.

Лісточак падзець, травіцу кладзець,
То мая пара прышла.

— Чаго, Мар'янка, чаго, малада,
Рана замуж ішла?

[1] Кожная страфа паўтараецца двойчы.

— А не я рана, а не я позна,
То мая пара прышла.

Матулька і татулька даюць, Максімка бярэць,
То мая пара прышла.

## 33. МНЕ СПАЦЬ НЕ ДАЮЦЬ

Мне спаць не даюць
І драмаць не вяляць.
Ох, і толькі ж то вяляць
Паціхонечку ступаць.
Ай, і міленькі па сенюшках
Пахажываець:
— Ой, спі ж ты, жанушка,
Ты душка мая!
На зялёны канаплі
А я стоража найму.
Я на белы кужалёк
Папрадуху пасаджу.
Я к малому дзіцю
А я нянюшку панайму.

## 34. СЯДЗІЦЬ СЫЧ НА КАПЕ, А САВА НА ДРУГОЙ

Сядзіць сыч на капе, а сава на другой.
Сыч у савы пытае, а хто ў лесе гукае?
— Дравасекі мае, сякуць дровы для мяне.
Пад акенцам сяджу, тонкі кужаль праду,
А прыехаў маладзец да на мой дварэц.
А гляну я праз сцяну, чы харошага стану.
І харош, і высок, шалковенькі паясок.
Сама дурна была, яму ганьбу дала.
Каб я ганьбы не давала, я бы за ім панавала,
Яго конь вараны, ён і сам малады.

## 35. ЧЭРАЗ МАЕ ВАРОЦЕЧКА РЫНЕ ВАДА, РЫНЕ

Чэраз мае вароцечка рыне вада, рыне,
Не сілуйце за нялюба, бо няхай вун згіне.
Як будзеце сілаваці чэраз маю волю,
Завяжу я чорны вочы, пайду у няволю.
Завяжу я чорны вочы, пайду утаплюся,
Бо я гэтым гадам-брадам жыці-быці не азьмуся.
— Ой, стой, доню, не тапіся, бо ты душу загубіш,
Скажы шчыру праўду, каго верна любіш?
— Яшчэ ж бо я, мая матка, да нікога не любіла,
Няхай бы я шчэ лецечка дзеўкай пахадзіла.
Яшчэ ж бо я, мая матка, нікога не кахала,
Няхай бы я шчэ лецечка дзеўкай пахаджала.

## 36. ОЙ, НЕ ШУМІ, ЛУЖА

Ой, не шумі, лужа,
Зялёненькая дуброванька тужа.

Буйны вецер павявае,
Маё голле разлягае.

Маё голле разлягае,
Шырокі ліст ападае.

Як я молад не жаніўся,
То нічым не журыўся.

То нічым не журыўся,
Не жынкаю, не дзеткамі.

Не сам молад, не сабою,
Не сваёю галавою.

Да прыехаў я перад дзверы,
Стаіць міла на паперы.

Прыехаў перад варота,
Стаіць міла ў шчырым злоце.

Узяла каня за ўздзечку,
А мілага за ручаньку.

Дала коню аўса,
А малому мёду, віна.

Сама села ў канцы стола,
Да мілага ані слова.

— Чаго міла, задумана,
Чы жаль табе аўса, сена?

Чы жаль табе аўса, сена,
Чы міламу мёду й віна?

— Не жаль коню аўса, сена,
Не міламу мёду й віна,

А жаль жа мне палюбошчы,
Што не любім па шчыросці.

## 37. ОЙ ТЫ, ДЗЕЎЧЫНА, ЧЫРВОНАЯ ВІШНЯ

— Ой ты, дзеўчына, чырвоная вішня,
Чом ты з вячора да мяне не вышла?
— Як жа я маю да вас выхадзіці?
Вас двох, а я самая, мяне змаразіце.
— Ой, не бойся, дзеўка, да таго марозу,
Я твае ножкі ў шапачку ўложу.
Да мая шапачка барзо дарагая:
Чатыры валы, п'ятая карова,
Аставайся, дзеўчына, здарова.
— Ой ты, казачка, ты сівы саболю,
Азьмі ж мяне ў човен з сабою.
— Ой ты, дзеўчына, сіва галубка,
Сядай, сядай, да й ў човен хутка.
Да шчэ ж тая дзеўка у човен не села,
А ўжо шчука-рыба човен затапіла.
— Ратуй, ратуй, казачэнька, ратуй,
Будзеш ты мець ад маткі заплаты.
— Да я хочу цябе за міленьку ўзяці.
Да ў моры ўтаплюся, то вады нап'юся,

А з нялюбым слязьмі абаллюся.
Ў моры ўтаплюся, к берагу прыб'юся,
А за нялюбым слязьмі абаллюся.

## 38. ДА БЫЛО НЕ СПАЦЬ ДА ПІЛІПАВАЙ НОЧКІ

Да было не спаць да піліпавай ночкі,[1]
Было прасці тоненькія сарочкі.
Як пайду я да й у сад зеляненькі,
Сустрэў мяне да казак маладзенькі.
Ён на мяне да ківае, міргае,
Я ж думала, што дарожкі пытае.
— Ці ты, казак, ці аслеп, ці не бачыш,
На дарозе стаіш, шчэ й дарожкі пытаіш?
Ці на гэта мяне мамка радзіла,
Каб я казакоў па дарожцы вадзіла?
Вой, на гэта мяне мамка радзіла,
Тонка прасці, звонка ткаці
Да беленька збяліці.

## 39. КАБ І У САДЗЕ, У ВІНАГРАДЗЕ

Каб і ў садзе, у вінаградзе
Калінка стаяла.[2]

Пад калінкай, пад малінкай
Дзевіца гуляла.

Прыйшоў к дзеўцы, прыйшоў к краснай
Казак маладзенькі:

— Пойдзем, дзеўка, пойдзем, красна,
З табою ў маліну.

— Бадай, казак не дачакаў,
Каб пашла ў маліну.

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.
[2] Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

Ужо твая маліна
Мяне падманіла.

— Прыйман, дзеўка, прыйман, красна,
Нічым не падманеш.

Пад калінкай, пад малінкай
Дзевіца гуляла.

Прыйшоў к дзеўцы, прыйшоў к краснай
Казак маладзенькі:

— Пайдзём, дзеўка, пайдзём, красна,
З табою ў ягодкі.

— Ужо твае ягодкі
Здзелалі гаворкі.

## 40. ГУЛЯЎ, ГУЛЯЎ КАЗАЧЭНЬКА

Гуляў, гуляў казачэнька
Тры дні, тры ночы, двору не йдучы.
Первую ноч гуляў —
Коніка прайграў вараненькага.
Другую ноч гуляў —
Сукенца прайграў чырвоненькае.
Ён трэццюю ноч гуляў —
Дзяўчонку прайграў малодзенькую.
Стаіць конік на стайніцы, як воран чорны,
Яшчэ пачарней.
Ляжыць сукно на століку, як кроў чырвоная,
Яшчэ чырваней.
Сядзіць дзеўка за столікам, як макавы цвет,
І яшчэ пакрасней,
Клянець, клянець казачэньку
Мёртваю кляцьбой:
— Бадай, табе, казачэнька, бог долі не даў,
Як ты мяне, маладую, ды й у карты прайграў,
А ў карты прайграў ды й у новенькія.

## 41. ПАГНАЛА ПАДАЛЯНАЧКА ВАЛЫ

Пагнала падаляначка валы
Да забачыла два казачэнька ў полі.
— Пакідай, пакідай, падаляначка, волы,
Да сядай з намі на вараныя коні.
Павязём мы цябе, дзе не была ніколі.
Завязём за густыя лозы,
Да абальюць цябе, падаляначка, слёзы.
Завязём цябе за горы, за даліны,
Да папытаеш, падаляначка, радніну.

## 42. ТЫ НЕ ДРАМІ, ДРАМА

Ты не драмі, драма, не драмі, драма,
Ты знасі, мая кручына.
Каб і ў хіжанькі, каб і ў новенькай
Малады пісар пісьмы пішыць.

Каб і ў хіжанькі, каб і ў новенькай
Малады пісар пісьмы пішыць,
А за грубачкай, за зялёненькай
Дзеўка дзіця калышыць.

А за грубачкай, за зялёненькай
Дзеўка дзіця калышыць,
Яна калышучы ды дзіцятачку
Яна яго праклінаець:

— А бог дай жа ты, дзіцятачка,
Із калыбелі ўпала,
Як за табою, за сатаною
Уся гульня мая прапала.

— Не кляні, дзеўка, не кляні, красна,
Ты дзіцятачку малое,
А кляні, дзеўка, а кляні, красна,
Ты пісара маладога.

## 43. ОХ ТЫ, КАВАЛЬ, КАВАЛЕЧАК

Ох ты, каваль, кавалёчак,
Добры, удалы, каваль масцярочак,
Чым ты, каваль, рана не куеш?
Ёсць у мяне залезанька багата,
Ды й ўсё сталяная.
Ёсць у мяне дачка Кацярына,
Дзеўка маладая.
Яна сабе сына зрадзіла,
Зрадзіўшы, узяла й загубіла.
Загубіўшы, у садок пашла,
З ветрам гаманіла:
— Ох вы, ветры, вы буйныя ветры,
Замяціце вы сцежкі-дарожкі
Да штоб туды людзі не хадзілі,
Майго дзіцятачкі не будзілі.

## 44. У ПАНЯДЗЕЛАК, ПАНЯДЗЕЛАК НЕ ЧАПАЮ

У панядзелак, панядзелак не чапаю,
А ў аўторак, а ў аўторак
Кудзелька няпрадзеная.
А ў сераду баню тапіла,
А ў чацвер сама парылася,
А ў пятніцу — радзіма мая,
А ў суботу ўсе людзі не прадуць,
А ў васкрасенне к абедні пайшла.
Вот і ўся мая нядзелька прайшла.
Ой ты, мамачка, радзімая мая,
Нашто ж мяне харошаю радзіла,
Маладую такую замуж аддала,
Я й да году сабе сына прывяла.

## 45. ВЫ ПРАДЗІЦЕ, ВЫ ПРАДЗІЦЕ, СУПРАЖОНКІ

Вы прадзіце, вы прадзіце, супражонкі,
Э-эй, ха-ха, супражонкі! [1]

---

[1] Прыпеў «Э-эй, ха-ха» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Не глядзіце на мяне, маладу дзяўчыну.
Я малада дзяўчына заручона
За такога за маладога недаростка.
Не пушчае недаростак к мамцы ў госці.
Павяду я недаростка ў чыста поле,
Прывяжу я недаростка да бярозы,
Я дам недаростку вязку сена,
Пастаўлю недаростку вядро вады.
Не пайду я к недаростку тры дзянёчкі,
А тады я папрашуся к мамцы ў госці.
— А ты, душка-жанушка, хоць сягоння.

## 46. Я НЯДАУНА СІРАТОЮ СТАЛА

Я нядаўна сіратою стала
Да багата горачка ўпазнала.
Сказалі мне ўражы людзі:
— Ідзі замуж, добра табе будзе.
Я людскую волечку ўчыніла,
Вышла замуж — галовачку ўтапіла.
Утапіла галовачку ў воду,
Папаўся мілы паганага роду,
П'е гарэлку, як халодную воду.
Я не знаю, як яму гадзіці,
Ўстану рана да начну будзіці:
— Ўстань, мілы, маё цалаванне,
Ўжо гатова табе ўмыванне,
Стаіць табе вадзіца ў кубочку,
Вісіць рушнічок на калочку.
Стаў мілы з пасцелі ўставаці,
А я ад яго за дзверы ўцякаці.
— Чаго міла, за дзверы ўцякаеш,
Ці ты маіх нораваў не знаеш?
— Я нядаўна з табою стала,
Да ўсе твае норавы ўпазнала.

## 47. У ГАРОД ВЯРБА — ВЯРХІ УЮЦЦА

У гарод вярба — вярхі ўюцца,
А ў малодачкі слёзы льюцца.
Казалі, мой муж водкі не п'е.

Ён не п'е, не п'е, з карчмы не ідзе,
Ён прапіў каня варанога,
Прыехаў дамоў па другога.
— Ой, жана мая маладая,
Ай, вазьмі рубля срэбранога,
Да й выкуп каня варанога.
— Я ж не раз, не два выкупляла,
Шолкавы платкі застаўляла.
Ты ж прапіў каня і сядзёлку,
Ты ж мяне прап'еш, чарнаброўку.

## 48. АД'ЯЖДЖАЎ МУЖ У ДАРОГУ

Ад'яжджаў муж у дарогу,
Пакідаў жану здарову.
Прыязджае із дарогі,
Пытае ў мілае здароўя.
— Чаго, міла, дужа забалела?
Ці я табе больна шчаку ўдарыў,
Ці я табе здароўейка ўмаліў?
— Ой, умру, умру, я жыва не буду.
Ой, едзь, мілы, к нову гарадочку,
Купі мілы, крамную сарочку.
Палож мяне ў вішнёвым садочку.
Выкапай ты, мілы, чырвону каліну,
Пасадзі каліну на маю магілу.
Будуць ка мне салавейкі прылятаці,
Будуць яны песні шчабятаці.
У нядзельку параненька,
Яшчэ сонца не ўзыходзе,
Мілы па вулачкі ходзе,
Маленькага дзіцятачку носе.
— Устань, міла, устань, прабудзіся.
Ужо тваё дзіцятачка плача.
— Калі табе дзіцятачка жалка,
Наймі яму мамку і няньку,
А калі не жалка, падай сюды ў ямку.

## 49. ЗАКУКАЛІ ЗЯЗЮЛЕЧКІ

Закукалі зязюлечкі,
Цераз садзік летучы.

Заплакала красна дзеўка,
Белу пасцель сцелючы.

— Пасцель мая тонка, бела,
Учом на табе мулка спаць?
Да як прыдзе цёмна ночка,
Не з кім словічка сказаць.

Як паехаў мой міленькі
На мара гуляць,
Пакінуў мяне [маладзеньку]
Гора гараваць.

Гаравала ночачку,
Гаравала дзве,
На трэцяю ночачку
Выйшла на зарэ.

Баліць маё сэрца,
Ташніцца душа.
Бяры войстру шаблю
Да рэж маю грудзь.

Вымай маё сэрца
Да пі маю кроў.
Пушчай людзі бачуць,
Якава мая любоў.

## 50. ВОХ ТЫ, НОЧКА, НОЧУШКА РАБІНАВАЯ

— Вох ты, ночка, ночушка рабінавая,[1]
Лучына, лучынушка бярозавая.
Нешта ж ты, лучынушка, няясна гарыш,
Нідзе ты, лучынушка, у печы не была.
— Да й была ж я ў печы ўчарашню ноч,
Ліхая свякрушанька вадой абліла.
— Ох вы, красны дзевушкі, лажыцеся спаць,
А я ж буду, молада, усю ночку сядзець,
Я свайго міленькага з карчомкі ждаць.
А скіну я первы сон а з цёмнае ночы,

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

А скіну я другі сон пад ясну зару.
Як выйду я, молада, на круту гару,
Як гляну я, молада, пад ясну зару.
Ой, з-пад яснай зорачкі мой мілы ідзе,
Да на ім жа да боцікі паскрыпаваюць,
На галоўцы шапачка паблісквае
Да яго жа кудзеркі жар-жарам гарадь.
— Ай, дзе ж быў, мой міленькі, дзе быў, прабываў?
— Ой, я й у карчомачцы з дзеўкай начаваў.

## 51. АЙ, ВЯРБІНА, ВЯРБІНУШКА

Ай, вярбіна, вярбінушка,
Ай, вярбіна кудравая,

Як табе не здакучыла,
Як табе не здакучыла

У цёмным лесе стоючы,
У чыстае поле гледзючы.

Маладзіца маладая,
Маладзіца маладая,

Як табе не здакучыла,
Як табе не здакучыла

Із ліхім мужам жывучы,
Із ліхім мужам жывучы.

— Ай суседзі-суседачкі,
Вы ж парайце парадачку,

Вы ж парайце парадачку,
А як мне з ліхім мужам жыць.

— Маладзіца маладая,
Мы ж параім парадачку.

А й ідзі ў чыстае поле,
Наскрабі хмелю ярага.

Наскрабі хмелю ярага,
Навары піва п'янага.

Навары піва п'янага,
Упаі мужа ліхога.

Упаі мужа ліхога,
Палажы спаці ў краваці.

Абсцялі ты саломкаю,
Запалі ты лучынкаю.

Сама выйдзі на вулачку,
Крыкні, гойкні ратуначку.

— Ой, суседзі, суседачкі,
Вы спіцё, вы не чуеце!

Усю ноч грамоты гулі,
Майго мужа пярун забіў.

Майго мужа пярун забіў,
Я й, маладзенька, 'дкацілася.

## 52. А РАБІНА, РАБІНУШКА, КУДРАВАЕ ДЗЕРАЎЦА

А рабіна, рабінушка, кудравае дзераўца,
Ой, люлюшкі-люлюшкі, кудравае дзераўца.[1]

А загінула, стоячы пры моху, пры балоцечку,
Пры моху, пры балоцечку, пры торнай дарожачцы.
А малодка маладая загінула жывучы,
Пры худой худачынаю, за малой дзяцінаю.
Як пайду я к татачку, к татку на парадачку.
— А ты, татачка родненькі, парай жа мне радачку,
Як мне з малым мужам жыць, як мне наравіць.
— А дзіцятка, дзіцятка, йдзі ж ты ў цёмны лес,
Наламай хмелю ярага, напой мужа малага,

[1] Прыпеў «Ой, люлюшкі-люлюшкі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Пакладзі сярод двара, навярні карыцечкам,
Абгарні саломаю, падпалі лучынаю,
А выйдзі на вулачку, а пляснí ў ладонечкі,
А пляснí ў ладонечкі, а крыкні ратуначку:
— А жоначкі, суседачкі, а ці чулі, ці бачылі,
А ці чулі, ці бачылі, што сягоння граза была,
Што сягоння граза была, майго мужа гром убіў.
Майго мужа гром убіў, малання запаліла.

## 53. А НЕ ДАЎ МНЕ БОГ ДОЛІ

А не даў мне бог долі,
А ні ў полі, ні ў доме,
А ні ў полі, ні ў доме,
А ні ў дзецях, ні ў лецях,
А ні ў дзецях, ні ў лецях,
А ні ў міленькім дружочку.
Толькі даў бог мне долі
А што новую хатку,
А што новую хатку,
Яшчэ роднага татку.
— Ах ты, татку мой, татку,
Хадзі ка мне ў новую хатку.
Хадзі ка мне ў новую хатку,
Палядзі майго парадку,
А ці жыць ці пагінуць?

## 54. АЙ, ГОРА, ГОРА У МАЕЙ ГАЛАВЕ

Ай, гора, гора ў маёй галаве.[1]
Калі ж я гору не ўнаравіла,
Каб цябе гора пераламіла.
Як пайду з гора к татачку ў госці.
У майго татачкі двор над ракой,
Двор над ракою, сад пад гарою.
Пусці мяне, татачка, у зелен сад гуляць.
Ну, не буду твайго вішання шчыпаць.
Ой, хоць вышчыпну вінаградачку,

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

Панясу вінаградачку к сваему татачку,
К сваему татачку на парадачку.
— Парадзь, татачка, мне парадачку:
Ці тута жыці, ці прочкі йціці.
— А жыві, дачушка, жыві, нараві,
Жыві, нараві, здароўя берагі.
Хоць не любачка, кажы любачка,
Хоць не мілачка, кажы мілачка.
Пасодзь нялюбага за цясовы стол,
Напой нялюбага і мёдам і віном,
Назаві нялюбага ясным сакалом.

## 55. А У МАЙГО ТАТУЛЬКІ

А ў майго татулькі
Над ракой садок.[1]

Як пайду я, молада,
У вішнёў садок.

Як сарву я, молада,
Вінаградзіну.

Як пайду я к татку
На парадзіну.

— А, парай, парай
Ты мне, родненькі,

Як з нялюбым жа
Ды век мне жыць.

— Параю, дачушка,
Параю, родная.

Пасцельку сцялі,
Міленькім заві.

Спаткі кладзіся,
Бліжэй каціся.

[1] Кожная страфа паўтараецца двойчы.

## 56. ДВОР ПАД ГАРОЮ, А САД НАД ВАДОЮ

Двор пад гарою, а сад над вадою.
— Пусці, пусці, мой свёкарка,
У свой сад пагуляць, вішанькі шчыпаць.
Я не буду вішні шчыпаць,
Толькі вышчыкну адну вішаньку,
Панясу татачку на парадачку.
— Парай, парай, татачка,
Як з нялюбым жыць, нялюбаму наравіць.
— Сядзь маё чада за цясовым сталом,
Назаві нялюбага ясным сакалом.
— Лепей, татачка, горкі палын есці,
Чым з нялюбым за сталом сесці.
Лепей, татачка, камень падняць,
Чым нялюбага сакалом назваць.
Камень падніму — я й не ўтамлюся,
Нялюбага сакалом назаву — слязамі абальюся.

## 57. У МАЙГО ТАТУЛЬКІ ДВОР ПАД ГАРОЮ

У майго татулькі двор пад гарою,
Ой, лялёй-лялёй, двор пад гарою.[1]
Двор пад гарою, сад над вадою.
— Дазволь, татулька, у вішняў сад сходзіць,
Не буду тваіх вішанек шчыпаць,
Толькі вышчыкну адну вішаньку,
І тую пушчу ўслед за вадою,
А сама сяду пад лебядою.

## 58. А ПУСЦІ, ТАТКА, У ЗЕЛЕН САД ГУЛЯЦЬ

А пусці, татка, у зелен сад гуляць,
Не буду, татка, вішанькі шчыпаць,
Адшчыпну толькі вінаградзінку,
І пайду к мамцы на парадзінку.
— Ой, парадзь, мамка, парадзь,
Як з нялюбым жыць?

---

[1] Прыпеў «Ой, лялёй-лялёй» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

— Не гуляй, дочка, з рабятамі,
А гуляй, дочка, з жанатымі,
Не гуляй жа ты з дзявіцамі,
А толькі гуляй з маладзіцамі.

## 59. АСВЯЦІЎ МЕСЯЦ І ЗЯМЛЮ, І ВАДУ

Асвяціў месяц і зямлю, і ваду,
Ой, рана-рана, і зямлю, і ваду! [1]

Мяне, маладу, сярод горада.
А я, малада, усё каўры ткала,
Кругі золата паразбірала.
У тую пару, у тое ўрэмечка
Ка мне, маладзе, да свёкар на двор,
Свёкар на двор, пад акошачка.
Ах я. малада, сыпужалася:
Кругі залаты памяшаліся,
Сізыя галубы пападымаліся,
Ясныя сакалы паразляталіся.
Сізыя галубы да пад стрэшанькі,
Ясны сакалы да пападнебейку.

Асвяціў месяц і зямлю, і ваду,
І мяне, маладу, сярод горада.
А я, малада, усё каўры ткала,
Кругі золата паразбірала.
У тую пару, у тое ўрэмюшка
Ка мне, маладзе, мой татка на двор,
Мой татка на двор пад акошачка.
Ах я, малада, узрадавалася,
Кругі залаты азлаціліся,
Сізы галубы саляталіся,
Ясны сакалы сабіраліся,
Сізыя галубы з-пад стрэшанькі,
Ясны сакалы з-пад небейка.

---

[1] Прыпеў «Ой, рана-рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

## 60. АСВЯЦІЎ МЕСЯЦ І ЗЯМЛЮ, І ВАДУ

Асвяціў месяц і зямлю, і ваду,
Ай, лелем рана, і зямлю і ваду.[1]

І зямлю, і ваду, і мяне, маладу.
Ах, я ж, малада, коўрык ткала,
Коўрык ткала сямі ўзорамі,
Ясныя сокалы на прашэсці,
Чорныя собалі ды й на паножы.
Ах, я ж, малада, ўлякнулася,
Ясныя сокалы разляцеліся,
Чорныя собалі паразбегліся,
А мае ўзоры памяшаліся.

## 61. А ЎЗЫШОЎ МЕСЯЦ ВЫШЭЙ ГОРАДУ

А ўзышоў месяц вышэй гораду,
Ай, рана, рана, вышэй гораду,
Асвяціў месяц і зямлю, і ваду,
І зямлю, і ваду, і мяне, маладу,
Ай, рана, рана, і мяне, маладу.

А я, малада, усё каўры ткала,
Ай, рана, рана, усё каўры ткала.
Залаты кругі на прысесць клала,
Ай, рана, рана, на прысесць клала.

Ай, стуку, груку, ды свякор на двор,
Ай, рана, рана, ды свякор на двор.
А я, малада, улякнулася,
Ай, рана, рана, улякнулася.

І з падножайкі спатыкнулася,
Ай, рана, рана, спатыкнулася.

## 62. АДДАЛІ ДЗЯЎЧОНКУ Ў ЧУЖУЮ СТАРОНКУ

Аддалі дзяўчонку ў чужую старонку,
Прыказалі дзеўцы ў госці не хадзіці.

---

[1] Прыпеў «Ай, лелем рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Не едзець дзеўка годзік, не едзець й другі.
На трэцці гадочак едзець к ёй браточак,
Дарожкі шукаець, падвор'я пытаець.

— Не пытайся падвор'я, а пытайся здароў'я.
— Сястра мая мала, чаго стара стала?

— Таго стара стала, тры гады хварала,
Свякроўка ліхая, долюшка худая.

## 63. БЯРОЗА ТЫ, БЯРОЗА, ДА ТЫ ЗЯЛЕНАЯ

— Бяроза ты, бяроза, да ты зялёная,
О, што ж ты, бяроза, не зелена стаіш?
— Як жа мне, бярозе, зялёненькай быці?
Было на мяне, бярозе, тры прыгоды:
Первая ж то прыгода — ветрыкі буйныя,
А другая ж то прыгода — дожджыкі дробныя,
А трэцяя прыгода — да жаркае сонца.
Ой, буйныя ж то ветры веццікі, ай, аббілі,
Ой, дробныя ж то дажджы карэнне й абмылі,
А жаркае ж то сонца бярозу ўсушыла.

— Малодка ты, малодка, нявесела сядзіш?
— Як жа мне, малодке, вясёленькай быць?
Было на мяне, на малодку, тры прычыны:
Ой, первая ж то прычына — свёкарка журлівы,
А другая ж то прычына — свякроў хлапатліва,
А трэцяя ж то прычына — муж мой урумы.
Свёкарка журлівы не на худа вучыць,
Свякровушка хлапатліва сабе дабра хочыць,
Муж жа мой урумы паб'ець мяне плеццю.

## 64. А ШТО УЧОРА СА ВЯЧОРА

А што ўчора са вячора
Сасна з ветрам гаварыла:
— Ох ты, ветра, ты мой ветра,
Не шугукай нада мною,
Не шугукай нада мною,
Над зялёнаю сасною.

А што ўчора са вячора
Цешча з зяцем гаварыла:
— Ох ты ж, зяцю, ты мой зяцька,
Ты не бей майго дзіцяці.
А маё ж то дзіцяця
Дзень стаіць на рабоце,
А ў вечары — на варкоце,
Ночка прыдзець — на ташноце.

## 65. САСНА З ВЕТРАМ ГАВАРЫЛА

Сасна з ветрам гаварыла:
— Уж ты, вецер, ты мой вецер,
Не бушуй ты нада мною,
Над зялёнаю сасною.

Цешча з зяцем гаварыла:
— Уж ты, зяцька, ты мой зяцька,
Ты не бей майго дзіцяці,
Маё дзіця й нездарова:
Дзянёк пройдзіць — на рабоце,
Вечар пройдзець — на ташноце:
Ні дзіцяцю калыхаці,
Ні мілога прысыпаці.

## 66. САСНА З ВЕТРАМ ГАВАРЫЛА

Сасна з ветрам гаварыла:
— Ох ты, ветра мой, ветра,
Не шумі ты нада мною.[1]

Не шумі ты нада мною
Нада мною, над зялёнаю сасною,
Не ламай майго веццяя.

А хоць жа ты паламаеш,
А хоць жа ты паламаеш,
Пакладзі ж ты пада мною.

---

* Апошні радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Пакладзі ж ты пада мною
Пад зялёнаю сасною.

Цешча зяцю гаварыла,
Цешча зяцю гаварыла:
— Ох ты, зяцю, мой зяцю.

Ох ты, зяцю, мой зяцю,
Ты бязроднае дзіцяця,
Не журы майго дзіцяцю.

А яно днём на рабоце,
А яно днём на рабоце,
Вечарынаю ў клапоце.

## 67. МАТКА ДОНЕЧКУ КАХАЛА

Матка донечку кахала,
Да й не ў дружную сям'ю аддала.
— Жыві, дочачка, прывыкай,
Як станучь сварыцца,
У зялёны сад уцякай.
У зялёным саду каліна,
На той каліне зязюля
Раненька кукуе,
Ніхто зязюлі не чуе.
Толькі й чуе яе нявестка,
Рана па ваду ходзючы,
Свёкра і свякруху клянучы.
Яна вады прынясе, да й плача.
Яе мілы пытае:
— Чаго, міла, ўздыхаеш?
— Плачу, міленькі, я плачу,
Тваёй матухне не ўладжу,
Вады прынясу — павылле,
Ложкі памыю — не возьме.

## 68. АЙ, ГЫЛЯ, ГЫЛЯ

Ай, гыля, гыля,
Шэрыя гусі.
Ай, не муціце
Вадзіцу Марусі.

Ай, у Марусі
Ды не свая маці,
Пашлець Марусю
Кашулю памыці.

Ай, мыла ды мыла,
Перабяліла,
Чужой мацяры
Не ўгадзіла.

## 69. ПАЙДУ У БРОД — УМАЧУСЯ ПАЙДУ К БАЦЬКУ — ВЫСУШУСЯ

Пайду ў брод — умачуся, пайду к бацьку — высушуся,
А пайду к свёкру — у акно падзіўлюся,
Што свёкар робіць, што свёкар гаворыць.
Свякровушка вячэрушку варыць,
А свёкратка дубінушку парыць,
А міленькі дзяцінушка калыша.
— Да вазьмі, сынку, парану дубінку,
Да йдзі, сынку, па мілу ў карчомку.
— За што ж, мая маці, міленькую біці?
Міла ўмее мыці і бяліці,
Усё дзельца рабіці і свёкру ўгадзіці.

## 70. ЛУЧЫНА, ЛУЧЫНІЦА БЯРОЗАВАЯ

— Лучына, лучыніца бярозавая,[1]
Ну што ж ты, лучыніца, не жарка гарыш,
Эй, ну што ж ты, лучыніца, не жарка гарыш,
Не жарка, не ярка, не ўспыхіваеш,
Эй, не жарка, не ярка, не ўспыхіваеш?
— Ліхая свякровачка кала печы йшла,
Эй, ліхая свякровачка кала печы йшла.
Пад мяне, лучыніцу, вады падліла,
Эй, пад мяне, лучыніцу, вады падліла.
— Дзевачкі, падружачкі, лажыцеся спаць.
А мне маладзёшаньке ўсяё ночку не спаць,
Усяё ночку не спаць, дружка дажыдаць.

---
[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

Я першы сон заснула, не чуць нічога,
Другі сон заснула, петухі пяюць,
Петухі пяюць, вароты скрыпяць,
Вароты скрыпяць, мой мілы ідзець:
Па нагах сапожкі паскрыпываюць,
На руках калечункі пабразгваюць,
Подле бакоў шабелька пабліскаваець.

## 71. СКАЧА ГАРАБЕЙКА ІЗ-ПАД ГРАНІЦЫ

Скача гарабейка із-пад граніцы,
Выклікае дзеўкі, маладзіцы
К нам на юланьку танцаў вадзіці,
Танцаў вадзіці, харашо хадзіці.
— Ой, рада б я вышла, да дзіця пішчыць,
Да свёкар ляжыць, да не падзяржыць,
Свёкар сядзіць, да не пакалышыць,
А бацька йдзе, вароты мінае,
На двор не загляне.

## 72. ВЕЧАР ЦЕМНЫ, ВЕЧАР ЦЕМНЫ

Вечар цёмны, вечар цёмны,
Ночка відная.[1]

Свёкар добры, свёкар добры,
Свякруха ліхая.

Не пушчае ж на вуліцу,
Што я й маладая.

— Пусці, пусці мяне, маці,
Ой, на вулку гуляці.

На шырокай на вуліцы
Я ж не забаўлюся.

---

[1] Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

Дам дабранач усім нанач,
Вы, малойчыкі, чуйце:

Нялюбыя йдзіце дамоў,
А любыя начуйце.

## 73. БОГ ТАМУ ДАУ

Бог таму даў,
У каго малады муж.

— У мяне, малады,
Ды стары старык.

Не пускаець маладу
Ён на вуліцу гуляць.

А я, малада,
Дагадалася.

Пад вароцікі
Падабралася.

А куры папелі,
Я і к двору не йду.

Другія папелі,
Разгулялася малада.

К беламу свету
Я й к двору прышла.

— То ж мая жана,
Дзе дагэтуля была?

— Ты стары старык,
Ты не ведаеш таго:

Цялілася кароўка
Да буранькая.

Цяліла бычка
Да рыжанькага.

— Каб ты, жана,
А ўсё такава была:

Гэтаму двару гаспадынечка,
А гэтай печы кухаварачка,
А гэтай клеці ды хазяечка.

## 74. ЗА ШТО МЯНЕ ДРУГ НЕ ЛЮБІЦЬ?

За што мяне друг не любіць? [1]
Хоць я тонка, дак высока.
Хоць я бела, дак румяна,
На работу хаджу рана.
На рабоце прыпазнюся,
Табе, мілы, нараўлюся.
Пры двору вады нету,
Пайду, млада, за вадою,
Вазьму старога з сабою,
'Таплю ў прорву галавою.

## 75. ЦЕРАЗ ПОЛЕ, ПОЛЮШКА

Цераз поле, полюшка
Серыя гусі ляцелі,
Летучы, гаварылі
Пра салодкую ягадку:
— Салодкая ягадка,
Што ў бару брушнічушка,
Чорная чарнічанька.
Дарагі жа госцічак,
Што дачка к бацюшкі.
Дачка к бацюшкі на двор,
Бацька кубачкі на стол:
— Уж ты пей, гуляй, дачка,
Дзень да вечара ў мяне,
Са вечара да паўночы.
— Ах, ты бацюшка радной,
Я б рада б гуляці:

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

У мяне конічак не свой,
І павознічак чужы.
— Я коніка куплю,
І павознічка найму,
Дачку двору давязу.

## 76. ЯК ПАЙДУ Я ДЫ У ЛЕС ДАЛІНАЮ

Як пайду я ды ў лес далінаю,
Ці не спаткаю ды вербу з калінаю.
Я й выламлю ды з каліначкі ветку,
Кіну, кіну ды пад мамчыну клетку.
Нейдзе мая мамка ды весел банкет мае,
У тым банкеце ды мяне ўспамінае:
— Нейдзе маё дзіця без долі радзілася,
Што яно ка мне ды на абед спазнілася.
Узыйдзі, узыйдзі, ды вячэрняя зара,
Прыдзі, прыбудзь, ай, далёкае дзіця!
Зара ўзыйшла, увесь свет асвяціла,
Дзіця прыйшло, увесь род ўзвесяліла.

## 77. ОЙ, БОЖА, БОЖА, КАГДА ТЭЙ ВЕЧАР БУДЗЕ

Ой, божа, божа, кагда тэй вечар будзе,
Што пра мяне нагаворацца людзі.

Гавораць старыя, гавораць малыя,
Шчэ к таму й варожанькі злыя.

Не так ворагі, як нярodная маці,
Лажысь, сірата, не вячэраўшы, спаці.

Не вячэрала, не буду абедаць,
Пусціце ж мяне да роду, радзіны адведаць.

Бягу я лугамі — лугі рассцілаюцца,
Бягу я садамі — сады расцвітаюцца.

Бягу я садамі — сады расцвітаюцца,
Бягу я сялом — ворагі ўцяшаюцца.

— Не ўцяшайцеся, пракляты варожанькі,
Што я не найду да дому дарожанькі.

Ой, я не знаю, як ворагам гадзіці,
Ці ў белым, ці ў чорным хадзіці?

Хадзі ў белым, скажуць — хваслівая,
Хадзі ў чорным, скажуць — драмлівая.

Бягу я поле, бягу й другое,
На трэццім полі села аддыхаць,

Аж там брацікі коней пасуць.
Старшы брат меншага пасылае:

— Бяжы, брацец, то наша сястрыца,
— То не сястрыца, то чуж-чужаніца.

— Ой, божа, божа! Якава я стала,
Што мая радзіна мяне не спазнала.

## 78. НАШЧЫПАЛІ ДВА БРАТЫ ХМЕЛЮ ЯРАГА

Нашчыпалі два браты хмелю ярага,
Наварылі два браты хмелю п'янага.
Як зазвалі два браты сваіх сясцёр у госці:
Па багатую сястру шасцёрку коні заклалі,
Па худую-бедную праз людзі наказалі.
А багатую сястру ў варотах сустракаюць,
А худую-бедную на парозе не знаюць.
А багатую сястру на куце пасадзілі,
А худую-бедную на прыпечку пасадзілі.
А багатую сястру віном, мёдам угашчаюць,
А худую-бедную а ўсё горкай гарэлкай.
А багатую сястру а ў пярыны спаць паклалі,
А худую-бедную скрозь ноч двору паслалі.
— Ах, ідзі, сястра, двору: твае дзетухны плачуць,
Твае дзетухны плачуць, яны есцюхны просяць.
Пашла яна, заплакаўшы, дарожухны не бачыўшы,
Села яна пад лазою, аблілася слязою.
— Сабірайцеся, ваўкі, мясухна есці,

Сабірайцеся, пціцы, вы мае крыві піці.
Як зачула багачка, а ў пярынах лежучы:
— Ты, мой брацінька родны, запрагай пару коні,
Запрагай пару коні — мы паедзім у дагоны:
Ці не нашу сястрыцу серыя ваўкі спаймалі?

## 79. І НАВАРЫЛІ ДВА БРАТЫ ПШАНІЧНАГА ПІВА

І наварылі два браты пшанічнага піва
І зазвалі два браты да ўсю радзіну сваю.
Па багатую сястру ды па тры пасла пасылаюць,
А па худую, бядную чэраз людзі наказываюць.
А багатая сястра на шасцёрачкі едзіць,
А худая, бядная — яна пяшочкам з мяшочкам.
А багатую сястру на тры начы унімаюць,
А худую, бядную скрозь ноч пасылаюць.
Як пашла ж то худая, як пашла ж то бядная
Скрозь ноч у чыстае поле.
Як завыла ж то худая, як завыла ж то бядная
Сярод чыстага поля:
— Сабірайцеся, звяр'ё, сабірайцеся, лютэя,
На маё цела бела.
Разарвіце ж, звяр'ё, разарвіце ж, лютэя,
Вы маё цела бела!
Як зачула ж то сястра, як зачула ж то родная,
Яна на куце седзючы, у вакошка гледзючы:
— Ох вы, братцы мае, запрагайце вы шасцёрачку маю,
Ох, вы едзьце, вы братцы родныя, вы ўдагон за сястрою,
Вы пасодзьце, братцы родныя, павыша за мяне,
Вы частуйце ж, братцы родныя, палучшы за мяне.
Багатую сястру віном, мёдам частуюць,
А худую, бядную — горкаю гарэлкаю.

## 80. ЯК ЖЫЛІ Ж ТО БЫЛІ ДА ДВА БРАХНЕНЬКІ РОДНЫХ

Як жылі ж то былі да два брахненькі родных,
Яны піва наварылі і гасцей пазазвалі.
Па багатую сястру коней паслалі,
А худую ж, бядную да людзечкі наказалі.

А багатую сястру на тры ночы ўнімаюць,
А худую, бядную за скрозь ноч пасылаюць,
— Ты ідзі-ка, сястрыца, ты ідзі-ка, бядная,
А скрозь ночаньку двору,
Твае дзетушкі плачуць, піці-есцінькі хочуць.
Як пашла ж то сястрыца, як пашла ж то худая
Да скрозь ночаньку двору,
Як крыкнула, гукнула тонкім, громкім голасам,
Маладзе́нькім посвістам:
— Ох вы, серыя воўкі, раздрыгайце ж вы мяне
А па чыстаму полю, па шырокай даліне!
Як зачула сястрыца, ды й на ложы лежучы:
— Уставайці-тка, братцы, вы сядлайце-ка коней:
Ета ж нашую сястрыцу серыя воўкі з'елі
Па чыстаму полю, па шырокай даліне.

## 81. НАВАРЫЛІ ДВА БРАТЫ ПШАНІЧНАГА ПІВА

Наварылі два браты пшанічнага піва,
Як зазвалі да два браты ўсю радзіну сваю.
За багатаю сястрою на шасцёрычкі едуць,
За худою, бядною цераз людзі наказалі.
А багатую сястру на дарозе сустрэлі,
А худую, бядную на парозе не ўвайзналі.
А багатую сястру на куце пасадзілі,
А худую, бядную проці печкі на запечкі.
А багатую сястру півам-мёдам частуюць,
А худэй, бядной горкай гарэлкі нет.
— Бывай, брацец, ка мне ў госці:
Буду, брацец, хлеб-соль зарабляці,
Цябе, брацец, угашчаці.

## 82. БАГАТАЯ СЯСТРА Ў БРАТА НА КУЦЕ СЯДЗІЦЬ

Багатая сястра ў брата не куце сядзіць,[1]
А бедная худобачка ў парозе стаіць.

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

Пастаяла, паплакала ды й дадому пайшла.
Агледзеўся родны татулька, што дочкі няма.
— Садзіся, мой сыночак, на варанога каня,
Даганяй, даганяй сваю сястрыцу ды хоць ля двара.
Едзе поле і другое, а сястрыцы няма,
Наганяе сваю сястрыцу ды ён ля двара.
— На каго, на каго, мая сястрыца, ты разгневалася,
Ці на мяне, ці жонку маю, ці на дзетак маіх?
— Не на цябе, мой братулька, не на жонку тваю,
Разгневалася, мой братулька, я на долю сваю.

## 83. ВЯРБА У ВАРОТАХ КАЛЫХАЛАСЯ

Вярба ў варотах калыхалася,
Ай, рана-рана, калыхалася.[1]

Сірата к брату сабіралася,
Калінкаю ўмывалася,
Шырынкаю выціралася,
Чужым бацюхнам выхвалялася.
Калінка мая не беліць мяне,
Шырынка мая не красіць мяне,
Чужы бацюхна не жалеець мяне.
Як сабралася, дык паехала,
Пад'язджаю я пад вароцейкі,
А ўбачыў брацік, ля вакна стоячы,
— Уставай, жана, прымай хлеб з стала,
Едзе мая худоба-сястра.
— Стой, брацік, ты не ўлякайся,
З хлебам-соллю ты не хавайся.
Я й не ехала твой хлеб-соль есці,
Я й прыехала цябе адведаці.
Прыедзь, брацік, ты ў маю буду,
Хоць жа я, брацік, жабраваць буду,
Я ж цябе, брацік, частаваць буду.

---

[1] Прыпеў «Ай, рана-рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

## 84. ЯРКА, ЯРКА СОНЦА КОЦІЦЦА

Ярка, ярка сонца коціцца,[1]
Сястры к брату ў госці хочацца.
Як задумала, так і паехала.
Як убачыў брат — сястра едзе.
— Жана, жана, не пужайся ж ты,
А хлеб з стала да прымай жа ты.
Не вялікі госць — сястра родная,
Яшчэ к таму, яна й бедная.
Калі бедная, то і дрэнная.
А я, молада, пад аконцам стаю,
Пад аконцам стаю, усё гэта чую.
— Брацец, брацец, не пужайся ж ты,
З хлебам-соллю не хавайся ж ты,
Я ж к табе, брацец, не на абед еду,
Я ж к табе, брацец, у правед еду.
А прыедзь жа, брацец, ка мне ў госці,
Хоць жа я, брацец, жабраваць буду,
Але ж цябе, брацец, частаваць буду.
Прыедзь, брацец, заўтра раненька,
Цябе частаваць буду ладненька,
Табой буду дужа радзенька.

## 85. У МАЙГО БРАТА НОВАЯ ХАТА

У майго брата новая хата,[1]
А сенечкі — на памосце,
Ідзе сястра к брату ў госці.
Ідзе яна бяздольная,
Бяздольная, галодная.
Як брацец усё завідзеў:
— Прымай, жана, хлеб са стала,
Ідзе сястра ка мне ў госці.
Гэта сястра ўсё зачула.
— А стой, брацец, не ўлякайся,
З хлебам-соллю не хавайся.
А я гэта як ведала,
Што дома паабедала.
А я гэта як знала,

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

Што з сабой хлеб-сала брала.
Жыві, брацец, за гарою,
А я к табе ні нагою.
Пасей, брацец, жоўты пясочак,
Як пясочку не ўсхадзіці,
Так сястры к брату не хадзіці.

## 86. СЕНІ У БРАТА НА ПАМОСЦІ

Сені ў брата на памосці,[1]
А ідзець сястра к брату ў госці.
А брат сядзіць, у вакно глядзіць:
— Прымай, жана, хлеб-соль з стала,
Ідзець сястра галодная.
Сястра тое дый зачула:
— Стой, мой брацец, не хавайся,
А ■ гэта як ведала,
А я ў двары паабедала,
Дзетак сваіх накарміла.
Цяпер, брацец, прашу ў госці,
Хоць я буду жабраваці,
Дык я буду частаваці.

## 87. ОЙ, ЕЛЬ МАЯ ЗЯЛЕНАЯ

Ой, ель мая зялёная,
Старана мая невясёлая.
Не магу цябе забыць,
Ні ў дзень ходзючы,
Ні ноччу сплючы.
Як выйду за новыя вароты,
Зірну-гляну ў тую сваю старану,
Усё й на быстраю раку:
Трава з травой савіваецца,
Вада з вадой саліваецца,
Братка з сястрой разлучаецца.
— Ці нас, братка, поле насеяна,
Ці нас садочкі насаджаны?
Галубочкаў толькі парачка,

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

Нас з табой, братка,
Толькі двоечка.
Не бімася, не сварымася,
Па-харошаму разайдзімася.

## 88. ЯК Я МОЛАДА БЫЛА

Як я молада была.[1]
Дык я рана ўставала.

Дык я рана ўставала,
Я кавёр вышывала.

Я кавёр вышывала
Свайму большаму брату.

Па дарогах хадзіці,
Гасудару служыці.

У каўнярочку вышыла
А й я жаркае сонца.

У рукавочку вышыла
А я ясен месячык.

У падалочку вышыла
А я дробныя звёзды.

Ад сонейка, брацец,
Табе цёпленька будзець.

Ад месячка, брацец,
Табе відненька будзець.

Ад звёздачак, брацец,
Табе весела будзець.

Па дарогах хадзіці,
Гасудару служыці.

---

[1] Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

Заблудзіў бел-малойчык
А ў цёмненькім лесе.

Прыблудзіўся малойчык
А к зялёнаму дубу.

А на дубе зязюля,
А яна кукавала.

— Ты, зязюлька-сястрыца,
Ты вякуеш — кукуеш.

Паверх лесу лятаеш,
Усе дарожанькі знаеш.

Усе дарожачкі-пуці,
Куды молайцу прайці.

— Я вякую — кукую,
Паверх лесу лятаю.

Паверх лесу лятаю
І дарожак не знаю.

Толькі знаю 'дну сцежку —
К сцюдзёнаму калодзежу.

Малайцамі абрублен,
Галавамі надмошчан.

Калі ж то туды пойдзеш,
І табою надрубюць,

І табою надрубюць,
Галавою надмосцюць.

## 89. У САДУ ПРЫ ДАЛІНУШКІ СТАЯЛА ВЯРБІНЕНЬКА

У саду пры далінушкі стаяла вярбіненька.
Ай лю, ай люлёшанькі, стаяла вярбіненька.[1]

---

[1] Прыпеў «Ай лю, ай люлёшанькі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

На той вярбіненькі — два галубца сізенькіх.
Два галубца сізенькіх, два брацеткародненькіх.
Адзін жа паляцеў на мхі, на балоценькі.
А другі жа паляцеў к атцу, роднай матанькі,
— А маці мая, матушка, маці мая сударыня,
Ці ты ж мяне тут жані, ці на вайну радзі.
— А сынка ж мой, сынушка, а сынка мой родненькі,
Нячым цябе тут жаніць, лучша на вайну радзіць.
— А скуй жа мне, маменька, тры трубы жасцяненькіх,
Тры трубы жасцяненькіх, чацвёрту мядзяненьку.
У адну ж я затрублю, з двару саязджаючы.
А ў другую затрублю, поле параязджаючы.
А ў трэцюю затрублю, пад войска пад'язджаючы.
У чацвёртую затрублю, сярод войск стоячы, шабельку выймаючы.

Баліць, баліць галава ад крыку, ад гоману.
Баляць, баляць ножанькі ад бальшой дарожанькі.
Баляць, баляць ручанькі, шабелькам кіруючы.
Баляць, баляць вочанькі ад пылі, ад полымі.

## 90. ТЫ ДУБРОВА, ДУБРОВА

Ты диброва, диброва,
Дубровачка зялёная.[1]

Ах, і што ж ты, дуброва,
А не родзіш нічога?

Не зрадзіла дуброва
А ні хмелю, ні ячменю,

А зрадзіла дуброва
Густы ельнік ды бярэзнік.

Каб жа там, па ельнічку,
Ды два брацінькі гулялі.

Ды два брацінькі гулялі,
Яны бруссейка цясалі.

[1] Кожная страфа паўтараецца двойчы.

Яны бруссейка цясалі,
Святлічаньку будавалі.

Яны думалі — святліца,
Ажно цёмная цямніца.

— Вот цяпер жа мы, брацец,
Навек з табой запрапалі.

А й не будзем, брацец, знаці,
Калі зіма, калі лета.

А й не будзем, брацец, знаці
Калі свят дзень, калі будні.

А па том зіму зналі,
Што залезы приставалі.

А па том лета зналі,
Што зязюлі кукавалі.

А й па том ночку зналі,
А што пеўні ўспявалі.

А й па том свят дзень зналі —
Ува ўсе звоны зазванілі.

## 91. ОЙ, ВЫЙДУ Ж Я ДА НА ЮЛАНЬКУ ГУКНУ

Ой, выйду ж я да на юланьку гукну,
Аж вылятае сіва галубка к акну.
Я ж думала, што галубанька сіва,
Ажно гэта сястрыца мая міла.

## 92. БЫЛА-ЖЫЛА АДНА УДАВА

Была-жыла адна ўдава,
Мела сабе адну доч.
Не ўсыпала ні 'дну ноч.
Адну ночку заснула
І на дочку забыла.

Ачнулася: белы свет,
Туды-сюды — дочкі нет.
Усе дарожкі абышла,
Нідзе дочкі не найшла.
А на гарэ, на крутой
Гуляў барын маладой.
Кліча: — Удовачка, пастой,
Скажу табе тваю доч.
Твая дочка пад вянцом
Ды з харошым малайцом,
Цякуць слёзкі ручайком,
Ўцірае рукаўком.

## 93. ПАХАДЗІЛІ МАЕ НОЖКІ

Пахадзілі мае ножкі
Да й па беламу сняжку.
Эй, забалела маё сэрдзечка
Па міламу дружку.

Забалела маё сэрца
Да й па міламу дружку.
Ой, пайду я, прахаджуся
Па крутому беражку.

Ой, пайду я, прахаджуся
Па крутому беражку,
Ой, з крутога беражочка
Пайду к міламу дружку.

Ой, з крутога беражочка
Пайду к міламу дружку.
Падыходжу я ка двору,
Дзе мой міленькі жыве.

Падыходжу я ка двору,
Дзе мой міленькі жыве.
Стукну, бразну у акошка,
Штоб акошка загрымела.

Стукну, бразну у акошка,
Штоб акошка загрымела.

Мой міленькі не выходзіць,
Мне атвету не дае.

Мой міленькі не выходзіць,
Мне атвету не дае,
Ні атвету, ні прывету,
Знаць, яго ў доме нету.

## 94. ПЕРАД СІЛЬНЕНЬКІМ ДАЖДЖОМ

Перад сільненькім дажджом
Расплакалась красна дзеўка
Перад добрым малайцом:
— Адчаго, удал малойчык,
Учора з вечара не быў?
Верна знаю, што другую
Ты сцежачку пратарыў.
Ты тары, удал малойчык,
Я другую пратару.
— А я тваю дарожачку
Усю пасадкай абсаджу,
Штоб хадзіла, не блудзіла,
Клён-дзерава пасаджу.

## 95. УЖ ТЫ, СІЗЕНЬКІ, СІЗЕНЬКІ ГАЛУБЧЫК

Уж ты, сізенькі, сізенькі галубчык,
Ты чаму, чаму ў садзік не лятаеш:
Ці буйныя ветры цябе не пушчаюць,
Ці дробны дождзык быстры кryллі мочыць?

— Уж ты, мілы, міленькі дружочак,
Ты чаму ка мне ў госцікі не ходзіш:
Ці род-племічка цябе не пускаець?
— Малада жана слёзнешэнька плачаць,
Дробных дзетак мне самаму жалка.

## 96. ОЙ, ПАЙДУ Я ПА-НАД СТАЎ

Ой, пайду я па-над стаў,
Аж там плавае качак стада.
Адна адну паганяе,
Кожна сабе пару мае,
А я, малада, у божай кары,
Не даў гасподзь мне пары.

## 97. ЗА ГУСТЫМІ ЛОЗАНЬКАМІ

За густымі лозанькамі
Плача дзяўчына слёзанькамі.
— Не плач, дзеўка, не раніся,
Шчэ я, молад, не жаніўся.
Во як буду жаніціся,
То ты прыдзі дзівіціся,
То дам табе піва напіціся.
— Ой, тваё піва мне не дзіва,
Адно тваё слова міла.
Твая мацi чарадзейка,
Сястрыцы разлучніцы.
Разлучылі нас з табою,
Як рыбачку із вадою.

## 98. А СТАІЦЬ ЯВАР ДЫ НАД РЭЧКАЮ

А стаіць явар ды над рэчкаю,
Няма перамены.[1]

Ай, любіў дзяцюк ды дзяўчоначку,
Не йме яму веры.

Як любіліся ды кахаліся,
Як роўная пара,

А цяперацькі разлучыліся,
Як цёмная хмара.

— Ды дзяцюк — глума, ты звядзеш з ума,
Любіць ты не будзеш,

[1] Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

Пра дзяўчоначку, чарнаброначку
Судзіць ты будзеш.

Заташнелася, забяднелася,
Ссохла на былінку,

Былі вочачкі, як у совачкі,
Сталі, як у рыбкі.

Сяміаршынная падпаясачка
Стала караценька.

## 99. АХ, І ДАЙ, БОЖА

Ах, і дай, божа,
Нам каляд даждаць,

Лёлі-лёлі,
Нам каляд даждаць.[1]

Нам каляд даждаць,
Святак вечароў.

А пашоў бы я
Ды й на йгрышчыка.

Паскакаў бы я
З тою дзеўкаю.

З тою дзеўкаю,
Чарнаброўкаю.

Ах, і стану я
Ды паслухаю.

Ці стучыць зямля,
Ці гручыць зямля.

Ці вязуць нашу
Свет-кастромачку.

Свет-кастромачку,
Чарнаброначку.

---

[1] Прыпеў «Лёлі-лёлі» паўтараецца з другім радком кожнай страфы.

## 100. ДА Ў ДУБЕ СТРЫНАДКІ

Да ў дубе стрынадкі,
Недалёка калядкі.
Тыдзень, тыдзень да каляд,
Пан наш ды чэлядзі не рад.
Пашла чэлядзь скачучы,
Пан за ёю плачучы.
— Каб ты, пане, не даждаў,
Каб ты намі замысляў.
Твая пані ліхая,
На ўсю чэлядзь гукае.
Твой хамут і дуга,
А я табе не слуга.

## 101. ДА Ў ДУБНІЧКУ СТРЫНАДКІ

Да ў дубнічку стрынадкі,
Недалёка калядкі.
Яшчэ тыдзень да каляд,
Пан чэляддзю да й не рад.
— Астаніся, служка, астаніся,
На другі гадок найміся.
— Не астануся, не астануся,
На другі гадок не наймуся.
Надаела ж мне, надакучыла,
Шырокі сталы мыючы,
Шырокі сталы мыючы,
Вялікі двары мятучы.
— Да спячы, панок, букату
Да на ўсю ж сваю лапату.

8. Зак. 1420

На лапаце акорак,
Адыйду ад пана ў аўторак.
На акорку кілбасу,
Я дадому занясу.

## 102. ТЫДЗЕНЬ, ТЫДЗЕНЬ ДА КАЛЯД

Тыдзень, тыдзень да каляд,
Наш пан чэлядзі не рад,
Пайшла чэлядзь скачучы,
А пан за ёю плачучы:
— Вярніся, чэлядзь, вярніся,
На другі гадок найміся.
— Каб ты, пане, не даждаў,
Як табе я буду слугаваць.
Буду служка другому,
Не табе, пану, самому.

## 103. ТЫДЗЕНЬ, ТЫДЗЕНЬ ДА КАЛЯД

Тыдзень, тыдзень да каляд,
Пан чэлядзі ўжо не рад.
Чэлядзь грошы пытае,
Пан з хаты ўцякае.

## 104. ТЫДЗЕНЬ, ТЫДЗЕНЬ ДА КАЛЯД

Тыдзень, тыдзень да каляд,
Пан з чэлядзі да й не рад.
— Скажу, пан, табе без спорак,
Мне ўжо твой хлеб стаў горак.
Аддай, пан, мне каляду,
Ужо [redacted] ад цябе пайду.

## 105. ТЫДЗЕНЬ, ТЫДЗЕНЬ ДА КАЛЯД

Тыдзень, тыдзень да каляд,
Пан з чэлядзі ды й не рад.

— Дай, пане, акорак,
Мне ўжо твой хлеб горак.
Аддай, пане, каляду,
Ужо я ад цябе пайду.

## 106. ТЫДЗЕНЬ, ТЫДЗЕНЬ ДА КАЛЯД

Тыдзень, тыдзень да каляд,
Ты, пан, чэлядзі не рад.
— Аддай, пане, каўбасу,
Я дадому занясу.
Аддай, пане, акорак,
Бо я табе ўжо агорак.

## 107. ДАЙ МНЕ, ПАНЕ, АКОРАК

Дай мне, пане, акорак,
Мне ўжо твой хлеб горак.

Дай мне, пане, каўбасу,
Я дадому панясу.

Дай мне, пане, каляду
І я ад цябе пайду.

Ішла [redacted] пану скачучы,
А ад пана плачучы.

## 108. ІДУЦЬ, ІДУЦЬ КАЛЯДКІ

Ідуць, ідуць калядкі,
Пайшлі дзеткі да маткі.
Пайшла Гэля плачучы,
А за ёю панок скачучы:
— Вярніся, Гэля, вярніся,
На другі гадок найміся.
— Ах, каб ты, панок, не даждаў,
Твая пані ліхая,
На мяне брахала.

## 109. ОЙ, КАЛЯДАЧКІ, КАЛЯДАЧКІ

Ой, калядачкі, калядачкі,
Вы барджэй, вы барджэй,
Вы прынясіце ў бліны дражджэй.

Нам пііпаўка надакучыла,
Жываты нашы пазамучыла,
А нам жамеры зубы праелі.

Ой, калядачкі, прыбліжыцеся,
А кілбасачкі паніжыцеся.

А калядачкі на двор, на двор,
А кілбасачкі на стол, на стол.

## 110. НАМ ПІЛІПАЎКА НАДАКУЧЫЛА

Нам піліпаўка надакучыла,

Ой, люлі, надакучыла.[1]

Дзеўкам жываты перамучыла.
Мальцам жамеры зубы праелі.
А калядныя ж бліны ладныя,
А мікольскія — не такоўскія.

## 111. АЙ, КАЛЯДАЧКІ, НАШЫ МАМАЧКІ

Ай, калядачкі, нашы мамачкі,
Хоць найміцеся, прыбліжыцеся.
Мы ж вас паважаць будзем,
Кожнае ранейка бліны пячы будзем.

## 112. АХ, КАЛЯДАЧКІ, НАШЫ НЕЖАЧКІ

Ах, калядачкі, нашы нежачкі,
Ай, набілі ж мы чорны сцежачкі.

---

[1] Прыпеў «Ой, люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Вы ж, калядачкі, прыбліжыцеся
І калбасачкі паніжыцеся.
Мы ж, калядачкі, вас шанаваць будзем,
Кажды ж вечар святкаваць будзем,
А што ж раннейка бліны печ будзем.
Ай, калядныя бліны ладныя,
Ай, мікольскія бліны кольскія.

## 113. ВЫ, КАЛЯДАЧКІ, ВЫ ПАБЛІЖАЙЦЕ

Вы, калядачкі, вы пабліжайце, вы пабліжайце.
Вы, каўбасачкі, вы паніжайце, вы паніжайце.
А калядныя бліны ладныя, бліны ладныя,
А мікольскія не такоўскія, не такоўскія.
А ў калядачкі бліны-ладачкі, бліны-ладачкі.

## 114. ВЫ, КАЛЯДАЧКІ, БЛІНЫ-ЛАДАЧКІ

Вы, калядачкі, бліны-ладачкі.

Ай, люлі-люлі, бліны-ладачкі.[1]

А калядачкі — да ў ліпнічку,
А прынадачкі — у бярэзнічку.
А калядачкі, вы барджэй, барджэй,
Напячом бліноў мы з дражджэй, з дражджэй.
А калядныя бліны ладныя,
А мікольскія — не такоўскія.

## 115. АЙ, КАЛЯДАЧКІ, НАШЫ НЕЖАЧКІ

Ай, калядачкі, нашы нежачкі,
Панабілі вы чорны сцежачкі.

Ай, калядныя бліны ладныя,
Ай, рана, рана бліны ладныя.

Ай, калядачкі, пабліжыцеся
А каўбасачкі паніжыцеся.

---

[1] Прыпеў «Ай, люлі-люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

## 116. А КАЛЯДАЧКІ БАРДЖЭЙ, БАРДЖЭЙ

А калядачкі барджэй, барджэй,
А нам піліпаўка надакучыла,
Усім жывоцікі перамучыла,
А ўжо ж жамеры зубы праелі.
А каб калядак нядзель дзесятак,
А піліпаўкі каб адзін дзянёк,
І то каб адзін святы вечарок.

## 117. А КАЛЯДАЧКІ, ВЫ БАРДЖЭЙ, БАРДЖЭЙ

А калядачкі, вы барджэй, барджэй,
Прынясіце нам пірагоў, дражджэй.

А калядачкі, вы на дуб, на дуб,
А нам, жоначкам, ніхто не люб, не люб.

Ні старэнькія, ні маленькія,
Толькі хлопчыкі маладзенькія.

## 118. АХ, І ДАЙ НАМ, БОГ, НАМ КАЛЯД ДАЖДАЦЬ

Ах, і дай нам, бог, нам каляд даждаць,

Ай, люлі-люлі, нам каляд даждаць.[1]

Мы пойдзем, пойдзем, мы на ігрышчайка.
Мы з ігрышчайка — на заручыны,
А з заручынак — на вяселлейка.
Я пайду, пайду к свайму бацюшку:
— А дай мне, бацюшка, варанога каня.
— За каня, дзіця, слова нетуці,
Паязджай, дзіця, на вяселлейка,
Ты гуляй, дзіця, а як сам знаеш,
Не ўдзіўляй, дзіця, ты добрых людзей.

---

[1] Прыпеў «Ай, люлі-люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

## 119. ДАЙ, БОЖА, НАМ КАЛЯД ДАЖДАЦЬ

Дай, божа, нам каляд даждаць,

Лёлі-лёлі, нам каляд даждаць.[1]

Ці не пойдзем на йгрышча гуляць,
Ідзем, ідзем ды падслухаем,
Ці гудуць гуслі, ці йграюць скрыпкі,
Ці скачуць дзеўкі-чарнабрыўкі

## 120. КАБ ДАУ, БОЖАЧКА

Каб даў, божачка,
Нам каляд даждаць.

Люлі-люлі, нам каляд даждаць.[2]

Нам каляд даждаць,
Святых вечароў.

Як пашлі ж бы мы
Ды ў начлежачкі,

Як напралі б мы
Па ручаечцы.

## 121. КАЛЯДЫ, КАЛЯДКІ

Каляды, калядкі
Везлі бліны, аладкі
У маляваным вазочку,
На вараненькім канёчку.

---

[1] Прыпеў «Лёлі-лёлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

[2] Прыпеў «люлі-люлі» паўтараецца з другім радком кожнай страфы.

## 122. ЕДУЦЬ, ЕДУЦЬ КАЛЯДКІ

Едуць, едуць калядкі,
Вязуць бліны і аладкі
А на шэранькім канёчку,
А ладу, ладу, калядкі.

## 123. ЕДУЦЬ, ЕДУЦЬ КАЛЯДКІ

Едуць, едуць калядкі.

Каляда![1]

А ў саначках прыданкі.
Прыданачка Тацянка
Прынадзела сужаньку
На вараным коніку,
На маляваным вазочку.

## 124. ЕДУЦЬ, ЕДУЦЬ КАЛЯДКІ

Едуць, едуць калядкі,
Ды з бярэзнічку прынадкі.
Калядкі за гарою,
А каўбаскі за сцяною.

## 125. А КАЛЯДКІ БЛІЗКА

А калядкі блізка,
А каўбаскі нізка.

Святы вечар,
А каўбаскі нізка.[2]

Перад куццёю
Сеў поп з пападдзёю.

А перад калядамі
Сеў поп за градамі.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.
[2] Прыпеў «Святы вечар» паўтараецца з другім радком кожнай страфы.

## 126. А Я СВАЮ КАЛЯДУ

Каляда,
А я сваю каляду,
Гэй, каляду.
Каляда,
Ды на покуце пасаджу,
Гэй, каляду.
Каляда,
А Васілёву каляду,
Гэй, каляду.
Каляда,
Да пад покуццю пасаджу,
Гэй, каляду.
Каляда,
Да за бараду павяду,
Гэй, каляду.

## 127. ДА ПЫТАУСЯ ДЗЕДКА У БАБКІ

Да пытаўся дзедка ў бабкі,
Калі будуць калядкі.
А ты, дзеду, да не пытайся
Да к калядкам сабірайся.
А калядкі — добрыя карткі,
Пад'еў — ды на палаткі.

## 128. УЖО, ДЗЕВАЧКІ, КАЛЯДКІ

Ўжо, дзевачкі, калядкі,
Кідайце грабяні пад градкі,
А пячыце бліны ды й ладкі.

## 129. ОЙ, СТУК, МАТКА, СТУК

— Ой, стук, матка, стук,
Што-та яно тут:
Чы хто стрэху разрывае,
Чы хатаньку верне?

— Ціха, сынку, мароз стучыць,
Каляданьку галосіць,
Будуць блінцы і каўбасы,
Гарэлачка з мёдам.
Пойдзеш, сынку, да суседа
Песеньку спяваці,
Ой, у той час ты забудзеш,
Што стучэла ў хаце.
— Чы той мароз, мая матка,
У суседа не бывае?
То я цяпер да пабягу
Песеньку спяваці.
— Няхай, сынку, пачакаем
Беленькага свету,
У той час будзе пара спяваць,
Што бог нарадзіўся,
А ты, бедны да мой сынку,
У той дзень адгавеўся.

## 130. ПАЙШЛА КАЛЯДА КАЛЯДУЮЧЫ

Пайшла каляда калядуючы.

Эй, каляда![1]

А за ёю дзеўкі шчадруючы.
Пайшла каляда ў адну хату,
А ў гэтай хаце куццю таўкуць.
Пайшла каляда ў другую хату,
А ў гэтай хаце серабро звініць.
Пайшла каляда ў трэцюю хату,
А ў трэцяй хаце сала шыпіць.
Пайшла каляда ў чацвертую хату,
І ў гэтай хаце сала шыпіць.
Пайшла каляда ў пятую хату,
А ў пятай хаце золата блішчыць.
Пайшла каляда ў шостую хату,
А ў шостай хаце каўбасу пякуць.
Каўбасу пякуць да і нам дадуць
Хоць па маленечкаму кусочку,
Каб любілі хлопцы вашу дочку.

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 131. ІШЛА КАЛЯДА КАЛЯДУЮЧЫ

Ішла каляда калядуючы,

Коляда, калядзіца.[1]

Ішла дзярэўняй да й жабруючы.
Дары, Манічка, дары, малада,
Бочку пшаніцы, бочку ярыцы,
Рэшата аўса, наверх каўбаса.

## 132. БЕГЛА КАЛЯДКА ПЯШКОМ-ПЯШКОМ

Каляда,
Бегла калядка пяшком-пяшком.
Гэй, каляда.

Каляда,
Несла піражкі мяшком-мяшком.
Гэй, каляда.

Каляда,
Пашла каляда да Івана.
Гэй, каляда.

Каляда,
Пане Іване, зрабі ласку.
Гэй, каляда.

Каляда,
Зрабі ласку, злезь на баляску.
Гэй, каляда.

Каляда,
Злезь на баляску, ўкрой каўбаску.
Гэй, каляда.

Каляда,
Пашла калядка да Дзям'яна.
Гэй, каляда.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Каляда,
Ад Дзям'яна вышла п'яна.
Гэй, каляда.

*(У канцы крычаць):*

Які гэта піражок, каб гэтакі каласок,
А з таго каласочка — жыта бочка!
А за гэты кусок сала, каб свіння дзверы выстаўляла!

## 133. БЕГЛА КАЛЯДКА ПЯШКОМ-ПЯШКОМ

Каляда,
Бегла калядка пяшком-пяшком.
Гэй, каляда.

Каляда,
Несла піражкі мяшком-мяшком.
Гэй, каляда.

Каляда,
Ды забегла да Івана.
Гэй, каляда.

Каляда,
Ад Івана да Сцяпана.
Гэй, каляда.

Каляда,
А ў Івана куццю таўкуць.
Гэй, каляда.

Каляда,
А ў Сцяпана пірагі пякуць.
Гэй, каляда.

Каляда,
Ад Івана вышла п'яна.
Гэй, каляда.

Каляда,
Ад Дзяніса вышла лыса.
Гэй, каляда.

## 134. БЕГЛА СВІНКА ПА ЛЯДУ

Бегла свінка па ляду
Да згубіла каляду.
Да біў дзед свінку
То ў лоб, то ў лысінку.
— Не кажыце, дзеўкі, бабцы,
Дам вам па кілбасцы.
А дзеўкі ўзялі
Ды бабцы сказалі.
Дак дзеда звязалі,
Пад печ пасадзілі,
Пад печ пасадзілі,
Ступай зазмаздзілі.

## 135. ІШЛА КАЛЯДА

Ішла каляда
Упярод ражства.

Коляда, коляда.[1]

Несла кішок
Парцяны мяшок.

Ішла свіння па ляду,
Рассыпала каляду.

— Ідзі, Мішка, пабірай,
Будзе табе каравай.

Хоць ярычнае,
Да пшанічнае.

Хоць чорнае,
Да пшоннае.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

## 136. ІШЛА СВІННЯ ДА Й ПА ЛЯДУ

Ішла свіння да й па ляду,

Коляда, коляда.[1]

Рассыпала да й каляду.
Ідзе Маня да й пабіраіць,
Ванька просіць, Манька носіць.
— Кідай прасіць, цяжка насіць.

## 137. БЕГЛА СВІНКА ПА ЛЯДУ

Бегла свінка па ляду,
Рассыпала каляду.
А вы, дзевачкі, не гуляйце,
Да каляду пазбірайце.
А вы, хлопчыкі, круціцеся
К чорту дамоў.

## 138. ІШЛА КАЛЯДА УПЯРОД РАЖСТВА

Ішла каляда ўпярод ражства,

Коляда, коляда.[1]

Каўбаса з клеці, а кішка з печы.
Ішла свіння па ляду,
Рассыпала каляду.
— А вы, дзеўкі, не гуляйце,
Йдзіце каляду пабірайце.

## 139. ІШЛА КАЛЯДА ПА ЛЯДУ

Ішла каляда па ляду,

Коляда![1]

---
[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Рассыпала каляду.
А вы, малойцы, не гуляйце,
Ідзіце каляду пазбірайце,
Кот з падпечку за кішэчку.

## 140. ПАШЛА КАЛЯДА КАЛЯДУЮЧЫ

Пашла каляда калядуючы,
Да за ёю хлопчыкі жабруючы, каляда.

Пашла каляда па ляду,
Рассыпала каляду, [каляда].

А вы, дзевачкі, не гуляйце,
Да йдзіце каляду пабірайце, каляда.

## 141. ЕХАЛА КАЛЯДА У ЧЫРВОНЫМ ВАЗОЧКУ

Ехала каляда ў чырвоным вазочку.
Каляда, каляда![1]

У чырвоным вазочку, на сівым канёчку
Вазіла кілбасы ў рэшаце.
Ішла свіння па ляду, па ляду,
Рассыпала каляду, каляду.
А вы, дзетачкі, не гуляйце,
Кілбасы падбірайце.

## 142. ПАШЛА КАЛЯДА КАЛЯДУЮЧЫ

Пашла каляда калядуючы,
За ёй дзеўкі жабруючы.
Адна просіць, другая носіць.
Пакінь прасіць, цяжка насіць.
Перайшла сяльцо — дастала яйцо.
Перайшла другое — згубіла і тое,
Перайшла трэцяе — згінула сама,
От і каляда!

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 143. ІШЛА БАБА ПА ІЛЬДУ

Ішла баба па ільду,
Рассыпала каляду.
Выбег зайка з лесу,
Пачаў мяне лаяць.
Я села на ката,
Паехала да папа.
— Ох ты, бацюшка-папок!
Рассудзі маю бяду:
Ішла па ільду —
Рассыпала каляду.

## 144. ЕХАЛА КАЛЯДА З ПОЛАЦКУ

Ехала каляда з Полацку
Да на сівенькім конічку.
Прывезла рэшата бліноў,
Паставіла на стале,
А раштво пасадзіла на куце,
Павесіла галку за градку:
— Вісі, вісі, мая галка, да новага году,
На новы год будзем разбіраць,
Людзям кішкі раздаваць.

## 145. ЕХАЛА КАЛЯДА З ПОЛАЦКА

Ехала каляда з Полацка
У маляваненькім вазочку,
На вараненькім канёчку,
Заехала к Васілю на двор.
— Васіль, падары каляду!
— Ці пшаніцай? — Не хачу,
Хачу вечнага падарка — дзевачкі!

## 146. ЕХАЛА КАЛЯДА З ПОЛАЦКУ, З ПОЛАЦКУ

Ехала каляда з Полацку, з Полацку
На сівенькім конічку, конічку,
На маляваным вазочку, вазочку.

Заехала каляда к Ванічку, к Ванічку.
— Чым будзеш, Ванічка, дарыці, дарыці,
А ці жонкаю, а ці пшонкаю,
Ці маладою Манічкай, Манічкай?

## 147. ДЫ ІДУЦЬ-ЕДУЦЬ КАЛЯДКІ

Ды ідуць-едуць калядкі,
Ды і на вараным канёчку,
Ды і вязуць дудак рэшата.
Ды і паставілі дудкі на стаўпе,
А самі селі на куце.
А вы, дудачкі, іграйце,
А вы, дзевачкі, танцуйце.

## 148. ПРЫЕХАЛА КАЛЯДА НА СІВЫМ КОНІКУ

Прыехала каляда на сівым коніку,
Паставіла коніка ў адрынцы,
Сама села на куце ў пярынцы,
Пастаўляла дудачкі на стаўпе:
Грайце, дудачкі, голасна,
Скачыце, дзевачкі, хораша.

## 149. ПРЫЕХАЛА КАЛЯДА ЗВЕЧАРА, ЗВЕЧАРА

Прыехала каляда звечара, звечара,
Да прывезла дудак рэшата, рэшата,
Да паставіла на стаўпе, на стаўпе,
А сама села на куце, на куце.
А вы, дудачкі, іграйце, іграйце,
А вы, дзевачкі, гуляйце, гуляйце,
А вы, хлопчыкі, свісціце, свісціце,
А вы, бабачкі, пляшыце, пляшыце.

## 150. ПРЫЕХАЛА КАЛЯДА ВЕЧАРАМ, ВЕЧАРАМ

Прыехала каляда вечарам, вечарам,
Напякла пірагоў печыва, печыва,

Сама села на куце, на куце,
А дудачка ў стаўбе, у стаўбе.
— Ой ты, дудачка, іграй, іграй,
А вы, дзевачкі, скачыце, скачыце,
А вы, хлопчыкі, глядзіце, глядзіце,
Каторая красіва — бярыце, бярыце,
А катора некрасіва — з хаты ганіце, ганіце.

## 151. ПРЫЕХАЛА КАЛЯДА УВЕЧАРА, УВЕЧАРА

Прыехала каляда ўвечара, ўвечара
Да напякла булак печыва, печыва.
Да сама села на куце, на куце,
А булачкі на стале, на стале.
— А вы, дзевачкі, за кудзелячкі і к богу, і к богу,
А вы, хлопчыкі, за сякерачкі і к чорту, і к чорту.

## 152. ПРЫЕХАЛА КАЛЯДА УВЕЧАРЫ

Прыехала каляда ўвечары
Да прывезла пірагі ў рэшаце,
Паставіла пірагі на стаўпе,
А сама села на куце.
А дзеці за пірог,
Да пашла каляда за парог.

## 153. ПРЫЕХАЛА КАЛЯДА УВЕЧАРА

Прыехала каляда ўвечара,
Прывезла каўбас, рэшата.
Каўбасы паставіла на стаўпе,
Сама ж села на куце
У беленькім кажушку,
У чырвоненькім грабушку.

## 154. ПРЫШЛА КАЛЯДА ДА УВЕЧАРА

Прышла каляда да ўвечара
Да прынесла гарошку ў рэшаце,
Сама села на куце,

Паставіла гарошак на стале.
Хто мой гарошак падбярэ,
Той мяне да вянца павядзе.

## 155. ПРЫЕХАЛА КАЛЯДА УВЕЧАРА, УВЕЧАРА

Прыехала каляда ўвечара, ўвечара
Да прывезла гарошку ў рэшаце, у рэшаце,
А сама села на куце, на куце,
А гарошак паставіла на стаўпе, на стаўпе,
А сама пайшла на дворкі, на дворкі,
А за ёю гарошак удагонкі, удагонкі.
А вы, дзевачкі, не гуляйце, не гуляйце,
Да й гарошак пазбірайце, пазбірайце.

## 156. А У НАС СЯГОННЯ СХОД КАЛЯД

А ў нас сягоння сход каляд,
Сабірайцеся, дзеўкі, у рад.

Адну зіму песні пяяць,
Будзем іх у рэшаты складаць.

А паставім іх пад дубам,
Нам к налеццю спадобяцца:

Не будзем жыта сяяць,
А будзем песні пяяць!

## 157. ІШЛА КАЛЯДА УПЯРОД РАЖСТВА

Ішла каляда ўпярод ражства,
Пыталася, дзе багаты двор.
[Багаты двор] ды жалезны тын?
Вароцікі ўсе цясовыя,
Падваротніца палажоная,
Зашчэпачка — рыб'я костачка,
Багаты двор ды за сем жа вёрст
І з прывёрстачкай.

## 158. КОЛЯДА-КАЛЯДА

Коляда-каляда,
Прышла ўперад ражаства,
Коляда-каляда.

Прынесла бліноў рэшата,
Коляда-каляда.

І гаршчок каўбас,
Коляда-каляда.

## 159. А КАЛЯДАЧКІ, НАШЫ НЕЖАНЬКІ

А калядачкі, нашы нежанькі,
А панежылі нашых дзевачак.
Убілі дзевачкі чорны сцежачкі,
То на йгрышчанька, то з ігрышчанька.
А з ігрышчанька — на вяселлейка,
А з вяселлейка — па новых сенях,
Паціхусеньку, пamалюсеньку,
А каб не пачуў ліхі свёкар,
Каб жа не сказаў сыну свайму,
Сыну свайму — мужу майму.
А мой муж — мяцеліца,
Б'ецца за бяздзеліцу.

## 160. ВОЙ, КАЛЯДАЧКІ, МАЕ Й МАМАЧКІ

Вой, калядачкі, мае й мамачкі,

Ой, люлі-люлі, мае й мамачкі.[1]

Прыкаціцеся, прыбліжыцеся
Да нам, дзевачкам, спадабіцеся.
Пойдзем мы, дзевачкі, да й на йгрышчайка,
Да сы йгрышчайка — на вяселлейка,
Да з вяселлейка — па новых сенях,

---

[1] Прыпеў «Ой, люлі-люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Паціхусеньку, памалюсеньку,
Да й каб не пачуў да мой свёкарка,
Да й каб не сказаў да свайму сыну,
Да свайму сыну — да майму мужу,
Ай, мой муж жа да й шацеліцца,
Ён паб'е мяне за бяздзеллейка.

## 161. ОЙ, КАЛЯДАЧКІ, НАШЫ НЕЖАЧКІ

Ой, калядачкі, нашы нежачкі,

Ай, рана-рана, нашы нежачкі.[1]

Патапталі вы цёмны сцежачкі,
То й на йгрышчайка, то й з ігрышчайка.
— Ой ты, вуліца, ты шырокая,
Па табе, вуліца, я й хадзіць буду,
Я й хадзіць буду, што ж я выхаджу,
Па сабе дружочка я й не выберу.

## 162. ВЫ, КАЛЯДАНЬКІ, МАЕ НЕЖАНЬКІ

Вы, каляданькі, мае нежанькі,
Да карчоманькі біты сцежанькі.

Вы каляданькі на дуб, на дуб,
А мужык жонцы не люб, не люб.

А вы, каляданькі, проша да нас,
А вы, меснічкі, проша [redacted] нам.

## 163. А КАЛЯДАЧКІ, НАШЫ НЕЖАЧКІ

А калядачкі, нашы нежачкі,
Патапталі ў карчму сцежачкі,
І карчомныя, і царкоўныя.
У карчму ідуць гарэлку піць,
А з карчмы прыдуць, стануць жонак біць.

[1] Прыпеў «Ай, рана-рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

## 164. АЙ, КАЛЯДАЧКІ, НАШЫ НЕЖАЧКІ

Ай, калядачкі, нашы нежачкі,
Набілі ў карчомку чорны сцежачкі.
Вы ж, калядачкі, вярніцеся,
Хоць нядзельку працягніцеся.

## 165. А КАЛЯДАЧКІ, БЛІНЫ-ЛАДАЧКІ

А калядачкі,
Бліны-ладачкі!
А калядачкі,
Нашы нежачкі,
Паўбівалі вы
Чорны сцежачкі.
Адна сцежачка
Пашла ў гарод,
А другая —
У чыстае поле,
А трэцяя —
К быстрай рэчцы.
Што ў гарод пашла,
То наесціся,
У чыстае поле —
Нагуляціся,
К быстрай рэчцы —
То напіціся.

## 166. ОЙ, КАЛЯДЫ-КАЛЯДАЧКІ, БЛІНЫ-ЛАДАЧКІ

Ой, каляды-калядачкі, бліны-ладачкі,
Бліны ржаныя — хлопцы дурныя.
Бліны ячныя — дзеўкі красныя.
Бліны пшанічныя — дзеўкі пышныя.
Бліны аўсяныя — хлопцы п'яныя.
Бліны грэцкія — хлопцы намецкія.

## 167. ОЙ, КАЛЯДАЧКІ, БЛІНЫ-ЛАДАЧКІ

Ой, калядачкі, бліны-ладачкі!
— Мароз [мароз], не змарозь мяне.
Я ж табе, мароз, наравіць буду,
Пашыю кажух і насіць буду.
А на ножанькі — паўсапожанькі,
А на ручанькі — рукавічанькі,
На галовачку — ліссю шапачку.

## 168. А КАЛЯДНЫЯ БЛІНЫ ЛАДНЫЯ

А калядныя бліны ладныя,

Ой, люлі, бліны ладныя.[1]

А пшанічныя — вельмі пышныя.
Каб калядак нядзель дзесятак,
Нашы дзевачкі нагуляліся б,
Нашы праснічкі наваляліся б,
І пачыначкі ў зачыначкі.

## 169. КАБ ВАС, КАЛЯДАК, НЯДЗЕЛЬ З ДЗЕСЯТАК

Каб вас, калядак, нядзель з дзесятак,

Ай, люлі-люлі, нядзель з дзесятак.[2]

А што б ранейка, дык сняданейка,
Што вячэрайка, дык гулянейка,
Мы бы, дзевачкі, нагуляліся б,
Нашы праснічкі наваляліся б,
Верацёначкі паламаліся б.

---

[1] Прыпеў «Ой, люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

[2] Прыпеў «Ай, люлі-люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

## 170. АЙ, КАЛЯДАЧКІ, БЛІНЫ-ЛАДАЧКІ

Ай, калядачкі, бліны-ладачкі,

Ой, люлі-люлі, бліны-ладачкі,[1]

Каб калядачак нядзель дзесяць,
Нашы б дзевачкі нагуляліся,
А кудзелечкі б наваляліся.

## 171. АЙ, КАЛЯДАЧКІ

Ай, калядачкі,
Бліны-ладачкі.
Ай, рана-рана,
Бліны-ладачкі.

Ай, мікольскія
Бліны не такоўскія.
Ай, рана-рана,
Бліны не такоўскія.

А васільскія
Бліны блізкія.
Ай, рана-рана,
Бліны блізкія.

## 172. КАЛЯДА, КАЛЯДЗІЦА, ДОБРАЯ МАЛАДЗІЦА

Каляда-калядзіца, добрая маладзіца,
А што ж ты нам, каляда, прынесла?

Каляда-калядзіца, добрая маладзіца,
Старым бабам па кіёчачку.

Каляда-калядзіца, добрая маладзіца,
Маладым бабам па сыночачку.

---

[1] Прыпеў «Ой, люлі-люлі паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Каляда-калядзіца, добрая маладзіца,
Малым дзецям па яечачку.
Каляда-калядзіца, добрая маладзіца.

## 173. СКАЧА ВЕРАБЕЙКА ПА СМЕТНІЧКУ

Скача верабейка па сметнічку,
Каляда, каляда![1]

Кліча дзевачак на гуляннейка.
— Вам, дзевачкі, свая волейка,
А вам, маладзічкі, няволейка:
Адно плача ў каравацi,
А другое — на прыпечку,
А трэцяе — у калысцы.
Што ў калысцы — таму цыцы дацi,
Што на прыпечку — таму кашы дацi,
А што ў каравацi — таму кія дацi,
Сама маладзенька ды з намі гуляцi.

## 174. А КАЛЯДАЧКІ, ВЫ НА ДУБ, НА ДУБ

А калядачкі, вы на дуб, на дуб,
А мне, моладзе, ды й ніхто нялюб:
Ні старэнькія, ні маленькія,
Толькі хлопчыкі маладзенькія.

## 175. ДА МЕСЯЦУ-ЯСЕЦУ

Да месяцу-ясецу,

Каляда! [1]

Выйдзі, выйдзі, да не рана,
Пастой, пастой, да не мала.
Пакуль мая дзевачка
Русу касу расчэша,

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Падарачкі пакроіць,
Дзевяроў абдорыць,
Дзевяроў да залувіцы,
Мае родныя сястрыцы.

## 176. НЕ ВЕЙ, НЕ ВЕЙ, ТЫ Ж МЯЦЕЛІЦА

Не вей, не вей, ты ж мяцеліца,
Ой, люлі-люлі, ты ж мяцеліца.[1]
Не завявай сцежак-дарожак,
Да мне ж далёка к татку ў госці,
К татку іду, красачкі шчыплю,
Красачкі шчыплю, я й вяночкі ўю,
Ад таткі йдучы, паразвіваю ж,
Па адной красачцы параскідаю.
— Расціце ж, краскі, як тады жа раслі,
Цвіцеце ж, краскі, як тады цвілі,
Тады жа цвілі сіненькім цветам,
А цяперака ўсё й пустацветам.

## 177. НЕ КУР, НЕ ВЕЙ, МЯЦЕЛІЦА

Не кур, не вей, мяцеліца,
Каляда! [1]

Я, малада, к татку ў госці іду.
Да таткі ішла — вянок віла,
Ад таткі ішла — развівала,
Па кветачцы раскідала,
Белым снегам сляды замятала,
Ад таткі йшла да й слёзы праліваала.

## 178. НЕ КУР, НЕ ВЕЙ, МЯЦЕЛІЦА

Не кур, не вей, мяцеліца,
Каляда! [2]

---

[1] Прыпеў «Ой, люлі-люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Не завявай сцежкі-дарожкі,
Я к татку ў госці еду,
У госці еду да вяночкі ўю,
Ад таткі еду ды развіваю,
Што па красачцы раскідаю.
Што красачка, то слёзачка.

## 179. НЕ КУР, НЕ ВЕЙ, МЯЦЕЛІЦА.

Не кур, не вей, мяцеліца.
Каляда! [1]
Не завявай сцежак-дарожак.
Да мамкі іду, вяночкі вію,
Ад мамкі пайду, развіваючы,
Па кветачцы раскідаючы,
Дзе кветачка ўпадзець, там слёзка капнець,
О, дзе вяночак, там ручаёчак.

## 180. НЕ ВЕЙ, НЕ КУР, МЯЦЕЛІЦА

Не вей, не кур, мяцеліца.

Каляда! [1]

Не завявай сцежак-дарожак.
Да мамкі ў госці ішла.
Да мамкі йшла — вянок віла,
Ад мамкі йшла — развівала,
Па ветачкі раскідала.
Дзе сцежачка, там ветачка,
Дзе слядочак, там цвяточак.

## 181. НЕ КУР, НЕ ВЕЙ, МЯЦЕЛІЦА

Не кур, не вей, мяцеліца,

Гэй, каляда! [1]

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Не завявай сцежак-дарожак,
Ой, я ж пайду к матульцы ў госці.
К матульцы йшла — вяночак віла,
Ад матулькі йшла — развіваючы,
Ой, па красачцы раскідаючы.
Ды ў ліпавы куст я укінула,
А ў кусціку шэранькі ваўчок.

## 182. НЕ КУР, НЕ ВЕЙ, МЯЦЕЛІЦА

Не кур, не вей, мяцеліца,
Гэй, гэй, каляда! [1]

Не завявай сцежачку,
Сцежачку-дарожачку,
Я к мамцы йду — вяночкі ўю,
Ад мамкі йду — развіваю,
Я сваё гора ўцяшаю.

## 183. КАЛЯДА, НЕ КУР, НЕ ВЕЙ, МЯЦЕЛІЦА

Каляда, не кур, не вей, мяцеліца,

Каляда! [1]

Да маткі іду — вяночак вію,
Ад маткі іду — развіваю.
Што слядочак — то вяночак,
Што ветачка — то сцежачка,
Што слёзачка — то розачка.

## 184. ОЙ ПА-НАД МОРАМ, ПА-НАД ГЛЫБОКІМ

Ой па-над морам, па-над глыбокім,

Святы вячор! [1]

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Там явар стаяў тонкі, высокі.
На тым явары саколік сядзіць,
Саколік сядзіць да ў мора глядзіць,
У мора глядзіць, з рыбай гаварыць:
— Ой, рыба, рыба, як ты глыбока,
Як ты глыбока, а я высока.
Табою, рыбай, гасцей вітаці,
А маім пяром лісты пісаці.
Майстроў наймае, цэркаў будуе,
Цэркаў будуе з трыма вярхамі,
З трыма вярхамі, з трыма вакнамі.
У адно акенца сонейка ўзышло,
Удругое акенца месяц засвяціў,
У трэцяе акенца янголь зазірнуў.
Янголь зазірнуў, слёзаньку рынуў.
З тое слёзанькі плывуць рэчанькі.

Скарэй дарыце, нас не барыце,
Кароткі світкі, памерзлі лыткі.

## 185. ОЙ, ПА-НАД МОРАМ, ПА-НАД ГЛЫБОКІМ

Ой, па-над морам, па-над глыбокім,

Святы вечар! [1]

Там явар стаяў, тонкі, высокі.
А на тым явары саколік сядзіць,
Саколік сядзіць да ў мора глядзіць,
У мора глядзіць, з рыбай гаворыць:
— Ой, рыба, рыба, як ты глыбока,
А як ты глыбока, як я высока.
З табою, рыба, госці вітаць,
А маім крыльцам лісты пісаць.
Лісты пісаць, да суда слаць.
А з суда бярэ, пастатарам шле.
Майстра нанімае, царкву будуе,
Царкву будуе з трыма вярхамі,
З трыма вярхамі, з трыма акнамі.

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Адно акенца — то яснае сонца,
А другое акенца — то месяц засвяціў,
А трэцяе акенца — янгуль зазірнуў.
Янгуль зазірнуў — слёзаньку лінуў,
А з тае слёзанькі плывуць рэчанькі.

## 186. ОЙ НАД РЭКАЮ, НАД ГЛЫБОКАЮ

Ой над рэкаю, над глыбокаю,
Святы вечар, святы васіллё.[1]

Там стаяў явор, тонкі, высокі,
Тонкі, высокі, зверху кудравы.
На том яворцы орлічак сядзіць.
Орлічак сядзіць, у ваду глядзіць.
У ваду глядзіць і рыбку бачыць.
Ён рыбку бачыць, з рыбкай гаворыць:
— Ой ты, рыбачка, як ты глыбока,
Як ты глыбока, а я высока.
З цябе, рыбачка, смашная юшка,
А з мяне, арла,— мякка падушка.

## 187. ОЙ, НАД РАКОЮ, НАД ГЛЫБОКАЮ

Ой, над ракою, над глыбокаю,
Ой, стаіць явур тонкі, высокі,
Тонкі, высокі, зверху кудравы.
А на том кудры дай арэўка сядзіць,
Ой, ун сядзіць і ў воду глядзіць,
У воду глядзіць, там рыбку бачыць,
Там рыбку бачыць, з рыбкаю гаворыць:
— Ой, як ты, рыбка, як ты глыбока,
Як ты глыбока, так я й высока,
Ой, і з цябе, рыбка,— смашная юшка,
А з мяне, арла,— мякка падушка.
Ой, цябе, рыбка,— на тарэлачку,
А мяне, арла,— на гарэлачку.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 188. ГЭЙ, ГЭЙ, КАЛЯДА

Гэй, гэй, каляда!
А ў нядзелю рана,
Рана-параненьку.

Гэй, гэй, каляда![1]

Маці сына парадзіла,
Парадзіўшы, да й купала.

Парадзіўшы, да й купала,
Пакупаўшы, да й гадавала.

А ў нядзелю рана,
Рана-параненьку.

У маскалі галілі
Да ўсім гаварылі:

— Хто не мае,
Няхай наймае,

А хто мае,
Няхай тут здавае.

А ў нядзелю рана,
Рана-параненьку.

Маці сына ў войска
Адпраўляла.

Адпраўляўшы,
Да й навучала:

— Не едзь, сынку,
Ні наперад войска,

Ні наперад войска,
Ні назад войска.

Наперад войска —
Уся ізраданька,

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Назад войска —
Уся лашчынанька.

А едзь, сынаньку,
Сярод войска.

Пасярод войска —
Уся параданька.

Дай, божа, пажывацъ
Да хлеб паядаць!

## 189. ОЙ, ІШЛА КАЛЯДКА КАЛЯДУЮЧЫ

Ой, ішла калядка калядуючы праз сяло,
Зайшла ж яна да пана Сцяпана пад акно:

— Ой, пане Сцяпане, харошыя дочкі ў цябе,
А што ж твае харошыя дочкі рабілі?

— А што ж мае харошыя дочкі рабілі?
А ў стадоле ды ўсё пшанічаньку мералі.

Намералі трыццаць шанкоў і чатыры,
А тыя чатыры вам, калядиічкам, каляда!

## 190. ІШЛА КАЛЯДА КАЛЯДУЮЧЫ

Ішла каляда калядуючы,
Гэй, каляда, калядзіца! [1]

Каля двору йшла ды бядуючы,
За ёй хлопчыкі ўсё жабруючы.
Прыйшла каляда к Ляксею на двор:
— Пане Ляксею, просім не трымаць,
Кароткі світкі — сцюдзёна стаяць,
Ці ты спіш-ляжыш, ці нас не чуеш?
Пане Ляксею, дары каляду!
Калі не дасі бочкі пшаніцы,
Бочкі пшаніцы, другой — ярыцы,
Дык не аддасі младу Марыльку.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 191. ПАЕХАЛА КАЛЯДА З КАНЦА У КАНЕЦ

Паехала каляда з канца ў канец,
Каляда, калядзіца ж мая!
Зайшла каляда к Андрэю на двор:
— Пане, Андрэй, чым даруеш каляду,
Каляду, калядзіцу ж маю,
А ці жонкаю, ці пшонкаю,
Ці маладою Аўдоцькаю?

Паехала каляда з канца ў канец,
Каляда, калядзіца ж мая!
Заехала каляда к Усціну на двор:
— Пане, Усцін, чым даруеш каляду,
Каляду, калядзіцу ж маю,
Ай, ці жонкаю, ці пшонкаю,
Ці маладою Таццянаю?

Паехала каляда з канца ў канец,
Каляда, калядзіца ж мая!..

## 192. ІШЛА КАЛЯДА З КАНЦА У КАНЕЦ

Ішла каляда з канца ў канец,
Зайшла каляда к Івану:
— Чым будзеш дарыць каляду,
Ці пшонкаю, ці жонкаю?
— Жонкі не дам, пшонкі няма,
А дарую каляду краснаю дзеўкаю,
Краснаю дзеўкаю — Дар'яю.

## 193. А ЕХАЛА КАЛЯДА

А ехала каляда
З канца ў канец,
Заехала каляда
К Васільку, к Васільку.

— Ты, Васілька,
Не гуляй,
Вары піва, жані сына
Іваньку, Іваньку.

А ехала каляда
З канца ў канец,
Заехала каляда
К Васільку, к Васільку.

— Ты, Васілька,
Не гуляй,
Вары піва, аддавай дочку
Мар'ечку, Мар'ечку.

## 194. ПАШЛА КАЛЯДА КАЛЯДУЮЧЫ

Пашла каляда калядуючы,
З канца ў канец жабруючы.
Зайшла каляда да Багдана.
— Абяцаў каляду даць,
Сына, дзеўку звянчаць.
Чым жа ў цябе вароты завешаны?
Хвашчом, баршчом і націнкаю.

## 195. ЯК ПРЫШЛА КАЛЯДА ДЫ УПЯРОД ЗА РАЖСТВА

Як прышла каляда
Ды ўпярод за ражства.
Каляда, каляда! [1]

Прынясла каляда рэшата бліноў
Да начоўкі сатнёў.
Рэшата бліноў
Паставіла на стол,
Начоўкі сатнёў
Паставіла на стоўб.
Паставіўшы ўсё,
Сама села на кут.

Як прышла каляда
Ды ўпярод за ражства.
Як пашла каляда
Удоль па вуліцы гуляць.

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожных двух радкоў.

Удоль па вуліцы гуляць
Ды й абрады сабіраць.
Як прышла каляда
Да багатага двара,
Да Карпінага.
А Карпіна жана
Дабрахвоча была,
Дабрахвоча была
І бацінкі дала.

Як пашла каляда
Удоль па вуліцы гуляць,
Удоль па вуліцы гуляць
Да абрады сабіраць.
Як прышла каляда
Да багатага двара,
Да Марцінкавага.
А Марцінава жана
Дабрахвоча была,
Дабрахвоча была
І насавёнкі дала.

Як пашла каляда
Удоль па вуліцы гуляць,
Удоль па вуліцы гуляць
Да абрады сабіраць.
Як прышла каляда
Да багатага двара,
Да Назаравага.
А Назарава жана
Дабрахвоча была,
Дабрахвоча была
І рубашонку дала.

Як пашла каляда
Удоль па вуліцы гуляць,
Удоль па вуліцы гуляць
Да абрады сабіраць.
Як прышла каляда
Да багатага двара,
Да Васільевага.
А Васільева жана
Дабрахвоча была,
Дабрахвоча была
І шубёнку дала.

Як пашла каляда
Удоль па вуліцы гуляць,
Удоль па вуліцы гуляць
Да абрады сабіраць.
Як прышла каляда
Да багатага двара,
Да Пракопавага.
А Пракопава жана
Дабрахвоча была,
Дабрахвоча была
І сермяжонку дала.

Як пашла каляда
Удоль па вуліцы гуляць,
Удоль па вуліцы гуляць
Да абрады сабіраць.
Як прышла каляда
Да багатага двара,
Да Дзянісавага.
А Дзянісава жана
Дабрахвоча была,
Дабрахвоча была
І паясёнку дала.

Як пашла каляда
Удоль па вуліцы гуляць,
Удоль па вуліцы гуляць
Да абрады сабіраць.
Як прышла каляда
Да багатага двара,
Да Іванавага.
А Іванава жана
Дабрахвоча была,
Дабрахвоча была
І шматчонку дала.

Як пашла каляда
Удоль па вуліцы гуляць,
Удоль па вуліцы гуляць
Да абрады сабіраць.
Як прышла каляда
Да багатага двара,
Да Сяргеевага.

А Сяргеева жана
Дабрахвоча была,
Дабрахвоча была
І чулчонкі дала.

Як пашла каляда
Удоль па вуліцы гуляць,
Удоль па вуліцы гуляць
Да абрады сабіраць.
Як прышла каляда
Да багатага двара,
Да Дарахвеевага.
Дарахвеева жана
Дабрахвоча была,
Дабрахвоча была
І аборкі дала.

Як пашла каляда
Удоль па вуліцы гуляць,
Удоль па вуліцы гуляць
Да абрады сабіраць.
Як прышла каляда
Да багатага двара,
Да Сцяпанавага.
А Сцяпанава жана
Дабрахвоча была,
Дабрахвоча была
І лапцёнкі дала!

## 196. ІШЛА КАЛЯДА ДА ПА ВУЛІЦЫ

Ішла каляда да па вуліцы,

Каляда, каляда! [1]

Да па вуліцы, па мяцеліцы.
Прышла каляда на цясовы двор:
— А ці спіш, ці ляжыш, пан хазяін?
Калі ж ты спіш, то спі здароў,
А калі не спіш — адчыні вакно,
Адчыні вакно, паглядзі на двор.

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

На тваём двары да што дзеецца:
Стаіць цяром вышэй харом,
А ў тым цераму да чатыры вакны.
У першым вакне — ясны месяц,
У другім вакне — красна сонца,
У трэцім вакне — дробны звёзды,
А ў чацвёртым — буён вецер.
Ясны месяц — сам хазяін,
Красна сонца — жана яго,
Дробны звёздачкі — яго дзетушкі,
Буён вецер — яго служанькі.

## 197. ІШЛА КАЛЯДА

Ішла каляда,
Коляда! [1]
З вечара.
Пыталася,
Ці багаты двор,
Ці дома хазяін.
— Калі дома,
Выйдзі на двор
Ды й паглядзі,
Што дзецца,
Паводзіцца.
Сам бог ходзіць,
Церамы ставіць.
Як паставіў
Тры новыя,
Цясовыя,
Адзін цяром —
Ясён месяц,
Другі цяром —
Ясна зара,
Трэці цяром —
Дробны звёзды —
Ясён месяц —
Сам гаспадар,
Ясна зара —
Яго жана,

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Дробны звёзды —
Яго дзеткі
Маленькія,
Драбненькія.

## 198. ПРЫШЛА КАЛЯДА

Прышла каляда,
Каляда, каляда.[1]

Вінаградная, красная, зялёная.
Мы хадзілі, гулялі, калядоўшчыкі,
Прыхадзілі, прыгулялі
К гаспадарскаму двару.
Гаспадарскі двор
На сямі стаўбах (вярстах),
На васьмі стаўбах,
Стаўбы тачоныя,
Пазалачоныя.
А на самым двары
Стаяць тры церамы:
Як у першым цераму —
Цёпла сонейка,
У другім цераму —
Свецел месяц,
А ў трэцім цераму —
Часты звёздушкі.
Цёпла сонейка —
Гаспадынюшка ў доме,
Свецел месяц —
То гаспадар сам,
Часты звёздушкі —
Малы дзетушкі.
Як паехаў наш гаспадар
У Ноўгарад,
Закупіў наш гаспадар
Падаруначкаў:
Маладой гаспадынечцы —
Кунню шубачку,
А сынкам —
Па сапожнічкам,

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

А дачушкам —
Па сярмяжнічкам.
Гаспадарушка,
Наш бацюшка!
Падаруй гасцей,
Калядоўшчыкаў.
З клеці рэшатам,
З печкі пірагом.
Падай каўбасу,
Я ў зубах панясу.

## 199. ПРЫШЛА КАЛЯДА НАПЯРОД РАЖСТВА

Прышла каляда
Напярод ражства,
Упярод празнічка.
Ай, хадзіла-гуляла каляда
Па багатаму па двару,
Па зялёнаму па саду.
Багаты двор
На сямі вярстах,
На васьмі стаўбах.
Стаўбы точаныя,
Пазалочаныя.
Сярод тых стаўбоў
Тры церамы стаяць:
У першым цераму —
Свецел месяц,
У другім цераму —
Ясна соўнушка,
А ў трэцім цераму —
Частыя звёздачкі.
Свецел месяц —
Хазяін у даму,
Ясна сонца — хазяюшка,
А часты звёздачкі —
Малы дзетушкі.
Хазяіна дома нетуці,
Ён у горад з'ехаўшы,
Рады ра́дзіць,
Суды судзіць.
Ён ад рады бярэць
Па сотні рублёў,

Ад суда бярэць
Па тысячы.
Ездзіць хазяін
Па сіняму мору.
Махнуў вяслом
Правай рукі —
Зваліў з мал мізінца
Залатое кальцо.
Закінуў сеткі
У сіняе мора,
Хацеў паймаць
Залатое кальцо.
Не паймаў кальца,
Паймаў тры акуні
Златапёрыя:
Адзін акунь —
Цана сто рублёў,
А другі акунь —
Больш тысячы,
А трэцяму акуню —
Цаны нетуці.

## 200. ДЫ ХАДЗІЛІ, ГУЛЯЛІ КАЛЯДОУШЧЫКІ

Ды хадзілі, гулялі калядоўшчыкі,

Каляда, каляда! [1]
Ды сачылі, пыталі багатага двара.
Багаты двор — Пятра дом.
Каля яго двара ўсё шаўковая трава,
Усё шаўковая трава, усё жалезны тын,
Стаўбы тачоныя, пазалачоныя, вароціткі сярэбраныя,
Падваротніцы — рыб'і костачкі, зашчэпачкі медзяныя.
На яго двары ды чатыры церамы стаяць:
У першым цераму — ясен месяц,
Другі церам — ясна зара,
Трэці церам — дробны звёздачкі,
Чацвёрты церам — буён вецер.
Ясен месяц — сам гаспадар,
Ясна зара — яго жана,
Дробны звёздачкі — яго дачушкі,

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Буён вецер — яго сыны.
Самаго гаспадара дома няма,
Паехаў ён у Сібір-горад.
Паехаў ён суды судзіць і рады радзіць.
Накупляў ён гасцінчыкаў:
Жане купіў кунню шубу, баброў каўнер,
Каля вората ўсё золата, падолля ўсё саболля.
Дачушкам купіў па вяночку па пярловаму,
Па платочку шаўковаму.
Сынам купіў па коніку па вараненькаму,
Па ўзды купіў па залатой.
Сабе купіў залот персцень,
На праву ручку, на мізены палец.
Самаго гаспадара дома няма.
Паехаў у Тын-горад рыбку лавіць краснакрылышку.
Трахнуў-махнуў правай рукой,
Зраніў, званіў залот персцень
З правай рукі, з мізенага пальца.
Яго жана дасужа была:
Закінула тры невады, тры шаўковых.
Не ўлавіла ж яна залот персцень,
Улавіла яна трох акунёў златапёранькіх,
Златапёранькіх, златакрыленькіх.
Павязла ж яна іх на торг таргаваці,
Торг таргаваці, акунёў прадаваці:
За адзін акунь — па сто рублёў,
За другі акунь — па тысячы,
Трэцяму акуню — цаны няма.
Яго цана ў гаспадара на масце,
У гаспадара на масце, у Пятра на стале,
На століку на дубовенькім,
На скацерці на шаўковенькай,
На талерачцы на фарфоравенькай.
Ён пакачываецца, паварачываецца,
Залатой казной ён пабразгіваецца.
— Ты, Пётрачка, сам гаспадар,
Жана твая — гаспадыня,
Дарыце гасцей, не байце басцей.
Гэты госці не частыя, у гадочак толькі разочак.

*(Калі гаспадар не выходзіць яму пяюць):*

Не хочыш дарыць, пойдзем з намі
Снягі таптаць, сабак дражніць, людзей смяшыць.

## 201. ІШЛІ-ПАШЛІ КАЛЯДОЎШЧЫКІ

Ішлі-пашлі калядоўшчыкі,
Каляда, каляда! [1]

Калядуючы, гуляючы,
Багатага дома шукаючы,
Слаўнага пана Івана.
— Слаўны пане Іване!
Ці спіш, ляжыш,
Ці адпачываеш?
Ці ў пярыне ў пуховай,
Ці ў кравацi ў цясовай,
Ці з жаною маладою,
Ці з дзеткамі маленькімі?
Калі спіш — бог з табою,
Калі не спіш — моў са мною.
Устань рана, умыйся бела,
Адчыні ваконца на ўсход сонца,
Глянь на свой двор.
У тваём дварку, як у вянку,
Увесь тынам тынін,
Тынам тынін, усё жалезным,
Вароцікі ўсё залатыя.
Вервічкі усё медзяныя,
Замочкі нутраныя,
Падваротніца — рыб'я костачка,
Іване слаўны пане!
У тваём дварку, як у вянку,
Пяць церамоў з прыцяромкамі.
У адным церамку — ясен месяц,
У другім церамку — ясна соўнушка,
У трэцім цераму — буйны вятры,
У чацвёртым цераму — дробны звёзды
Да ў пятым цераму — ясны зоры.
Ясен месяц — сам Іванька,
Ясна сонца — яго жонка,
Буйны вятры — яго сыны,
Дробны звёзды — яго цуркі,
Ясны зоры — яго нявесткі.
Івана жана разумная,
Адказала, адмовіла:

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

— Івана самога дома нетуці,
Дома нетуці, у дарозе,
Паехаў ён у Сібір-горад
Суды судзіць, раду радзіць.
За суд бярэць сто рублёў,
А за раду — дзве тысячы.
Ён шле дамоў гасцінчыкі:
Маладой жане — кунню шубу,
Кунню шубу да долу,
Баброў каўнер да пояса.
Сваім сынам — па конічку
па вараненькаму,
Па сядзельцу па залатому,
А цуркам—па венчыку па пярловаму,
Нявесткам — па чэпчыку па бяляваму.
Іван, слаўны пан,
Павярнуў сам дамоў
Чэраз мора, чэраз сіня,
Шагнуў, махнуў на коніка
Правай ручкай, рамяной плёткай,
Ураніў залаты персцень
З правай рукі, з мезянога пальца.
Прыехаў сам дамоў.
Расказаў маладой жане
Усе прылукі, усе прычыны.
Івана жана разумная,
Як узяла шоўкаў невад,
Закінула чэраз мора, чэраз сіня,
Не ўлавіла залатога перстня,
Ды ўлавіла трох акунёў
Ды павязла на таржок.
Разным торгам таргавала,
Трох акунёў прадавала:
За аднаго — сто рублёў,
За другога — дзве тысячы,
А трэцяму — цаны няма.
Яму цана — гасудар-Масква.
У Івана на століку,
На талерачцы яго жана паварачываецъ,
Залатой казной патрахіваецъ.

Іване, слаўны пане!
Ці ўслых табе наша песня?

Калі ў слых — дары гасцей,
Дары гасцей, не баў, бардзей.
Мы госці нечастыя.
Калядныя, угодныя.
Нашы дары невялікія,
Яны ў дзверы не палезуць,
Праз вакошка падайце.
Па полю ветры веюць,
Калядоўшчыкам ногі млеюць,
Іване, слаўны пане!
Масці кладку, прасі гасцей у хатку.

## 202. ДЗЕ ХАДЗІЛІ, ГУЛЯЛІ КАЛЯДОЎШЧЫКІ

Дзе хадзілі, гулялі калядоўшчыкі,
Каляда, каляда! [1]

Пыталіся ды багатага двара.
Багаты двор, жалезны тын булаўчасты,
Вароцікі цясовыя,
Падваротнічка — рыб'я костачка,
Зашчэпачкі залатыя.
Каля таго тыну ўсё травушка-муравушка,
На той траўцы ўсё цвяточкі,
На цвяточках па пташачцы,
Усё пташачкі, усё дробныя,
Пяюць песні ўсё розныя,
Пяюць песні ўгалосныя, раштоўскія.
Яны пяюць, паўшчабётываюць,
Маладога (Іваньку) пабуджываюць:
— Ці спіш, ляжыш (з маладой жаной),
З маладой жаной, з сваімі дзеткамі?
Калі спіш, ляжыш — спі здароў,
Не спіш, не ляжыш — моў са мной.
Адчыні вакно, паглядзі ў вакно,
Што на тваім двары дзеецца:
На тваім двары сам бог ходзіць,
Сам бог ходзіць, церамы строіць.
Адзін цяром — красны верх на ём,
Другі цяром — сіні верх на ём,
Трэці цяром — жоўты верх на ём.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

У адным цераме — ясён месяц,
красна сонца,
У другім цераме — буйны ветры,
Буйны ветры, ясны зоры,
У трэцім цераме — дробны звёзды.
Ясён месяц — сам хазяін,
Красна сонца — жана яго,
Буйны ветры — сынкі яго,
Дробны звёзды — дачушкі яго,
Ясны зоры — нявестачкі,
А цёмна ночка — сям'я яго.
— Ці спіш, ляжыш сам хазяін?
Калі спіш, ляжыш — спі здароў.
Адклікнулася маладая жана.
— Гаспадара дома нетуці,
Ён паехаў у сталён-горад,
Сталён-горад суды судзіць.
За суд бярэ па сто рублёў,
За перасуд — па дзве тысячы.
Яго там цар пажалаваў,
Золат персцень падараваў,
Золат персцень на правую ручку,
На мязіны палец.
Жане яго — кунню шубу,
Куння шуба па пятушкі,
А баброў каўнер па плечушкі.
Сынкам яго — па коніку,
Па коніку па вараным,
Па сядзельцу па залаценькім.
Нявестачкам — па чэпчыку,
Па чэпчыку па шаўковаму.
Дачушкам — па венчыку,
Па венчыку па пярловаму.
Задумаў ён дамоў ехаць.
Уз'ехаў ён на сіне мора,
Яго конік утупіўся,
Утупіўся, упудзіўся,
А ён махнуў правай рукой,
Правай рукой, шаўковай хустай,
Ды зваліўся золат персцень
З правай ручкі, з мязінага пальца,
Утануў жа ў сіне мора.
Яго жана разумная была,

Завідзела з высока церама,
Нанімала трох малойцаў.
— Вы, малойцы маладыя,
Вашы невады шаўкавыя,
Ды паймайце золат персцень.
Не паймалі золат персцень,
Ды паймалі тры рыбанькі,
Тры рыбанькі, тры акунёчкі.
Адзін акунь — на сто рублёў,
Другі акунь — на тысячы,
Трэцяму акуню — цаны нетуці,
Яго цана ва Іванюткі,
Ва Іванюткі на століку,
На століку на цясовым,
На скацерці на бялёвай,
На талерачцы, на блюдачку.

А ты бардзей, не баў гасцей.
Твае дары невялікія,
У дзверы не лезуць,
А ў вакно — як шыюць.
Ад яго коні — бочка солі,
Ад кароўкі — чвёртка палоўкі,
Ад авечкі — чвёртка грэчкі,
Ад яго кошкі — гарох у лукошкі,
Ад яго свінкі — пуд саланінкі,
Ад сабакі — нюх табакі.
Пачынальнічку — чарку гарэлкі
І каўбасу на талерцы.
Падхватнічку — чацвярык аўса
І наверх каўбаса.
Механошу — капу грошай.
Дудару — чырвон злоты.

## 203. ДЗЕ ХАДЗІЛІ, ДЗЕ ГУЛЯЛІ КАЛЯДОЎШЧЫКІ

Дзе хадзілі, дзе гулялі калядоўшчыкі,
Коляда![1]

Пыталіся, дзе багаты двор,
Дзе багаты двор, дзе жалезны тын,

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Вароцечкі дубовыя,
Падварошнічкі — рыб'і костачкі.
— Ты, хазяін, ці ёсць дома?
Адтварыся, адчыніся,
Запалі свечку, вынь кішэчку,
Бутылку з бажніцы, кілбасу з паліцы,
Ты, хазяін, не скупіся,
А з калядою расплаціся.

## 204. ДЗЕ ХАДЗІЛІ, ДЗЕ ГУЛЯЛІ КАЛЯДОЎШЧАЧКІ

Дзе хадзілі, дзе гулялі калядоўшчачкі,
Коліда, коліда! [1]
Прышлі ж яны к Віцюткі на двор.
К Віцюткі на двор, пад акошачка.
— Ці спіш, ляжыш, Віцютка-пан?
Калі спіш, ляжыш, дык і спі здароў,
А не спіш, не ляжыш—падыйдзі пад акно.
А што ж на тваім двары дзеецца,
Што дзеецца, што паводзіцца:
Стаіць цяром вышэй усіх харом,
А ў тым цяроме да чатыры ўглы.
Чатыры ўглы, чатыры акны,
Вярэечкі тачоныя,
А закрутачкі пазлачоныя.
У адным акне — ясён месяц,
У другім акне — ясна зара,
У трэцім акне — дробныя звёзды,
А ў чацвёртым акне — цёмная ночка.
Ясён месяц — Віцютка-пан,
Ясна зара — яго жана,
Дробны звёзды — яго дзеткі,
Цёмная ночка — яго сям'я.

## 205. ХАДЗІЛІ ДЫ ГУЛЯЛІ КАЛЯДОЎШЧЫКІ

Хадзілі ды гулялі калядоўшчыкі,
Каляда, каляда! [1]

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Багаты двор, жалезны тын,
Жалезны тын, медзяныя варотцы,
Зашчэпачка точаная, пазалочаная.
Як стук-пастук пад вакошачка Івану:
— Ці спіш, ці ляжыш, пане Іване?
Калі ж ты спіш, дык спі здароў,
А не спіш жа — паглядзі ў вакно,
Што на тваім двары дзеецца?
Стаіць цяром вышэй харом,
Ды ў тым цераме тры вакошачкі,
Тры вакошачкі сцекляныя.
У першым вакне — ясны месяц,
У другім вакне — ясна сонца,
У трэцім вакне — дробны звёзды.
Ясен месяц — пан Іван.
Краснае сонца — яго жана.
Дробны звёзды — яго дзеткі.
Іванічка дома нету,
Паехаў ён у Сібір-горад.
У Сібір-горадзе суды судзіць,
Суды судзіць, перасужываець.
Ад суду бярэць па сто рублёў,
Ад прысуду — па тысячы.
Прыехаў ён у Сібір-горад,
Пакупляў жа ён гасцінчыкі.
Купіў сабе залаты персцень,
Золат персцень на праву руку,
На праву руку, на мезен пальчык.
А жане купіў кунню шубу,
Кунню шубу, бяброў каўнер,
Кунню шубу па пятухны,
Баброў каўнер па плечыхны.
А сыночкам — па коніку,
Па коніку вараненькаму.
А дачушкам—па венчыку па пярловаму,
А нявесткам па чэпчыку па шаўковаму.
Прыехаў ён к сіняму мору.
Для сіняга мора няма параезду,
Няма параезду, няма пераходу.
Шагнуў, махнуў правай ручкай,
Зраніў ён золат персцень.
— Рыбалоўшчыкі мае мілыя,
Закіньце шоўкаў невад,

Паймайце ж мой золат персцень.
Закінулі яны шоўкаў невад,
Не злавілі яны золат персцень,
Ды паймалі яны тры рыбінкі,
Тры рыбінкі, тры акунёчкі.
Адзін акунь — па сто рублёў,
Другі акунь — па тысячы,
Трэцяму акуню — цаны няма.
Яму цана на талерачцы,
На талерачцы, на блюдачку.

— А ну, барджэй, не баў гасцей.
Механошу — копу грошы,
Падхватнічкам — чарка гарэлкі,
Чарка гарэлкі, кілбаса на тарэлкі.
Пачынальнічку — чырвон злоты
Ад кошачкі — сала трошачкі,
Ад кароўкі — чвэрць палоўкі,
Ад коніка — бочка солі,
Ад авечкі — рэшата грэчкі,
Ад свінкі — шрот саланінкі.

## 206. ІШЛІ Ж, ПАЙШЛІ КАЛЯДОЎШЧЫКІ

Ішлі ж, пайшлі калядоўшчыкі,
Коляда! [1]

Дарогаю шырокаю.
Узышлі ж яны на багаты двор.
Двор багаты, тын жалезны,
А вароцікі цесавыя,
Падваротнічкі — рыб'і костачкі,
А замочкі залатыя,
А ключычкі пазлачоныя.
— Ці спіш, ляжыш, сам гаспадар,
Глянь у ваконца на ўсход сонца,
Што дзеецца-паводзіцца на вуліцы.
Масці кладку, заві ў хатку.
Яго жана атвячала:
— Майго мужа дома нету,
Ён паехаў у Піцер-горад,

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

У Піцер-горад суды судзіць,
Суды судзіць, перасуджваець.
А прыехаў да з паўночы,
Закупіўшы гасцінчыкаў.
Жане купіў кунню шубу,
А дачушкам — па венчыку,
Па венчыку па пярловенькім,
А сыночкам — па коніку,
Па коніку вараненькім,
Па сядзельцу пазлаценькім.

## 207. НЕ КУР, НЕ ВЕЙ, МЯЦЕЛІЦА

Не кур, не вей, мяцеліца,
Каляда! [1]

Не завявай дарожанькі.
Ды там пойдуць калядоўнічкі,
Калядоўнічкі-валоўнічкі.
І падходзяць к таму дому,
К таму дому багатаму,
Да і стануць пад аконца,
Пад аконца на ўсход сонца.
Крыкнем-гойкнем, папытаем,
Ці ёсць дома сам хазяін?
— Хазяіна дома нету,
Ён паехаў у Піцер-горад
Суды судзіць, перасуджваць.
Да й суд стоіць да й сто рублей,
А й за раду — да й тысячу.

## 208. НЕ ВЕЙ, НЕ ВЕЙ, МЯЦЕЛІЦА

Не вей, не вей, мяцеліца,
Каляда, каляда! [1]

Не завявай дарожанькі,
А там пойдуць калядоўшчыкі
Да зайдуцца на багаты двор,
Багаты двор, зялезны тын.

---
[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Вароціткі цясовыя,
Падваротнічка — рыб'я костачка.
— Ці спіш, ляжыш, пан хазяін?
Калі спіш жа, бог з табою,
А не спіш жа, устань рана,
Устань рана, умыйся бела,
Умыйся бела, прычашыся.
— Хазяіна дома нету.
Ён паехаў у казён горад,
У казён горад суды судзіць,
Суды судзіць, правы правіць.
Да й купіў жа гасцінчыка —
Сваім дачушкам па венчыку,
А сыночкам па шапачцы,
Маладой жане залатой персцень.
Да як ехаў цераз рэчку,
Шахнуў-махнуў правай ручкай,
Зраніў-зваліў залаты персцень.
— Рыбалоўнічкі-палоўнічкі,
Ды закіньце шаўкоў невад,
Да й ўлавіце залаты персцень.
Рыбалоўнічкі-палоўнічкі
Закінулі шаўкоў невад,
Не ўлавілі залаты персцень,
Да ўлавілі тры рыбінкі,
Тры рыбінкі-акунёчкі.
Ды панеслі ў святліцу,
У святліцу, камяніцу.
Сталі яны цанаваці,
Цану-меру накладаці.
Адзін акунь — да й сто рублей,
Другі акунь — да й тысячу,
А трэццяму — цаны няма.

## 209. МЫ ХАДЗІЛІ, МЫ ГУЛЯЛІ, КАЛЯДОУШЧЫКІ

Мы хадзілі, мы гулялі, калядоўшчыкі,
Каляда, каляда! [1]

Мы хадзілі да пыталіся
Да багатага двара Іванькінага.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

А багаты двор на сямі стаўбах,
А адсюль стаіць у дзевяці вярстах.
Стаўбы точаныя, пазалочаныя,
А вароцікі медзяныя,
А зашчэпачкі алавяныя.
А ў тым даму сам хазяін-гаспадар,
А хазяюшка — красна барынька!
Самаго ж хазяіна дома нетуці,
Ён паехаў суды судзіць,
Суды судзіць, рады радзіць.
Ад суда ён бярэць па сто рублёў,
Ад рады — дабра аж па тысячы.
На чужой старане сабраў многа дабра,
Звараціўся ж ён да свайго двара.
А купіў жа ён тры невады,
Тры невады, тры шаўковенькіх,
Аблажыў жа ён сіне морушка.
Ой, цяні, пацяні, дзень да вечара,
А паймаў жа ён трох акунёў.
Адзін акунь — ва сто рублёў,
А другі акунь — ва цэлу тысячу,
А як трэцяму — цаны нетуці!
А ягоная цана ў хазяіна ляжыць,
У хазяюшкі на стале, на блюдзечку.

Добр хазяін наш, багаты Іванька!
Прынімай гасцей за песеньку,
Ну ж, хазяін, паскарэй
Падары сваіх гасцей!
А не хочаш ты дарыць,
Ідзі сабак з намі дражніць,
Барадой людзей смяшыць.

## 210. А ЧАЛОМ, ЧАЛОМ ПАД АКЕНЕЧКАМ!

А чалом, чалом пад акенечкам!

Святы вечар, пад акенечкам.[1]

А ці дома, дома сам пан гаспадар,
А няма ў доме, сядзіць пры двары.

[1] Прыпеў «Святы вечар» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Ён усё сядзіць да суды судзіць,
Усё суды судзіць, перасудзячы.
Ад суда бярэ па залатому,
Ад перасуддзя — па дзесятнічку.

## 211. ЦІ ЁСЦЬ ПАН ГАСПАДАР ДОМА?

Ці ёсць пан гаспадар дома?
Каляда! [1]

Ці ён у дарожцы ў часовай?
Туды ехаў сінім морам,
Адтуль ехаў лесам-борам,
Ды прыехаў ён дадому,
Ды прывёз ён і гасцінца.
А сыночкам — па канёчку,
А служачкам — па хустачцы.

— Уставай, пан гаспадар,
Суха трыся,
Бела ўмыйся,
Боцікі казловыя,
Шапачку пуховую.
Уставай,
Сцялі кладку,
Сцялі кладку,
Пусці ў хатку.
Ручкі млеюць,
Ножкі мерзнуць.
Бутылка з бажніцы,
Пірог з паліцы,
Кілбаска з печы,
Кішка з клеці.

## 212. ІШЛІ-ПАЙШЛІ КАЛЯДОУШЧЫКІ

Ішлі-пайшлі калядоўшчыкі,
Каляда! [1]

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Дарогаю шырокаю
І вуліцай мяцёнаю.
Да прыйшлі ж яны на багаты двор,
Багаты двор, жалезны тын,
Пад акошка крышталовая.
— Ці спіш, ляжыш, сам гаспадар,
Калі не спіш, устань рана,
Устань рана, ідзі ў стайню,
Вазьмі каня, што найлучшага,
Да едзь жа ты к сіняму мору,
Да й закіньце шалкоў невад,
Да ўлавіце золат персцень.
Не ўлавілі золат персцень,
Да ўлавілі тры рыбінкі,
Тры рыбінкі-краснакрылачкі.
Да прынёс жа ён да хаткі,
Палажыў жа на століку,
Сам жа сеў ён за столік
Тым рыбінкам цану даваць.
Адна рыбінка — да тры тысячы,
А другая — цаны нету,
А трэцяя — малой дачцэ.
Тры тысячы — мне самому,
Цаны нету — жане маёй,
Малой дачцэ — да пасагу.

## 213. ІШЛІ Ж, ПАЙШЛІ КАЛЯДОУШЧЫКІ

Ішлі ж, пайшлі калядоўшчыкі, коляда.[1]
Ішлі яны дарогаю[2],
Дарогаю шырокаю.
Узышлі ж яны на багаты двор,
Двор багаты, двор мяцёны,
Падыйшлі ж яны пад акошачка.
— Зашчэпачкі, адшчапіцеся,
Завесачкі, адчыніцеся.
Сам гаспадар ці ёсць дома,
Калі спіш, дык прачніся,
Устань рана, мыйся бела,

[1] Прыпеў паўтараецца ў канцы кожнага радка.
[2] Кожны радок паўтараецца двойчы.

Мыйся бела, трыся суха,
Палі свечку, бяры ўздэчку,
Ідзі ў стайню, братай каня
Маладога, варанога
Да й паедзем у чыста поле,
У чыста поле зайцаў страляць.
Настрэліў зайцаў сабе на шубу.
Ножкай цісне, парася пісне,
Ручкай махне, сабачка брахне,
Галоўкай махне, цяля раўне.

## 214. ОЙ, ДЗЕ Ж МЫ ХОДЗІМ, ДЗЕ ПАХАДЖУЕМ

Ой, дзе ж мы ходзім,
Дзе пахаджуем?
Святы вечар! [1]

Мы на гэты двор
Да й захаджуем.

На гэтым двары
Агні гарэлі.

Агні гарэлі,
Свечы палалі.

Свечы палалі,
Сталы стаялі.

За тымі сталамі
Суддзя сядзела.

Суддзя сядзела,
Суды судзіла.

Ой, каго ж няма
Да судоў судзіць?

А няма, няма,
Да святога Іллі.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожных двух радкоў.

Святога Іллі
Судоў судзіці.

Ой, каго ж паслаць
Да Іллю шукаць?

Паслаць святога Пятра
Да Іллю шукаць.

Ішоў святы Пятро
Да Іллю не знайшоў.

Пятро ў вароты —
А Ілля ў другія.

— Дзе ж ты быў, Ілля,
Дзе пахаджываў?

— Я па полю пахадзіў,
Жыта парадзіў.

Жыта, пшаніцу,
Усякаю пашніцу.

Па кашарах пахадзіў,
Скот парадзіў.

Што ў тых кашарах
Валы да каровы.

Валы да каровы
Вараныя коні.

У полі ядро,
У доме сцябло.

У доме сцябло,
На кашарах пладно.

Мы ж цябе, пан Іван,
Не зневажаем.

А з святым васіллем
Праздраўляем.

Бывай жа здароў
І з сваёй жаной.

І з усёй сям'ёй,
І з дзетачкамі.

А за нашы прыпеўкі —
Гарнець гарэлкі.
А за нашы прыка́зкі —
Кілбас тры вязкі!

## 215. ПАНЕ ДЯДЗЬКУ ГАСПАДАРУ

Пане дзядзьку
Гаспадару,
Святы вечар! [1]

Я твайго двара
Не мінаю.

А чы ты спіш,
Чы так ляжыш?

Калі ты спіш,
Гасподзь з табою.

Калі так ляжыш,
Прачыні акно.

Прачыні акно,
Што б відно было.

Прачыняй сені,
Штоб пчолкі селі.

Прачыняй дзверы,
Штоб села двое.

Насцілай сталы
Цесавыя.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Налівай кубкі
Залатыя.

Ясен месячык
Па небу хадзіў,

Па небу хадзіў
Да зоркі лічыў.

— Ох, зоркі, зоркі,
Хадзема за мною,

Хадзема за мною
Бога шукаці.

Да знайшлі бога
У слаўнага пана,

У слаўнага пана
Пана Грыгора.

Сам гасподзь сядзіць
Да на покуці.

А Пятро з Паўлам
Па застоллейку.

А каляднічкі
Па заслоннейку.

Аглядзеліся,
Што няма,

Што няма
Святога Ілля.

Каго паслаць
Іллю шукаць?

Трэба паслаць
Святога Пятра,

Святога Пятра
Іллю шукаць.

Ох, выйшаў Пятро
За вароцечка,

Аж ідзе Ілля
І з бору дадому.

— Ох, Ілля, Ілля,
Дзе ты хадзіў,

Зарасіўшыся,
Замачыўшыся?

— Я па полю хадзіў,
Пашаньку радзіў.

Што ступлю ступою,
Стаяць снапкі капою.

Як перайду гоні,
То стаяць стогі.

Кладзеце стожкі
На чатыры рожкі.

А пятага
На піріжкі.

— Ох, Ілля, Ілля!
Дзе ты хадзіў,

Зарасіўшыся,
Замачыўшыся?

— Па бару хадзіў
Да пчолкі радзіў.

На адной хвоі
Па пчолак двоі.

Ох, на хвоінцы
Да па троінцы.

Ох, на вяліцы
Да па пятніцы.

Дай, божа, за рок даждаці,
Новага року дачакаці
Да яшчэ закалядаваці.

## 216. АКОЛА ДВОРА ЗЯЛЕЗНЫ ТЫН

Акола двора зялезны тын,
Зялезны тын, медзяныя вароты,
Падваротнічкі — з рыб'яй костачкі.
А сярод двара стаіць столічак,
А ў тым столічку да тры празнічкі:
Адзін празнічак — святога Юр'я,
Другі празнічак — святога Міколы,
Трэці празнічак — святога Іллі.
Святы Ілля ў полі арэць,
Святы Юр'я яр засяваець,
Яр засяваець да белы гарох,
Белы гарох і ячмень-шасцярын,
Ячмень-шасцярын, авёс-барадач,
Авёс-барадач, грачуху чарну,
Грачуху чарну, сачыўку драбну.
Пашоў гаспадар у поле глядзець,
А сустрэч яму сам Ілля ідзець,
Сам Ілля ідзець, урасіўшыся,
Урасіўшыся, умачыўшыся.
— Гдзе Ілля была? — За гарой была,
За гарой была, снапы лічыла.
Гдзе была гара — там жытца капа,
А гдзе быў лажок — там сенца стажок.

## 217. А Ў НАШАГА ПАНА ГАСПАДАРА

А ў нашага пана гаспадара
Стаіць світэлка
Пасярод двара,
А ў той світэлцы
Усе святыя,
Адно няма святога Іллі.
Ой, пайшоў у поле
Жыта радзіці,

Жыты, пшаніцы,
Усякай пашніцы.
Што з каласочка —
То жыта бочка,
Што з каласіцы —
Бочка пшаніцы,
Што з каласеню —
Бочка ячменю,
Што валаточка —
То аўса бочка.

Табе, пане, шчадрэц,
А нам каўбасы канец.
Прыстаў страмінку
Да лезь па саланінку,
Мала, невялічка,
Адрэж па сама лычка.

## 218. ІШЛІ ХЛОПЦЫ, УДАЛЫЯ МАЛОЙЦЫ!

Ішлі хлопцы, удалыя малойцы,
Ішлі ж яны гукаючы,
Багатага двора пытаючы,
Багатага двора да чэснага пана.
— Ці спіш, ляжыш, пане гаспадару?
Калі не спіш, адзавіся,
Адзавіся, бела ўмыйся,
Бела ўмыйся, гладка прычашыся,
У казловыя боты да ўсё прыбярыся.
Потым таго, пане гаспадару,
Глянь у аконца, глянь у другое.
На тваім дварышчы сіні туманішча,
Сіні туманішча — зялёнае жыта.
Потым таго, пане гаспадару,
Рабі сярпы сталёвыя,
Сталёвыя да ўсё вострыя.
Твае жнейкі да ўсё маладыя
Разок махнуць — снапок нажнуць,
Другі махнуць — капу нажнуць.
Потым таго, пане гаспадару,
Твая жонка бардзо гжэчна
Дась нам гарэлкі

І сыр на талерку,
Сорак яек на паўміску.
Тыя яйкі мы палічым,
Тваю жонку павялічым.

## 219. А У НЯДЗЕЛЮ РАНЮСЕНЬКА

А ў нядзелю ранюсенька
Ішлі хлопцы, удалыя малойцы,
Ішлі ж яны гукаючы,
Багатага двору пытаючы,
Багатага двору, да чэснага пана.
А ў нашага пана зялезны тын,
Зялезны тын, медзяныя вароты,
Падваротнічкі — з рыб'яй костачкі.
— Пане гаспадару, адчыні аконца,
Адчыні аконца, глянь у роўна польца.
Панскае поле зрана туманіста,
Зрана туманіста, жыта каласіста.
Запрагайце коні да ўсё вараныя,
Пасаджайце жнейкі да ўсё маладыя.
Да паедзем у поле жыта зажынаці,
Як раз разнём — капу нажнём,

Другі разнём — сто коп нажнём.
А ў нашага пана сталы засціланы,
Сталы засціланы, кубкі наліваны.
У адным кубку — то віно зеляно,
У другім кубку — яравое піва,
У трэцім кубку — то мядок саладок.
Зеляное віно — для самога пана,
Яравое піва — для жаны яго,
То мядок саладок — для дзетак яго.
— Ці й слых табе, пане гаспадару?
Калі й слых, даруй гасцей,
Не баў, бардзей!
Чырвень злоты — нам на боты,
Саракоўку — на падкоўку,
Гарнец водкі — для паходкі.

Ото ж табе, пане гаспадару,
Песня спета напроць лета.

Той рок правадзіці,
Другога дачакаці
У радасці, весялосці.
Каб багат быў,
Да нас не забыў.

## 220. ХАДЗІЛА-БЛУДЗІЛА СЕМСОТ МАЛАЙЦОЎ

Хадзіла-блудзіла семсот малайцоў,
Святы вечар.[1]
Семсот малайцоў да й каляднічкаў.
Прыблудзіліся к новаму двару,
К новаму двару, [redacted] пану Івану.
— Ох, пазволь, пане, поле змераці,
Поле змераці, стада зганіці,
Стада зганіці на калінаў мост.
А калінаў мост да й уламіўся,
Вараное стада да й затанула.
Ох, не жаль жа мне варанога стада,
Толькі жаль жа мне сіўца-варанца,
Сіўца-варанца, белага капытца.
Ён капыцечкам зямліцу сячэ,
Ён хвасцічачкам слядкі замяце,
А грывенкаю ўсё поле ўкрые,
А вушыцамі ўсю роду шчуе,
А вочыцамі ўсё войска згляне.
Ўсё войска згляне, свайго пана знае,
Свайго пана знае, з войска выбаўляе.

## 221. ХАДЗІЛІ-БЛУДЗІЛІ

Хадзілі-блудзілі
Семсот малайцоў,
Святы вечар.[2]

Семсот малайцоў
Да й каляднічкаў.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Прыблудзіліся
К новаму двару.

К новаму двару,
К пану Івану.

— Ой, пазволь, пане,
Поле змераці.

Поле змераці,
Стада згоняці.

Поле змераці
На шыр шырокі.

Стада згоняці —
На глыб глыбокі.

Мы ж твайго двара
Не мінаема.

З святым раждзяством
Велічаема.

У тваёй хаце
Усё сталы стаяць.

Усё сталы стаяць
Пазасціланы.

А кубкі стаяць
Паналіваны.

## 222. ХАДЗІЛА-БЛУДЗІЛА СЕМСОТ МАЛАЙЦОЎ

Хадзіла-блудзіла семсот малайцоў,
Святы вечар! [1]
Семсот малайцоў, сем гарных хлапцоў.
Да прыблудзілі к цёмнаму лесу,
К цёмнаму лесу, к новаму двару,

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

К новаму двару, к слаўнаму пану,
К слаўнаму пану, пану гаспадару.
— Ой, устань, не спі, слаўненькі пане,
Зажыгай свечкі ды бяры ў ручкі.
Выйдзі, паслухай, што ў небе гудзе,
Што ў небе гудзе — прачыстая йдзе.
Прачыстая йдзе жыта радзіці,
Жыта радзіці, стадку пладзіці.

## 223. ДЗЕ МЫ ХАДЗІЛІ

Дзе мы хадзілі,
Дзе мы бывалі. [1]

Шумела ёлка,
Ёлка зялёна. [2]

Такога дзіва
Мы не відалі,

Як у нашага
Слаўнага пана.

Плоты-вароты
Пазачыняны.

Шаўкоў паўрозы
Пазавярзаны.

Дзесь ўзяліся
Нашыя брацця.

Плоты-вароты
Паадчынялі.

Шаўкоў паўрозы
Паадвярзалі.

У слаўны горад
Дабіліся.

[1] Кожная страфа паўтараецца двойчы.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Слаўнага пана
Дабудзіліся.

— Ці дома, дома,
Пан гаспадару?

— Ой, няма дома,
Да ў чыстым полі.

Да ў чыстым полі
Да жыта сее.

Да жыта сее,
Да бога просіць.

Зарадзі, божа,
Буйное жыта.

Буйное жыта
На нова лета.

А сы споду
Карчыстае.

Пасярэдзіне
Сцяблістае.

З самага верху
Каласістае.

А з каласочка
Ды жыта бочка.

З аднае жменькі
Жыта тры меркі.

### 224. ПАЙДЗЁМ, БРАТЦЫ, УДОЛЬ ВУЛІЦЫ

Пайдзём, братцы, удоль вуліцы,
  Явор-дубор зялёны.[1]

Зайдзём, братцы, у хазяйскай двор,
Па чым пазнаць хазяйскі двор?

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Хазяйскі двор на сем стаўбоў.
— Хазяюшка, наш бацюшка,
Ці спіш, ці ляжыш, ці адпачываеш?
Устань з ложку, абуй ножку,
Ступай часцей, дары гасцей.
А мы госці нячастыя,
У гадочку — адну ночку.

## 225. ДОБРЫ ВЕЧАР ТАМУ

Добры вечар таму,
Хто ў етам даму.
Святы вечар, хто ў етам даму.[1]

Не спіць, не ляжыць,
Да з намі не гаворыць.

Ой, з намі, з намі,
З добрымі людзямі.

## 226. СВЯТЫ ВЕЧАР ТАМУ, ХТО У ГЭТЫМ ДАМУ

Святы вечар таму, хто ў гэтым даму,
Святы вечар![2]
А ў гэтым даму сам пан гаспадар
За сталом сядзіць, тры свечы
дзяржыць,
А на тым стале тры кубкі стаіць.
У першым кубачку — віно зеляное,
У другім кубачку — піва кудрава,
У трэцім кубачку — ля самога пана.

## 227. ДОБРЫ ВЕЧАР ТАМУ, ХТО У ЕТАМ ДАМУ

Добры вечар таму, хто ў етам даму,
Святы вечар![2]

А ў етам даму сам пан хадзяін
За сталом сядзіць, тры кубкі дзяржыць.

[1] Прыпеў «Святы вечар» паўтараецца з другім радком кожнай страфы.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

У первам кубачку — зеляно віно,
Ў другом кубачку — кудрава піва,
У трэцім кубачку — мядок саладок.
Зеляно віно — для хадзяіна,
Кудрава піва — для жаны яго,
Саладок мядок — для яго дзяток.
Мы ж цябе, хадзяін, не зневажаем,
Да з Новым годам паздраўляем.

## 228. ДА ЦІ ДОМА САМ ПАН ГАСПАДАР

Да ці дома сам пан гаспадар?

Святы вечар! [1]
Ой, нам казалі, што няма дома,
А ў новым гумне жыцечка вее.
Ой, хадзем да яго, узвесялім яго,
Ці не дасць ён нам недавеечкаў,
Недавеечкаў на гарэлачку,
На гарэлачку на кватэрачку.

Да ці дома, дома да яго жана?
Ой, нам казалі, што няма дома,
А ў новай свяцёнцы белы кужаль чэша.
Ой, хадзем да яе, узвесялім яе,
Ці не дасць жа нам недачосачкаў,
Недачосачкаў на гарэлачку,
На гарэлачку на кватэрачку.

Да ці дома, дома да яго дачка?
Ой, нам казалі, што няма дома,
А ў новай клеці белы хусты качае.
Ой, хадзем жа да яе, узвесялім яе,
Ці не дась жа нам па хусціначцы,
Па хусціначцы па бялесенькай,
Па бялесенькай па танесенькай.

Да ці дома, дома да яго сынок?
Ой, нам казалі, што няма дома,
А ў новай стайні каня сядлае.

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Каня сядлае, з канём гаворыць:
— Ой, коню, коню, прадам я цябе,
Прадам я цябе за сто чырвонцаў,
За сто чырвонцаў, за чатыры грошы,
За чатыры грошы, што ты не харошы.
— Ой, пане, пане, уздумай прыгоду,
Калісь мы былі ў Турэцкай зямлі,
За намі стрэлы, як дым ляцелі,
За намі кулі зямлю пабілі.

## 229. ЧЫ ДОМА, ДОМА САМ ПАН ГАСПАДАР

Чы дома, дома сам пан гаспадар?
Ой, хоць і дома, той не гуляе,
Да ў новам гумне пшаніцу вее.
Ой, хадзем, братцы, да й падвяселім,
Чы не дась чэ нам да й па гарчыку.

Чы дома, дома да й яго сынок?
Ой, хоць і дома, то й не гуляе,
Да ў новай стайні коні сядлае.
Ой, хадзем, братцы, да й падвяселім,
Чы не дась чэ нам да й па коніку.

Чы дома, дома да яго жана?
Ой, хоць і дома, то й не гуляе,
Да ў новай хаці пірагі пячэ.
Ой, хадзем, братцы, да й падвяселім,
Чы не дась чэ нам да й па піражку.

Чы дома, дома да й яго дачка?
Ой, хоць і дома, то й не гуляе,
У новай каморцы хусты качае.
Ой, хадзем, братцы, да й падвяселім,
Чы не дась чэ нам да й па хустачцы.

## 230. ДА ЦІ ДОМА, ДОМА САМ ПАН ГАСПАДАР?

Да ці дома, дома сам пан гаспадар?
Да самі ж мы знаем, што ён дома,
Сядзіць на ўслонцы, лічыць чырвонцы.

Пойдзем да яго, ізвясцім яго.
Ці не дасць жа нам хоць па чырвонцу.
Дай яму, божа, шчасця, здароўя ў яго двор.

Да ці дома, дома яго хазяйка?
Да самі ж мы знаем, што яна дома,
У новай святліцы мёд, віно цэдзіць.
Пойдзем да яе, узвесялім яе.
Ці не дасць жа нам хоць па кубачку.
Дай жа ёй, божа, шчасця, здароўя ў яе двор.

Да ці дома, дома яго сыночак?
Да самі ж мы знаем, што ён дома,
У новай стайніцы каня сядлае.
Пойдзем да яго, развесялім яго.
Ці не дасць жа нам хоць па конічку.
Дай жа яму, божа, шчасця, здароўя ў яго двор.

Да ці дома, дома да і дочка яго?
Да самі ж мы знаем, што яна дома,
У новай святліцы хусты качае.
Пойдзем да яе, развесялім яе.
Ці не дасць жа нам хоць па хустачцы?
Дай жа ёй, божа, шчасця, здароўя ў яе двор.

## 231. ЦІ ДОМА, ДОМА САМ ПАН ГАСПАДАР?

Ці дома, дома сам пан гаспадар?
Святы вечар! [1]

Няма дома, у новай стайні,
У новай стайні з канём размаўляе:
— Коню, коню, прадам я цябе
За трыста злотых, за тры чырвоных.
— Пане, пане, не прадавай мяне,
За трыста злотых, за тры чырвоных.
Як былі мы ў чужой зямлі,
За намі стрэлы, як гром грымелі,
За намі кулі поле аралі.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Як я скочыў — мора пераскочыў,
Не замачыў я капытка,
Ні хваста свайго шаўковага,
Ні свайго пана маладзенькага,
Ні сядзелечка залаценькага,
Узялі мы ясную стрэлку —
Ясную стрэлку, красную дзеўку.

## 232. ОЙ, ДОБРЫ ВЕЧАР

Ой, добры вечар,
Пане гаспадару,
Святы вечар![1]

Чы ты спіш,
Чы ты так ляжыш?

Чы ты так ляжыш,
Чы лісты пішаш?

Мы ж твайго двара
Не мінаем,

Святым ражством
Звелічаем.

На тваім двары
Усё гарацЬ агні.

Усё ж агні гарацЬ,
Усё сталы стаяцЬ.

Усё сталы стаяцЬ
Пазасціланы.

Усё хлябы ляжацЬ,
Усё пшанічныя.

А ў канцы стала —
Ацец Мікола.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Ацец Мікола
З двума святымі.

З двума святымі —
З Пятром і Паўлам.

## 233. ДОБРЫ ВЕЧАР ТАМУ

Добры вечар таму, хто ў етам даму.
Святы вечар! [1]

А ў етам даму сам пан гаспадар,
Сам пан гаспадар сталы засцілаў,
Сталы засцілаў, кубкі наліваў,
Кубкі наліваў, гасцей дажыдаў.
А прыдуць жа к нам любыя госці,
Любыя госці — Павел і Пятро,
Павел і Пятро свято раждзяство.
Свято раждзяство радасць прынясло.

## 234. ДОБРЫ ВЕЧАР ТАМУ, ХТО У ГЭТЫМ ДАМУ

Добры вечар таму, хто ў гэтым даму.

Святы вечар! [1]

Мы ж твайго двара да й не мінаем,
Мы ж твайго двара развесяляем.
А ў тваём дварэ сталы стаялі,
Стаялі сталы засціланыя,
Былі кубачкі наліваныя.
За гэтым словам жывіце з богам.
Свято раждзяство радасць прынясло,
Свято вasілле развесяліла.
Не дасі блінца, дык здохнець аўца,
Не дасі шкуркі — падохнуць куркі.

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 235. ШЧОДРЫ ВЕЧАР, ДОБРЫ ВЕЧАР

Шчодры вечар, добры вечар,
Ці дома, дома сам гаспадар?
Сядзіць сабе на куце,
На ім шуба сабалёва.
Што ў той шубе?
Тры калітэчкі,
Тры шэляжэчкі.
У полі ды ў полі
Плугі плывуць,
Прачыста маці
Есці носіць:
Зарадзі, божа, жыта і пшаніцу
І ўсякую пашніцу.
Богу — на свечку,
Нам — на перапечку,
Богу — палушка,
А нам — цялушка.
Богу — шэляжок,
А нам — піражок.

## 236. ШЧОДРЫ ВЕЧАР, ДОБРЫ ВЕЧАР

Шчодры вечар, добры вечар,
Усім людзям на ўвесь вечар.
Ой, ці дома пан хазяін.
Ой, я знаю, што ён дома,
На ім шуба шубялёва.

Вынесь, пане, піражэчка,
Хоць малога ды смашнога.

## 237. ШЧОДРЫ ВЕЧАР, ДОБРЫ ВЕЧАР

Шчодры вечар, добры вечар,
Усім людзям на ўвесь вечар.

Ці дома, дома пан гаспадар,
А я бачу, што ён сядзіць.

На покуці каля стала,
На ём шуба шубялёва.

На той шубе — чындакора,
На той чындакоры — сем селязенькаў.

— Радзі, божа, жыта, пшаніцу,
А нам, дзядзя, паляніцу.

Хоць сырую, то жырую,
Абы, дзядзя, не малую.

## 238. ШЧОДРЫ ВЕЧАР, ДОБРЫ ВЕЧАР

Шчодры вечар, добры вечар,
Добрым людзям на здароўе.
А ў полі, полі плужок плужыць,
А за тым плужком сам бог ходзіць,
Ілля святая валы паводзіць,
А прачыстая есці носіць.
Ой, знаю, знаю, гаспадар дома,
Сядзіць сабе ў канцы стола,
А на яму шуба-люба,
А ў той шубе-любе калітачка,
А ў той калітцы тры ўраджаі.
Зарадзі, божа, жыта-пшаніцу,
Усяку пашніцу,
А нам, дзядзенька, хоць паляніцу.

## 239. ШЧОДРЫ ШЧОДРЫК

Шчодры шчодрык,
Добры вечар!
— Чы е, чы е пан гаспадар?
А дзеці кажуць:
— Няма, няма дома.
— А я знаю, што ён дома.
Ой, я бачу, дзе ён сядзіць.
А ён сядзіць у канцы стола,
А на яму світа
Шоўкам шыта,

А на той світы — чынтакора,
А на той чынтакоры —
Да й каліточка,
А ў той каліточкі —
Сем селязнечкі.

Таму, сяму
Па селязнечку,
А нам, дзядзьку,
Па піражэчку.
Сцялі, божа,
Каровы, быкі,
А нам па тры пірагі.
Сцялі, божа, бычкі, цяліцы,
А нам, дзядзьку, па паляніцы.
Табе, дзядзьку, шчадрэц,
А мне падай блінец
І каўбаскі канец.

## 240. ШЧОДРЫ ВЕЧАР

Шчодры вечар
Добрым людзям!
Ці дома, дома
Сам пан гаспадар?
Сядзіць жа ён
Да й на куцячку,
Дзяржыць жа ён
Тры піражочкі,
Тры сальца кусочкі.

Дай жа нам, дзядзечка,
Хоць піражочак,
Хоць сальца кусочак.
Скарэй дарыце
Да не барыце,
Кароткі світкі,
Памерзлі лыткі.
Добры вечар!

## 241. ШЧОДРЫ ВЕЧАР, ДОБРЫ ВЕЧАР

Шчодры вечар, добры вечар,
Пане гаспадару, да цябе!
Маеш хлопцаў пышных, гарных.
Яны ў стадоле пшаніцу мерацьь,
Намералі трыццаць шанкоў, то табе,
А другія чатыры [то] нам, каляднічкам.

## 242. ДОБРЫ ВЕЧАР ТАМУ, ХТО У ЕТЫМ ДАМУ

Добры вечар таму, хто ў етым даму,
Святы вечар, хто ў етым даму [1].

Ці спіш, ці ляжыш, гасподзь з табою,
Гасподзь з табою, гавары са мною.
Адчыні вакно, паглядзі ў гумно.
Што ў тваім гумне шуміць да гудзе,
Пчаліная матка ідзе, тры раёчкі вядзе.
Ды вядзе, вядзе ды яна павучае:
Первы раёчак — у первы вуллёчак,
Другі раёчак — у другі вуллёчак,
Трэці раёчак — у трэці вуллёчак.
Первы вуллёчак — на первую хвойку,
Другі вуллёчак — на другую хвойку,
Трэці вуллёчак — на трэцюю хвойку.
З первага вуллёчка мядок бралі,
Мядок бралі і свечачкі сукалі,
Свечачкі сукалі і на цэркаўку адпраўлялі.
З другога бралі — дзеткам давалі,
А з трэцяга бралі — людзям аддавалі.

## 243. ЗА ДВАРОМ ДА ЗА НОВЫМ ЦЕМНАЯ ХМАРА

За дваром да за новым цёмная хмара,
Не ёсць то хмара — ярыя пшчолы.
— Ляціце, пшчолы, у панскі остраў,
Займайце, пшчолы, дванаццаць ульёў,

[1] Прыпеў «Святы вечар» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Насіце, пшчолы, салодкія мёды,
Салодкія мёды, залатыя воскі,
Залатыя воскі богу на славу,
Салодкія мёды пану на славу.

## 244. ОЙ, ШУМІЦЬ І ГУДЗЕ

Ой, шуміць і гудзе, пчаляная матка йдзе.
Ой, каляда, пчаляная матка йдзе. [1]

Пчаляная матка йдзе, раёчкі вядзе.
— Садзіцеся, раёчкі, на новай бардзе,
А я старая на старой сяду.
Да насіце, раёчкі, мядкі саладкі,
А я старая жоўтыя васкі.
Мядкі саладкі людзям на пажыткі,
Жоўтыя васкі богу на свечы.

## 245. ЦІ ДОМА, ДОМА САМ ПАН ГАСПАДАР?

Ці дома, дома
Сам пан гаспадар?
Добры вечар,
Сам пан гаспадар.

Ой, калі дома,
Выйдзі паслухай.
Добры вечар,
Выйдзі паслухай.

Выйдзі паслухай,
Што ў бары гудзе.
Добры вечар,
Што ў бары гудзе.

Што ў бары гудзе —
Пчолка-матка йдзе.
Добры вечар,
Пчолка-матка йдзе.

---

[1] Прыпеў «Ой, каляда» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Пчолка-матка йдзе.
І райкі вядзе.
Добры вечар,
І райкі вядзе.

Семяністыя,
І мядзістыя.
Добры вечар,
І мядзістыя.

## 246. СЯДЗІЦЬ ГАСПАДАР У КАНЦЫ СТАЛА

Сядзіць гаспадар
У канцы стала.
Вышаў ён на вуланьку —
Хмара гудзе.

Шчэдры вечар,
Добры вечар! [1]

Прачыста ідзе,
Пчолкі вядзе.
Пчолкі вядзе
Маладзенькія.

Пчолкі вядзе
Маладзенькія.
— Насіце мяды
Саладзенькія.

Мяды сыціці,
Дочкі аддаваці.
Свечы сучыці,
Сыны жаніці.

Чы ўжо кароўкі
Пацяліліся.
Чы ўжо авечкі
Пакаціліся.

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Прыстаў страмінку,
Дастань саланінку,
Прыстаў баляскі,
Дастань каўбаскі.

## 247. ДОБРЫ ВЕЧАР, ПАНЕ ГАСПАДАРУ

Добры вечар, пане гаспадару!
Калі ты спіш, гасподзь з табою,
А калі не спіш, гавары са мною.
Уздзень ты шубку, выйдзі на вулку,
Паслухай таго, што ў хмары гудзе.
Прачыстая ідзе, райкі вядзе,
Райкі вядзе да й навучае:
— Сядайце, пчолкі, пану Івану
На завулейку, на заборцейку,
Насіце мяды ўсё салодкія —
Мяды сыціці, сына жаніці,
Свечкі сукаці, дочкі аддаваці.
А за тым словам да жыві з богам,
Не сам з сабою — з дзеткамі, жаною,
Са ўсімі намі калядні̇чкамі.

## 248. ПАНЕ ГАСПАДАРУ, СТАВАЙ З КРАВАЦІ

Пане гаспадару, ставай з кравацi.
Святы вечар! [1]

Ставай з кравацi, засвяцi ў хаце.
Да адзень шубку, выйдзi на вулку.
Да стань паслухай, што ў хмарцы гудзе,
Што ў хмарцы гудзе,—прачыстая йдзе.
Прачыстая йдзе, роiкi вядзе,
Вядзе роiкi рассыпаючы,
Шчасцем, здароўем надзяляючы.
— Ляцiце, пчолкi, па навiч'ейку,
А вы, роiкi, па старыч'ейку.
Нясiце, пчолкi, саладок мядок,
А вы, роiкi, жоўтыя воскi.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Сладкага мядку — сыту сыціці,
Сыту сыціці, сыноў жаніці.
А з жоўтых васкоў — свечы сукаці,
Свечы сукаці, дачок аддаці.

Слухай, гаспадар, ужэ й з усім словам,
Ужэ й з усім словам жыві здаровы.
Не сам з сабою — з атцом, з маткаю,
З атцом, з маткаю, з сваёй жонкаю,
З добрымі людзьмі, з каляднічкамі.

## 249. ОЙ, НА РАЖСТВО, ДА Й НА ПЕРШЫ ДЗЕНЬ

Ой, на ражство, да й на першы дзень,
Прышлі госценькі, дай каляднічкі,
Калядаваці, пана пытаці:
— Ой, ці спіш, ці не спіш, слаўны гаспадар?
Адзень шубку, выйдзі на вулку,
Паслухай таго, што ў храме гудзе.
У храме гудзе — прачыста ідзе,
Прачыста ідзе, усе пчолкі вядзе.
— Садзіцеся, пчолкі, на новы вулькі —
Мяды сыціці, сыны жаніці,
Свечкі сукаці, дочкі даваці.

## 250. ДОБРЫ ДЗЕНЬ ТАМУ, ХТО Ў ГЭТЫМ ДАМУ

Добры дзень таму, хто ў гэтым даму!
Святы вечар! [1]

Ці спіш ты, ці ляжыш, гасподзь з табою.
Выйдзі ты на двор, зірні ты на бор,
Што ў тваім бару шуміць, гудзе?
Пчаліная матка ідзе,
Сваіх дзетак вядзе.
— Садзіцеся, дзеткі, на новых уллях,
А я, старэнька, сяду ў старым.

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Пашыце, дзеткі, сладак мядочак,
А я, старэнька, жоўты вашчочак —
Сыту сыціці, сыноў жаніці,
Свечкі сукаці, дочкі аддаваці.

## 251. ЧЫ ДОМА Ж, ДОМА Ж САМ ПАН ГАСПАДАР?

Чы дома ж, дома ж сам пан гаспадар?
Ой, калі не дома, адзенеш шубку,
Адзенеш шубку і выйдзі на вулку,
Паслухай таго, што ж у хмары гудзе,
У хмары гудзе [сам гаспод ідзе],
Гаспод ідзе і роенкі вядзе,
Роенкі вядзе, рэдка саджае.
— Садзіце ж, пчолкі, усе ж у навічэнькі,
А я, старая, у старычэнькі,
Насіце ж, пчолкі, салодкі мядок,
А я ж, старая,— жоўты ашчэчак —
Сыту сыціці, сынкі жаніці,
Свечкі ж сукаці, дочкі даваці.

## 252. ЛАСТАВАНЬКА ПРЫЛЯТАЛА

Ластаванька прылятала,
У акенечка заглядала:
— Чы е дома пан гаспадар,
Чы е дома пані гаспадыня?
— Е дома пан гаспадар,
Е і дома гаспадыня —
Сядзяць сабе ў канцы стала.
На іх шуба дублёна,
На шубаньцы кован пояс,
На поясу калітанька,
У калітаньцы па сто злоты.
Па сто злоты, па чатыры
Калядлічкам адлічылі.

## 253. ШЧОДРА, ШЧОДРА, ШЧАДРАУНІЦА

Шчодра, шчодра, шчадраўніца,
Прыляцела ластаўніца.

Стала сабе шчабятаці,
Гаспадара выклікаці:
— Выйдзі, выйдзі, гаспадару,
Падзівіся да тавару.
У нас тавару поўна бора,
Твая жонка чарнаброва.

## 254. ОЙ, ДОБРЫ ВЕЧАР

Ой, добры вечар,
Пане гаспадару,
Святы вечар! [1]

Ці спіш, ці ляжыш,
Ці паціху сядзіш?

Устань з пасцелі,
Адчыні дзверы.

Адчыні дзверы,
Зажыгай свечы,

Зажыгай свечы,
Усе васкавыя.

Засцілай сталы
Дарагім сукном.

Прыедуць да цябе
Тры таварышы,

Тры таварышы,
Дарагія госці.

Першы таварыш —
Ясны месячык.

Другі таварыш —
Ясна сонейка.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожных двух радкоў.

Трэці таварыш —
Дробны дожджык.

Выхваляецца
Ясны месячык:

— Ой, я ўзыйду
Позна з вечара,

Вазрадуецца
Увесь звер у полі,

Увесь звер у полі
І рыба ў моры,

І рыба ў моры
І мілы ў дарозе.

Выхваляецца
Ясна сонейка:

— Ой, як узыйду
У нядзелю рана,

Вазрадуецца
Увесь люд хрышчоны,

Увесь люд хрышчоны
І нараджоны.

Выхваляецца
Дробны дожджычак:

— Ой, я прыду
Тры разы на начы,

Вазрадуецца
Жыта і пшаніца,

Жыта і пшаніца,
Усяка пашніца.

У нашага пана,
Пана гаспадара,

У вароцечках
Зелен явар стаіць.

На тым явары
Сіў сокал сядзіць,

Сіў сокал сядзіць,
Далёка глядзіць.

Ой, як далёка,
На сіняе мора.

На сінім моры
Карабель плывець.

І ў тым караблі
Да й два ж малайцы

І рахуюцца,
І мяркуюцца.

— Кіньмася, браце,
У мора на дно.

Ой, там хлопчычак
Каня сядлае,

Каня сядлае,
Каня пытае:

— Ой, коню, коню,
Прадам я цябе.

— Малады малойчык,
Не прадай мяне.

Спамяні тое,
Ой, як мы жылі,

Ой, як мы жылі,
У турэцкай зямлі,

Ляталі кулі,
Так як дробны дожджык.

Ой, як я скочыў,
Дунай пераскочыў,

Не замачыў жа я
Ні капыціка,

Ні капыціка,
Ні чабоціка.

Ні ў чабоце шапінца,
Ні цябе, малайца.

### 255. НА ПЕРШЫ ДЗЕНЬ, ДА НА РАЖСТВО

На першы дзень, да на ражство,

Святы вечар, да на ражство.[1]

Ішоў гаспадар да цэркві,
Стрэў жа вун да тры ангелы:
Адзін ангел — ясна сонелка,
Другі ангел — ясны месячык,
Трэці ангел — дробны дождждык.
— А што ж ты рэчаш, ясна сонелка?
— Ой, як я ўзыйду ў нядзелю раненька,
Зрадуецца стары і малы,
Да цэркві ідучы, свечай бога хвалючы.
— Ой, што ж ты рэчаш, ясны месячык?
— Ой, як я ўзыйду ў цёмнай ночы,
Зрадуецца купец ў дарозе,
Валы ў абозе.
— Ой, што ж ты рэчаш, дробны дождждык?
— Ой, як я ўзыйду тры раза ў маі,
Зародзіць бог жыта, пшаніцу,
Жыта, пшаніцу і ўсякую пашніцу.
Накладзем стожкі
На штыры рожкі,
Накладзем пшаніцы
На паланіцы,

---

[1] Прыпеў «Святы вечар» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Накладзем аўса,
Да каляда ўся.
Бывай здароў,
Дажыдай здароў
І з дзетачкамі
Да й з маленькімі.
І з суседамі
Да й з блізенькімі.
Табе, дзядзьку, каляда,
А нам падáй пірага.

## 256. ОЙ, ДОБРЫ ВЕЧАР, ПАН ХАЗЯІН

Ой, добры вечар, пане хазяін,
Святы вечар.[1]

Засцілай сталы, кладзі пірагі,
Да будзе ў цябе да трое гасцей:
А первая госць — жарка сонейка,
А другая госць — ясен месячка,
А трэцяя госць — дробен дожджык.

Чым пахваліцца жарка сонейка?
— Як узыйду я рана на зары,
Вазрадуецца неба і зямля,
Неба і зямля, ў лузе трава.

Чым пахваліцца ясен месячка?
— Як узыйду я позна ■ вечара,
Узрадуецца купец ў дарозе,
Купец ў дарозе, а звер у дуброве.

Чым пахваліцца дробен дожджычак?
— Як узыйду я рана з вясны,
Узрадуецца жыта, пшаніца,
Жыта, пшаніца, усяка пашніца.

Мы ж цябе, хазяін, не зневажаем,
Са святым васіллем паздраўляем,

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 257. ЗАСЦІЛАЙЦЕ СТАЛЫ, КЛАДЗІЦЕ ПІРАГІ

Засцілайце сталы, кладзіце пірагі,
Святы вечар! [1]

К нам наедуць любыя госці:
Першы госць — ясен месяц,
Другі госць — жаркае сонейка,
Трэці госць — дробен дождж ык.
Ясен месяц выхваляецца:
— Як ўзыйду, ўзыйду позна звечара,
Да ўзрадуюцца купцы ў дарозе,
А рыба ў моры, зверы ў полі.
Жаркае сонца выхваляецца:
— Як ўзыйду я ў нядзелю рана,
Да ўзрадуецца прыстоле ў цэрквах
І ўвесь мір хрышчоны.
Дробен дожджык выхваляецца:
— Як пайду ў чацвер на ўвесь дзень,
Да ўзрадуюцца жыта, пшаніца
І ў полі ўсякая пашніца
І хазяін у доме.

## 258. ОЙ, КРАСНІЧ ПАНІЧ ДА ПАН ВАСІЛЬКА

Ой, краснiч паніч да пан Васілька,

Святы вячор! [1]

Засцілай сталы, кладзі пірагі,
Засцілай сталы ўсё цясовыя,
Кладзі пірагі ўсё пшанічныя,
Бо прыдуць к табе госці любыя,
Госці любыя — сам гаспадзь з неба,
Сам гаспадзь з неба з трымя янгольмі:
Першы янголік — ясна сонечка,
Другі янголік — свецел месячык,
Трэці янголік — дробны дожджычак.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Пахвалілася ясна сонечка:
— Як я ізайду, рана засвячу,
Рана засвячу — усёй мір асвячу.
Ой, пахваліўся свецел месячык:
— Як я ізайду рана звячора,
То й асвячу горы й даліну,
Горы й даліну, ў поле звярыну.
Ой, пахваліўся дробны дожджычак:
— Як я ізайду тройчы ў маю,
То бог зародзіць жыта, пшаніцу,
Жыта, пшаніцу, ўсяку пашніцу,
А нам, дзядынько, хоць паляніцу.

## 259. ДОБРЫ ВЕЧАР

Добры вечар,
Мосця панове!..
Растаўляйце сталы цясовыя,
Накрывайце сталы каўрамі,
Налівайце кубкі мядамі,
Будуць к нам трое гасцей:
Первы госць — весел месячка,
Ўтары госць — жарка сонейка,
Трэці госць — дробен дожджычак.
Во што змове ясен месячка:
— Як узыйду рана звячора,
Ўзрадую пана ў дарозі, паню ў дому.
Што змове жаркае сонейка:
— Як узыйду рана на зары,
Узрадую добрых дзетачак.
Во што змове часты дробен дожджычак:
— Як прайду я хоць раз на леце,
Ураджу я жыта, пшаніцу
[Жыта, пшаніцу], усякую пашніцу.
У полі — ядром, у дварэ — дабром,
На лугу — стагамі, на гумне — капамі,
Ў клеці — карабамі, у пячы — пірагамі.

Паздраўляем з Новым годам...
Штоб здравенькі былі,
Многа лет жылі.

## 260. ОЙ, У БАРУ, Ў БАРУ ВАРОТЫ ГУДУЦЬ

Ой, ў бару, ў бару вароты гудуць,
Святы вячор! [1]

Ой, там святыя цэркаў будуюць.
Да збудавалі з трыма вярхамі,
З трыма вярхамі, з трыма акнамі:
Адно акенца — ясная сонца,
Другое акенца — свецел месяцу,
Трэцяе акенца — дробен дожджыку.

Чым ісхвалілась яснае сонца:
— Ой, як я ўзыйду ў нядзельку рана,
То зрадуецца ўсёй мір хрышчоны,
Ўсёй мір хрышчоны да й нараджоны.

Чым ісхваліўся свецел месяцу:
— Ой, як я ўзыйду ўночы-ўпоўначы,
То зрадуецца ўся шчука ў моры,
Ўся шчука ў моры, а звер у полі,
А звер у полі, купец ў дарозе.

Чым ісхваліўся дробен дожджыку:
— Ой, як я сыйду тры разы ў маю,
То зрадуецца жыта-пшаніца,
Жыта-пшаніца, ўсяка пашніца.

## 261. ОЙ, ПАСЛУШАЙЦЕ, ШТО У ХМАРЦЫ ГУДЗЕ

Ой, паслушайце, што ў хмарцы гудзе,
Што ў хмарцы гудзе, сам гаспод ідзе,
Сам гаспод ідзе, труй госці вядзе:
Ой, первы госцік — дробненькі дожджык,
А другі госцік — ясён месяц,
А трэці госцік — яснэ сонейка.
Ой, хваліўся дробны дожджык:
— Як я прайду тройка на леці,
Так зрадуецца ўся пашэнька, з земелькі йдучы,
З зямелькі йдучы, цветам цветучы.
Як сонейка ўзойдзе — цяпленька будзе,
А месячык засвеціць — відненька будзе.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 262. БЫЛО САБЕ ТРЫ БРАТЭЙКІ

Было сабе тры братэйкі,
Да ўсе ж яны раднесенькі.
Першы братка выхваляўся:
— Устану, ўстану ранесенька,
То найгрэю цяплесенька.
Другі братка выхваляўся:
— Устану, ўстану апоўначы,
Да засвячу святлесенька,
Па ўсім свеці яснесенька.
Трэці братка выхваляўся:
— Ўстану, ўстану, аполудні,
Спушчу, спушчу дождзік
Дробны на жыцейка,
На пшаніцу і ўсяку пашніцу.

## 263. ШЛІ ГОСЦІ ДА КАЛЯДНІЧКІ

Шлі госці да каляднічкі
Да пабудзілі слаўнага пана,
Пана гаспадара.
— Да ўставай, пане, вельмі рана,
І сам уставай, і чэлядзь будзі.
Па твайму полю сам гаспод ходзіць,
Сам гаспод ходзіць, тры святцы водзіць:
Першае святца — святое Юрые,
Другое святца — святы Пятро,
Трэцяе святца — святая Ілія.
Святое Юрые — землю адамкае,
Святы Пятро — жыта зажынае,
Святая Ілія — у копы складае.

## 264. У ПАНА У ІГНАТА ДА У ЯГО ДВАРЫ

У пана у Ігната да ў яго двары
Тры свячы гарэлі, тры святы сядзелі:
Першае свята — святое ражство,
А другое свята — святое васілле,
Трэцяе свята — да Йван-красціцель.

Ражство прышло—нам радасць прынясло,
Васілле прышло — Новы год прынясло,
Іван-красціцель — ваду перакрасціце,
Ваду перакрасціце залатым крастом.
А ты, пан Ігнат, да бывай здароў,
Да ні сам сабой, з маладой жаной,
Да з Новым годам, да з усім родам!

## 265. ОЙ, ДОБРЫ ВЕЧАР, ПАНЕ ГАСПАДАРУ!

Ой, добры вечар, пане гаспадару!
Ці спіш, ці ляжыш? Гасподзь з табою.
Святы вечар, гасподзь з табою! [1]

Ой, калі не спіш, гавары са мною,
Надзень шубку, выйдзі на вулку,
Стань, паслухай, што ў небе гудзе,
Што ў небе гудзе, прачыстая ідзе.
Прачыстая ідзе, тры радасці нясе:
Першая радасць — у тваім доме,
Другая радасць — у тваёй аборы,
Трэцяя радасць — у чыстым полі.
У тваім доме — дробны дзеткі,
У тваёй аборы — валы, каровы,
У чыстым полі — буйна жыта.
Буйна жыта каласіста, ядраніста.
Кладзеце копачкі, як ў небе зорачкі,
Кладзеце стажкі на чатыры ражкі.

## 266. У НАШАГА ПАНА

У нашага пана,
Пана гаспадара,
Пасярод двора
Стаіць абора,
Нова зрублена,
Не дараблена.
А ў той аборы

[1] Прыпеў «Святы вечар» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Да стаяць волы,
Сівы, паловы.

— Стань, пане,
Пане гаспадару.
Стань, не лянуйся,
Стань, абуйся.
Падзі да клеці,
Вазьмі амеці.
Там у куточку
Перагні бочку.
Вазьмі ў карабочку
Да кармі ж волы,
Сівы, паловы,
Залатыя волы,
Залатыя рогі.
Яго рагатык
Да ялованькі.
Яго плашанькі
Да берастовыя.
Яго сошнечкі
Да шталёвыя.
Яго палічкі
Да яловыя.
Яго падпалічкі
Да грушовыя.
Яго падвоікі
Да шаўковыя.
Яго кручочкі
Да штабовыя.
Яго ярэмчык
Буковенькі.
Яго кульбачкі
Да дубовыя.
Яго занозікі
Да лазовыя.
Яго ражочкі
Да месанзовыя.
Яго павадочкі
Да шаўковыя.
Яго асценчык
Да чарамховы.
Яго сушанькі

З шчырага золата.
Як едзе ў поле,
Бярэ яхота.
— Судзі ж, божа,
Вясны даждацi,
Да паедземо
Ў поле гарацi.
Да пагарэма
Горы, далiны,
Да павалачэньма
Варанымi коньмi.
Да пасеялi
Гарным насеннем
Жыта, ярыны
I ўсякай пашнiны.
Дай жа ж, божа,
Шчоб гораў гараў
Да грошы набраў.
Што на гарэ,
То на вяселлi,
А што ў далiны,
То на радзiны.
Сцялi, божа, валы,
Шчоб хлеба далi.

Паздароў, божа,
Гаспадара i гаспадыню,
Шчоб валы даглядалi
I гаравалi.

## 267. У ЧЫСТЫМ ПОЛЮ

У чыстым полю
Крыж маляваны.

На таму крыжу
Заўзуля рабая.

Раненька ўстала,
Зашчабятала.

Слаўнага пана
Да й папугала.

— Устань раненька,
Умыйся бяленька.

Ой, пайдзі сабе
Да новае стайні.

Ой, выбер сабе
Каня варанога,

Ой, паедзь сабе
У чыстае поле!

У чыстым полі
Ратае твае.

Ратае твае
Усё маладыя.

Волікі твае
Усё палавыя.

Ярэмца твае
Усё букавыя.

Ой, сохі твае
Да й залатыя.

Сашнічкі твае
Усё медзяныя.

Падвое твае
Усё драцяныя.

Паліцы твае
Усё срэбраныя.

Паводкі твае
Усё шаўкавыя.

Радуйся не сам сабою,
З сваёю жаною.

З сваёю жаною,
З сваімі дзеткамі.

## 268. ГАСПАДАРОЧКУ, СЛАУНЫ ПАНОЧКУ

Гаспадарочку,
Слаўны паночку,

Святы вечар вам,
Людзям добрым.[1]

Выйдзі, паглядзі,
Што ў цябе ў хляве.

Што ў цябе ў хляве
Парабілася.

Дванаццаць кароў
Ацялілася.

Дванаццаць быкоў
Нарадзілася,

Адчыні хлявы.
Што б валы раўлі.

Адчыні сені,
Што б людзі селі.

Да на яліне,
Што б селі ніне.

Радзі вам, божа,
Гусі да качкі.

Гадуй вам, божа,
Сыны да дочкі.

## 269. ЛАСТАВАНЬКА ЧАРНЕНЬКАЯ

Ластаванька чарненькая
К акенечку прыпадае,
Гаспадара пабуджае.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Шчодры вечар, добры вечар!
Дай жа, божа,
Усім людзям на здароўе! [1]

Устань, пане гаспадару,
Вазьмі сабе ліхтараньку,
Пайдзі сабе ў стаеньку.

У стаеньцы парadанька,
Усе кабылкі пажарабіліся,
Усё конічкі парадзіліся.

Ластаванька чарненькая
К акенечку прыпадае,
Гаспадара прабуджае.

— Устань, пане гаспадару,
Вазьмі сабе ліхтараньку,
Пайдзі сабе ў абораньку.

У абораньцы да парадanька,
Усе кароўкі пацяліліся,
Усё бычочкі парадзіліся.

Ластаванька чарненькая
К акенечку прыпадае,
Гаспадыньку пабуджае.

— Устань, пані гаспадынька,
Вазьмі сабе ліхтараньку,
Пайдзі сабе ў аўчараньку.

У аўчараньцы да парадanька,
Усе авечкі пакаціліся,
Усё баранчыкі радзіліся.

Гаспадынька, годзі спаці,
Ідзі куціцы накладаці.
Гаспадынька скрута хадзіла
Да й ключы пагубіла.
Ой, там ключы на скрыні,
Там для нас ляжаць штыры сыры.

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

## 270. НА НОВАЕ ЛЕТА

На новае лета
Радзі, божа, жыта.

Шчодры вячор,
Багаты вячор.[1]

Жыта, пшаніцу,
Ўсяку пашніцу.

Дай табе, божа,
Пане гаспадару,

Піва варыці,
Сынкоў жаніці.

Гарэліцу гнаці,
Дачок аддаваці.

Залезь на баляску
І дастань каўбаску.

Стань на драбінку
І дастань сланінку.

Кошычак маку
Да таго прысмаку.

Васілёва маці
Пайшла шчадраваці,

Пайшла шчадраваці,
Старых лет шукаці,

Жыта, пшаніцу,
Ўсякую пашніцу.

А із каласочка
Будзе жыта бочка.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

На новае лета
Радзі, божа, жыта.

У полі ўрадліва,
У клуні ўмалотна.

А ў печы, як рожа,
Гаспадынька гожа.

### 271. ОЙ, ЧЫЕ Ж ТО ПАСТУШКІ

— Ой, чые ж то пастушкі
Раненька волы пасвілі,
[За пана бога прахалі]?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Раненька волы пасвілі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце ў полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то волы
Раненька ў полі буялі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Раненька волы буялі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то пастушкі
Гусі папасалі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Гусі папасалі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то пастушкі
Свінні папасалі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Свінні папасалі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то пастушкі
Авечкі папасалі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Авечкі папасалі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то наймічкі
Лэшкі асыпалі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара.
Лэшкі асыпалі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то касарыкі
Рана сена касілі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Рана сена касілі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то грабільнічкі
Рана сена грабілі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Рана сена грабілі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя у дому,
Даў яму, дай.

— Ой, чые ж то насільнічкі
Рана копіцы насілі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Рана копіцы насілі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то стажэльнічкі
Рана сена стажылі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Рана сена стажылі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя у дому
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то жэнчыкі
Рана жыта жалі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Рана жыта жалі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то вязальнічкі
Росна жыта вязалі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Рана жыта вязалі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то кладзільнічкі
Жыта ў копы клалі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Жыта ў копы клалі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то савачэнькі
Раненька жыта сеялі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Раненька жыта сеялі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце ў полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то вазільнічкі
Рана жыта вазілі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара,
Рана жыта вазілі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя ў дому,
Дай яму, дай.

— Ой, чые ж то малацільнічкі
Рана ў клуні жыта малацілі,
За пана бога прахалі?
— Нашага пана, пана гаспадара
Рана ў клуні жыта малацілі,
За пана бога прахалі:
Дай яму, божа, дай
Шчасце у полі,
Здароўя у дому,
Дай яму, дай.

А за тым словам
Да бувай здароў.
Дай, божа, шчоб гаспадар
Пражыў доўга на свеце,
Да замышляў сваімі
Вернымі слугамі.

## 272. ХОДЗІЦЬ, ПАХОДЗІЦЬ МЕСЯЦ ПА НЕБУ

Ходзіць, паходзіць месяц па небу,
Кліча ж, пакліча зару з сабою:
— Хадзем жа, зара, гдзе ж госпад жыве.
Госпад жа жыве ў нашага пана.
За лугам, лугам ходзіць наш пан з плугам,
Ходзіць, паходзіць, з богам гаворыць:
— Да зарадзі ж, божа, жыта і пшаніцу,
Жыта, пшаніцу, ўсякую пашніцу,
Каласістую, ядраністую!
Найму жанцоў — семсот малайцоў,
Настаўлю копак, як на небе ж зорак,
Складу ж я стажок над рэчанькаю,
Завярну ж вяршок ясным сокалам.
— Сокалу, саколе, ты ж висока сядзіш.
Высока ж сядзіш, далёка бачыш.
— Ой, бачу ж, бачу я й шчуку ў моры,
І шчуку ж у моры, і звера у полі.
Шчука, цяцера, пабратаймася:
З тваіх костачак зробім аблучок,
А маім пер'ейкам панатыкаем.

## 273. ХОДЗІЦЬ, ПАХОДЗІЦЬ

Ходзіць, паходзіць
Месяц па небу,

Святы вечар! [1]

Кліча, пакліча
Зоры з сабою.

— Ох вы, зорачкі,
Сястрыцы мае.

А хадзем жа мы
Пана шукаці,

Пана шукаці,
Пана Восіпа.

Сядзіць пан Восіп
За сваім сталом,

За сваім сталом,
У новых будынках.

За сталом сядзіць,
Тры кубкі дзяржыць.

У першым кубку —
Зеляно віно.

У другім кубку —
Кудрава піва.

У трэцім кубку —
Саладок мядок.

Зеляно віно —
Ля самога яго.

Кудрава піва —
То дзеткам яго.

Саладок мядок —
То жане яго.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

## 274. ХОДЗІЦЬ, ПАХОДЗІЦЬ МЕСЯЦ ПА НЕБУ

Ходзіць, паходзіць месяц па небу,

Шчодры вечар, месяц па небу,
Шчодры вечар, святы васіллё![1]

Кліча, пакліча зору з сабою.
— Ой, зору, зору, хадзі са мною.
Хадзі са мною, дзе гаспадзь жыве,
Дзе гаспадзь жыве, ў нашага пана.
Ў пана Івана за сталом сядзіць,
За сталом сядзіць, тры кубкі
дзяржыць.
Ў першым кубачку — віно зеляно,
Ў другім кубачку — мядок саладок,
У трэцім кубачку — шчасце да й доля.
Віно зеляно — для хазяіна,
Мядок саладок — для хазяюшкі,
Шчасце да й доля — для іх дзетачак.

## 275. ХАДЗІЎ, ПАХАДЗІЎ МЕСЯЦ ПА НЕБУ

Хадзіў, пахадзіў
Месяц па небу,
Ой, зваў, пераззваў
Зоры з сабою:

— Зоры, зараніцы,
Мае сястрыцы,
Хадзіце са мною
Бога шукаці.

Ой, нашлі бога
У Сцяпана за сталом.
За сталом сядзіць,
Тры кубкі дзяржыць.

---

[1] Прыпеў «Шчодры вечар» паўтараецца з другой часткай кожнага радка, а затым — «Шчодры вечар, святы васіллё!»

У адным кубачку —
Віно зеляно,
Ў другім кубачку —
Мядок саладок.

Віно зеляно —
Ля самога яго.
Мядок саладок —
Ля яго дзетак.

Мы ж цябе, гаспадару,
Не зневажаем,
Да з Новым годам
Паздраўляем!

## 276. ОЙ, ХОДЗІЦЬ, ХОДЗІЦЬ МЕСЯЦ ПА НЕБУ

Ой, ходзіць, ходзіць месяц па небу,
Шчодры вечар, святы вечар! [1]

Зоры склікаець, бога шукаець.
Вот знайшлі бога у Лужскам сяле,
Ў пана Сцяпана за сталом сядзіць,
За сталом сядзіць, тры кубкі дзяржыць.
Ў першым кубачку — гарэлка-п'янка,
Гарэлка-п'янка для гаспадарка.
Ў другім кубачку — віно зеляно,
Віно зеляно — для жаны яго.
Ў трэцім кубачку — мядок саладок,
Мядок саладок для яго дзяток.

## 277. ОЙ, У ДВАРКУ, У ДВАРКУ

Ой, ў дварку, ў дварку
Так, як у вянку.
Тры агні гарыць,
Тры катлы кіпіць.
Што ў первым катле —
Пшанічна мука,

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

А ў другім катле —
Зялёна ж віно.
А ў трэйцім катле —
Салодкі мядок.
Пшанічна ж мука —
Для яго жаны,
Зялёна ж віно —
Самому ж пану,
Салодкі мядок —
Для яго ж дзетак.
Начынайнічку —
Паўзалатога,
А для музыкі —
Кварта гарэлкі,
А механошы —
Чатыры ж грошы!

## 278. У НАШАГА ПАНА ІВАНА ДВОР ГАРАЖОНЫ

У нашага пана Івана двор гаражоны,
Двор гаражоны жалезным тынам.
На том жа двары тры агні гарацъ,
Тры агні гарацъ, тры катлы кіпяць.
А ў першым катле — пшанічна віно,
У другім катле — чырвона піва,
А ў трэцім катле — саладкі мядкі.
Пшанічна віно — то хазяіну,
Чырвона піва — то жане яго,
Саладкі мядкі — то дзеткам яго.

## 279. У НАШАГА ПАНА ДВОР ГАРАДЖОНЫ

У нашага пана двор гараджоны,
[Двор гараджоны], явар саджоны.

На тым явары сіў сокал сядзіць,
На мора глядзіць, ён дзіва бачыць.

Ён дзіва бачыць, караблі плывуць,
На тых караблях па сто малайцоў.

Тыя ж малайцы дорага плацяць,
Дорага плацяць, па сто чырвонцаў.

[Па сто чырвонцаў], па яснай ветцы,
Па яснай ветцы, па краснай дзеўцы.

— Купім жа, братцы, залаты чоўнік,
Залаты чоўнік, срэбна весельца.

Спусцімся, братцы, да таго пана Івана,
Дай яму, божа, шчасця, здароўя ў яго даму.

## 280. ПАНЕ ГАСПАДАР, БОГ ЦЯБЕ ЗАВЕ

Пане гаспадар, бог цябе заве,

Святы вечар! [1]

Бог цябе заве, дар табе дае,
Дар табе дае, валы паруе,
Паруе валы, усё палавыя,
Ўсё палавыя, ўсё вараныя.

Пане гаспадар, бог цябе заве,
Бог цябе заве, дар табе дае,
Дар табе дае, коні стайлуе,
Стайлуе коні на тры стайненькі,
А вараныя ды й на чатыры.

Пане гаспадар, бог цябе заве,
Бог цябе заве, дар табе дае,
Дар табе дае, стажкі шаруе,
Шаруе стажкі у тры шарачкі,
А пшанічныя да й у чатыры.

Пане гаспадар, бог цябе заве,
Бог цябе заве, дар табе дае,
Дар табе дае, сям'ю роўнюю,
Сям'ю роўнюю, усё маладую,
Ўсё маладую, ўсё пакорную.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Ўжо ж мы песеньку да й даспявалі,
Святыя празнічкі да й праважалі.
Адзін празнічак—свята раждзяство,
Другі празнічак — новы гадочак,
Трэці празнічак — свята хрышчэнне.
Свята раждзяство развесяліла,
Ў новы гадочак ўсіх панавіла,
Свята хрышчэнне ўсіх пахрысціла.

## 281. ПАНЕ ГАСПАДАРУ, ЦІ СПІШ, ЦІ ЛЯЖЫШ?

Пане гаспадару, ці спіш, ці ляжыш?

Святы вечар! [1]

Ці спіш, ці ляжыш, што з намі не гаворыш?
Пане гаспадару, бог цябе заве,
Бог цябе заве, дар табе дае,
Твайго дамочку азіраючы,
Шчасцем, здароўем надзяляючы.
Адчыні сені, штоб пчолы селі,
Адчыні акно, штоб даў бог дабро.
Пане гаспадару, ўжо з усім словам,
Ўжо з усім словам да й жыві з богам.
Не сам з сабою — са сваёй сям'ёю,
З сваёй сям'ёю да й із усёю,
З сваімі дзеткамі дай маленькімі,
З усімі намі — з калядNічкамі.
Ой, судзі, божа, зорак даждаці,
Нам, калядNічкам, калядаваці,
Вам, добрым людзям, да й загадваці.

## 282. АЙ, У ПАНА У ІВАНА

Ай, у пана ў Івана

Бог даў вумную жану,
Вумную жану да й ў яго даму.[1]

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Закупіла да тры гарады:
Першы горад — з панамі,
Другі горад — з купцамі,
Трэйці горад — з мужыкамі.

З панамі буду панаваць,
А з купцамі буду купчаваць,
А з мужыкамі поле пахаць,
Поле пахаць, ячмень сеяць,
Ячмень сеяць — піва варыць,
Піва варыць — сына жаніць.

## 283. А У НАШАГА ПАНА СЦЯПАНА ВУМНАЯ ЖАНА

А ў нашага пана Сцяпана вумная жана,

Бог яму даў вумную жану ў яго даму. [1]

Закупіла яна яму тры гарады:
Першы горад — з панамі,
Другі горад — з купцамі,
Трэці горад — з мужыкамі.
Што з панамі — дак пануюць,
Што з купцамі — дак таргуюць,
Што з мужыкамі — хлеб сеюць.

## 284. У ПАНА ІВАНА РАЗУМНАЯ ЖАНА

У пана Івана разумная жана,

Бог яму даў разумную жану ў яго даму,
Ды й разумную.[1]

Сенечкі мяла, шаляжок знайшла.
Закупіла яна да тры гарады:
Першы горад — ўсё з панамі,
Другі горад — ўсё з казакамі,
Трэці горад — ўсё з мужыкамі.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Што з панамі — да й панаваці,
Што з казакамі — ваяваці,
Што з мужыкамі — поле пахаці.
Поле пахаці, ячмень сеяці,
Ячмень сеяці — піва варыці,
Піва варыці — гасцей паіці.

## 285. А У ПАНА, ПАНА, У ПАНА ВАСІЛЯ ДВОР ГАРАДЖОНЫ

А ў пана, пана, ў пана Васіля
Двор гараджоны,
Бог яму даў вумную жану Арынку.[1]

Двор гараджоны, садам саджоны.
Закупіла яна да тры гарады:
А першы горад — ўсё з мужыкамі,
А другі горад — ўсё з панамі,
А трэці горад — усё з казакамі.
А з мужыкамі — поле пахаці,
А з панамі — суды судзіці,
А з казакамі — вайну чыніці.

## 286. У ПАНА ЛЯВОНА РАЗУМНАЯ ЖАНА

У пана Лявона разумная жана,
Бог даў яму вумную жану да ў яго даму.[1]

Да й яна закупіла тры гарады:
У першым горадзе — да ўсё мужыкі,
У другім горадзе — да ўсё панічы,
У трэцім горадзе — да ўсё казакі.
А з мужыкамі — да поле пахаці,
А з панічамі — суды судзіці,
А з казакамі — на вайну іці.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 287. У ПАНА, ПАНА ВУМНАЯ ЖАНА

У пана, пана вумная жана,
Да й закупіла да тры гарады:
Першы горад — да ўсё з панамі,
Другі горад — да ўсё з казакамі,
Трэці горад — да ўсё з мужыкамі.
А й з панамі — суды судзіці,
А з казакамі — піва варыці,
А з мужыкамі — поле араці,
Поле араці, ячмень сеяці,
Ячмень сеяці — піва варыці,
Піва варыці — паноў паіці.

## 288. А У ПАНА ІВАНА УМНАЯ ЖАНА

А ў пана Івана ўмная жана.

Бог яму даў умнаю жану ў яго даму.[1]

Умная жана сенечкі мяла.
Сенечкі мяла, шэляжкі знайшла.
Ды закупіла ды тры гарады.
Ой, першы горад — славен наш Кіеў.
Ой, другі горад — славен Чарнігаў.
А трэці горад — славен наш Лоеў.
Як Кіеў славен — то ўсё царквамі.
Чарнігаў славен — ўсё казакамі,
А Лоеў славен — ўсё таргаўцамі.
Што ў Кіеў хадзіць — богу маліцца,
А ў Чарнігаў — ваявацісь.
Ой, а ў Лоеў — таргавацісь.

## 289. У ПАНА ФОКІ ДА ТРЫ ЎЦЕХІ

У пана Фокі да тры ўцехі,

Дай яму, божа, усяго добрага яго двару.[1]

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Першая ўцеха — ярыя пчолы,
Другая ўцеха — белы гарнастай,
Трэцяя ўцеха — чорны саболе.
Ярыя пчолы — богу на свечы,
Белы гарнастай — жане на шубу,
Чорны саболе рые, капае,
Рые, капае, грошы шукае.

## 290. ШТО Й У ПАНА, У ПАНА

Што й у пана, у пана
Мікалая Васілевіча
Адзін сыночак, як сакалочак,
Пан і таго ў войска знараджаў.
Каня вывадзіў да й прыказываў:
— Едзь, мой сыночак, як сакалочак:
Паперад войска не хавайся,
Ззадзі войска не аставайся.
Бацюшкі свайго ён не паслухаў,
Папярод войска на кане йграе,
Папярод усіх мячом махае.
Едзе поле, едзе другое,
На трэця ўз'язджае,
Яго бацюшка не ўгадае.
Бацюшка кажа: «То месячка свет»,
Матушка кажа: «То наш сын едзе»,
Як заслышаў пра то да рускі кароль:
— Калі б я знаў, чый то сын іграў,
Я б за яго каралеўну аддаў.

## 291. У НАШАГА МІКАЛАЯ ЯВАР НА ДВАРЭ

У нашага Мікалая явар на дварэ,
Святы вечар! [1]

На тым явары калыбель вісіць,
А ў той калыбелі — малое дзіця.
Калышуць яго мамкі і нянькі,
Калышуць яго прыпяваючы:
— Калі жыў будзе, каралём будзе,
А каралеўну да замуж возьме.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 292. ДОБРЫ ВЕЧАР, ПАНЕ ГАСПАДАРУ

Добры вечар, пане гаспадару, ой, каляда! [1]
Харошыя маеш ты сыночкі.
Ой, што ж яны ў цябе робяць?
— У святлічцы золата важаць,
Наважылі трыццаць пудоў і чатыры.
Тыя трыццаць пану гаспадару аддалі,
А тыя чатыры нам, каляднічкам, і калядзе.

## 293. ОЙ, СЛАВЕН, ПЫШОН, МОЛАД ЖАНІШОК

Ой, славен, пышон, молад жанішок,
— Ой, чым жа ён да й аславіўся?
Агарадзіў двор шчырым залезам,
Зрабіў варотца із шчырага злотца
І зрабіў крэселка маляванае.
На тым крэселку сам паніч сядзіць.
Прыйшло да яго тры казачэнькі,
Тры казачэнькі, тры рыбачэнькі,
Хваляцца ёму, як пану свому:
— Ой, пазволь, пане, землю мераці,
Землю мераці, масты масціці,
Вараное стада да й пераганяці.
Усхадзіліся ветры буйныя,
Да й паламалі зялёны мост,
Вараное стада да й патанула.
— Ой, не жаль жа мне варанога стада,
Да як жаль жа мне сіўца-варанца,
Сіўца-варанца, белага капытца,
Што й капытцам луг прабягае,
А хвосцічанькам зямлю замятае,
А грыванькаю ўсё поле ўкрывае,
А ўшыцамі ўсе слухі слышыць,
А за тым словам будзь, пане, здароў.

---

[1] Кожны радок з прыпевам «Ой, каляда» паўтараецца двойчы.

## 294. СЯДЗІЦЬ ГАСПАДАР УСЕ НА ПОКУЦЕ

Сядзіць гаспадар усё на покуце,
А на ім світа ўся ў золаце,
Сабалямі ўся аблажана,
На тых сабалях ўсё па шэляжочку,
Нам, малойчыкам, па піражочку.

## 295. НА СІНІМ МОРЫ СВЕЧАЧКА ГАРЫЦЬ

На сінім моры свечачка гарыць,

Шчодры вечар, свечачка гарыць,
Шчодры вечар, святы васіллё! [1]

З тое свечачкі скарынка ўпала,
З тое скарынкі цэркаўка стала.
А ў той цэркаўцы тры сталы стаяць,
А на тых сталах тры кубкі стаяць.
Першы кубачак — свято раждзяство,
Другі кубачак — новы годзічак,
Трэці кубачак — свято хрышчэнне.

Бацька сварыўся, каб не барыўся,
Маці казала, каб далі сала,
Рэшата аўса, наверх каўбаса,
Сала паласа — песенька уся.

## 296. АЙ, РАНА, РАНА ТРОЕ КУРЭЙ ПЕЛА

Ай, рана, рана трое курэй пела,
Раней таго кавалiха ўстала,
[Кавалiха ўстала], кавалёў разбудзіла:
— Устаньце, кавалі, куйце тапары,
Куйце тапары, рубіце цэркаўку.
[Рубіце цэркаўку] з чатырма вугламі,
[З чатырма вугламі] з трыма вакнамі.

---

[1] Прыпеў «Шчодры вечар» паўтараецца з другой часткай кожнага радка, а затым — «Шчодры вечар, святы васіллё!»

Першае ваконца — на ўсход сонца,
Другое ваконца — на поўдня сонца,
А трэцяе ваконца — на захад сонца.
Што на ўсход сонца — то святое ражство,
На поўдня сонца — то святое васілле,
Трэцяе ваконца — святое крашчэнне.

## 297. РАНА, РАНА КУРЫ ПРАПЕЛІ

Рана, рана куры прапелі,
Раней таго кавалёўна ўстала,
Кавалёўна ўстала, кавалёў будзіла:
— Уставайце, кавалі, куйце тапары,
Куйце тапары, чашыце брускі камінавыя,
Масціце масты калінавыя.
Прыдуць жа к нам да тры празнічкі:
Першы празнічак — святое ражство,
Другі [празнічак] — [святое] васілле,
Трэці [празнічак] — [святое] крашчэнне.
Ражство ідзе — каўбасу нясе,
Васілле ідзе з жаркаю свячою,
Крашчэнне ідзе з святою вадою.

## 298. АХ, ЛЯЛЁН РАНА, КАРАЛЕЎНА ЎСТАЛА

Ах, лялён рана, каралеўна ўстала.
Каралеўна ўстала, кавалёў будзіла,

Ах, лялён рана, кавалёў будзіла.[1]

— 'Станьце вы, кавалі, куйце вы тапары,
Куйце вы тапары, рубайце вы сосны,
Рубайце вы сосны, скіпайце вы доскі,
Скіпайце вы доскі, масціце масточкі,
Да будзе к нам ехаць а тры празнічкі:
Первы празнічак — свято раждзяство,
Другі празнічак — свято васілле,

---

[1] Прыпеў «Ах, лялён рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Трэці празнічак — свята кшчэннейка,
Раждзяство едзіць на вароным кані,
Васілле едзіць на белым кані,
Кшчэннейка едзіць на сівай кабылі.

## 299. А ЧАЛОМ, ЧАЛОМ ПАД АКЕНЕЧКАМ

А чалом, чалом пад акенечкам,
Святы вечар пад акенечкам! [1]

— А ці дома, дома, пані гаспадыня?
— А няма ў доме, сядзіць ў каморы,
Сядзіць ў каморы, шые, вышывае.
А на рукаўцы — сівы галубцы,
А на палічкі — дробныя пташачкі.
Сівы галубцы як не паляцяць,
Дробныя пташачкі як не шчабечуць,
Малыя дзеткі як не гавораць.

## 300. У НАС СЯГОННЯ КРАЎЦЫ БЫЛІ

У нас сягоння краўцы былі,

Зялёнае жыта ў дуброве.[2]

Гаспадыні шубу шылі.
Пашла ж яна падмятаючы,
Сваіх дзетак абуджаючы:
— Станьце, дзеткі, ўмыціся,
Умыціся, часаціся.
У нас сягоння прыя ўстала,
Прыя ўстала — прыявілася:
Сорак каровак ацялілася,
Дваццаць цялушак, дваццаць бычочкаў.
Цялушачкі — на прыбытачак,
Бычочкі — на пажытачак.

---

[1] Прыпеў «Святы вечар» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Гаспадынька, як малінка,
Запалі ты свечку найяснейшую,
Пабудзі служку найвярнейшую.
У нас сягоння прыя ўстала,
Прыя ўстала, прыявілася:
Сорак авечак акацілася,
Дваццаць баранаў, дваццаць авечак.
Баранчыкі — на пажытачак,
Авечачкі — на прыбытачак.
Гаспадынька, як малінка,
Даруй гасцей, не баў — бардзей!
Чырвень злоты — нам на боты,
Саракоўку — на падкоўкі,
Пару злотых — на падноскі,
Падрубельчык — на халявы.
Паднясі гарэлкі і сыр на талерку,
Капу яек на паўміску.
Не лічачы, не мыслячы.
Тыя яйкі мы палічым,
Гаспадыньку павялічым.

## 301. ОЙ, КРАСНА-ЯСНА У ЛУЗЕ КАЛІНА

Ой, красна-ясна ў лузе каліна,

Ой, дай, божа, у лузе каліна.[1]

Шчэ краснейша Пецева жана,
Па дварцю ходзіць, як месяц усходзіць,
Да сяней выйшла, як зара зайшла,
Да хаты ўвайшла, панічы сядзяць,
Панічы сядзяць, шапачкі дзяржаць,
Шапачкі дзяржаць па-пад рукамі,
І пытаюцца: «Чыя то пані?»
А Пеця кажа: «То мая жана»,
А мая жоначка, як паненачка.

---

[1] Прыпеў «Ой, дай, божа» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

## 302. ВЫСОКА КЛЕН-ДЗЕРАЎЦА, ВЫСОКА

Высока клён-дзераўца, высока,
Зелен явар яшчэ вышэй,
Сасоначка — над усімі.

Высока Карпіна жонка,
Паўлюкова яшчэ вышэй,
Міколіна — над усімі.

## 303. ЕЛАЧКА ВЯЛІКА РАСЛА

Елачка вяліка расла,
Сасоначка вышэй таго,
Зялёненькі явар — над усімі.

У Андрэя жонка харошая,
А ў Міцькі палучша таго,
У пана ў Мінькі — над усімі.

## 304. ТАМ НА ПОЛІ ЕЛКА

Там на полі ёлка
Распусціла зёлка.
А хто піе, хто гуляе?
— Рыгорава жонка! [1]

Няхай яна піе
І няхай гуляе,
А хто яе, маладзенькай,
Дамок даглядае?

— Даглядае бацька,
Даглядае маці,
Які ў яе, маладзенькай,
Парадак у хаце.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца двойчы.

Там на полі ёлка
Распусціла зёлка,
А хто піе, хто гуляе?
— Рыгорава жонка!

Прымаўка:

Пазволілі адну,
Пазвольце другую,
Ваш дом звесяліці,
Нам вясёлым быці.

Ваша хата з гліны,
З саломы падваліны.
Як гэту развалім,
Дык нову паставім.

Мы не варагі,
Бяром хлеб і пірагі,
Каўбасу — для запасу,
І барана за рагі.

## 305. ОЙ ТЫ, БАБАЧКА, СТАРА ГАЛАЧКА

Ой ты, бабачка, стара галачка,

Святы вечар! [1]

На печы сядзі, салому таўчы,
Салому таўчы — пірагі пячы.
А сена смажаць — пірагі мазаць.
Чорны валішча той дроў прывязе,
А памялішча то печ замяце,
А качаржышча то жар заграбе,
А дзеркачышча хату прыбярэ.
А ты, бабачка, стара галачка,
На печы сядзі, чырвонцы лічы.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 306. А У КАНЕЦ ДВАРА

А ў канец двара
Стаіць свецелка
Нова рублена,
Недарублена.
А ў той свецелцы
Тры акошачкі.

Шчодры вечар, добры вечар,
Добрым людзям на здароўе! [1]

У першым акенцы —
Ясны месячык,
У другім акенцы —
Ясна сонелка,
У трэцім акенцы —
Ясны зоранькі.

Ой, шчо месячык —
То гаспадарык,
А шчо сонелка —
То гаспадынька,
А шчо зоранькі —
То іх дзетанькі.

## 307. ЗА СЯНЬМІ, СЯНЬМІ ТАМ ЗА НОВЫМІ

За сяньмі, сяньмі там за новымі,
Шчодры вечар, добры вечар! [2]

Стаіць святліца нова зрублена.
У той святліцы чатыры акенцы:
У першым акенцы — да яснае сонца,
У другім акенцы — да ясны месяц,
У трэцім акенцы — да дробны звёзды,
У чацвёртым акенцы — да цёмна хмара.
Яснае сонца — то жонка яго,
Ясны месяц — то сам гаспадар,

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Што дробныя звёзды — то дзеткі яго,
Што цёмная хмара — жыта яго,
А з карэнечка — каранiстае,
А з саломінкі — сцебялістае,
А з каласочка — каласістае.
А дай жа, божа, пану гаспадару,
Ой, жыці-быці, піва варыці,
Піва варыці, сыны жаніці,
Гарэлку гнаці, дочкі замуж аддаваці.

## 308. ОЙ, У ЛЯСКУ, У ЛЯСКУ

Ой, у ляску, у ляску
На жоўтым пяску,

Святы вечар, святое васілле! [1]

Пчолкі гудуць,
Цэркаў будуюць.

Да збудавалі
З трыма вярхамі,

З трыма вярхамі,
З трыма акнамі.

У першым акенцы —
Ясен месячык,

У другім акенцы —
Ясна сонейка,

У трэцім акенцы —
Ясныя зорачкі.

Ясен месячык —
То гаспадарчык,

Ясна сонейка —
То гаспадынька,

Ясныя зорачкі —
То іх дзетачкі.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

## 309. У ЛЯСКУ, У ЛЯСКУ

У ляску, у ляску
На жоўтым пяску,
Святы вечар добрым людзям![1]

Там пчолы гудуць,
Цэркаў будуюць,

З трыма вакнамі,
З чатырма вуглами.

Першае ваконца —
Жаркае сонца,

Другое ваконца —
Вясёл месячка,

Трэцяя ваконца —
Дробны звёздачкі.

Жаркае соннейка —
То Уладзімірка,

Вясёл месячка —
То красная дзевачка,

Дробныя звёздачкі —
То іх дзетачкі.

## 310. А У ЛЯСКУ, У ЛЯСКУ

А ў ляску, ў ляску
На жоўтым пяску
Стаіць цэркаўка
З трыма вярхамі,
З трыма акнамі.
Адно акенца — то то соўнейка,
Другое акенца — то то месячык,

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Трэцяе акенца — то то зораньк!.
А што соўнейка — то то бацюшка,
А што месячык — то то матушка,
А што зораньк! — то то дзетаньк!.

## 311. ПЛАВАЛА ВУТАЧКА ДА Й ПА РЭЧАЧЦЫ

Плавала вутачка
Да й па рэчачцы,

Святы вечар! [1]

Сера вутачка
З вуцяняткам!.

З вуцяняткам!,
З селязенечкам.

Сера вутачка —
То Сахвеечка,

Селязенечка —
То сам Хомачка.

Вуцянятачк! —
То іх дзетачк!.

## 312. А МЫ ШЧАДРУЕМ, ВАСІЛЛЕ ЧУЕМ

А мы шчадруем, васілле чуем,
Святы вечар людзям добрым!

Іванава маці, пазволь шчадраваці,
Святы вечар людзям добрым!

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

# ДАЧЦЭ ГАСПАДАРА

## 313. ОЙ, РАНА, РАНА КУРЫ ЗАПЕЛІ

Ой, рана, рана куры запелі,

Каляда, куры запелі.[1]

Ой, яшчэ раней Ганначка ўстала,
Ганначка ўстала, коску часала,
Коску ўчасаўшы, госцікаў ждала.
Ой, прыехала трое госцікаў,
Трое госцікаў — ўсе тры жанішкі,
Адныя сталі там за садамі,
Другія сталі за варатамі,
Трэція сталі з коньмі пад сеньмі.
Што за садамі — тым адказалі,
За варатамі — ручнічка далі,
З коньмі пад сеньмі — Ганначку ўзялі.
Ганначку ўзялі, падзенькавалі:
— Дзякуй, баценьку, за тваю дачку,
Што тонка прала і звонка ткала,
Бела бяліла, чыста хадзіла.

## 314. ОЙ, РАНА, РАНА КУРАНЬКІ ПЯЮЦЬ

Ой, рана, рана куранькі пяюць,

Каляда, куранькі пяюць.[1]

Ой, яшчэ раней дзеванька ўстала,
Дзеванька ўстала, касу часала,

---

[1] Прыпеў «Каляда» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Касу часала, свацейкаў ждала.
Ой, адзін сваток ды за садамі,
А другі сваток за варатамі,
А трэці сваток з коньмі пад сяньмі.
Што за садамі — тым адказалі,
Што за варатамі — хустачку далі,
Пад сяньмі з коньмі — дзеваньку ўзялі.
Дзеваньку ўзялі, ды што ж ёй далі,
Далі панчошкі на белы ножкі,
І чаравічкі, хоць невялічкі.

## 315. ОЙ, РАНА, РАНА КУРЫ ЗАПЕЛІ

Ой, рана, рана куры запелі,

Каляда, куры запелі.[1]

Ой, яшчэ раней Ганначка ўстала,
Ганначка ўстала, коску ўчасала,
Коску ўчасаўшы, павы пагнала,
Павы жанучы, пер'е збірала,
Пер'е збірала, ў хвартушок клала,
З хвартушка брала, вяночак віла,
Вяночак звіла, на Дунай пусціла.
— Хто вяночак пойме, той мяне возьме.
Ой, адазваўся малады Васілька;
— Я вяночка пайму, я цябе вазьму.
Як ступіў нагою — па пояс вадою,
Як ступіў другою — на дно галавою.

## 316. ОЙ, РАНА, РАНА КУРЫ ПАПЕЛІ

Ой, рана, рана куры папелі,

Святы вечар! [2]

А раней таго Ганначка ўстала,
Ганначка ўстала, коску часала,

[1] Прыпеў «Каляда» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Коску часала да й заплятала.
Прыйшло да яе тры турчаначкі
Да й загадалі тры загадачкі.
— Як адгадаеш, бацькава будзеш,
Не адгадаеш, то наша будзеш.
Ой, што ж то расце да й без кораня?
Ой, што ж то гарыць да й без полымя?
Ой, што ж то гудзе без буйна ветру?
— Сіні камень расце да й без кораня,
Зорачка гарыць да й без полымя,
Стрэлачка гудзе без буйна ветру.
— Слухай, Ганначка, за гэтым словам,
За гэтым словам жыві здарова.
Жыві здарова з атцом, з маткаю,
З добрымі людзьмі, з каляднічкамі.

## 317. ОЙ, МОСТУ, МОСТУ ПАЗАЛОЧАНЫ

Ой, мосту, мосту пазалочаны,
Святы вечар! [1]

Пасярод мосту светланька стаіць.
А ў той светланьцы Галечка сядзіць.
Галечка сядзіць, касаньку заплятае.
Прышло да яе тры турчаначкі
Да загадалі тры загадачкі:
— Як адгадаеш, наша будзеш,
Як не адгадаеш, то бацькава будзеш.
Што расце без сіняга цвету?
Што цвіце без цвету?
Што гудзе без буйнага ветру?
— Сіні камень расце без сіняга цвету,
Папараць цвіце без цвету,
Стрэланька гудзе без буйнага ветру.

## 318. ОЙ, РАНА, РАНА КУРЫ ЗАПЕЛІ

Ой, рана, рана куры запелі,

Святы вечар добрым людзям.[1]

Ой, яшчэ раней дзеванька ўстала,

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Дзеванька ўстала, косаньку часала.
Ўчасаўшы да ўмыўшыся, ўбралася,
Убраўшыся, да цэркві йшла,
Хлопцы стаялі, шапкі знімалі:
— Ці ты крулеўна, ці ты царэўна?
— Я ж не крулеўна, я ж не царэўна,
Бацькава дочка, красна панначка.

## 319. ОЙ, РАНА, РАНА КУРЫ ПАПЕЛІ

Ой, рана, рана куры папелі,

Святы вечар.[1]

Куры папелі, дзяўчыну збудзілі.
Дзяўчына ўстала, коску часала,
Коску часала, лічыка ўмывала,
Лічыка ўмывала, у цэркву ўступала.
А ў цэркву ішла з дзевачкамі,
А з цэрквы ішла з панічамі.
Яе панічы да й не пазналі,
Да каралёўнаю яе назвалі.
— Я не каралёўна, я не цароўна,
Я так панначка, маміна дочка.

## 320. ОЙ, РАНА, РАНА КУРЫ ПАПЕЛІ

Ой, рана, рана куры папелі,

Святы вечар![1]

А раней таго Мар'я ўстала.
Па двару хадзіла, званком званіла.
Выйшла ў сені — зазваніла,
Зазваніла — баяр будзіла.
— Уставайце, баяры, коні сядлайце.
Едзьце на ўловы, ў зялёныя дубровы.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 321. РАНА, РАНА КУРЫ ПАПЕЛІ

Рана, рана куры папелі,

Святы вечар добрым людзям.[1]

А раней таго дзеўка ўстала,
[Дзеўка ўстала], па двару пахадзіла.
[Па двару пахадзіла], званком пазваніла,
[Званком пазваніла], кузняцоў пабудзіла.
— Уставайце, кузняцы, куйце тапары,
Чашыце бруссе, масціце масты,
Туды будуць ісці тры празнічкі:
Першы празнічак — святое ражства,
Другі празнічак — святое васілле.
Трэці празнічак — святое крашчэнне.
Ражство — калядам прыхажство,
Васілле — калядам красілле,
Святое крашчэнне — калядам прашчэнне.

## 322. ЯСЕН МЕСЯЦ, КАЛЯДА

Ясен месяц, каляда,
На небе яснеіць, каляда.

Млода Марылька, каляда,
У свайго татулькі, каляда,

У свайго татулькі, каляда,
Смеленька ходзіць, каляда.

## 323. ДОБРЫ ВЕЧАР, ПАНЕНАЧКА

Добры вечар, паненачка,
Проша адамкнуць акенечка,
Проша адамкнуць і паглядзець,
Ці той едзець, каго жджэш?
Едзець паніч не тутэйшы,

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Не тутэйшы — заграНічны,
ЗаграНічны — пекны, слічны.
Сам панічык маладзенькі,
Пад ім конік вараненькі,
На ім шуба шоўкам шыта,
Пад ім сядло злотам літа,
Злотам літа, вылівана,
Да паненкі прысылана.

— Паненачка Марыначка!
Даруй гасцей, не баў — бардзей.
А чым будзеш даравацi,
Было б за што дзенькавацi.
Нам старожак невялічак,
Сорак яек на паўмісак,
Не лічачы, не мыслячы.
Тыя яйкі мы палічым,
Паненачку павялічым.

Ота ж паненачка
Пекна Марыначка,
Песня спета
Процiў лета.
Рок пры року —
Кавалер пры боку.
Каб вялікая расла,
Да зялёных святак замуж пашла,
Вясёлая была, намі не гардзіла,
Каб мы былі малайцамі,
Падарылі б чырванцамі.

## 324. ДОБРЫ ВЕЧАР, ПАНЕНАЧКА

Добры вечар, паненачка,
Чырвона ружа, сад зялёны, вішнёвы.[1]

Прашу адамкнуць акеначка.
У тваім двары гасцей многа,
Тыя госцi не хаджоны,
Не хаджоны, не бываны.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Масці кладку, кліч у хатку.
Калі сіла, нясі сыра.
Калі многа, дай пірога.
Калі ласка, віна пляшка.
Песня спета, напроці лета,
Напроці Юра, на здароўе!

## 325. ПАД ДЫМАМ ХАДЗІЛА

Пад дымам хадзіла,
Мёд-віно сыціла
Й госцікі частавала:

— Да пейце, госцікі, ешце,
Хаця мяне не бярыце,
Бо я ў бацька да й адна дочка.

Да кахаў мяне бацька,
На каленцах дзержачы,
Пірагамі кормячы.

Пірагамі да пшанічнымі,
А сытою да салодкаю,
А сыта з новага двара.

Дваранін на кані іграе,
Дзеўка прыпявае.
— Не прыпявай, дзеўка,
Падсып да каню аўса.

— Ой, калі ж бо не мая воля:
Замкнёна камора.
Есць у маго бацька ключы,
Пабразгувае ідучы.

## 326. ОХ, І У ПОЛІ ДАЛІНУШКА

Ох, і ў полі далінушка,
Там стаяла калінушка.
Пад калінай паненачка,
Маладая Ганулечка.

Бела ліца ўмывала,
Гладка галоўку часала.
А пашла ж яна да хатачкі,
Сваёй матулі пакланілася:
— Дзякуй, матуля, за твае дары,
Мяне, маладую, саўсім прыбралі.
А пашла ж яна ў павулачак,
Павулачак выдыгаючы,
Табун хлопцаў спатыкаючы.
Красныя хлопцы яе спатыкалі,
Такой паненкі нігдзе не відалі.

## 327. ОЙ, У КАЛОДЗЕЗІ, ДА РАМАНАВЕ

Ой, у калодзезі, да Раманаве,
Ой, там Марачка да й воду брала.
Да й воду брала, да й сама ўпала.
Да й прышла ж да яе і матачка яе:
— Узрынь, узрынь, тонка пральейка,
Тонка пральейка, густа тканьейка,
Што тоненька прала, гусценька ткала,
А беленька бяліла, хорашанька схадзіла.

## 328. НА ГАРЭ, ГАРЭ

На гарэ, гарэ,

Каляда! [1]

Вінны калодзезь,
У тым калодзезі
Вінная вада.
А там Тасечка
Віно чэрпала,
Віно чэрпала,
Чэсечка паіла.
А дай жа, божа,
Малайца-таргаўца,

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Каб у будні дзень
У золаце хадзіла,
А ў нядзельку —
У аксаміце.

## 329. ЗАЖУРЫЛАСЯ КРУТАЯ ГАРА

Зажурылася крутая гара,

Святы вечар! [1]

Што не ўрадзіла шаўкова трава,
Да зарадзіла зялёна віно.
А з таго віна сцежка топтана.
Хто яе таптаў? — Панна Надзюхна.
Яна таптала да й прызаснула.
Прышоў да яе баценька яе.
— Устань, Надзюхна, устань, дочачка.
Прышло да цябе трое сватоў:
Адныя сваты, што за рэкамі,
Другія сваты, што за вароцемі,
А трэція, што ў хаце сядзяць.
Што ў хаце сядзяць — то Надзюхну аддаць,
Што за рэкамі — то так адпраўляць,
А што за вароцемі — падаркі аддаць.
— Слухай, Надзюхна, з усім словам,
З усім словам да й жыві здарова.
Да й жыві здарова, з бацькам, з маткаю,
З бацькам, з маткаю, з добрымі людзьмі,
З добрымі людзьмі, з намі, калядніčкамі.

## 330. ЗАЖУРЫЛАСЯ КРУТАЯ ГАРА

Зажурылася крутая гара,

Святы вечар! [1]

Што не ўрадзіла шаўкова трава,
Толькі ўрадзіла зеляно віно.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Да таго віна сцежка топтана.
Хто яе таптаў? — Слічная панна,
Слічная панна, пані Ніначка.
Яна таптала ды й прызаснула.
Прышоў да яе баценька яе.
— Устань, Ніначка, устань, дочачка,
Прышло да цябе трое сватовей.
Адныя сваты, што за лугамі,
Другія сваты, што за варацьмі,
Трэція сваты, што ў хаце сядзяць.
Што за лугамі — то так адпраўляць,
Што за вароцьмі — пірагі, падаркі даваць,
Што ў хаце сядзяць — Ніначку ўзяць.
Слухай, Ніначка, ўжо з гэтым словам,
Ўжо з гэтым словам жыві здарова,
З атцом, з маткаю, з добрымі людзьмі,
З добрымі людзьмі, з калядні́чкамі.

## 331. ЗАЖУРЫЛАСЯ КРУТАЯ ГАРА

Зажурылася крутая гара,
Што не ўрадзіла жыта, пшаніца,
Адно віно ўсім патрэбна.
Пайшла дзеванька віно сцерагчы.
Прыходзіць да яе матанька яе.
— Хадзі, дзіцятка, дадому,
Да прыехалі трое сватоў,
Трое сватоў, тры жанішкі.
Адны ў хаце сядзяць на покуце,
Другія сталі пад вакном,
Трэці сталі пад сяньмі з коньмі.
Тым, што ў хаце,— дзеваньку даці,
Што пад вокнамі — падаркі даці,
А што пад сяньмі з коньмі — тым адказаці.

## 332. ЗАЖУРЫЛАСЯ КРУТАЯ ГАРА

Зажурылася крутая гара,
Што не зрадзіла жыта-пшаніца.
Адно зрадзіла віно молада,
А тое віно ўсім патрэбна.

Дзеванька малада віно сцерагла,
Віно сцерагла да й прызаснула.
Прышла ж да яе маманька яе.
— Устань, дзіцятка, устань, родненька,
Прышло да цябе да трое сватоў:
Адны сваты за ракой, другія за варотамі,
А трэція ў хаце сядзяць.

## 333. ЗАЖУРЫЛАСЯ КРУТАЯ ГАРА

Зажурылася крутая гара.

Ой, грай, мора, радуйся, зямля! [1]

Што не ўрадзіла шаўкова трава.
Толькі ўрадзіла зеляно віно.
Ой, каму ісці віно сцерагці.
Ой, ісці, ісці маладой Ганначцы.
Сцерагла ночачку, сцерагла другую,
А на трэцяю крэпка заснула.
Прыйшоў да яе татачка яе.
— Устань, Ганначка, устань донечка,
Ўжо ж тваё віно галубы папілі,
Віно папілі, вінаград паелі.
Ўжо ж твой братачка на жаніцьбе ходзіць,
Ўжо ж твая сястра заручоная.

## 334. ОЙ, ПАД ВІШНЯЮ, ПАД ЧЫРВОНАЮ

Ой, пад вішняю, пад чырвонаю,
Там стаяла бочачка віна.
Там дзевачка віно сцерагла,
Яна сцерагла да й заснула.
Прыйшоў да яе бацюхна яе.
— Уставай, не ляжы, віно сцеражы,
Бо прыехалі трое сватоў.
Адны сваты з коньмі пад сяньмі,

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Другія сваты да й за варотамі,
А трэція да й за рэкамі.
Што пад сяньмі, я сама выйду,
Што за варотамі, кальцо пакачу,
Што за рэкамі, лісты напішу.

## 335. МАЛАДАЯ МАР'ЕЧКА ПШАНІЧКУ ЖАЛА

Маладая Мар'ечка
Пшанічку жала,

Святы вечар! [1]

Пшанічку жала,
Да й не вязала.

Прышло да яе
Тры валошынкі.

Тры валошынкі,
Усе харошыя.

Сватаюць яе
У чысценькім полі.

— Не сватайце мяне
У чысценькім полі,

А сватайце мяне
У таткавым доме.

Татка за сталом
З мёдам і з віном.

Мамка ў каморы
Ручнічкі кроіць,

А сястра на куце
Хусткі качае,

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Братка на дварэ
Каня сядлае.

Каня сядлае,
Сястру выпраўляе:

— Едзь, мая сястрычка,
Да й не барыся,

Цераз тры часы
Назад вярніся.

Мы ж цябе, Мар'ечка,
Не зневажаем

Да з Новым годам
Паздраўляем...

Ражаство прышло,
Радасць прынясло,

Васілле прышло,
Развесяліла.

Іван красціцель
Воду акрасціў,

Воду акрасціў,
На ўвесь свет пусціў.

### 336. ОЙ, У ПОЛІ, У ПОЛІ

Ой, у полі, у полі на сухадолі,
Святы вечар людзям добрым.[1]

Малада Маруська жыта жала,
Жыта жала, у снапкі вязала,
У снапкі вязала, у копкі стаўляла.
Прышлі ж да яе тры панічыкі.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

— Мілыя мае тры панічыкі,
Не бярыце ж мяне у чыстым полі,
Бярыце ж мяне ў бацькавым доме.
У майго бацюхны тры старожанькі:
Перша старожа — бацюхна ў столе,
Бацюхна ў столе кубкі стаўляе.
Другая старожа — матка ў парозе,
Матка ў парозе падаркі рэжа...

## 337. ОЙ, ХВАЛІЛАСЯ БЕЛА БЯРОЗА

Ой, хвалілася
Бела бяроза,
Свят вечар, свят! [1]

Сваімі квятамі
Перад дубамі.

— Ой, не хваліся,
Бела бяроза,

Бо не ты кахала
Тыя кляты.

Ой, кахалі буйны ветры,
Дробны дождзі.

Ой, хвалілася
Панна Стэфана
Сваімі касамі.

— Ой, не хваліся,
Панна Стэфана,
Сваімі касамі,

Бо не ты часала
Тыя косы.

Ой, часала мамка
Старэнька

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Уночы пры свечы,
А ўдзень пры сонцы.

Да цэркві ішла —
Паны страчалі.

Паны страчалі,
Шапкі знімалі:

— Ці ты папоўна,
Ці ты дзякоўна?

— Я не папоўна
І не дзякоўна.

Бацькі дочка
Вышывальнічка.

Ой, нашыла тры
Хустачкі:

Адну нашыла
Беллю белаю.

А другую нашыла
Чырвоным шоўкам.

А трэцю нашыла
Шоўкам шаўковым.

Што нашыла
Беллю бяленькаю,
То баценьку.

А што чырвоным шоўкам,
То для матэнькі.

А што самым шоўкам,
То сама для сябе.

### 338. ХВАЛІЛАСЯ БЯРОЗА

Хвалілася бяроза
Сваімі голькамі

Перад дубкамі:
— Адувалі мяне
Буйныя ветры,
Дробныя дожджы.

Хвалілася красна панна
Сваімі коскамі
Перад жанішкамі:
— Ой, не вы ж мне
Косу часалі.

Часала мне маці мая
Уночы пры свечы,
А ўдзень пры сонцы,
Седзя ў аконца.

Да цэрквы пашла,
Паноў страчала;
Шапкі знімалі,
Яе пыталі:

— Чы ты папоўна,
Чы каралёўна,
Бацькава дачка?

— Я ж не папоўна,
Не каралёўна,
Бацькава дочка,
Як ягадочка.

### 339. ОЙ, КАЦІЛАСЯ ЗІМНЯЯ РУТА

Ой, кацілася зімняя рута,

Шчэдры вечар! [1]

Ой, хвалілася бела бяроза
Сваімі цвяткамі перад дубкамі.
Ой, хвалілася малада Параска
Сваімі коскамі перад жанішкамі.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

— Й а хто ж тыя коскі гадаваў?
— Гадавала ж мяне ненька міленька,
Ненька міленька — матка радненька.
Ой, пайшла ж яна там да касцёла,
На ёй каралі галоўку ломяць,
Залаты вяночак галоўку клоніць,
Залаты персцень ручачку ломіць.

## 340. ОЙ, ЧЫЯ ТА ДАЧКА

Ой, чыя та дачка,
Як ягадачка,

Святы вечар
Добрым людзям.[1]

Васілёва дачка,
Як ягадачка.

Яна ў сені ўвайшла —
Сені заззялі.

А ў хату ўвайшла —
Паны стаялі.

## 341. У ЛУЗЕ КАЛІНА ВЯСНУ СКРАСІЛА

У лузе каліна вясну скрасіла.

Святы вечар, вясну скрасіла.[2]

Няма надкрашай, як наша Зоська.
Увайшла у сені — сені заззялі,
Увайшла ў хату — паны стаялі.
Паны стаялі, шапкі здымалі.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.
[2] Прыпеў «Святы вечар» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Шапкі здымалі, ў яе пыталі:
— Ці ты папоўна, ці каралёўна?
— Я не папоўна, не каралёўна,
Йванава дачка, як паненачка.

## 342. А У ЛУЗЕ, У ЛУЗЕ

А ў лузе, ў лузе
Каліна красна,

Святы вечар! [1]

А ясней-красней
Ганначка ў таткі.

Па двару хадзіла,
Ўвесь двор красіла.

У сені ўвайшла —
Сені заззялі.

У хату ўвайшла —
Паны стаялі.

Паны стаялі,
Шапкі здымалі.

Шапкі здымалі
Яе пыталі:

— Ці ты цароўна,
Ці каралёўна?

— Я не цароўна,
Не каралёўна.

Таткава дачка
Красна панначка.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

## 343. АЙ, ЯСНА-КРАСНА КАЛІНА У ЛУЗЕ

Ай, ясна-красна каліна ў лузе,
Святы вечар.[1]

Ай, ясней-красней Кацечка ў таткі,
Па дварэ хадзіла — ўвесь двор красіла,
У сені ўвайшла — сені заззялі,
У хату ўвайшла — баяры ўсталі,
Баяры ўсталі, шапкі знімалі,
Шапкі знімалі, у яе пыталі:
— Ці ты папоўна, ці каралёўна?
— Я ж не папоўна, не каралёўна,
Слічная панначка Йванава дочка.

## 344. А У ЛУЗЕ, ЛУЗЕ КАЛІНА КРАСНА

А ў лузе, лузе каліна красна,
Добры вечар! [2]

Ой, ясней-красней Ганна ў татачкі.
Па двары хадзіла — увесь двор красіла,
У сені ўвайшла — сені заззялі,
У хату ўвайшла — паны стаялі,
Паны стаялі, шапкі знімалі.
— Ці ты царэўна, ці каралеўна?
— Я ні царэўна, ні каралеўна,
Таткава дачка, красна панначка,
Мамчына дачка, як тая ягадка.
— Мы ж цябе, красну, не зневажаем
I з Новым годам паздраўляем.
I з Новым годам і з усім родам.

## 345. ОЙ, КРАСНА, КРАСНА КАЛІНА У ЛУЗЕ

Ой, красна, красна каліна ў лузе,

Святы вечар, каліна ў лузе [1].

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.
[2] Прыпеў «Святы вечар» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Красней каліны дзевачка ў маткі.
Па двару хадзіла — увесь двор красіла,
У сенечкі вышла — зорачка ўзышла,
На пасаду сядзела, як роза цвіла,
З пасаду ўставала, як расцвітала.

## 346. ОЙ, КРАСНА, КРАСНА КАЛІНА У ЛУЗЕ

Ой, красна, красна каліна ў лузе,
Святы вечар! [1]

Ой, красней таго Сонечка ў мамкі.
Па двару хадзіла — увесь двор красіла,
А ў сені вышла — сені заззялі,
А ў хату вышла — паны ўставалі,
Паны ўставалі, шапкі знімалі,
Шапкі знімалі, у яе пыталі:
— Ці ты цароўна, ці каралёўна?
Я ні цароўна, ні каралёўна,
Сама сабе паннaчка, Сямёнава дочачка.

## 347. ОЙ, КРАСНА, КРАСНА КАЛІНА У ЛУЗЕ

Ой, красна, красна каліна ў лузе,
Святы вечар! [1]

А красней таго Мар'я ў таткі,
Па двару хадзіла — увесь двор красіла.
У сені ўвайшла — сені заззялі,
А ў хатку ўвайшла — хатка свяціцца,
А да цэрквы ўвайшла, як зара ўзайшла.
Там паны стаялі, шапкі знімалі,
Шапкі знімалі, усё пыталі:
— Ці ты царэўна, ці каралеўна?
— Я не царэўна, не каралеўна,
Дзям'янава дачка, красна паннaчка.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 348. ЯК Я БЫЛА У СВАЙГО ТАТАЧКІ

Як я была ў свайго татачкі,

Ой, калядкі! [1]

Па двару хадзіла — увесь двор красіла.
На ганку стала — ганак зламала.
У сенейкі ўзышла — сенцы заззялі,
У хату вайшла — ўсе паны ўсталі.
Усе паны ўсталі, шапкі паздымалі,
Шапкі паздымалі, у яе пыталі:
— Ці ты царэўна, ці ты каралеўна?
— Я не царэўна, я не каралеўна,
Я Пятровая дочка, як ягодка.
Раненька ўстаю, тоненька праду,
Тоненька праду, громка кросны тку,
Беленька бялю, усіх сватоў дзялю.
Мамка старая, сястра малая,
А сама маладая неўразумела,
Неўразумела, што падарачкі трэба.

## 349. ОЙ, КРАСНА, КРАСНА КАЛІНАЧКА У ЛУЗЕ

Ой, красна, красна каліначка ў лузе,

Святы вечар! [1]

Красней жа таго Насця ў мамкі,
Перавоз дзяржала, перавазіла.
Прышло і к ёй семсот казакоў:
— Малада Насцечка, перавязі нас.
Скажам табе дзіва дзіўнае,
Што ў нас ад Пятра Дунай замярзаў,
А на ражство рожа расцвілася.
— Няма часу на засіначкі,
Прыехаў брат з Краіначкі,
Прывёз жа мне тры падарачкі:
Першы падарак — залаты персцень,
Другі падарак — шаўковы платок,
Трэці падарак — залаты кубок.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 350. У ЦЁМНЫМ ЛЕСЕ НА ВЕРАСЕ

У цёмным лесе на верасе,

Каляда! [1]

Ляжалі брусы цясовыя,
А па тых брусах Алёнка ходзіць,
Алёнка ходзіць, Вікторку зводзіць:
— Вікторка ты мой, чы праўда была,
Што каля Пятра Дунайчык замёрз?
— Алёнка мая, усё праўда была,
А я сам там бываў, Дунай прасякаў,
Дунай прасякаў, коніка паіў.

У цёмным лесе на верасе
Ляжалі брусы цясовыя,
А па тых брусах Вікторка ходзіць,
Вікторка ходзіць, Алёнку зводзіць:
— Алёнка мая, ці праўда была,
Што каля каляд рожа цвіцела?
— Вікторка ты мой, усё праўда была,
А я там была, рожу шчыпала,
Рожу шчыпала, вяночкі вівала,
Вяночкі вівала, на галоўку клала.

## 351. У ЛЕСЕ НА ВЕРАСЕ

У лесе на верасе
Ляжаць брусся часаныя.
Па тых бруссях па часаных
Ішла, пайшла панна.
За ёй ззаду пагон гоняць:
— Пастой, пастой, панна,
Загаданьку загадаю,
Адгадаеш — мая будзеш,
Не адгадаеш — не будзеш.
На святога ражаства рожа цвіла.
— Няпраўда, слічны паніч,
Я там была, вянкі віла,
Стаіць рожа сухусенька.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Як па верасу па зялёнаму
Ляжаць брусся часаныя.
Па тых бруссях па часаных
Ішоў, пайшоў пан.
За ім ззаду пагон гоняць,
Пагон гоняць Марыльку:
— Пастой, пастой, пан,
Загаданьку загадаю,
Калі адгадаеш — мой будзеш,
Не адгадаеш — дык не будзеш.
На святога Пятра Дунай замёрз.
— Няпраўда, Марылька, я там быў,
[Я там быў], каня паіў,
Стаіць Дунай ціхусенька,
Вадзічка цяплусенька.

## 352. ДА ЛЯЦЕЎ СОКАЛ ЧЭРАЗ НАШ ДВОР

Да ляцеў сокал чэраз наш двор,

Святы вечар, свят! [1]

Махнуў крылцам на камураньку.
— Чаму камуранька не замяцёна,
Чаму Антоська не зачасана?
Замяці, камурку, учашы галоўку.
Загневалася да на бацюхна,
Суканьку шыў да й укараціў.
— Не гневайся, маё дзецятка,
Паедама да места Ільмова
Да купіма дарагога сукна,
Надточыма твае суканькі.

## 353. ЧАМУ ТЫ, МАР'ЕЧКА

— Чаму ты, Мар'ечка,
На ігру не ходзіш?
Святы вечар! [2]

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

— Не маю права
На ігру хадзіці.

Калі мой татка
З торгу прыехаў

Да прывёз ён мне
Тры гасцінчыкі:

Першы гасцінчык —
Пярловы венчык,

Другі гасцінчык —
Золат пярсцёнак,

А трэці гасцінчык —
Зялёны саян.

Пярловы венчык
Галоўку клоніць,

Золат пярсцёнак
Ручаньку ломіць,

Зялён саян
След замятае.

— Мы ж цябе, Мар'ечка,
Не зневажаем,

Да з Новым годам
Паздраўляем...

Ражаство прышло —
Радасць прынясло,

Васілле прышло —
Узвесяліла.

Іван-красціцель
Воду акрасціў,

Воду акрасціў,
На ўвесь свет пусціў.

## 354. ХАДЗІ, ГАЛЕЧКА, НА ВЕЧАРНІЦЫ

— Хадзі, Галечка, на вечарніцы,

Святы вечар добрым людзям! [1]

— Не пайду, сястрыцы, да й на вечарніцы.
Прыехаў ка мне родны брахнійка
Да прывёз мне тры радасці.
Тры радасці, тры вясёласці:
Первая радасць — зялёны саян,
Другая радасць — пярловы вянок,
А трэцяя радасць — залаты персцень.
Галечка прыбіралася, нараджалася,
[Нараджалася], да царквы ішла.
На ганкі ўзышла — ганкі ўкланілісь,
У царкву ўзышла — царкаў асвяцілась.
Паны сустракалі — шапкі здзявалі.
— Ці ета панна, ці каралеўна?
— А ета наша Галечка Аўдакімаўна.

## 355. ТАМ НА РЭЧАНЬЦЫ, ТАМ НА БЫСТРАНЬКАЙ

Там на рэчаньцы, там на быстранькай,

Святы вечар людзям добрым! [1]

Стаіць перавоз слічнай паненкі,
Слічнай паненкі, панны Ганны.
Прышлі да яе тры браткі яе:
— Перавязі нас, слічная паненка.
— Не маю часу да перавозу.
Ужо ж мой татулька з дарогі прыехаў,
Прывёз жа ён мне тры гасцінчыкі.
Тры гасцінчыкі, да тры венчыкі:
Першы гасцінчык — пярловы венчык,
Другі гасцінчык — чэрзлосны персцень,
Трэці гасцінчык — зялёна сукенка.
Пярловы венчык — на вянчанейка,
Чэрзлосны персцень — на заручанейка,

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Зялёна сукенка — на пагулянейка.
Пярловы венчык галоўку клоніць,
Чэрвлосны персцень ручаньку цянець,
Зялёна сукенка — то краса яе.

### 356. У КІЕВЕ НА ПЕРАВОЗЕ

У Кіеве на перавозе,

Святы вечар! [1]

Красная панна перавоз дзяржала.
Прыйшло да яе семсот малайцоў:
— Красная панна, падай перавоз!
— Цяпер не маю часу перавозіць вас.
Прыехаў мой братка з вайны,
Прывёз мне тры радасці, тры карысці:
Першая радасць — румяны вянок,
Другая радасць — залаты персцень,
Трэцяя радасць — шаўкова спадніца.
Румяны вянок галоўку клоніць,
Залаты персцень белу ручку ломіць,
Шаўкова спадніца след замятае.
Мар'ячку віталі, яе пыталі:
— Ці ты папоўна, ці ты каралёўна?
— Я не папоўна, не каралёўна,
Васілёва дочка, як ягадочка.

### 357. ОЙ, У КІЕВЕ НА ПЕРАВОЗЕ

Ой, у Кіеве на перавозе,
Святы вечар! [1]
Малада Волечка перавоз дзяржала,
Перавоз дзяржала, перавозіла.
Прышло да яе семсот малайцоў,
Семсот малайцоў — красных панічоў.
— Малада Волечка, перавязі нас.
— Няма мне часу вас перавозіць.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Цяпер мой татка з войска прыехаў
І прывёз жа мне тры гасцінчыкі,
Тры гасцінчыкі, тры харошыя:
Первы гасцінчык — пярловы венчык,
Другі гасцінчык — залаты пярсцёнак,
Трэці гасцінчык — зеляне сукенка.
Зеляне сукенка след замятае,
След замятае, ў яе пытае:
— Ці ты папоўна, ці каралёўна?
— Я не папоўна, не каралёўна,
Таткава дачка, як ягадачка,
Мамчына дачка, як каліначка.
За гэты прыпеўкі — кварта гарэлкі,
За гэты галасок — ды й сала кусок.

## 358. У ПАНА ДЗЯДЗЬКА ХАРОША ДАЧКА

У пана дзядзька хароша дачка,

Святы вячор! [1]

Ой, харошая да й нарадная.
Нарадзілася у тры нарады:
Перша нарада — ютла суканька,
Друга нарада — барвін вяночак,
Трэця нарада — кован паясок.
Ютла суканька след замятала,
Барвін вяночак галоўку кланіў,
Кован паясок костанькі ламіў.
Зайшла ў хатаньку — хатаньказзяе,
Зайшла ў каморку — каморка ззяе.
Пан Янка кажа — кралеўна ідзе.
То ж не кралеўна, то ж мая дачка,
То ж мая дачка, панна Манечка.

## 359. ШТО Й У ВАРОЦЕЧКАХ

Што й у вароцечках
Стаяла дрэвачка
Купарыснае.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Пад тым дрэвачкам
Пава хадзіла,
Пер'е раняла,

Святы вечар, добрым людзям![1]

Дзевачка хадзіла,
Пер'ечка збірала,
Вяночак пляла,
На галоўку клала,
Да цэрквы ішла.

Паны й каралі
Дзіваваліся:
— Ці ета царэўна,
Ці каралеўна?

— Я не царэўна,
Не каралеўна,
Я Ганна Іванаўна
Да й Кужалёва.

## 360. ХАДЗІЛА ПАВА КАЛА ПАПЛАВА

Хадзіла пава кала паплава,
Кала паплава пер'е раняла ж.
Маладая Лідка пер'е збірала,
Пер'е збірала ў рукавец клала.
З рукаўца ж брала да ў вянок віла,
А звіўшы ж вянка, да цэрквы пашла.
Што ў цэркву йшла яснаю зарою,
А з цэрквы вышла злічнай паннай.
Да паны ж не зналі, шапкі знімалі,
Шапкі знімалі да яе ж пыталі:
— Чы ж ты папоўна, чы ж каралёўна?
— Я ж не папоўна, не каралёўна,
Маладая Лідка, злічная панна.
Як пашла ж яна лужком-беражком,
Усхадзіліся буйныя ветры,
Збурылі яе павінага вянка,
Павінага вянка, злотнага пярсцёнка.

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

— Ой вы ж, рыбалоўцы, малады хлопцы,
Чы не паймаеце ж павінага вянка,
Павіна ж вянка, злотнага пярсцёнка ж?
Перваму ж будзе павінага вянка,
Да другому ж будзе злотнага пярсцёнка,
Трэйцему ж будзе сама ж малада,
Сама малада, от як ягада.

## 361. У ПОЛЕ, У ПОЛЕ СТАЯЛА ІВА

У поле, у поле стаяла іва,
Да на той жа іве ж залатая кара.
Скуль узяліся рускія пташкі,
Залату ж кару паабівалі,
Паабівалі, паакалачывалі.
Скуль узялася красна-хараша,
Да красна-хараша маладая Манечка,
Залату кару да й пазбірала,
Да й пазбірала, злотнічкам дала.
— Ой вы ж, злотнічкі, ой вы, ключнічкі.
Скуйце ж мне тры надубачкі:
Первой надубак — пярловы вянок,
Другі надубак — залатой пярсцёнак,
Трэйці надубак — дарагая сукня.
Чэраз места шла — места заз'яла ж,
Места ж заз'яла — панове ж стала,
Панове ж стала і ёй ж пытала:
— Чы ж ты папоўна, чы ж каралёўна?
— Я ж не папоўна, не каралёўна,
Малада Манечка — злічная панна.

## 362. СВЯТ ВЕЧАР, СВЯТ

Свят вечар, свят.
Пасярод двара
Высока гара,
А на той гарэ
Стаіць бяроза.

Стаіць бяроза.
Як бель бяленька,

Тонка, высока,
Каласіста.

А на той бярозе
Залатая кара,
Залатая кара,
Жэнска раса.

Дзе ж узяліся
Райскія пташкі.
Райскія пташкі
Як налынулі,

Да тую кару
Паабівалі,
Жэнску расу
Патапталі.

Як выбегла
Красная панна,
Красная панна
Панна Палажка,

Да тую кару
Пазбірала,
Да тую расіцу
Пазмятала.

Пашла яна
Да злотнічкаў,
Да злотнічкаў,
Да рамеслічкаў.

— Мае ж вы
Да тры злотнічкі,
Тры злотнічкі,
Тры рамеслічкі.

Іскуйце мне
Тры карыстанькі.
Адна карыстанька —
Да кован пояс.

Другая карыстанька —
Залаты персцянец.
Трэйця карыстанька —
Пярлоў венчык.

Трэйця карыстанька —
Пярлоў венчык,
А з станочку
Да на тканочку.

Кован пояс —
Залаціцца.
Залаты персцень —
Мяняціся.

Залаты персцень —
Мяняціся.
Пярлоў вянок —
Вянчаціся,

Пярлоў вянок —
Вянчаціся.
А ў тканочцы —
Жыці-быці,
Да й век каратаці.

А за тым словам
Да бывай здарова,
Да святкуй вясёла.

## 363. СТАЯЛА БЯРОЗКА ТОНКАЯ, ВЫСОКАЯ

Стаяла бярозка тонкая, высокая.
На той бярозцы кара залатая.
Выйшла, выбегла красна панна
Да тую кару падбірала,
Да да злотнічка адымчала.
— Да мае мілы тры злотнічкі,
Да скуйце мне тры надобанькі:
Першая надобка — кован пояс,
А другая надобка — павін вяночак,

А трэця надобка — залаты персцень.
Кован пояс — то да пасагу,
Павін вяночак — то да вянчання,
А залаты персцень — то да мянянння.

## 364. ОЙ, У ПЕРАВОЗА СТАЯЛА БЯРОЗА

Ой, у перавоза стаяла бяроза,
На той бярозе залатая кара.
Да наляцела розных птушак
Да тую кару да паабівалі.
Да вышла, выбегла красная панна,
Да тую кару пасабірала,
Да ў рукавец склала,
Да й занесла да злотнічка.
— Ой, злотнічку, да й кавальчыку,
Скуй жа мне тры надобанькі:
Адна надобка — залаты венчык,
Другая надобка — залаты пояс,
Трэцяя надобка — залаты персцень.
Да ў венчыку — звянчаціся,
Персцянёк — памяняціся,
А паясок — падперазаціся.

## 365. У ПЕРАВОЗА СТАІЦЬ БЯРОЗА

У перавоза
Стаіць бяроза.

А на той бярозе
Злотая кара.

Злотая кара,
Шоўкава веццe.

Да наленулі
Райскія пташкі.

Злоту кару
Паабівалі.

Шоўкава веццe
Паабламвалі.

Вышла-выбегла
Красная панна.

Да і спляснула
Да і ручанькамі:

— Шугі ў лугі,
Райскія пташкі!

Да тую кару
Да і пазбірала.

Шоўкава веццe
У пучкі павязала.

Ў хустку паскладала,
Да і панесла

Да злотнічка,
Раменічка:

— Ты злотнічку,
Раменічку,

Іскуй мне
Злоты пояс,

Із акравочак
Пярсцянёчак,

А із вецейка —
То вяночак.

У поясе —
Красавацца,

У пярсцёнку —
Заляцацца,

А ў вяночку —
Ізвянчацца.

## 366. А Ў САДУ, У САДУ

А ў саду, у саду
Стаіць бяроза,
А на той бярозе
Залата кара.

Прыляцелі
Райскі пташкі
Да тую кару
Ашчыкаталі.

Ой, да вышла
Красная панна,
Красная панна,
Панна Наталка.

Красная панна,
Панна Наталка,
Ой, да тую кару
У хвартух пазбірала.

У хвартух пазбірала,
У една пазлівала,
Ой, да панесла
Да пана злотнічка.

Ой, зрабі мне
Да тры падарункі:
Першы падарунак —
То залаты кубак.

Другі падарунак —
Залаты перстнічак.
Трэці падарунак —
Залаты рушнічак.

У залатым кубку —
Вінайка піці,
А ў перстнічку —
Палец палажыці.

А на рушнічку —
На шлюбайку стаці.
А за сім словам
Да бывай здарова.

## 367. ДЗЕ МЫ БЫЛІ, ДА НЕ БЫВАЛІ

Дзе мы былі, да не бывалі,
Такога дзіва да не відалі.

Шумелі сады сей зялёныя[1].

Як у нашага добрага пана
Пасярод двара стаяла вярба.

Пасярод двара стаяла вярба,
А на той вярбе залатая кара.

Адкуль узяліся марскія пташкі
Да тую кару ашчыпалі.

Вышла, выцекла слічная пані
Да тую кару да падабрала.

Да тую кару да падабрала,
Да раменічкам да адаслала:

— Мой раменічку, вылі надобак.
[Вылі надобак] — залаты кубак,

Другі надобак — залаты персцень,
Трэці надобак — руцвяны венчык.

Залаты кубак — на співанне,
Залаты персцень — з ручак мяняцісь.

Залаты персцень — з ручак мяняці,
Руцвяны венчык — пад шлюб стаці.

## 368. ОЙ, СЯРОД СЯЛА СТАЯЛА ГАРА

Ой, сярод сяла стаяла гара,
Святы вечар![2]

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Ой, на той гарэ стаяла вярба,
На той вярбе срэбрана кара,
Срэбрана кара, залатая раса.
'Дкуль ўзяліся русыя пташкі,
Ой, тую кару паабівалі,
Ой, тую расу паабкалацілі.
'Дкуль ўзялася маладая панна,
[Маладая панна], да й дзеўка Ганна,
Ой, тую кару пазбірала,
Тую расу падмятала.
Пашла да пана каваля:
— Пане кавале, скуй мне вяночак,
Скуй вяночак на галованьку,
Скуй мне паясок на святы дзянёк,
Скуй мне персцянёк на маю белую ручку.

## 369. ТАМ ЗА САДАМІ ТРАВА-МУРАВА

Там за садамі трава-мурава,
Шчодры вячор, багаты вячор.[1]

На той мураве — бела бяроза,
На той бярозе — залаты росы.
Як узняліся буйныя ветры,
Абцерусілі залаты росы.
— Ідзі, Ганначка, пазбірай росы
І купі сабе трое надоб'е:
Перша надоб'е — медзяны кубак,
Друге надоб'е — срэбна талерка,
Трэце надоб'е — залаты персцень.
Медзяны кубак — к запіваннечку,
Срэбна талерка — к дараваннечку,
Залаты персцень — то [illegible] вянчаннечку.

## 370. СВЯТЫ ВЕЧАР, СВЯТ

Святы вечар, свят.
Усе лугі да вылетала,

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Святы вечар, свят. [1]

Раба заўзуленька,
Невялічанька.
Ой, у аднаму лузе
Да не бывала.
Ой, у тым лузе
Павы хадзілі,
Павы хадзілі,
Пер'е ранілі.
А за павамі —
Красная панна.
Красная панна —
Панна Мар'я.
Пер'е збірала,
У рукавец клала.
З рукаўца брала,
Вяночак віла.
Звіўшы вянок,
Пашла ў танок.
Завілі
Да буйныя ветры.
— Закідайце
Шоўкавы невад,
А здымайце
Павін вяночак.
Мае міле госці,
Тры каляднічкі!
Што ж мне вам
Да за дар даці?
Аднаму даром
Да павін вяночак,
А другому —
Залаты персцянёчак,
А трэцёму —
Сама маладая,
Сама маладая,
Сама харошая.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 371. ШЫЛА СОНЕЧКА, ШЫЛА ШАРОНКУ

Шыла Сонечка,
Шыла шаронку, Сонечка.

Сонечка-пані,
Гавары з намі сціхенька.[1]

Ой, у падолі
Ясныя зоры, Сонечка.

Шыла-ўшывала,
Зоры ўкладала, Сонечка.

Ой, у падолі
Ясныя зоры, Сонечка.

А на рукаўцах —
Ясен месячка, Сонечка.

## 372. ШЫЛА ВАЛЕЧКА ТРЫ ШЫРЫНАЧКІ

Шыла Валечка тры шырыначкі.
Валечка-пані, гавары з намі сціхеньку.[2]

Першую шыла чорненькім шоўкам,
Другую шыла красненькім шоўкам,
Трэцюю шыла золатам-срэбрам.
Прышлі к Валечцы трое сватоў.
Першы сват — залаты персцень,
Другі сват — шаўковы платок,
Трэці сват — сама маладая.

## 373. ШЫЛА АНЮТКА ТРЫ ШЫРЫНАЧКІ

Шыла Анютка тры шырыначкі,
Анютка-пані, гавары з намі
сціхеньку.[2]

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Першую шыла чорненькім шоўкам,
Другую шыла красненькім шоўкам,
Трэцюю шыла золатам-серабром.
Што чорненькім шоўкам — то для мамачкі,
А красненькім шоўкам — то для татачкі,
А золатам-серабром — то для мілага.

## 374. А У ЛЕСЕ, У ЛЕСЕ

А ў лесе, ў лесе
Стаяла святланка арэхавая,
Святы вечар! [1]

А ў той святланцы — дзеўка Алёнка.
Дзеўка Алёнка шыла шырынку.
Першую сшыла красненькім шоўкам.
Другую сшыла беленькім шоўкам,
А трэцюю сшыла чорненькім шоўкам.
Што белым шыла — татку аддала,
А красным шыла — мацеры дала,
А чорным шыла — то брату дала,
Золатам рубіла — то другу дала.

## 375. МАЛАДАЯ ВАЛЕЧКА, РАСЦІ СКОРАНЬКА

Маладая Валечка, расці скоранька,
Святы вечар добрым людзям! [1]
Расці скоранька, будзь разумненька.
Прыедзе к табе кароль у сваты,
Прывязе табе грошай багата,
Грошай багата і многа шаўкоў,
І многа шаўкоў, і шаўковых платкоў.
І шаўковых платкоў, і скрыню й пярыну,
І прыбярэ цябе, як княгіню.

## 376. НА ГАРЭ КАМОРА

На гарэ камора,
Ель мая зялёная.[1]

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

А ў каморы Настулька
Русу косу часала,
Бела ліцо ўмывала.
Прыйшоў да яе
Татулька яе.
— Адчыніся, Настулька,
Адчыніся, дзіцятка.
— Не адчынюся, татулька,
Не адчынюся радненькі,—
Вецер коску развеець,
Слонца ліца загрэець.

А на гарэ камора,
А ў каморы Настулька
Русу косу часала,
Бела ліцо ўмывала.
Прыйшла да яе
Матулька яе.
— Адчыніся, Настулька,
Адчыніся, дзіцятка.
— Не адчынюся, матулька,
Не адчынюся, родная,—
Вецер коску развеець,
Слонца ліца загрэець.

А на гарэ камора,
А ў каморы Настулька
Русу косу часала,
Бела ліцо ўмывала.
Прыйшоў да яе
Міленькі яе.
— Адчыніся, Настулька,
Адчыніся, душачка.
— Адчынюся, душачка,
Адчынюся, міленькі,
Вецер коскі не развеіць,
Слонца ліца на загрэіць.

## 377. ДА МОСТАМ, МОСТАМ ДА ВЯРБОВАНЬКІМ

Да мостам, мостам да вярбованькім,
Шчодры вечар, добры вечар! [1]

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Ішла тудэма слічна паненка,
Несла мёд-віно ў туравым розе.
За ёю, за ёю панскі сыночак:
— Пажджы, пажджы, слічна паненка,
Дай мне мёд-віна пакаштаваці,
Віна пакаштаваці і цябе паймаці.
— Не тваё дзела, панскі сыночак,
Віно каштаваці і мяне паймаці.
Ты ж не бачыў сошкі-баронкі,
Хай табе за гэта — варона жонка.
Да мостам, мостам да вярбованькім
Ішла тудэма слічна паненка,
Несла мёд-віно ў туравым розе.
За ёю, за ёю пахарскі сыночак:
— Пажджы, пажджы, слічна паненка,
Дай мне мёд-віна пакаштаваці,
Віна каштаваці, цябе паймаці.
— То ж тваё дзела, пахарскі сыночак,
Віно каштаваці і мяне паймаці.
Ты і з коніка да не ссядаеш,
Буйна жыта да вырашчаеш.

## 378. ПАШЛІ ДЗЕВАЧКІ У ЯГАДАЧКІ

Пашлі дзевачкі ў ягадачкі,
Эй, эй, у ягадачкі,[1]

А ўсе ў чорную смародзіну.

А ўсе дзевачкі панабраліся,
Панабраліся і ў двор пайшлі.

Адна Танечка не набралася,
Не набралася, там засталася.

Адкуль узяўся яе сужанька,
Яе сужанька, малады Андрэйка.

Ён узяў яе за правую ручку,
За правую ручку, за мязін пальчык.

---

[1] Прыпеў «Эй, эй» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Павёў ён яе у высокі церам,
Пасадзіў яе за цясовы столік.

Поіць ён яе півам і віном,
Півам і віном і гарэлачкай.

— Што ж ты, Танечка, не п'еш, не ясі,
Не п'еш, не ясі, скучненька сядзіш.

А ці ты роду ўсё вялікага,
А ці ты бацькі ўсё багатага.

— Ай, я і роду невялікага,
Ай, я і бацькі небагатага.

Што ёсць на небе ясны месячык,
То мой бацюшка, то мой родненькі.

## 379. ІШЛА-ПАЙШЛА МЛАДА ГАНУЛЬКА

Ішла-пайшла млада Ганулька,
Люлі-люлі, млада Ганулька.[1]

На высок церам касу часаці!
Спаткалася з маладым Іванькам.
— Куды ідзеш, млада Ганулька?
— А я іду на высок церам,
На высок церам касу часаці.
— І я ж табе за таварыша.
— Ах, божа ж мой, ой, не хочацца:
Быць майму ліцу заплаканаму,
Быць маёй касцы растрапанай,
Па белых плячах ды папушчанай.

## 380. ОЙ, У ГАРОДЗЕ

Ой, у гародзе,
У частаколе,

[1] Прыпеў «Люлі-люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Там хадзіла
Да танок дзевак.
Слаўная панна,
Панна Ганулька,
Перадку ходзіць,
Таночак водзіць,
Вяночак носіць.
Пярловы венчык
Галоўку клоніць,
Пазлот персцень
Пальчык ломіць.
Вышаў да яе
Бацюхна яе.
— Хадзі, Ганулька,
Снеданне есці!
— Заждзі ж, пагадзі,
Мой жа бацюхна,
Танок даваджу,
Венчык данашу.

Ой, у гародзе,
У частаколе,
Там хадзіла
Да танок дзевак,
Слаўная панна,
Панна Ганулька,
Перадку ходзіць,
Таночак водзіць,
Вяночак носіць.
Пярловы венчык
Галоўку клоніць,
Пазлот персцень
Пальчык ломіць.
Вышла ж да яе
Матанька яе:
— Хадзі, Ганулька,
Снеданне есці!
— Заждзі ж, паждзі,
Мая матанька,
Танок даваджу,
Венчык данашу.

Ой, у гародзе,
У частаколе,

Там хадзіла
Да танок дзевак.
Слаўная панна,
Панна Ганулька,
Перадку ходзіць,
Таночак водзіць,
Вяночак носіць.
Пярловы венчык
Галоўку клоніць,
Пазлот персцень
Пальчык ломіць.
Вышаў да яе
Дзядзюхна яе:
— Хадзі, Ганулька,
Снеданне есці!
— Заждзі ж, паждзі,
Мой дзядзюхна,
Танок даваджу,
Венчык данашу.

Ой, у гародзе
У частаколе,
Там хадзіла
Да танок дзевак.
Слаўная панна,
Панна Ганулька,
Перадку ходзіць,
Таночак водзіць,
Вяночак носіць.
Пярловы венчык
Галоўку клоніць,
Пазлот персцень
Пальчык ломіць.
Вышла ж да яе
Цёцюхна яе:
— Хадзі, Ганулька,
Снеданне есці!
— Заждзі, паждзі,
Мая цёцюхна,
Танок даваджу,
Венчык данашу.

Ой, у гародзе,
У частаколе,

Там хадзіла
Да танок дзевак.
Слаўная панна,
Панна Ганулька,
Перадку ходзіць
Таночак водзіць,
Вяночак носіць.
Пярловы венчык
Галоўку клоніць,
Пазлот персцень
Пальчык ломіць.
Вышаў да яе
Братэйка яе:
— Хадзі, Ганулька,
Снеданне есці!
— Заждзі ж, паждзі,
Мой братэйка,
Танок даваджу,
Венчык данашу.

Ой, у гародзе,
У частаколе,
Там хадзіла
Да танок дзевак.
Слаўная панна,
Панна Ганулька
Перадку ходзіць,
Таночак водзіць,
Вяночак носіць.
Пярловы венчык
Галоўку клоніць,
Пазлот персцень
Пальчык ломіць.
Вышла ж да яе
Сястрычка яе:
— Хадзі, Ганулька,
Снеданне есці!
— Заждзі ж, паждзі,
Мая сястрыца,
Танок даваджу,
Венчык данашу.

Ой, у гародзе,
У частаколе,

Там хадзіла
Да танок дзевак.
Слаўная панна,
Панна Ганулька,
Перадку ходзіць,
Таночак водзіць,
Вяночак носіць.
Пярловы венчык
Галоўку клоніць,
Пазлот персцень
Пальчык ломіць.
Вышаў да яе
Дзедухна яе:
— Хадзі, унучка,
Снеданне есці!
— Заждзі ж, паждзі,
Мой дзедухна,
Танок даваджу,
Венчык данашу.

Ой, у гародзе
У частаколе,
Там хадзіла
Да танок дзевак.
Слаўная панна,
Панна Ганулька,
Перадку ходзіць,
Таночак водзіць,
Вяночак носіць.
Пярловы венчык
Галоўку клоніць,
Пазлот персцень
Пальчык ломіць.
Вышла ж да яе
Бабачка яе:
— Хадзі, унучка,
Снеданне есці!
Заждзі ж, паждзі,
Мая бабачка,
Танок даваджу,
Венчык данашу.
Яе суконка
Зямліцу мяце,

Яе чаравічкі
Травіцу шчыплюць.
Гдзе ж узяўся
Да буйны вятрэц,
Вятрэц павінуў —
Венчык скінуў.
Шла ж яна маладэнька,
Як ягадэнька,
Краем Дунаем,
Па беражэньку.
Стрэла ж яна
Тры рыбалоўцы.
— Тры рыбачэнькі,
Да закіньце мне
Да шаўковы невад,
Да паймайце ж мне
Да пярловы венчык.
Аднаму ж будзе
Пярловы венчык,
Другому будзе
Пазлот пярсценчык,
Трэцяму ж буду
Сама малода,
Як ягода.
Каляда спета
На доўгі лета,
А за тым словам
Да сяткуй здарова,
Красная пані,
Пані Ганулька,
Не сама сабою...

## 381. ОЙ, У ЛЯСКУ, У ЛЯСКУ

Ой, у ляску, у ляску да на рыжым пяску,
Сьяты вечар добрым людзям![1]

Паванька ходзіць, пер'ечка роніць,
А за ёю ходзіць красна панна,
Пер'ечка бярэ, на скам'ю кладзе,
З скам'і бярэ, вяночак ўе.

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Звіла вяночак, пайшла ў таночак
Каля рэчанькі кружком-беражком.
Да ўсхадзіліся буйны ветры,
Да ізвеялі павін вяночак,
Да забачыла яна тры рыбачанькі,
Тры рыбачанькі, тры казачанькі:
— Мае мілыя тры рыбачанькі,
Ці не бачылі павін вяночак?
— Адзін кажа, што я не бачыў,
Другі кажа, што я забачыў,
Трэці кажа, што я сам там быў.
— Я ж вам заплачу вельмі дарага,
Вельмі дарага, без чырвонага,
Аднаму пану — заплачу персцянёчкам,
Другому пану — павін вяночак,
А трэцяму да й пану сама я застануся.
Павін вяночак будзе да вянчання,
Персцень залаты — да мянянпя,
А за тым словам да бывай здароў,
З дзеткамі, з сям'ёю і з другам-жаною!

## 382. А Ў ЛЯСКУ, Ў ЛЯСКУ НА РЫЖЫМ ПЯСКУ

А ў ляску, ў ляску на рыжым пяску,

Святы вечар![1]

Павачка ходзіць, пер'ечка роніць.
А за ёй ходзіць красная панна,
Красная панна, пані Леначка.
Пер'ечка бярэ ў рукавец кладзе,
З рукаўца бярэ на скам'ю кладзе,
А з скам'і бярэ да ў вяночак ўе.
Звіўшы вяночак, пашла ў таночак.
Да схадзіліся буйныя ветры,
Да ізвеялі павін вяночак,
А ізвеяўшы, на Дунай ізняслі.
Узрыла Леначка тры рыбалоўцы,
Тры рыбалоўцы, тры гарных хлопцы:
— Ой, закідайце залаты сеці
Да ізлавіце павін вяночак.

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 383. А У ЛЯСКУ, ЛЯСКУ

А ў ляску, ляску
На рыжым пяску,

Святы вечар! [1]

Павінька ходзіць,
Пер'ечка роніць.

За ёю ходзіць
Красная панна,

Красная панна,
Панна Марылька.

Пер'ечка бярэ,
У рукавец кладзе.

З рукаўца бярэ,
На скам'ю кладзе.

А з скам'і бярэ
Да ў вяночак ўе.

Звіўшы вяночак,
Пайшла ў таночак,

Кружком, беражком,
Каля рэчанькі,

Каля быстрае,
Беражыстае.

Расхадзіліся
Буйны ветры

Да і звеялі
Павін вянок.

Да забачылі
Тры рыбаловы.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

— Тры рыбалоўцы,
Мае ж вы хлопцы,

Да закідайце
Шаўкоў невад,

Да злавіце
Павін вянок.

Павін вянок
Вельмі дарагі.

Ой, я заплачу,
Што сама схачу.

Аднаму я дам
Кованы пояс.

Кованы пояс —
Да ўбірання.

Другому дам
Залаты персцень.

Залаты персцень —
Той да вянчання.

А трэцяму —
Я сама, малада.

## 384. У ЛЯСКУ, У ЛЯСКУ

У ляску, у ляску на жоўтым пяску,

Святы вечар добрым людзям! [1]

Там пава лятала, пер'е раняла.
Маладая Ганначка падбірала,
[Падбірала], у рукавок клала.
З рукаўка брала, вяночак віла.

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Звіўшы вяночак, пайшла ў таночак.
А ў том жа танку трох спалюбіла:
Першаму дала залаты персцень,
А другому дала правую руку,
А за трэцяга сама пайшла.

## 385. МАЛАДАЯ ГАННА ПА ДВАРУ ХАДЗІЛА

Маладая Ганна па двару хадзіла,
Святы вечар![1]

Па двару хадзіла, пер'е збірала,
Пер'е збірала, у рукавок клала,
З рукаўца брала, вяночак звівала,
Звіўшы вяночак, пайшла ў таночак.

У тым таночку трох палюбіла,
Трох палюбіла, трох надарыла:
Аднаму дала шаўковы платок,
Другому дала залот персцянёк,
А за трэцяга і сама пашла.

## 386. ОЙ, У ЛЯСКУ, У ЛЯСКУ НА ЖОЎТЫМ ПЯСКУ

Ой, у ляску, ў ляску на жоўтам пяску
Хадзіла пава, пер'е раняла.
Малада Марачка пер'е збірала,
Пер'ейка збірала, у рукавец клала,
З рукаўца брала, вяночак віла,
Ізвіўшы вянок, пашла ў танок.
Ой, шла Марачка лужком-беражком,
Ой, сустрэчае тры галубчыкі.
Ета не галубчыкі, ета маладые хлопчыкі.
— Ой, малада Марачка, што ж ты нам дасі?
— Ой, аднаму дам шаўкову хусту,
А другому дам залатога пярсцёнка,
А за трэйцяга — сама малада.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

— Малады Хведарка ўсю ночку не спаў,
Ўсю ночку не спаў, браткі пабуджаў:
— Ой, уставайце, браткі, коні сядлайце,
Коні сядлайце, едзьце на аблаву.
Перад каралём хваліцца канём,
Што мой сівой конь мора пераскочыць,
Мора пераскочыць — капытца не замочыць,
Ні капыцейка, ні сядзёлачка,
Ні жупана, ані Хведарка пана.

### 387. А У ЛЯСКУ, У ЛЯСКУ

А ў ляску, ў ляску
На жоўтым пяску,

Святы вечар! [1]

Павачка ходзіць,
Пер'ечка роніць.

Вышла-выбегла
Красная панна.

Красная панна,
Пані Олечка.

Да тое пер'я
Да й пазбірала,

К свайму лічаньку
Прыраўнювала.

Пер'ечка бярэ,
У вяночак кладзе,

Звіла вяночак,
Пашла ў таночак.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

## 388. ОЙ, ЖАЛА ДЗЕУКА ШАУКОВУЮ ТРАВУ

Ой, жала дзеўка [1]
Шаўковую траву.
Ой, загубіла.
Свой залаты персцень.
Ой, пайшла ж яна
Долам-даліною,
Ой, найшла ж яна
Ўсе тры сенакосы.
— Ой, скасіце мне
Шаўковую траву,
Ой, найдзіце мне
Мой залаты персцень.
Аднаму будзе
Шаўковая трава,
Другому будзе
Мой залаты персцень,
Трэцяму буду
Сама малада.

## 389. А У ЛЯСКУ, У ЛЯСКУ НА ЖОУТЫМ ПЯСКУ

А ў ляску, ў ляску на жоўтым пяску,
Шчодры вечар, на жоўтым пяску.[2]

А на тым пяску хатка старэнька,
А ў тэй хатачцы тры акеначкі.
Ў перша акенца соўнечка свеціць,
Ў друге акенца месячык свеціць,
Ў трэцце акенца зораньki свецяць.
А што соўнечка, то іх матанька,
А што месячык, то іх баценька,
А што зораньki, то іх дзетанькі.

## 390. ОЙ, У ГАРОДЗЕ

Ой, у гародзе
На пераходзе,

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.
[2] Прыпеў «Шчодры вечар» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Святы вечар! [1]

Ой, там ляжала
Гібкая кладка.

А ля тэй кладкі
Вырасла рожа.

Вырасла рожа —
Дзяўчатам згожа.

Вышла, выбегла
Красная панна,

Красная панна,
Пані Олечка,

Да тую рожу
Да й пашчыпала.

К свайму лічаньку
Прыраўнювала.

— Каб жа я была
Такая гожа,

Такая гожа,
Як гэта рожа,

То пашла ж бы я
За такога пана,

За такога пана,
Якая сама.

Што ён з коніка
Да й не ссядае,

Каралю шапкі
Да й не знімае.

Яго konічак
Зямліцу сячэ,

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

А хвасцічачкам
Слядкі замяце,

А вушыцамі
Ўсё войска счуе,

А ачыцамі
Ўсё войска згляне,

Ўсё войска згляне,
Свайго пана знае.

## 391. ОХ, У САДОЧКУ

Ох, у садочку, да ў чыстым полі, каліна,
Каліна мая, рожа чырвона ягада.[1]

Ой, там стаяла красная панна, каліна.
Красная панна, пані Маруська, каліна.
Яна стаяла, рожу шчыпала, каліна.
Рожу шчыпала, ў пучкі вязала, каліна.
Ў пучкі вязала, мацеры казала, каліна:
— Ой, мама, мама, каб я такая, каліна.
Каб я такая, як рожа ўсяя, каліна.
Ой, то пашла б я за двараніна, каліна.
За дваранінам там добра жыці, каліна.
Там добра жыці, мёд-віно піці, каліна.

## 392. У НАШАГА ДЗЯДЗЬКІ ДВОР ГАРАДЖОНЫ

Ў нашага дзядзькі двор гараджоны, зеляно.

Зеляно віно рана ў нядзельку саджана.[1]

Двор гараджоны да ўсё рожаю, зеляно.
Да ўсё рожаю, усё чырвонаю, зеляно.
Дзевачка Маня рожу шчыпала, зеляно.
Рожу шчыпала, прыгаворвала, зеляно.
— Каб я такая, як рожа сяя, зеляно.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

То пашла б замуж за каралевіча, зеляно.
За каралевічам дзела не робяць, зеляно.
Дзела не робяць, хораша ходзяць, зеляно.

## 393. ЧАМУ ТЫ У ГАРОДЗЕ АДНА

— Чаму ты ў гародзе адна?
Рожа, рожа чырвоная.[1]
— Верце ж мне, не адна, далібог не адна,
Што ёсць красачкі ўсе, і каля мяне,
Толькі аднаго нету жоўтага цвету.

— Чаму ты, Стэпачка, у матулькі адна?
— Верце ж мне, не адна, далібог не адна,
Што ёсць дзевачкі ўсе, і каля мяне,
Толькі нет аднаго, мілога майго,
Як пара прыйдзець, мой мілы будзець.

## 394. ЧАГО ТЫ, РОЖА, І У САДУ АДНА

— Чаго ты, рожа, і ў саду адна?
Рожа, рожа чырвоная.[1]

— А я не адна, а я не сама,
Да каля мяне ўсе красачкі,
Толькі няма баравога цвету.
Каго б мне паслаці, цвяточак шукаці?
Красачку паслаці цвяточак шукаці.
Красачка ідзе, цвяточак нясе.

— Чаго ты, Мар'ечка, у мамкі адна?
Нега, нега мамачкіна.[1]

— А я не адна, а я не сама,
Да каля мяне да ўсе дзевачкі,
Толькі няма маладога Васілька.
Каго б мне паслаці Васілька сыскаці?
Ганну паслаці Васілька шукаці.
Ганначка ідзе, Васілька вядзе.

---
[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

### 395. ЧАГО ТЫ, РОЖА, АДНА У ГАРОДЗЕ

— Чаго ты, рожа, адна ў гародзе?
Рожа мая чырвоная.[1]

— Я тут не адна, няпраўда твая.
Што ёсць красачак, то ўсе са мной,
Аднаго нету баравога цвету.
І дзе ж ён будзе, ка мне прыбудзе.
Ка мне прыбудзе, са мной цвісці будзе.

— Чаго ты, Мар'ечка, адна ў карагодзе?
— Я ж тут не адна, няпраўда твая.
Што ёсць дзевачак, то ўсе са мной,
То ўсе са мной, перада мной,
Аднаго нету маладога Іванечкі.
І дзе ён будзе, ка мне прыбудзе,
Ка мне прыбудзе, са мной жыць будзе.

### 396. ОЙ, РОЗА, РОЗА, ЧАГО АДНА У ГАРОДЗЕ

— Ой, роза, роза, чаго адна ў гародзе?
— Чаго ж я адна — са мной красачкі,
Са мной красачкі, сіні васількі,
Аднаго нету баравога цвету.
Ой, дзе ж ён будзе, ка мне прыбудзе,
Ка мне прыбудзе, са мной цвісці будзе.
— Валечка, чаго адна ў танок пайшла?
— Чаго ж я адна — са мной дзевачкі,
Са мной дзевачкі, усё падружанькі,
Аднаго нету — майго сужанькі.
Ой, дзе ж ён будзе, ка мне прыбудзе,
Ка мне прыбудзе, са мной жыць будзе.

### 397. ЧАГО ТЫ, РОЖА, АДНА НА ГАРОДЗЕ

— Чаго ты, рожа, адна на гародзе?
Ой, рана, ой, рана, адна на гародзе.[2]

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.
[2] Прыпеў «Ой, рана, ой, рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

— Чаго ж я адна, са мной красачкі,
Са мной красачкі, усё васілёчкі,
Ой, толькі нету баравога цвету.
Ой, дзе ён будзець, ка мне прыбудзець.

— Чаго ж ты, Верачка, адна ў таночку?
— Чаго ж я адна, са мной дзевачкі,
Са мной дзевачкі, ўсё паненачкі,
А толькі нету маладога Шурачкі.
А дзе ж ён будзець, ка мне прыбудзець.

## 398. ЧАГО Ж ТЫ, РОЖА, АДНА У ГАРОДЗЕ

— Чаго ж ты, рожа, адна ў гародзе?
Ой, рожа мая чырвоная! [1]

— Ой, каб я адна, я б тут не была,
А я з краскамі, з пралескамі,
Усе са мною, перада мною,
Толькі нету баравога цвету.
Дзе ж ён ні будзець, са мной цвісці будзець.

— А чаго ж ты, Кацечка, адна ў карагодзе?
Дзевачкі, мае падружачкі! [1]

— Ой, каб я адна, я б тут не была,
Ай, толькі нету маладога Рыгоркі.
Дзе ж ён ні будзець, ка мне прыбудзець,
Ка мне прыбудзець, жыць са мной будзець.

## 399. АДАРКА-ПАНІ, ГАВАРЫ З НАМІ ЦІХЕНЬКА

— Адарка-пані, гавары з намі ціхенька,
Сціхенечку, памаленечку, Адарка. [1]

Прышло да Адаркі да трое сватоў, Адарка.
Першыя сваты селі на куце, Адарка.
Другія сваты селі край стала, Адарка.
Трэція сваты селі каля печы, Адарка.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Тым, што на куце, — шаўковы платок, Адарка.
Тым, што край стала,— залаты персцень, Адарка.
Што каля печы,— да й сама пайшла, Адарка.

### 400. ЦЯСОВЫЯ КАЛЁСЫ

Цясовыя калёсы,
Шаўковыя атосы.
А хто ж на іх паедзець?
Паедзець на іх Марутка.
А хто ж яе паваджай?
Паваджай яе — Стахванька.
Хвала богу, што ён свой,
Прывязець яе ў свой двор.

### 401. ВІЎСЯ, ВІЎСЯ ВЕРАБЕЙ

Віўся, віўся верабей [1]
То к тым, то к тым варотам.
Як прывіўся верабей
А к Карпавым варотам.

— Марутачка малада,
Чым даруеш вераб'я?
— Дарую я вераб'я
З галоўкі венчыкам,
З галоўкі венчыкам,
З правае ручкі персні́чкам.

### 402. ВІЎСЯ, ВІЎСЯ ВЕРАБЕЙ

Віўся, віўся верабей
То к тым, то к тым варотам.
Як прыбіўся верабей
К Міхалкіным варотам.
— А Дар'ечка малада,
Чым даруеш вераб'я?
— З буйнай галоўкі—злат вянок,
А з мізінца — персцянёк.

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 403. ЛЯ КАЛОДЗЕЖА, ЛЯ СЦЮДЗЕНАГА

Ля калодзежа, ля сцюдзёнага,

Люлі-люлі, ля сцюдзёнага,[1]

А ўсе галубы пазляталіся,
На галубку паспіраліся.
— А каму ты, галубка, усё й застанешся,
Ай, ці сізаму, ай, ці беламу?
— А я астануся аднаму галубку.

— А ў чыіх гэта дый вароціках
Белыя малойцы ўсё паз'ехалі?
— А ў Іванкіных у вароціках
Добры молайцы ўсё паз'ехалі,
На адну Кацю паспіраліся.

— А каму ты, Каця, усё застанешся,
Ай, ці сельскаму, ай ці меснаму?
— Ай, застануся добру молайцу.

## 404. БЕГЛА ПАННАЧКА УПЕРАД ЖАНІШКА

Бегла панначка ўперад жанішка,
А ён кліча: заждзі-паждзі, малада панначка,
Загадаю я табе тры загадкі:
Як адгадаеш, то мая будзеш.
— Што то расце без кораня?
Што то гарыць без полымя?
Што то міла да не родзячы?
— Камень расце без кораня,
Мароз гарыць без полымя,
А міла — любая да не родзячы.

## 405. А ЧАГО ТЫ, ЕЛКА, ДЫ НЕ ЗЕЛЕНА

— А чаго ты, ёлка, ды не зелена,
Ай, рана-рана, ды не зелена.[2]

---

[1] Прыпеў «Люлі-люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.
[2] Прыпеў «Ай, рана-рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

— Як жа мне, ёлцы, зеленай быць.
Я ж стаяла пры шляху,
А пры буйнай дарозе.
Ля мяне казакі ездзілі,
Яны маё карэнне патапталі,
Зялёнае веццe ламалі.
Яны мяне, ёлку, ссушылі.
— А чаго ж ты, дзеўка, ды не молада.
— Як жа мне, дзеўцы, маладой быць...

## 406. ОЙ, У МЯСТЭЧКУ, У БЕРАСТЭЧКУ

Ой, у мястэчку,
У Берастэчку,
Свят вечар, свят![1]

Там стара бабка
Хлеб расчыняла,

Сваго ўнучка
Да калыхала.

Калыбелька
Да пазлачона,

Яе чэпачкі
Да шаўковыя,

Яе ключыкі
Да месянзовыя,

Півіваўчык
Да шаўкавенькі,

Яе пялешучкі
Злацені.

Да й калыхала:
— Да люлі, люлі ж,

Да люлі, люлі ж,
Маё ўнучатка.

Судзі ж, божа,
Пагадаваці,
Вяселля даждаці.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

# СЫНУ ГАСПАДАРА

## 407. ТАМ ЗА САДАМІ, ЗА ЗЯЛЁНЫМІ

Там за садамі, за зялёнымі,
Каляда, за зялёнымі.[1]

Ой, там Андрэйка коніка пасе,
Коніка пасе, павадцом трасе.
— Ой, еж, коніку, шоўкаву траву,
Ой, пі, коніку, крынічну ваду,
Бо паедзем мы да цесценькі,
І да цесценькі, і да цёшчанькі,
І да цёшчанькі, і да Ганначкі.
Цесценька кажа, калакол звініць,
Цёшчанька кажа, што сакол ляціць,
Ганначка кажа, Андрэйка едзе,
Андрэйка едзе, падаркі вязе,
Падаруначкі — мне чаравічкі.

## 408. ОЙ, ПАД ГАІКАМ

Ой, пад гаікам,
Пад зялёненькім, коляда! [2]

Ой, там Ванечка
Коніка пасе,

Коніка пасе,
З конем гаварыць:

---

[1] Прыпеў «Каляда» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

[2] Другі радок кожнай страфы з прыпевам «Коляда» паўтараецца двойчы.

— Ой, ты еш, коню,
Шоўкаву траву,

Ой, ты пі, коню,
Крынічну ваду,

Бо паедэма
У дарожаньку,

У дарожаньку,
Да й да дзеванькі.

Маценька кажа,
Што сакол ляціць,

Дзеванька кажа:
Жанішок едзе.

## 409. ОЙ, ЗА ВАРАЦЬМІ КРУТАЯ ГАРА

Ой, за варацьмі
Крутая гара,
Святы вечар! [1]

Ой, на той гарэ —
Шаўкова трава.

А на той гарэ
Стада каней ходзіць.

А між тых коней —
Адзін вараны,

Адзін вараны,
Да й не сядланы.

Хлопцы лавілі,
Да й не злавілі.

Адкуль узяўся
Малады Пецечка.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Як к каню прыпаў,
Так коніка ўзяў.

Як сеў паехаў
К новаму двару.

К новаму двару,
К цесцейку свайму.

Цесцейка кажа:
— Вон ясен сокал.

А дзевачка кажа:
— То не ясен сокал,

То не ясен сокал,
То Пецечка мой.

Вазьміце коніка
Да із стаенькі,

Маладога Пеценьку —
Дай да Святланкі.

Дайце коніку
Сена аброку,

Маладому Пеценьку —
Мёду і віна,

Мёду і віна,
Сітняга хлеба.

За естым словам
Жывіце з богам...

Святое ражаство
Радасць прынясло.

Святое васілле
Развесяліла...

За естым словам
Жывіце з богам.

## 410. САКОЛЮ ЯСЕН

Саколю ясен, панічу красен, саколю,
Саколю ясен, панічу красен Іванка.[1]

Коніка ўзяў, коніка сядлаў, саколю.
Да сеў паехаў к новаму двару, саколю.
К новаму двару, к цесценьку свайму, саколю.
Цесценька кажа, то ясны сокал, саколю,
Маруська кажа, то мой Іванка, саколю.

## 411. ОЙ, ЗА ЛЕСАМ, ЛЕСАМ СОНЦА СІЯЕ

Ой, за лесам, лесам сонца сіяе,
Каляда! [1]

Да малады Колька каня сядлае.
Да прыйшоў да яго баценька яго:
— Да куды, сыночак, каня сядлаеш,
Да куды, родненькі, каня сядлаеш?
— Сядлаю, баценька, сядлаю, родненькі.
Да й да залётанькі, да й да дзеванькі.

## 412. ОЙ, ПАД ВЯРБОЮ, ПАД ЗЕЛЯНОЮ

Ой, пад вярбою, пад зеляною,
Святы вечар! [1]

Ой, там стаяла мужаў грамада,
Мужаў грамада, вяліка рада.
— Станьма мы, братцы, у вяліку раду,
Пастройма мы, братцы, залаты човен,
Леньма-паленьма да сваго пана.
А наш бо пан — слаўны багатыр,
Слаўны багатыр, дорага плаціў,
На месяц плаціў па сто чарвоных,
Па сто чарвоных, па вараным кані.
На тым кані залатое сядло,
А на тым кані залата грыва.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Залата грыва, персцень укрыла.
На тым сядле пышнае дзіця,
Пышнае дзіця — малады Іванка.

## 413. У ПОЛЕ ПАД ШАТРОМ СТАСЮНЬКА З КАНЁМ

У поле пад шатром Стасюнька з канём,
На вараном кане, на залатом сядле,
У гусленькі іграе, злічна спявае.
Прышла ж да яго маменька яго:
— Ой, сынку ж, сынку, малады Стасюньку,
Хто ж цябе наўчыў у гусленькі граці,
У гусленькі граці, злічна спяваці?
— Да была ж у караля да адна дачка,
Да тая ж наўчыла ў гусленькі граці,
У гусленькі граці, злічна спяваці.

— Мы ж цябе, Стасюньку, не зневажаем,
Да святым ражаством паздраўляем...

## 414. А У ПОЛІ, У ПОЛІ

А ў полі, у полі,
У полі пад шчадром,

Ой, грай, мора,
Радуйся, зямля! [1]

Ой, там пад шчадром
Васілька з канём,

На вараном кане,
На залатом сядле,

У мусленькі йграе,
Слічна спявае.

— Хто ж цябе навучыў
У мусленькі йграці,

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

У мусленькі йграці,
Слічна спявалі?

— Была ў караля,
Да й адна дачка.

Тая наўчыла
Ў мусленькі йграці,

Ў мусленькі йграці,
Слічна спяваці.

## 415. НА РЭЧЦЫ, НА РЭЧЦЫ

На рэчцы, на рэчцы,
Святы вечар! [1]

Там кладачка ляжыць,
На той кладачцы конічак стаіць,
На тым конічку Іванечка сядзіць,
Хваліцца канём перад каралём.
— Такога каня няма ў караля.
Хваліцца чабатамі перад каралямі.
— Такіх чабатоў няма ў каралёў.
Хваліцца стрэлкамі перад дзеўкамі.
— Такіх стрэлачак няма ў дзевачак,
А ў мяне, маладога, усё дарагое.
Святы вечар! Добры вечар!

## 416. ОЙ, ЗА СЕНЯМІ, ДА [redacted] ЗА НОВЫМІ

Ой, за сенямі, да й за новымі.
Святы вечар, да й за новымі! [2]

Там стаяў явар тонкі, высокі.
Над тым яварам Лукашка з канём.
Прад каралём хваліцца канём.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

[2] Прыпеў «Святы вечар» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Няма ў караля такога каня.
Конік скочыў, мора пераскочыў,
Мора пераскочыў, капыцікі не замочыў.

## 417. СЛАУНОЕ ПАНЯ

Слаўное паня
Хваліўся канём
Перад каралём.
— Жэ у цябе, караля,
А няма такога каня:
Залатая грыва,
Срэбраны капытца,
Шаўковы хвосцік.
Шаўковы хвосцік
Свет замятае,
Срэбраны капытца
Камень сякуць,
Залатая грыўка
Ад сонца гляне.
А такі ён ад'язджае
У чыстае поле
На палёванне.
І ўпалёваў дзевяць лісаў,
А дзесятую кунку —
Матцы на шубку.

## 418. СЛАУНАЕ ПАНЯ

Слаўнае паня
Хваліўся канём
Перад каралём,

Святы вечар, свят! [1]

Што ў цябе, караля,
А няма такога каня,
Як у мяне.

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

А ў маго каня
Залатая грыва.
Залатая грыва,
Срэбраны капытца.

[Срэбраны капытца],
Шоўкавы хвосцік.
Шоўкавы хвосцік
Свет замятае,

Срэбраны капытца
Камень сякуць,
Залатая грыўка
Ад сонца гляне.

А такі ён ад'яжжае
У чыстае поле
На паляванне,
На пагулянне.

І ўпаляваў
Дзевяць лісаў,
[Дзевяць лісаў],
А дзесятую кунку,
[А дзесятую кунку]
Матцы на шубку.

## 419. У ПАНА ІВАНА ЯВАР НА ДВАРЭ

У пана Івана явар на дварэ,
Святы вечар! [1]
Вышаў Іван арлоў страляць.
— Не страляй арлоў, едзь да каралёў,
Дасць табе кароль варана каня,
Каралеўна — з-пад залот персцень.
Хваліцца лічком перад гайдучком.
Няма ў дзевачак такіх стрэлачак,
Няма ў гайдучка такога лічка.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 420. МАЛАДЫ ІВАНКА ВОКНЫ ВЫМАЕ

Малады Іванка вокны вымае,
Вокны вымае, арла страляе,
Святы вечар! [1]

— Не страляй ты арла,
Едзь да караля.

Дасць табе кароль
Варанога каня,

Варанога каня
І хустку з-пад злота,

І хустку з-пад злота,
І персцень на руку.

## 421. ДА У ЧЫМ ДВАРЫ

Да ў чым двары,[2]
Лялі, мой.[3]
Да явар стаіць
Харашусенькі,
Зелянюсенькі.
Што на тым явару
Да сакол сядзіць
Да сінюсенькі,
Харашусенькі.
Малады малойчык
Лук напінае,
Стралу набівае
Сакала страляці.
— Да малады малойчык,
Не страляй ты мяне,
Я табе да буду
У вялікай дарозе,
У вялікай прыгодзе.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.
[2] Кожны радок паўтараецца двойчы.
[3] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Будзеш ты жаніцца,
Будзеш браці панну
За ціхім Дунаем,
Харашо прыбрану.
Я твае конікі
Сам перасвішчу,
Я тваю паненку.
Сам перанясу.
Каб твая паненка
Сукнаў не зрасіла,
Ножкаў не эмачыла.

## 422. АЙ, У ПАНА СЯМЕНА ДА НА ЯГО ДВАРЭ

Ай, у пана Сямёна, да на яго дварэ,
Шчодры вечар да й добрым людзям![1]

Там стаяў явар тонкі і высокі,
На тым явары да сядзелі арлы.
Выйшаў Іван да арлоў страляці.
Тыя арлы да й прамовілі:
— Малады Іванка, да не бі арлоў,
Да як будзеш да жаніціся,
Да не будзе табе паравозу.
Прыедзеш ты к ціхаму Дунаю,
Тваю дзевачку Хіму добра знаю,
Пасаджу цябе на правым крыле,
Тваю дзевачку Хімачку да й каля цябе,
А твой поезд на левым крыле,
Тваіх музыкантаў на сізым хвасце.

## 423. А У БАРУ, БАРУ

А ў бару, бару
Стаіць цэркаўка,

Свят вечар, свят![2]

На той цэркаўцы
Залатой крыжык.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

На том крыжыку
Сівы галубок.

Выбег, вышаў
Паніч, князіч.

— Паніч Барыска,
Да не стрэль мяне.

Не стрэль [мяне],
Да паніч, князіч.

Я ў бару сяджу,
Пшаніцу гляджу.

## 424. А Ў БАРКУ, БАРКУ

А ў барку, у барку
На жоўтым пяску,

Святы вечар! [1]

Крыжачак стаіць,
Галубок сядзіць,

Галубок сядзіць,
Пшаніцы глядзіць.

Зрабіў крэселка
Маляваная,

Маляваная,
Пазлачаная.

А ў тым крэселку
Да красніч-паніч,

Да красніч-паніч,
Да пан Васілька.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Як пайшоў жа ён
Лужком, беражком,

Да сустрэў жа ён
Два казачанькі,

Два казачанькі,
Два рыбачанькі.

## 425. ОЙ, У ТУРАВЕ

Ой, у Тураве,
Ой, на мураве
Стаіць цэркаўка недарублена.
На той цэркаўцы
Галубок сядзіць
Да пшаніцу глядзіць:
Штоб на гарэ не вывявала,
А ў даліне не вымакала.
Што на гары, то на вяселле,
А ў даліны, то на радзіны.
Святы вечар!

## 426. ТАМ НА ТУРАВЕ, ТАМ НА МУРАВЕ

Там на Тураве, там на мураве,
Святы вечар! [1]

Стаіць цэркаўка недарублена,
Недарублена, недавершана.
На той цэркаўцы крыжычак стаіць,
А на крыжычку галубок сядзіць.
Як вышаў, выбег молад Іванька
Да намерыўся на яго страляці.
— Не страляй мяне, молад Іванька,
Я не так сяджу — пшаніцы гляджу.
А што на гарэ, то на вяселле,
А што ў даліне, то на радзіны.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 427. У ЧЫСТЫМ ПОЛІ ДА ВЯЛІК АВЕС

У чыстым полі да вялік авёс,

А зялёны сад вішнёвы! [1]

Да вялік авёс парос.
А ў том аўсе белы камень,
На тым камні змяя ляжыць,
Змяя ляжыць сіпучая.
— А ты ж ба ішоў, слічны паніч,
Слічны паніч Кузёмачка.
Хацеў тую змяю забіць.
Тая змяя прагаварыла:
— Ня бі мяне, слічны паніч,
Слічны паніч Кузёмачка!
Скажу табе тры радасці,
Тры радасці, тры карысці:
Первая радасць — цябе бог завець,
Другая радасць — цябе кароль завець,
Трэцяя радасць — цябе пан завець.
Ой, бог завець — долю даець,
Кароль завець — дачку даець,
Пан завець — каня даець.
Бог долю даець — шчасліў будзеш,
Кароль дочку даець — дык жыць будзеш.

## 428. У ПОЛІ, У ПОЛІ ТАМ СТАЯУ ЯМ'ЕН

У полі, ў полі там стаяў ям'ён,
Святы вечар! [1]
Там стаяў ям'ён, вельмі ён чырвон.
Пад тым ям'ёнам Іванко з канём.
З канём вараным, з канём гаварыў:
— Ой, коню, коню, я цябе прадам,
Я цябе прадам за шклянку віна,
За шклянку віна, за другу піва.
— Ой, мужу, мужу, я ж цябе вазіў,
Я ж цябе вазіў, нідзе не ўтапіў.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 429. МАЛАДЫ ІГНАТКА ПА ТАРГУ ХОДЗІЦЬ

Малады Ігнатка
Па таргу ходзіць,

Раю! Раю, мой раю,
Радуйся зямля
Век да веку! [1]

Па таргу ходзіць,
Коніка водзіць.

Коніка водзіць,
З канём гаворыць:

— Ой, коню, мой коню,
Прадам цябе я,

За сто чырвонцаў,
За бочку віна.

Ой, той жа коню
Яму гаворыць:

— Малады Ігнатка,
Не прадавай мяне.

Буду я табе
У вялікай прыгодзе.

Будзеш ты жаніціся
Да Ганначку браць,

Намашчу масты
Усё сталяныя,

Пастаўлю стаўпы
Усё медзяныя,

Павешу шнуры
Усё шаўковыя,

Перавязу цябе
Чэраз сіня мора.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Стаўпы зазвіняць,
Шнуры зашумяць,

Буду я ехаць
І Ганначку везці,

Ганначку везці,
Масты затрашчаць,

Масты затрашчаць,
І я буду рзаць.

## 430. А У ЛУЗЕ, У ЛУЗЕ КРАСНА КАЛІНА

А ў лузе, у лузе красна каліна,
Святы вечар! [1]

Пад тою калінаю калодзезь цячэ,
Молад Іванька коніка поіць,
Коніка поіць, з канём гаворыць:
— Ой, коню, коню, запрадам цябе,
Запрадам цябе за дзвесце рублёў.
— Малады Іванька, не прадавай мяне,
[Не прадавай мяне], дзяржы ля сябе,
Як будзеш ты да жаніціся, памашчу масты,
Памашчу масты ўсё калінавыя,
Пастаўлю стаўбы да ўсё залатыя,
Павешу хусты ўсё шаўковыя.
Як будзеш ты дзевачку вязці,
Забражджаць масты ўсё калінавыя,
Заззяюць стаўбы ўсё залатыя,
Замашуць хусты ўсё шаўковыя.

## 431. СЛАЎНЫ ПАНІЧОК, ПАНЕ ІВАНЬКА

Слаўны панічок, пане Іванька,

Святы вечар! [1]

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

На кане едзе, з канём гаворыць:
— Ой, коню, коню, я прадам цябе,
Я прадам цябе ў чужу старану,
У чужу старану, чужому пану.
— Не прадай мяне, ды здумай ты то,
Як былі цябе туркі абнялі,
Туркі абнялі, шчэ й з татарамі,
А я і скочыў ды й пераскочыў,
Не замачыў я ні ясень сядла,
Ні ясень сядла, ні цябе, малайца.

## 432. ГЭЙ, КАЛЯДА

Гэй, каляда!

Ой, пелі пеўні
Рана-раненька,

Гэй, каляда! [1]

Да пабуджалі
Слаўнага пана,

Слаўнага пана,
Пана Васіля.

— Ой, устань, не спі,
Слаўны пане.

Слаўны пане,
Пане Васіль.

Запалі сабе
Да летараньку,

Да пайдзі сабе
Да ў стаеньку,

Выберы коніка,
Што нанайлепшага,

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Што нанайлепшага,
Што найнадваранейшага.

Спадабаўся яму
Сівы конічак,

Сівы конічак,
Мал, невялічак.

Вялеў служанькам
Яго паймаці,

Хараша ўбраці
Да й і асядлаці.

— Вазьмі хортыкі
Да на рацязі,

А саболікі
На белы ручыкі.

Да паедзь сабе
На паляванне,

На паляванне
Да на пагулянне.

Пусці хортыкі
У шчырыя бары,

А саболікі
Ў чыстае поле.

Хортыкі бяжаць,
Лісіка імчаць,

Саболі лянуць,
Утачку імчаць.

Лісіча шкура —
Маці на шубку,

Уцяцье мясца —
Маці на юшку,

А пер'ечка —
На падушку.

Яго мілая
Даведалася,

Даведалася
Да й угневалася.

— Ой, хоць гневайся,
Хоць не гневайся,

Хоць не гневайся,
Мая мілая.

Да не ты ж мяне
Гадавала,

Цёмнай ночкі
Недасыпала.

Гадавала ж мяне
Мая матанька,

І лілеяла
Мая родная,

Цёмнай ночкі
Недасыпала,

Яснай свечы
Не згашала,

Ачапок з ножак
Не спускала.
А за тым словам
Да святкуй здароў,
Слаўны пане,
Пане Васіль.
Не сам з сабою,
А з сваім айцом
І панею маткай,
Да і з братамі,

Да і з сёстрамі,
Да і з дзядзямі, і з цёткамі,
І з дзядамі, і з бабамі,
І з суседамі акалічнымі,
І з добрымі людзьмі
Прыталічнымі.
А шчыпальнічку —
Да чырвон злоты,
А певальнічкам —
Да і двух мала,
А механошу —
Чатыры грошы
І пірог харошы.

## 433. ХАДЗІЛА ПАВА КАЛЯ ПАПЛАВА

Хадзіла пава каля паплава,
Святы вечар, свят! [1]

Ходзіць, ходзіць, пер'ечка роніць.
Вышла, выбегла красна панначка,
Тое пер'ечка падбірала,
У вяночак укладала.
Ой, пад лесам, пад высокім,
Ой, там ходзіць каней стада,
А ў тым стадзе конь гаворыць:
— Ой, хто ж мяне да паймае,
Той мяне да й асядлае.
Паймае мяне да малады жанішок,
Да паймае, да й асядлае.
Пайду ў поле паляваці, лісаў страляці,
Да забіў жа я да дзевяць лісоў,
Дзевяць лісоў, а дзесятую куну,
Матцы на шубу, а бацьку на шапку.
Да не гневайся, мая мілая,
Да не ты ж мяне нарадзіла,
Цёмную ночку да недаспала,
Чэпак з ножак не спускала.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 434. ОЙ, ПАД ЛЕСАМ ДА ПАД ВЫСОКІМ

Ой, пад лесам да пад высокім,
Ой, там ходзіць стада коней,

Добры вечар, шчодры вечар![1]

А ў том стадзе конь гаворыць:
— Ніхто мяне не паймае, не асядлае.
Адазваўся малады малойчык:
— Я й таго каня паймаю, я й асядлаю.
Ой, паеду ў чыста поле,
Выпалюю дзевяць лісаў,
Дзевяць лісаў, дзесятую кунку
Да сваёй мамачцы на шубку.
Як пачула гэта, загневалася
Ой, да яго міленькая.
— Ох, не гневайся, мая міла,
Ці ты ж мяне гадавала?
Гадавала мяне родна матанька,
Цёмнай ночы не даспаўшы,
Ясчай свечы не тушыўшы,
Ачэпак з ножак не спушчаўшы.

## 435. ОЙ, ПАД ЛЕСАМ, ПАД ВЫСОКІМ

Ой, пад лесам, пад высокім,
Шчодры вечар, добры вечар![2]

Ой, там коней стада ходзіць,
А ў тым стадзе конь гаворыць:
— Ніхто ж мяне не спаймае, не асядлае.
Адазваўся малады Януська:
— Я ж таго каня спаймаю і асядлаю,
І паеду ў чыста поле на паляванне,
І выпалюю дзевяць лісаў,
Дзевяць лісаў, дзесятую кунку,
Дзесятую кунку — мацеры на шубку.
Загневалася яго мілая.
— Ой, не гневайся, мая міла!

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожных двух радкоў.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Ты ж мяне не гадавала,
Гадавала мяне мая матанька.
Як у ночы, так і ў дзень,
Яе ножка стружона,
Усё ў маёй калыскі была зачаплёна.

## 436. ОЙ, ПАД ЛЕСАМ, ПАД ВЫСОКІМ

Ой, пад лесам, пад высокім,

Шчодры вечар, добры вечар.[1]

Ой, там коней стада ходзіць.
А ў тым стадзе конь гаворыць:
— Ніхто ж мяне не зыймае,
[Ніхто ж мяне] не сядлае.
Адазваўся малады Янушка:
— Я ж таго каня зыймаю,
[Я ж таго каня] і асядлаю,
І паеду ў чыстае поле на паляванне,
І выпалюю дзевяць лісаў,
Дзесятую кунку — матцы на шубку.
Загневалася яго мілая.
— Ой, не гневайся, мая мілая!
Ты ж мяне не гадавала.
Гадавала мяне мая матанька,
Цёмнай ночы недасыпала,
Яснай свечы не патушала,
Ачэпак з ножак не спушчала.

## 437. ПАД МУРАВАМ, ПАД ГАРАДОЧКАМ

Пад Муравам,
Пад гарадочкам,
Ой, там ходзіць
Вараное стада.
А ў том стадзі
Неімушчы конь.

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Ой, хто яго паймае
Да і асядлае?
Да і абазвауся
Слышны паніч,
Паніч Іванька.
Он яго паймае
Да і асядлае.

## 438. ДОБРЫ ВЕЧАР ТАМУ

Добры вечар таму,
Хто ў етым даму,
Святы вечар, хто ў етым даму.[1]

Да й няма ж яго дома,
Паехаў на лова,

Паехаў на лова
Куначкі лавіць,

Куначкі лавіць,
Шчодрыкаў дарыць.

— Ой, дарыце, дарыце,
Да й нас не пазніце,

Бо кароткі світкі
Да памерзлі лыткі.

## 439. ДЫ ЕХАУ Я, ЕХАУ

Ды ехаў я, ехаў,
Каляда! [2]

Міма гай зялёны,
Міма сад вішнёвы,
Ды бачыў тут яблыньку,

---

[1] Прыпеў «Святы вечар» паўтараецца з другім радком кожнай страфы.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Зеляненька цвіла
Ды белым цветам,
Ды шырокім лісцем.
Я ж яе не зачапаў,
За галінку не браў,
Дачакаў я вясны
Ды цёплага лецечка,
Каб яна сазрэла
Ды мне, малойцу, паспела.
Ды ехаў я, ехаў
Міма цесця двара,
Ды бачыў я дзеваньку,
Як кралечка прыбрана.
Я ж яе не зачапаў
І за ручку не браў,
Каб яна падрасла
Ды за мяне пайшла.

## 440. ДА СТАІЦЬ БЯРОЗА, ТОНКА, ВЫСОКА

Да стаіць бяроза, тонка, высока,
Шчодры вечор! [1]

Тонка, высока, лісцем шырока.
А на той бярозе кара залатая.
Адкуль узяўся слічны панічак,
Слічны панічак, панічак Іванька.
Ён тую кару да й падзяўбаў жа,
Ён падзяўбаў жа, ў рукавец клаў жа.
Да й паехаў у Мір-зямлю,
Да жаніцеся, весяліцеся.

## 441. ІШОЎ ПАЎЛІЧАК БЕРАЖЫНАЮ

Ішоў Паўлічак
Беражынаю,

Святы вечар! [2]

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Найшоў ветачку
Пад ружынаю.

То не ветачка,
Вінаградачка,

Яго Анечка
Ненаглядачка.

Ён яе шукаў,
У ладачкі пляскаў.

Ён яе найшоў,
У прысядкі пайшоў.

— Мы цябе, Паўлічак,
Не зневажаем,

Да з Новым годам
Паздраўляем...

Ражаство прыйшло,
Радасць прынясло,

Васілле прышло —
Развесяліла...

## 442. ОЙ, У ЛЯСКУ, ЛЯСКУ НА ЖОЎТЫМ ПЯСКУ

Ой, у ляску, ляску на жоўтым пяску,
Святы вечар! [1]

Іскарка ўпала, цэркаўка стала.
У адно ваконца ўсходзіць сонца,
У другое ваконца заходзіць сонца,
У трэцяе ваконца рэчачкі цякуць.
Па тых рэчачках чаўнакі плывуць,
А ў тых чаўночках Мішачка сядзіць,
Мішачка сядзіць, стружачку стружа,
Стружачку стружа, у рэчку пускае.
— Плыві, стружачка, к маёй Валечцы.

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 443. У КАНЦЫ СЯЛЯ СТАЯЛА ГАРА

У канцы сяла стаяла гара,
Святы вечар! [1]

А на той гарэ — шаўкова трава,
А ў той траве галубы гудуць,
Галубы гудуць — цэркаў будуюць,
З трыма вярхамі, з чатырма вокнамі.
Першае ваконца — яснае сонца,
Другое ваконца — ясны месячык,
А трэцяе ваконца — ясна зорка.
У чацвёрта ваконца салавей уляцеў,
Салавей уляцеў, на прастоле сеў,
На прастоле сеў, слёзку ўраніў.
На стале слёзкі пацяклі ракой,
А на той рацэ чаўначок плаваў,
А ў том чаўначку Марцінка сядзіць,
Марцінка сядзіць, стружачкі стружа,
Стружачкі стружа і яшчэ малюе,
Яшчэ малюе і ў пучочкі вяжа,
У пучочкі вяжа, на Дунай пускае:
— Плывіце, стрэлачкі, да мае дзевачкі.

## 444. А У ЧЫХ ГЭТА У ВАРОЦЕЙКАХ

А ў чых гэта ў вароцейках,

Люлі-люлі, у вароцейках.[2]

Стаіць яблынька зеляненькая,
На той яблыньцы вінны яблычкі.
Як наляцелі дробны пташачкі,
Як сталі кляваць вінны яблычкі.
Вышаў моладзец усё й на ганачак,
Махнуў шапкаю ён на птушачак.
— Ай, шугі ў лугі, дробны птушачкі,
Ай, не клюйце вы маіх вінных яблычак,

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.
[2] Прыпеў «Люлі-люлі» паўтараецца в другой частцы кожнага радка.

А мне, молайцу, многа трэба іх,
А ўсім дзевачкам усё й па яблычку,
Сваёй дзевачцы поўну шапачку.

## 445. ТАМ ЗА РЭЧКАЮ, ТАМ ЗА БЫСТРАЮ

Там за рэчкаю, там за быстраю, каляда,
Там за быстраю, каляда!

Ой, там Іванька стружа стрэланькі, каляда,
Стружа стрэланькі, каляда!

Стружа, малюе, на Дунай пускае, каляда,
На Дунай пускае, каляда!

— Ляціце, стрэлкі, да маёй дзеўкі, каляда,
Да маёй дзеўкі, каляда!

Няхай гатуе тонкі падаркі, каляда,
Тонкі падаркі, каляда!

Тонкі падаркі для маёй маткі, каляда,
Для маёй маткі, каляда!

Майму татулю — тонку кашулю, каляда,
Тонку кашулю, каляда!

Мне, маладому,— з руты вяночак, каляда,
З руты вяночак, каляда!

## 446. ОЙ, ЯК ПА МОРУ ДА ПА ДУНАЮ

Ой, як па мору да па Дунаю, саколе,
Саколе ясен, малойчык красен, Іване.[1]

Ён стружа стрэлачкі, да ўсё з каліначкі, саколе,
Ён стружа, стружа, на Дунай пускае, саколе. саколе.
— Плывіце, стрэлачкі, да маёй дзевачкі,
Няхай мая дзевачка дары гатуе, саколе,
Мамцы — тонак серпанок, саколе,
А татку — каня варанога, саколе,

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Майму брату — шаўковы платок, саколе,
Маёй сястрыцы — золат персцянёк, саколе.
А мне, маладому,— дзеўка-паненка, саколе.

## 447. МАЛАДЫ ІВАНАЧКА РОЖУ ССЯКАЕ

Малады Іваначка рожу ссякае,
Ой, дай яму, божа, шчасця-
здароўя ў яго двары! [1]

У хатачку ўносіць, у мамачкі просіць:
— Парадзь жа мне, мамачка, усе парадачкі,
Каму шырына, каму хусціна.
Маёй мамачцы — тонак серпанок,
Маім братачкам — па шырыначцы,
Маім сястрыцам — па кітаячцы,
Майму татачку — варанога каня,
Мне, маладому,— дзеўка паненка.

## 448. ОЙ, РАНА, РАНА

Ой, рана, рана
Пеўні папелі,
Шчэ й раней таго
Міколка ўстаў,
Па двару пахадзіў,
Званком пазваніў,
Братцаў пабудзіў.
Святы вечар добрым людзям! [2]

— Уставайце, брацця,
Сядлайце коні,
Едзьце ў дубровы
Зялёныя,
Сякіце масты
Калінавыя,
Будуць іхаць тры празнікі.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Первы празнічак —
Святое ражство,
Другі празнічак —
Святое васілле,
Трэці празнічак —
Святое хрышчэнне.
На ражство —
Разгаўляннейка,
На васілле —
Гуляннейка,
На хрышчэнне —
Раз'язджаннейка.

## 449. ОЙ, КУРЫ, КУРЫ

Ой, куры, куры,
Не пейце рана,
Святы вечар! [1]

Не пейце рана,
Не будзіце пана.

Пан сам устане,
Па сенях паходзіць,

Па сенях паходзіць,
Званком пазвоніць,

Званком пазвоніць,
Браткаў пабудзіць.

— Уставайце, браткі, абувайцеся,
У дарожачку сабірайцеся.

## 450. ОЙ, КУРЫ, КУРЫ, НЕ ПЕЙЦЕ РАНА

Ой, куры, куры, не пейце рана,
Святы вечар! [2]

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Не пейце рана, не будзіце пана,
Не будзіце пана, сам пан устане,
Сам пан устане, па двору паходзіць,
Па двору паходзіць, братцаў пабудзіць:
— Братцы, ўставайце, коні сядлайце,
Коні сядлайце, на коні сядайце,
На коні сядайце, у чыста поле ўязджайце,
У чыста полейка на паляванне,
На паляванне, на пагулянне.

## 451. ОЙ, ТАМ НА ГАРЫ ПЕУНІЧАК ПЯЕ

Ой, там на гары пеўнічак пяе,
Святы вечар! [1]

Пеўнічак пяе, Іванка ўстае,
Іванка ўстае, да стаенькі ідзе,
Да стаенькі ідзе, коніка вядзе,
Коніка вядзе, служачкі будзіць.
— Уставайце, служкі да й маладыя,
Сядлайце коні да й вараныя.
Ой, паедзем да й у чыстае поле,
У чыстае поле на паляванне,
На паляванне, на пагулянне.
Выпалявалі чатыры бабры,
Чатыры бабры, пятую кунку,
Пятую кунку — мамцы на шубку.
— Табе ж, мамка, за гадаванне,
За гадаванне, за калыханне.
Ой, з гэтым словам да бывай здарова,
Да бывай здарова, да святкуй здарова,
Да святкуй здарова, да з сямейкаю,
Да з сямейкаю, з весяленькаю.

## 452. ОЙ, РАНА, РАНА КУРЫ ПАПЕЛІ

Ой, рана, рана куры папелі,
Шчодры вечар, святы васілле. [1]

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

А шчэ наранней Сымонка устаў,
Сымонка устаў, па сеньках хадзіў,
Па сеньках хадзіў, званочкам званіў,
Званочкам званіў, братцаў пабудзіў.
— Ставайце, братцы, коні сядлаці,
Да паедама на паляванне,
На паляванне, на пагулянне.
Да спалюема да дзевяць лісоў...

## 453. ОЙ, РАНА, РАНА КУРЫ ЗАПЕЛІ

Ой, рана, рана куры запелі,

Святы вечар! [1]

А шчэ надранней стаў Колечка наш.
Устаў раненька, умыўся бяленька,
Званком пазваніў, брацця пабудзіў:
— Ставайце, брацця, коні сядлайце,
Да паедзема на паляванне,
На паляванне, на пагулянне.
Да спалюема ў поле звярыну,
У поле звярыну, у моры рыбіну,
А для Колечкі дзеўку маладу.

## 454. ОЙ, РАНА, РАНА КУРЫ ПАПЕЛІ

Ой, рана, рана куры папелі,
А шчэ раней там Валодзік устаў,
Святы вечар! [2]

Па сенях пахадзіў, звонцам пазваніў,
Звонцам пазваніў, браццеў пабудзіў.

— Сядлайце, братцы, коней да
паедзем на поле,
У чыстае поле на паляванне, на пагулянне.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожных двух радкоў.

Да заб'ём мы вялікага звера,
Да пазбіваем залаты рогі,

Да прыб'ём к белай сценачцы,
К яснай светланцы.

Роднаму баценьку вешаць шапачку,
Роднай маменьцы вешаць намётку.

А роднаму братку вешаць рушніцу,
А роднай сястрыцы вешаць спадніцы.

### 455. ОЙ, РАНА, РАНА КУРЫ ПАПЕЛІ

Ой, рана, рана куры папелі,
Святы вечар! [1]

А раней таго Сцяпанка ўстаў.
Па двару пахадзіў, званком пазваніў,
Званком пазваніў, братцаў пабудзіў:
— Уставайце, братцы, коней сядлайце,
Коней сядлайце, на аблаву едзьце,
На аблаву едзьце кунаў сачыці,
Кунаў сачыці, дзевак сватаці.
Вам, братцы, куна ў дзераве,
Мне, братцы, дзеўка ў цераме.
А ты, мой коню, я цябе прадам.
Запрадам цябе за лук, за стрэлку.
За лук, за стрэлку,
За красную дзеўку.
Святы вечар, добры вечар!

### 456. А РАНА, РАНА КУРЫ ПАПЕЛІ

А рана, рана куры папелі,
Святы вечар! [1]

А раней таго Іванька ўстаў,
Па двару пахадзіў, званком пазваніў,
Званком пазваніў, хлопцаў пабудзіў.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

— Уставайце, хлопцы-братцы, коней сядлайце,
Коней сядлайце да й выязджайце
У чыстае поле на прагулянне,
Куню сачыці, дзеўку сватаці.
Да й высачылі куню ў дзераве,
Да й высваталі дзеўку ў цераме.
Няхай вам, братцы, куня ў дзераве,
А мне, маладому, дзеўка ў цераме.

## 457. ОЙ, КУРЫ, КУРЫ, НЕ ПЕЙЦЕ РАНА

Ой, куры, куры, не пейце рана,
Добры вечар! [1]

Ды не будзіце Іванька-пана.
Іванька ўстаў, у сянёх пахадзіў,
Ў сянёх пахадзіў, званком пазваніў,
Званком пазваніў, братоў пабудзіў:
— Уставайце, браткі, каней сядлайце,
Ды паедзем мы на паляванне,
На паляванне, на пагулянне,
Куну сачыці, панну сватаці.
Згледзелі куну ды ў дзераве,
Куну — ў дзераве, панну — ў цераме.

## 458. РАНА, РАНА КУРЫ ПАПЕЛІ

Рана, рана куры папелі,
Святы вечар! [1]

Раней таго Паўлік устаў,
Паўлік устаў, тры свячы ссукаў.
Адну запаліў — у сені схадзіў,
Другую запаліў — у стайню схадзіў,
Трэцюю запаліў — брата пабудзіў:
— Уставай, брацейка, коні сядлайма,
Коні сядлайма, ў поле ступайма
Кунаў сачыці, дзевак сватаці.
Табе, брацейка, куны ў дзераве,

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

А мне, брацейка, дзеўка ў цераме.
— Усе твае куны перастраляны,
А твая дзеўка перасватана,
Недалёчка, блізенька,
У аконца відненька.
Па ваду йдзе — дабры дзень дае,
З вадою йдзе — магайбо дае.

## 459. ОЙ, РАНА, РАНА КУРЫ ПАПЕЛІ

Ой, рана, рана куры папелі,
Яшчэ ж найраней Ладзенька ўстаў,
Ладзенька ўстаў, братцаў пабуджаў:
— Да ўставайце, братцы, коні сядлайце
Коні сядлайце, у поле ўязджайце.
Да паедама ж на паляванне,
Да на паляванне, на пагулянне.
Едам поле, едам і другое,
А на трэцяе толькі ж з'язджаем,
Як забачылі куну ў дзераве,
Да кала дзерава — панну ў цераме.
— Не страляй жа мяне, злічны панічу,
Злічны панічу, малады Ладзіньку!
Буду ж я табе ў вялікай прыгодзе,
О, як будзеш жа ты й малады жаніцца,
О, як будзеш жа ты да шлюбу ехаць,
Да памашчу ж масты жуковінай,
Да пазапушчу лугі паважокаю.
Зачуюць людзі — нам слава будзе,
Зачуюць большай—шчэ слаўней будзе.
Бог жа ж таму даў, чый то зяць едзе,
Доленька ж таго, чый ён муж будзе,
Шчэ й надольнейша, чый ён сын будзе.

## 460. МАЛАДЫ ІВАНЬКА ПА ДВАРУ ПАХАДЗІЎ

Малады Іванька па двару пахадзіў,
Святы вечар добрым людзям! [1]

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Па двару пахадзіў, званком пазваніў,
Званком пазваніў і брацця пабудзіў:
— Уставайце, братцы, сядлайце коні,
Сядлайце коні, паедзем у ловы,
Зловім ловачку, Іваньку жоначку.

## 461. СЛАЎНЫ ПАНІЧОК, МАЛАДЫ ФЯДОРКА

Слаўны панічок, малады Фядорка,
Святы вечар! [1]

За сталом сядзіць, тры лісты піша,
Ён адсылае да сваёй царэўны,
Да сваёй царэўны, да каралеўны.
А яна яму да адпісуе.
— Коней не тамі, людзей не турбуй,
Як прыдзе пара, прыеду і сама.

## 462. ДУНАЮ, КУДЫ ПАПЛЫЎ

— Дунаю, куды паплыў, Дунаю,
Дунаю ціхенькі.[1]

— Дунаю, пад Карпін двор, Дунаю,
— Дунаю, каго выглядаеш, Дунаю?
— Дунаю, Мар'ечку выглядаю, Дунаю!
— Дунаю, што яна дзелаець, Дунаю?
— Дунаю, двор вымятаець, Дунаю.
— Дунаю, каго дажыдаець, Дунаю?
— Дунаю, Ягоркі дажыдаець, Дунаю.

## 463. ДА КАЗАЎ ХМЯЛЁК, ДА НА ТЫЧКІ ІДУЧЫ

Да казаў хмялёк, да на тычкі ідучы:
— Чаму мяне да не бралі?
Да казаў хмялёк, да пасыхаючы:
— Чаму мяне да не хавалі?

---
[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Ужо ж вы мяне цяпер не возьмеце,
Ужо ж вы мяне да не схаваеце,
Ані ў белыя мяшэчкі,
Ані ў дубовыя судзіначкі,
Ужо ж я раскачуся,
Ужо ж я да рассыплюся.

Да казаў Казуська, да выходзячы з хаткі:
— Чаму мяне ўвосень не жанілі?
Ужо ж вы мяне цяпер не ўдзержыце,
Ужо ж вы мяне цяпер не ўгледзіце,
Ані ў белай сярмяжцы,
Ані ў новай хатцы.
Пайду ж я мандруючы,
Сабе дзеванькі шукаючы.

### 464. ЗА ГУМНОМ, ГУМНІШЧАМ

За гумном, гумнішчам
Дзеўкі хмель садзілі,
Садзячы, гаварылі:
— Расці, расці, хмелю,
Расці прырастайся
Коранем глыбокім,
Лісцікам шырокім.
Гаварыў жа хмелю:
— Калі мяне дзеўкі не полюць,
Яны мяне не ўдзержаць
Ні ў дубовых бочках,
Ні ў жалезных абручах.
Па двару раскачуся,
Абручы паламлю,
Доскі пашчаплю.

Гаварыў Змітрушка,
Гаварыў малады:
— Чаму мяне маці не жэніць?
Яна мяне не ўдзержыць
Ні за цясовым сталом,
Ні за меднымі дзвярыма.
Столічак аддзвіну,
Дзверы паламаю.

Як пайду я ў прочкі
Супраць цёмнай ночкі,
Я к ласкавай цёшчы,
К краснай дзяўчыне.
Ласкавая цёшча
Вячэру згатуець,
Красная дзяўчонка
Пасцелю песцелець.

### 465. МАЛАДЫ КОЛЕЧКА КОНІКІ ПАСЕ

Малады Колечка
Конікі пасе,
Святы вечар! [1]

Конікі пасе,
У дудку іграе,

У дуку іграе,
Слышна спявае.

Прышла да яго
Мамачка яго.

— Ой, мамка, мамка,
Ажані мяне.

— Сынок Колечка,
Катору любіш?

— Я тую люблю,
Што па небу ходзіць,

Што па небу ходзіць,
З месяцам гаворыць.

— Сынок Колечка,
Не наша радня,

Не наша радня,
То каралёўна,

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

То каралёўна
Да й за замкамі,

Да й за замкамі
І за старажамі.

— Я тыя замкі
Меччу рассяку.

Я тых старажоў
Коньмі разганю.

Я каралёўну
За сябе вазьму.

— Мы цябе, Колечка,
Не зневажаем,

Да з Новым годам
Паздраўляем.

Ражаство прышло —
Радасць прынясло,

Васілле прышло —
Узвесяліла...

### 466. ЗАКРУЦІЛАСЯ ДА КРУТАЯ ГАРА

Закруцілася да крутая гара,
Шчодры вечар! [1]

Да не ўрадзіла шаўкова трава,
Толькі ды ўрадзіў зялён вінаград,
Хто ў етым вінаградзе сторажам будзе?
Адазваўся Міцечка:
— Я ў етым вінаградзе сторажам буду.
Сцеражу ночачку, сцеражу другую,
На трэцюю ночачку сільненька заснуў.
Прыйшла да яго мамка яго.
— Уставай, Міцечка, уставай, сыночак,

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Ужо твой вінаград пташкі аб'елі,
Ужо тваю дзевачку другія ўзялі.
— Няпраўда твая, мамачка мая,
Я свой вінаград сам абараню,
Я сваю дзевачку сам, молад, вазьму.

## 467. І ЗАКРУЦІЛАСЯ КРУТАЯ ГАРА

І закруцілася крутая гара,
Святы вечар! [1]

Да не ўрадзіла шаўкова трава,
Толькі ўрадзіў зялёны вінаград.
Хто ж у тым вінаградзе сторажам будзе?
Сторажам будзе малады Рыгорка.
Не спаў ночачку, не спаў другую,
На трэцюю ночачку крэпенька заснуў,
Крэпенька заснуў, цяжанька ўздыхнуў.
Прыйшоў да яго татачка яго:
— Ўставай, Рыгорка, ўставай, дзіцятка,
Ужо ж твой вінаград пташкі склявалі,
Ўжо ж тваю дзевачку іншыя ўзялі.
— Я ж тых пташак перастраляю,
Я сваю дзевачку між ўсіх ўгадаю.
У мае дзевачкі па плечках коскі,
Па плечках коскі, па лічку слёзкі.
Па плечках коскі рассцілаюцца,
Па лічку слёзкі разліваюцца.

## 468. ЗАЖУРЫЛАСЯ КРУТАЯ ГАРА

Зажурылася крутая гара,
Што не парасла шаўкова трава.
Святы вечар добрым людзям! [2]

Не парасла шаўкова трава,
Да парос, парос зялён вінаград.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Што парос зялён вінаград,
Да хто ж яго будзе сцерагчы?

Малады Яська сцярог ночаньку,
Малады Яська сцярог другую.

Ох, да ён сцярог другую,
А на трэцю сон яго змарыў.

А на трэцю сон яго змарыў,
Да сільненька ён заснуў.

Прышла да яго матачка яго:
— Да ўстань, устань, сыночак мой,

Да ўстань, устань, сыночак мой,
Да ўжо твая стрэлачка да пылам запала,

Твая стрэлачка пылам запала,
Твая дзеванька між дзевачак стала.

— Я сваю стрэлачку з пылу падыму,
Я сваю дзеваньку між дзевачак вазьму.

## 469. ЗАЖУРЫЛАСЯ КАМЕННАЯ ГАРА

Зажурылася каменная гара,
Святы вечар! [1]

Што не ўрадзіла шаўкова трава,
[Што не ўрадзіла шаўкова трава],
Толькі ўрадзіў зялён вінаград.
Хто таму вінаграду сторажам будзе?
Будзе сторажам малады Сымонка.
Сцярог ночаньку, сцярог другую,
А на трэцю сільненька заснуў.
Прышоў да яго ацец яго:
— Устань, Сымонка, устань, сыночак,
Ужо твая прыправа пылам прыпала,
Ужо твая дзевачка ля цябе стала.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 470. ЗАЖУРЫЛАСЯ КРУТАЯ ГАРА

Зажурылася крутая гара,

Святы вечар! [1]

Што не ўрадзіла шаўкова трава.
Толькі ўрадзіў зялён вінаград,
Хто таму вінаграду старожа будзе?
Малады Сцяпанка сцярог ночачку,
Сцярог ночачку, сцярог другую,
А на трэцюю крэпенька заснуў.
Прышоў к яму яго татачка.
— Онь твае гарады туркі абляглі.
Онь твая патрава пылам запала,
Онь твая дзевачка между дзевак стала.
— Я ж тых турачак ды не баюся,
Агнём выпалю, меччу высеку,
А сваю вячэру з перцам прыпраўлю,
А сваю панну между дзевак вазьму.

## 471. ЗАЖУРЫЛАСЯ КРУТАЯ ГАРА

Зажурылася крутая гара,
Святы вечар добрым людзям! [1]

Што не парасла шаўкова трава,
А ўрадзіўся вінаград.
А хто ж той вінаград будзе пільнаваць?
Абабраўся слішны панічок.
Пільнаваў ночку, пільнаваў другую,
На трэцюю ночку сон яго змарыў,
Ён сільненька заснуў.
Прышоў [да] яго ды яго татка:
— Устань, сыночак, устань, дзіцятка,
Твой вінаград пташкі паклявалі,
Тваю дзевачку другія ўзялі.
— А я ж усіх пташачак пастраляю,
Сваю дзевачку між усіх пазнаю.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 472. ЗАЖУРЫЛАСЯ КРУТАЯ ГАРА

Зажурылася крутая гара,
Святы вечар, святое васілле![1]

Да не ўрадзіла шаўкова трава,
Толькі ўрадзіў зялён вінаград.
Ды ў тым вінаградзе слічны панічык,
Слічны панічык — малады Колечка.
Прышлі да яго дзве сястры:
— Устань, Колечка, устань, брацейка,
Да ўжо тваю панначку туркі ўзялі.
— Ой, няхай бяруць як самі знаюць,
Да ў мае панначкі коскі на плечыках,
Коскі на плечыках рассыпаюцца,
Слёзкі па лічыку разліваюцца.

## 473. ЗАЖУРЫЛАСЯ КРУТАЯ ГАРА

Зажурылася крутая гара,
Святы вечар, добрым людзям![1]

Што не ўрадзіла шаўкова трава,
Толькі ўрадзіў яварка адзін.
Хто таго явара будзе сцерагчы?
Сцярог бацька, сцярог сыночак,
На трэццю ноч раненька ўстаў,
Раненька ўстаў, тры свечы ссукаў.
Першую запаліў, па двару пахадзіў,
Другую запаліў, брацціяў пабудзіў:
— Уставайце, братцы, коні сядлайце,
Коні сядлайце, паедзем на ўловы,
На ўловы, на ўловы ў зялёныя дубровы.
— Ваша, брацейкі, куначка з хвастом,
А мне, брацейкі, дзевачка з кублом.

## 474. А ЗБЕГЛА, ЗБЕГЛА З ПОЛЯ СТАРОЖА

А збегла, збегла з поля старожа,
Святы вечар, з поля старожа.[2]

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.
[2] Прыпеў «Святы вечар» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Да прыбегла к Іваньку на двор.
— Ці спіш, ці ляжыш, малады Іванічка?
— Не сплю, не ляжу, лісточкі пішу,
Лісточкі пішу да к паненцы шлю.
— Хоць шлі, хоць не шлі — не твая будзець,
Тваю паненку ў палон забралі,
У палон забралі туркі з татармі,
Туркі з татармі, баяр з баярмі.
— А я тых баяр мечам парублю,
А я тых турак канём патапчу,
Я сваю паненку за сябе вазьму.

## 475. БЕГЛА СТАРОЖА З ЧЫСТАГА ПОЛЯ

Бегла старожа з чыстага поля,

Добры вечар! [1]

Як ударыла кап'ём у вароты.
— Малады Сярожка, ці спіш, ці ляжыш?
— Не сплю, не ляжу, сам сабе сяджу,
Стружачкі стружу, кап'ё малюю.
— Пакінь маляваць, да едзь ваяваць,
Ужо ж тваю дзевачку татары ўзялі.
— Я ж тых татараў мячом пасяку,
Я ж тую дзевачку за сябе вазьму.

## 476. ЧАГО ТЫ, СЕЛЕЗЕНЬ, ХМУРНА ПЛАВАЕШ

— Чаго ты, селезень, хмурна плаваеш?

Святы вечар! [1]

— Як жа мне хмурна не плаваці,
Што маю вутку дай падстрэлілі,
Жэ мо б не было, як бы на вадзе,
А то на вольсе, на самым версе.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

— Чаго ты, Кандратка, хмурненька ходзіш?
— Як жа мне, маладому, хмурненька не хадзіць,
Што маю дзевачку перасваталі,
Жэ мо б не было, як бы даляко,
А то блізенька, ў акно відненька.
Па ваду ідзе — дабрыдзень дае,
А ваду нясе — дабранач дае.

## 477. ДА ЧАГО ТЫ, СЕЛЯЗЕН, ХМУРНА ЛЯТАЕШ

— Да чаго ты, селязён, хмурна лятаеш?
— Ой, як жа мне, селязёну, не лятаць хмурнаму,
Да што маю ўтаўку да й на моры ўбілі.
Да калі б на моры, і жалю б не было,
А то на юльсе, да на самым версе.
— Да чаго ты, Хведарка, хмурненька ходзіш?
— Ой, як жа мне, маладому, не хадзіць хмурному,
Да што маю дзевачку іншыя ўзялі.
Да калі б далёка, і жалю б не было,
А то блізенька — акно відненька.
Да па воду ідзе — дзень добры дае,
Да з вадою ідзе — ручаньку дае,
Маему сэрцу да жалю дадае.

## 478. АХ ТЫ, СІЗЕНЬКІ СЕЛЯЗЕНЕЧКА

— Ах ты, сізенькі селязенечка,
Хто табе сізы крылушкі заламаў?
— Заламала мне сізая вуціца,
На крутым берагу седзячы,
Халоднай вадой прамываючы,
Жоўтым пяском перасыпаючы.

— Ах ты, беленькі малойчык,
Хто табе русы кудзеркі расчасаў?
— Расчасала мне красна дзевіца,
На высокім цераму седзячы,
Зялёным віном пераліваючы,
Золатам, серабром перасыпаючы.

## 479. СВЯТ ВЕЧАР, СВЯТ

Свят вечар, свят!
Над Дунайкам,
Над беражэнькам
Стаіць свецелька
Наварублена
І з акеначкам.
А ў той свецельцы
Ды стаяць сталы
Се цясовыя
Пазасціланы,
Кубкі мядочкам
Паналіваны.
Да за тымі сталамі
Слаўны пане,
Пане Пятро.
Ён тое віно
Да зажывае,
Госпада бога
Да выхваляе.
Пасунуўся ён
К акеначку
Да падзівіўся
У абалонечку,
Да забачыў ён
Дзіўнага птаха,
Белага лебедзя.
— Ой, лынь, прыплынь,
Да дзіўны пташа,
Белы лебедзю,
К майму да акошачку.
Напішу табе,
Накажу табе,
На белым перцы,
На правым крыльцы,
Да цара Турка
Да турэцкага,
Да чы мусіць ён
У полю стаці,
Чы за мяне
Дочку аддаці.
Цар Турко

Не адпісуе
Да й не адказуе.
Мае конанькі
Вараней яго,
Мае прыпасы
Да й страйней яго,
Мае служанькі
Да й вярней яго.

Да вялю войску
Да прыступіці,
Да на вуй біці.
Выходзяць к яму
Да выўляначкі,
Се мяшчаначкі,
Выносяць яму
Да вялікі дар —
Залоцее крэсла.
Ён тое ўзяў,
Шапанькі не зняў
Да не дзенькаваў.

Да вялеў войску
Да прыступіці,
Да на вуй біці.
Выходзяць к яму
Да выяўляначкі,
Се мяшчаначкі.
Выводзяць яму
Да вялікі дар —
Варанога каня,
Асядланага
Да й убранага.
Ён тое ўзяў,
Шапанькі не зняў
Да не падзенькаваў.

Да вялеў войску
Да й прыступіці,
Да мацней біці.
Выходзяць к яму
Да выяўляначкі,
Се мяшчаначкі.

Выводзяць к яму
Да вялікі дар —
Красную панну,
Панну выўлянку.
У серабрэ, у злоце
Не павярнецца,
Не перагнецца.
Ён тое ўзяў,
Шапаньку зняў
Да і падзенькаваў.
Да вялеў войску
Да адступіці,
Да і годзе біці.

А за тым словам
Да святкуй здароў,
Слаўны пане,
Пане Пятро,
Не сам сабою,
А з сваім айцом
І паняю маткаю.

## 480. ІЗ-ПАД КІЕВА, ІЗ-ПАД МАГІЛЕВА

Із-пад Кіева, із-пад Магілёва
Прыляцеў сокал ясны, пан пракрасны.
Даюць яму лусту хлеба,
Лусты не бярэ і з двара не ідзе.
Даюць яму скрыню грошы,
Скрыні не бярэ і з двара не ідзе.
Даюць яму красную паню,
Паню ён узяў, шапачку зняў,
Шапачку зняў да падзякаваў:
— Спасіба, братцы, за красную паню!

## 481. З-ПАД ГОР'Я, ГОР'Я, ПАД НОВЫ СЕНІ

З-пад гор'я, гор'я, пад новы сені,
Саколя! Саколя ясны, паніч красны, Сяргейка! [1]

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Едзе Сяргейка пад новы сені.
Вынасілі яму яшную лусту.
Ён лусты не прымае, назад ступае.
Вынасілі яму міску чырвонцаў.
Ён чырвонцаў не прымае, назад ступае.
Вывадзілі яму красную паню,
Красную паню — маладую Мар'ю.
Ён панну ўзяў і шапачку зняў.
— Спасіба пану за яго паню.

## 482. ЯК ЗАДУМАУ ІВАН ДА ЖАНІЦІСЯ

Як задумаў Іван да жаніціся.
Саколе! Саколе ясен, малойчык красен, Іване! [1]

Да паехаў Іван ■ каралю ў сваты.
Кароль дочкі не дае, варанога каня выводзіць.
Ён коніка не ўзяў, шапачкі не зняў, не скланіўся.
Выносяць яму паўмісы грошай.
Ён грошы не ўзяў, шапачкі не зняў, не скланіўся.
Вывелі яму маладую Вольгачку.
Ён Вольгачку ўзяў, шапачку зняў да й скланіўся.

## 483. ДА НА СІНІМ МОРЫ ЧАУНОЧАК ПЛЫВЕ

Да на сінім моры чаўночак плыве,

Святы вечар, чаўночак плыве.[2]

А ў тым чаўночку — малады панічык.
Прыплывае ён к царскаму двару.
Выносяць яму паўмісак грошай.
Ён шапкі не зняў і грошай не ўзяў.
Да на сінім моры чаўночак плыве.
А ў тым чаўночку — малады панічык.
Прыплывае ён к панскаму двару.
Выводзяць яму варанога каня.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.
[2] Прыпеў «Святы вечар» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Ён шапкі не зняў і каня не ўзяў.
Да на сінім моры чаўночак плыве.
А ў тым чаўночку — малады панічык.
Прыплывае ён к цясцёваму двару.
Выводзяць яму маладую панну,
Ён і шапку зняў і панну сабе ўзяў.

## 484. У ЧЫСЦЕНЬКІМ ПОЛІ ГРУШАНЬКА СТАІЦЬ

У чысценькім полі грушанька стаіць,
Пад той грушанькай — малявана ложа,
На той жа ложы — панічок гожы,
Панічок гожы, красны Яся.
Як сеў на каня, свіснуў да двара.
Як жа прыехаў, так і скланіўся.
Вывелі яму варанога каня.
Ён жа на тое да й не паглянуў.
Выкацілі яму дзве бочкі піва.
Ён жа на тое да й не паглянуў.
Вывелі яму красну паненку.
Як жа абачыў, так і скланіўся:
— Дзякую табе, мой татулька, за панну.
Вам піва бочка, мне паненачка.
Вам піва піці, мне з паннай жыці.

## 485. САКОЛЯ! САКОЛЯ ЯСНЫ, МАЛАДЗЕЦ КРАСНЫ, СЦЯПАНКА

Саколя! Саколя ясны, маладзец красны,
Сцяпанка! [1]

З-пад тучы, тучы, з-пад цёмнай хмары
Ой, беглі, беглі табуны коней.
Малады Сцяпанка — пераборшчык,
У табуне коней перабірае.
Што лучшы конь, то сабе бярэ,
А што худшы конь, то брату дае.
Ай, вынеслі Сцяпанку з скрыні злата.

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Малады Сцяпанка — пераборшчык,
Што златы грошы, то сабе бярэ,
А што медныя, то брату дае.
Ай, вывелі Сцяпанку красну дзеўку-паненку.
Ён яе ўзяў і шапкі не зняў,
І шапкі не зняў, і не ўкланіўся.

## 486. МАЛАДЫ МІХАЛАЧКА—ПЕРАБОРШЧЫЧАК

Малады Міхалачка — переборшчычак, саколя!
Саколя ясен, малойчык красен, Міхалачка,[1]

У скрыні шубы перабірае, саколя!
Катора лушча, сабе надзявае, саколя!

Малады Міхалачка — пераборшчычак, саколя!
У стайні коней перабірае, саколя!
Каторы лучша, сабе сядлае, саколя!

Малады Міхалачка — пераборшчычак, саколя!
У танку дзевак перабірае, саколя!
Катора краша, сабе бярэ, саколя!
Сабе бярэ да ў царкву вядзе, саколя!

## 487. У ЧЫСТЫМ ПОЛІ СТАДА КОНЕЙ

У чыстым полі стада коней,
Ой, у тым стадзе не імушчы конь,
Не імушчы конь, не лавушчы конь.
Ніхто таго каня не спаймае, не асядлае.
Ababраўся красны, харошы, малады Іванька.
Дай яму, божа, шчасця, здароўя ў яго даму!

Ён таго каня і спаймае, і асядлае,
І паедзе ён у чужую землю,
У чужую землю да па каралеўну.
Дай яму, божа, шчасця, здароўя ў яго даму!

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Сустрэў жа ён тры мяшчанкі,
Тры мяшчанкі, тры Ульянкі.
Ён перад імі не скланіўся,
Не скланіўся, не зміры́ўся,
Шапачкі не зняў, ручанькі не даў.
Дай яму, божа, шчасця, здароўя ў яго даму!

Ой, сустрэў жа ён красну, харошу,
Красну, харошу, маладую панну.
Ён перад ёю і скланіўся, і зміры́ўся,
І шапачку зняў, і ручаньку падаў.
Дай яму, божа, шчасця, здароўя ў яго даму!

## 488. А У ПОЛІ, У ПОЛІ ЗЯЛЁНАЯ ЁЛАЧКА

А ў полі, у полі зялёная ёлачка,

Святы вечар, зялёная ёлачка.[1]

Пад тою ёлачкаю зялёная далінка,
А на той далінцы вараны конь ходзіць,
А на тым кані залатое сядзельца,
А на тым сядзельцы залатое страменца,
А на тым страменцы малады панічык,
А на тым панічыку вішнёвая шапачка,
А на той шапачцы чырвоная кветачка,
А на той кветачцы яравая пчолачка.
То ж не кветачка — яго дзевачка,
То ж не пчолачка — яго жано́чка,
Мне з кветкаю толькі дзень бы́ці,
А з жоначкаю трэба век жыці.

## 489. ЛЯЦЕЎ САКОЛЮ З ШЧЫРАГА БОРУ

Ляцеў саколю з шчырага бору,
Саколю ясен, маладзец красен, Ванечка.[2]

---

[1] Прыпеў «Святы вечар» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Перабірае стада коней,
Перабірае карагод дзевак,
Выбраў сабе пару,
Узяў сабе дзевачку-панну.

## 490. ВАРОТЫ СКРЫПЯЦЬ, МАРОЗЫ ЧУВАЦЬ

Вароты скрыпяць, марозы чуваць,

Ой, рана-рана, марозы чуваць.[1]

— У цябе, малойчык, кажушка няма.
— Ёсць у мяне панна цяплей кажушка,
Цяплей кажушка, мякчэй пярынкі,
Мякчэй пярынкі, саладзей малінкі —
І сама спацее, і мяне нагрэе.

## 491. І ВАРОТА РЫПЯЦЬ І МАРОЗЫ ЧУЮЦЬ

І варота рыпяць і марозы чуюць,
Ой, рана-рана, і марозы чуюць.[1]

— Для чэго ў цебе, Хведарка, кажушка нема?
— А на што мне кажушок, як ў мяне дзевачка —
І сама спацее, і мяне загрэе.

## 492. І ВАРОТЫ РЫПЯЦЬ

І вароты рыпяць
І марозы чуюць.
Чаму ў цябе, Васілько,
Да кажушка няма.

Да нашто мне кажушок,
Як у мяне дзевачка —
І сама спацее,
І мяне нагрэе.

---

[1] Прыпеў «Ой, рана-рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

— Ой, чаго ж ты, селязёнак,
Да плаваеш хмурнёнак?
— Як жа мне, селязёнку,
Не плаваці хмурному?

Калі мая уценка
Кульей убіта,
Да калі б жа на вадзе,
І жалю б не было.

А то на вярбе
Да на самом вярсе.
— А чаго ж ты, Васілько,
Да ходзіш хмурнёнак?

— Як жа мне, маладому,
Не хадзіць хмурному,
Што і мая дзевачка
Да за інша пашла.

Да калі б жа даляко,
І жалю б не было,
А то блізенька,
Ў акно відненька.

Па ваду ідзе,
Добры дзень дае,
Да ўсё ж мне, маладому,
Да жалю задае.

К клеці спаць ідзе,
Дабранач дае,
Да ўсё ж мне, маладому,
Да жалю задае.

## 493. А ПАД НАШЫМ СЯЛОМ, ПАД СЛАБАДОЮ

А пад нашым сялом, пад Слабадою
Стаялі, свяцілі месячкі чатыры:
Першы месячка — малады Васілька,
Другі месячка — малады Паўлючок,
Трэці месячка — малады Захарка,

Чацвёрты месячка — малады Іванька.
Стаялі, свяцілі зорачкі чатыры:
Першая зорка — маладая Таццянка,
Другая зорка — маладая Дар'ечка,
Трэцяя зорка — маладая Мар'юшка,
Чацвёртая зорка — маладая Хоўрачка.
Таццянка зорка — Васільку жонка.
Дар'ечка зорка — Паўлючку жонка,
Мар'юшка зорка — Захару жонка,
Хоўрачка зорка — Іваньку жонка.

## 494. ЗА ДУБРОВАЮ, ЗА ЗЯЛЕНАЮ

За дуброваю, за зялёнаю,

Ой рана, за зялёнаю.[1]

Канюшкі свішчуць, трох каней ішчуць.
Як прыбеглі ж к ім да тры конікі.
У першага каня залата грыва,
У другога каня срэбраны капыт,
У трэцяга каня шаўковы хвасцец.
Залата грыўка — то Іванькаў конь,
Срэбраны капыт — то Міколкаў конь,
Шаўковы хвасцец — то Васількаў конь.
Ой, селі ж яны да й паехалі.
Сустрэлі яны трох паненачак.
Перва паненка, што ў золаце,
Друга паненка, што ў серабры,
Трэця паненка, што ў бархаце.
Што ў золаце, то Іванькава,
Што ў серабры, то Міколкава,
Што ў бархаце, то Васількава.

## 495. А У ПОЛІ, У ПОЛІ

А ў полі, у полі
Туманы ходзяць.

---

[1] Прыпеў «Ой рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Вой, калядкі.[1]

То ж не туманы,
То ж пара коней.

А на тых конях
Пара малайцоў,

Пара малайцоў,
Пара ўдальцоў.

Маладая свашачка,
Выйдзі к нам на двор,

Выйдзі к нам на двор,
Рассцялі хвартух,

Рассцялі хвартух
Да з сямі ты пол...

## 496. ОЙ, ЗА ЛУГАМІ ДА Й ЗА БАРАМІ

Ой, за лугамі да й за барамі,

Святы вячор! [2]

Ой, там Васілька нівачку арэ,
Нівачку арэ, сам барануе.
Прышоў да яго бацэнька яго.
— Ары, сыночак, гэту нівачку
Да пасеема жыта-пшаніцу.
Жыта-пшаніцу, усяку пашніцу.

Скарэй дарыце, нас не барыце,
Кароткі світкі, памерзлі лыткі.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 497. А У ЛЯСКУ, У ЛЯСКУ КРУГЛАЕ ПОЛЕ

А ў ляску, у ляску круглае поле,

Святы вечар! [1]

Ой, там Васілька паранінку гарэ.
Прышоў да яго баценька яго.
— Ой, гары, сынку, усю паранінку.
Будзем сеяці жыта-пшаніцу,
Жыта-пшаніцу, усяку пашніцу.
Будзема жаці — жанцоў наймаці,
Будзем вязаці вялікі снапы,
Будзем стаўляці частыя копы.
Ходзіш, Трахімка, паміж копкамі,
Як той месячык паміж зоркамі.

## 498. ОЙ, БЕГЛА, БЕГЛА СТАРОЖА З ПОЛЯ

Ой, бегла, бегла старожа з поля,
Святы вечар! [1]

Да й ударыла пікай у вароты.
— Ці дома, дома малады Пятрок?
— Ой, няма, няма — дзесь у караля.
Суды судзіць, перасудкі бярэць.
На тры гарады, як сам малады.

## 499. ОЙ, У ПОЛІ, У ПОЛІ ПА КРАЙ ДАРОГІ

Ой, у полі, у полі па край дарогі,

Святы вечар! [1]

Там явар стаяў тонкі-высокі.
Тудою ішла Колькава маці,
Колькава маці Кольку шукаці.
Да стрэла яна тры свяціцеля,

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

23. Зак. 1420

Тры свяціцеля, тры крэсціцеля.
— Ці не бачылі майго сыночка,
Майго сыночка, сынка Колечкі?
Ох, адзін кажа — мы ж не бачылі,
А другі кажа — мы й чуць не чулі,
А трэці кажа — мы й пакаймася,
Колькавай маці да прызнаймася.
Да твой сыночак па месту ходзіць,
Праваю ручкай паненку водзіць,
У левай ручцы тройзелле носіць.
Адно зеллейка, што ад баценька,
Другое зеллейка, што ад матухны,
Трэце зеллейка, што ад паненкі.
Што ад баценька, то жаніціся,
Што ад матухны, то вянчаціся,
Што ад паненкі, жыці да быці.

## 500. САЛАВЕЙКА ПРЫЛЯТАЕ

Салавейка прылятае
Кватэрачку адчыняе:
— Пан гаспадар, чы е ўдома?
— Сядзіць у канцы стола.

У куціцу калупае,
Сытою палівае.

Нарынулі галубанькі,
Селі-палі ў новы сені.

Аж выходзіць стара маці,
Сына сваго пытаці:

— Галубанькі мае сівы,
Чы бачылі [вы] маго сына?

Адзін кажа — я не бачыў,
Другі кажа — я не знаю,
Трэці кажа — я сам там быў.

У месцы на рыначку
Там твой сынок уперад ходзіць,

У правай руцэ шапку носіць,
А ў той шапцы трыйна зелле

Перша зелле — ясен месяц,
Друге зелле — ясна сонца,
Трэце зелле — ясна зорка.
Ясны месяц — то батынька
Ясна сонца — то матынька,
Ясна зорка — то сястрыца.

## 501. ГЭЙ, ГЭЙ, КАЛЯДА

Гэй, гэй, каляда!
А ў нядзелю рана,
Рана-параненька
Маці сына парадзіла.
Парадзіўшы,
Да й купала,
Гэй, гэй, каляда!

Пакупаўшы,
Да й гадавала,
Гэй, гэй, каляда!

А ў нядзелю рана,
Рана-параненька
У маскалі галілі
Да ўсім гаварылі:
— Хто не мае,
Няхай наймае,
А хто мае,
Няхай той здавае,
Гэй, гэй, каляда!

А ў нядзелю рана,
Рана-параненька
Маці сына ў войска
Адпраўляла.
Адпраўляўшы,
Да й научала:
Не едзь, сынку,
Ні наперад войска,

Ні назад войска,
Гэй, гэй, каляда!

Наперад войска —
Уся іздраданька,
Назад войска —
Уся лашчынанька.
А едзь, сыненьку,
Сярод войска.
Пасярод войска —
Уся параданька,
Гэй, гэй, каляда!

Дай, божа, пажываць
Да хлеб паядаць.

## 502. У НЯДЗЕЛЬКУ ПАРАНЕСЕНЬКУ

У нядзельку паранесеньку,
Святы вечар! [1]

Пазагадвалі ўсім на войнаньку.
У каго сынок е, то няхай ідзе,
У каго нямае, няхай наймае.
Ой, быў у ўдоўкі адзін сыночак,
Ой, яна яго ў войска адпраўляла.
У войска адпраўляла да й навучала:
— Не едзь, сыночку, папярод войска,
Папярод войска, ні назад войска,
Да едзь, сыночку, пасярод войска.
Ой, сын матухну да й не паслухаў,
Папярод войска канём паехаў.
Перад каралём ухваляўся канём,
Перад панічом ухваляўся мячом.
— Няма ў караля такога каня,
Няма ў гайдука такога лука.
Як угледзеў то сам старэйшы цар.
— Ой, каб жа я знаў, чый сын ваяваў,
Ой, то я б яму паўцарства аддаў,
Шчэ й цароўначку, царову дачку.

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 503. ДА ЗАПЕЙМО ПЕСНЮ

Да запеймо песню
Слаўнаму пану.

Святы вечар! [1]

Слаўнаму пану,
Пану Івану.

Да маці сынонька
Да рана буджала,

Да рана буджала,
У войска праваджала.

Ой, сынонька мой,
Іваначка мой,

На паперад войска
Да не выхваляйся.

А на позад войска
Да не аставайся.

А сынок маманькі
Да й не паслухаў.

На паперад войска
З конікам гуляе.

А на позад войска
Да мячом рубае.

Ох, як угледзеў наш
І старэйшы цар.

Ох, каб жа я знаў,
Чый то сын гуляў,

То б я жа за яго
Да царэўну аддаў,

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Да царэўну аддаў,
Палавіну царства аддаў,

Палавіну царства аддаў
І тры гарадочкі.

Што й адзін гарадок —
Славен Кіявок.

Й а другі й гарадок —
Славен Нізявец.

А трэці гарадок —
Слаўная Масква.

Кіявок славен
Да ўсё цэрквамі.

Нізявец славен
Да ўсё ездамі.

А Масква слаўна
Да ўсё панамі.

Ой, за сім словам
Жыві, пан, здароў,

І з сваім атцом,
З сваёй маткаю,

І з сямейкаю,
З весяленькаю,

З добрымі людзьмі,
З намі, маладзьмі.

## 504. А У ЧЫСТЫМ ПОЛІ УСЕ ПАД ІГРУШАЮ

А ў чыстым полі ўсё пад ігрушаю,

Ой, люлі-люлі, усё пад ігрушаю! [1]

---

[1] Прыпеў «Ой, люлі-люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Гаварыў косю ўсё з ігрушаю:
— Ах, і быў я пад ліхім панам,
Пад ліхім панам, пад Іванечкам.
Настаяўся я над шуметнішчам,
А наеўся я прамою саломаю,
А напіўся я балотнай вады,
Мае капыткі не падчышчаны,
Мой жа хвасточак не растропаны,
Мае вочанькі, як у соваиькі.

А ў чыстым полі пад ігрушаю,
Гаварыў косю ўсё з ігрушаю:
— Ах, і быў жа я пад добрым панам,
Пад добрым панам, пад Якімачкам.
Настаяўся я на стаенцы,
А наеўся ж я аброку-сена,
А напіўся ж я крынічнай вады,
Мае капыткі ўсё й падчышчаны,
Мой жа хвасточак усё растропаны,
Мае вочачкі, як у сокала,
Мае вушанькі, як у заінькі.

# ЖАРТОЎНЫЯ КАНЦОЎКІ ДА ПЕСЕНЬ

## 505. ДОБРЫ ВЕЧАР, ГАСПАДАРУ

Добры вечар, гаспадару!
Вынесь жа нам каўбас пару.
Ой, пахадзі каля печкі,
Пашукай нам перапечкі.
Ой, пахадзі каля кваскі,
Пашукай жа нам каўбаскі.
Вынесь сала, не скупіся,
Каб твой ячмень урадзіўся,
Каб нажалі сто коп жыта,
Каб сям'я была ўся сыта,
Каб скацінка вадзілася,
Каб пшаніца радзілася,
Каб гарэлку выпівалі,
Каляднічкаў частавалі.

## 506. Я Ў ЦЯБЕ, ДЗЯДЗЮХНА, ПАКАЛЯДУЮ

Я ў цябе, дзядзюхна, пакалядую,
Святы вечар! [1]

Я ў цябе, дзядзюхна, каўбасу чую.
Дай, дзядзька, каўбасу,
Я да бога панясу.
Дай мне, дзядзька, крупянку,
Я падкіну пад лаўку.
Дай, дзядзька, пірог,
Я пайду за парог.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 507. КАЛЯДА-КАЛЯДЗІЦА

Каляда-калядзіца,
Дайце мачку і крупіцы.
А не дасце, адкажыце,
Маіх ножак не таміце.
На расіцы, на травіцы,
Шчасці, божа, жывацiну,
Старое — на пажытак,
Маладое — на прыплодак.

## 508. НЕ ДАЙ НАМ, ПАНЕ, ДОУГА СТАЯЦІ

Не дай нам, пане, доўга стаяці,
На тваім дзядзінцы сняжок таптаці.[1]

Бо мы голы, бо мы босы,
Ідуць нашы глосы пад самы нябёсы.

Каўбасішку — на ражнішчу,
Бутэль водкі — для ахвоткі.

А збан піва, каб весела была,
А глён хлеба — то наша патрэба.

## 509. ПАХАДЗІ, ДЗЯДЗЬКА, КАЛЯ КВАСКІ

Пахадзі, дзядзька, каля кваскі,
Пашукай, дзядзька, нам каўбаскі.
Пахадзі, дзядзька, каля печкі,
Пашукай, дзядзька, нам панічкі.

## 510. ОЙ, НАШ ДЗЯДЗЬКА НЯСЕ, НЯСЕ

Ой, наш дзядзька нясе, нясе,
Як возікам вязе, вязе,
А дзядына — накладачку,
Накладачку на булачку.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

— Вазьмі, дзядзька, ножык востры,
Адрэж сала кусок тоўсты,
Адрэж сала каля спінкі,
Каб вяліся табе свінкі.

Развяліся ў гаросе,
Параслі такі, як лосі.

### 511. ШЧАДРАВАЛА, ШЧАДРАВАЛА

Шчадравала, шчадравала,
Пад аконца заглядала.
— Што ты, бабка, напякла,
Прынясі нам да акна.
Што гарача, то то вам,
Што халодна, то то нам.
Залезь, дзедка, на драбінку
Ды адрэж нам саланінку.
А ты, бабка, не пытай
Ды добру каўбаску дай.
Вазьмі нажа вострага,
Адрэж сала тоўстага.

### 512. ШЧАДРОВАЧКА ШЧАДРАВАЛА

Шчадровачка шчадравала,
Пад акенца прыбягала:
Што ты, цётка, напякла,
Прынясі нам да вакна,
Бо ў нас дзяўчынка маленька,
У яе спаднічка красненька,
Чаботкі храмовы.
Будзьце з празнічкам
Здаровы!

### 513. ШЧАДРОВАЧКА ШЧАДРАВАЛА

Шчадровачка шчадравала,
Пад акенца падбяжала:
— Што ты, цётка, наварыла?
Што ты, цётка, напякла?
Нясі хутчэй да акна!

## 514. ШЧОДРЫК, ШЧОДРЫК

Шчодрык, шчодрык,
Добры вечар,
Адкажы мне, чалавеча:
Ці ісці, ці сесці,
Ці каўбасу з'есці?

## 515. ШЧОДРЫ, ШЧОДРЫ

Шчодры, шчодры,
Вечар добры.
Дайце каўбасу,
Занясу Міхасю.
Дайце пышку,
Занясу Рыжку.
Дайце скварку,
Занясу Міхалку.

## 516. ШЧЭДРЫК-ПЕТРЫК, ДАЙ ВАРЭНІК

Шчэдрык-петрык, дай варэнік,
Нямнога кашкі, наверх каўбаскі.
Нуце, дарыце, нас не барыце,
Кароткі світкі, памерзлі лыткі.
Бацька сварыўся, каб не барыўся,
Маці казала, каб кусок сала.
Добры вечар!

## 517. ШЧЭДРЫК-ВЕДРЫК, ДАЙ ВАРЭНІК

Шчэдрык-ведрык, дай варэнік,
Грудачку кашкі, кальцо каўбаскі,
Дайце другую, шчэ пашчадрую.

## 518. ШЧАДРУЮ, ШЧАДРУЮ

Шчадрую, шчадрую,
Каўбаскі чую,

Святы вечар
Добрым людзям![1]

Дайце каўбасу,
Я ў двор панясу.

Дайце другую,
Я пашчадрую.

Дарыце, не барыце,
Кароткі світкі,
Памерзлі лыткі.

## 519. ШЧАДРУЮ, ШЧАДРУЮ

Шчадрую, шчадрую,
Пад акном шчадрую,
Шчадрую, шчадрую,
Каўбасу чую.

Дайце ж каўбасу,
Я дадому панясу,
Шчадрую, шчадрую,
Я дадому панясу.

Дайце ж крупянку,
Я ўкіну ў ямку,
Шчадрую, шчадрую,
Крупянку чую.

## 520. ШЧАДРУЮ, БАДРУЮ

Шчадрую, бадрую,
Каўбасу чую.
Дайце ж каўбаску,
Я дадому панясу,
А крупянку
Падкіну пад лаўку.

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

## 521. ШЧАДРУЮ, ШЧАДРУЮ, КАЎБАСУ ЧУЮ

Шчадрую, шчадрую, каўбасу чую,
Дайце каўбасу, дамоў панясу,
Дайце крывянку, падкіну пад лаўку,
Дайце трэцюю, хоць і авечую.

## 522. КАЛЯДКІ БЛІЗКА, КАЎБАСКІ НІЗКА

Калядкі блізка, каўбаскі нізка,
Святы вечар добрым людзям.[1]
Дайце каўбасу, я дадому панясу,
Дайце крывянку, я падкіну пад лаўку.

## 523. ШЧАДРУЮ, ШЧАДРУЮ, КАЛЯДУ ЧУЮ

Шчадрую, шчадрую, каляду чую,
Дайце каляды, яшчэ пашчадрую,
Святы вечар, святы вечар!

Шчодзер, бодзер, бацька злодзей,
Курэй пакраў, пад печ пахаваў,
А Марыля ўзнала, курэй павыпускала,
Святы вечар, святы вечар!

## 524. ОЙ, ШЧОДЗЕР, ШЧОДЗЕР

Ой, шчодзер, шчодзер,
Твой бацька злодзей,
Украў кабылку,
Схаваў ў адрынку.
Адрынка ліхая,
Кабылка здыхае.
Дзеці сказалі,
Бацьку звязалі...

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 525. ДА Й ШЧОДЗЕР, ШЧОДЗЕР

Да й шчодзер, шчодзер,
Твой бацька злодзей,
Кабылку ўкраў,
Пад печісхаваў.[1]

Кабылку забіў,
Яе й аблупіў,
Да й яе аблупіў,
Боцічкі пашыў.

Да й яе аблупіў,
Боцічкі пашыў,
Боцічкі пашыў,
Каб ты не знасіў.

## 526. ШЧОДЗЕР-БОДЗЕР

Шчодзер-бодзер,
Рыгорка злодзей,
Украў у Хімкі
Жыта паўасмінкі,
А ў Маланкі
Мукі на абаранкі.
Вяршу, вяршу,
Пане гаспадару,
Хрыстом ражаством.
Судзі, божа, чакаці,
Да васілля прыждаці,
Па васіллю — крашчэнне.
Па крашчэнні —
У карысці і радасці
І добрым здароўі.

А ты, маці,
Не стой ля печы,
Да ідзі да клеці.
Адарві лычка каўбас
Да падай да нас,
То мы пойдзем ад вас.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца двойчы.

## 527. КАЛЯДУЮ, КАЛЯДУЮ, КАЎБАСУ ЧУЮ

Калядую, калядую,
Каўбасу чую,
Святы вечар! [1]

Калядкі-святкі,
Дайце аладкі.

Не дала сала,
Штоб свіння не ўстала.

Не далі млінцá,
Штоб здохла аўцá.

Не дала шкуркі,
Штоб падохлі куркі.

Не дала каўбасы,
Павесь на насы.

У нашай дзядны
Пад акном ямка.

Дзядзька скруціўся,
У ямку ўваліўся.

Дзядна прыпала,
За ім упала.

## 528. СКАРЭЙ ДАРЫЦЕ

Скарэй дарыце,
Нас не барыце,
Кароткі світкі,
Памерзлі лыткі,
Кароткі кажушкі,
Павылазяць душкі.
Добры вечар!

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

## 529. ОЙ, СУДЗІ, БОЖА, ПАДАЦІ

Ой, судзі, божа, падаці
Да рок даждаці,
Да нам, каляднічкам, калядаваці,
Вам, добрым людзям, да й загадваць.
Скарэй дарыце, нас не барыце,
Кароткі світкі, памерзлі лыткі.

## 530. ВАРОТЫ СКРЫПЯЦЬ — МАРОЗЫ ЧУЮЦЬ

Вароты скрыпяць — марозы чуюць,
Святы вечар! [1]

А ў нашага Івана кажушка няма.
Нашто яму кажушок, калі ў яго Ганна-душок.
Не далі сала, штоб ваша свінка не ўстала.
Не далі скуркі, каб вашы падохлі куркі.
Як дасце каўбасу, павешу на насу.
Кароткія світкі, памерзлі лыткі.

## 531. ВАЗЬМІ НАЖА ВОСТРАГА

Вазьмі нажа вострага,
Укрой сала тоўстага.
А ўзлезь на драбінкі,
Укрой саланінкі.
А ўзлезь на баляскі,
Укрой каўбаскі.
Давай, баба, каўбасу,
Бо я хату растрасу!

## 532. ГУ, ГУ

Гу, гу,
Дайце то, што на рагу:
Кішкі, каўбаскі,
Лыжачку кашкі.

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 533. А У ЛЕСІКУ НА ЖОЎТЫМ ПЯСОЧКУ

А ў лесіку на жоўтым пясочку
Сава скугіча, дзед бабу кліча:
— Ідзі, баба, дамоў, напячы бліноў,
Напражы каўбас да й пазаві нас.

## 534. У ГЭТАЙ ХАЦЕ ЁСЦЬ ШТО ДАЦІ

У гэтай хаце ёсць што даці
Сам пан ходзіць, жыта родзіць
І пшаніцу харошую,
Нам дзяўчыну маладую.
Сядзіць дочка ў акенечку,
Просіць у бацькі накладачку.

## 535. ЦІ ТЫ, ДЗЯДЗЬКА, СПІШ, НЕ ЧУЕШ

— Ці ты, дзядзька, спіш, не чуеш,
Ці ты дома не начуеш?

— Ой, [redacted] дома сплю, начую,
Каляднічкаў заўжды чую.

— Просім, дзядзька, не бавіці,
Бо далёка нам хадзіці.

Цёмна ночка, невідная,
А дарога далякая.

Прахадзілі лясы, боры,
Не знайшлі мы шчасця-долі.

Прахадзілі зеляненькі,
Мы, хлопчыкі маладзенькі.

З гэтым словам бывай здароў,
Аставайся з жаной маладою
І з дзеткамі маленькімі.

24. Зак. 1420

## 536. ШЧОДРЫ ВЕЧАР

Шчодры вечар,
Добры вечар!
Святы васілля
Па полю ходзіць,
Жыта-пшаніцу родзіць.

Зарадзілі жыта
На новае лета,
Зыспаду караніста,
Зверху каласіста.

Ваш шчадрэц,
А мне млынец
І пару яец,
І каўбасы канец.

Малыя дзеткі
Шчыпалі кветкі,
На градзе стаялі,
Пана віталі.
Вітайце, вітайце,
А нам падарунак дайце.

## 537. ШЧОДРЫ ВЕЧАР, ДОБРЫ ВЕЧАР

Шчодры вечар, добры вечар!
Святы Васіль па полю ходзіць.
Па полю ходзіць, жыта родзіць,
Жыта-пшаніцу, усякую пашніцу.
Вам шчадрэц, а мне блінец,
Каўбасы канец і пару яец.

## 538. Я МАЛЕНЬКІ ЖАЧАК

Я маленькі жачак,
Божы рыбачак
Дылячку тачу,
Яечка хачу.

Я маленькі жачак
Паўзу, як рачак,
Скачу, як жабка,
Дай кока, бабка!

Не дасі кока —
Вылезе вока!

## 539. Я МАЛЫ ХЛОПЧЫК

Я малы хлопчык
Узлез на стопчык
У дудачку йграці,
Хрыста забаўляці.
Дзеці селі есці,
А мне нейдзе сесці.
Я хоп за пірог,
Уцёк за парог.
Мяне дзеці дагналі,
У хахол надралі
І пірог адабралі.
Я ўсім паном
Руку паднашу
І ўсіх паноў
Каляды прашу.

## 540. НА НОВА ЛЕТА

На нова лета
Хай родзіцца жыта.
Шчодры вечар, багаты вечар!
Жыта, пшаніца,
Усякая пашніца!
Жадаем табе,
Слаўны гаспадару,
Піва варыці,
Сынкоў жаніці,
Пасаг збіраці,
Дочак выдаваці.
Залезь на баляску,
Дастань каўбаску,

Стань на драбінку,
Дастань саланінку,
Кошычак маку
Да таго прысмаку.
Шчодры вечар, багаты вечар!

## 541. НА НОВАЕ ЛЕТА

На новае лета
Радзі, божа, жыта,
Жыта, пшаніцу,
Гарох, сачавіцу.
Дай табе, божа,
Сыноў ажаніці,
Дачок пааддаці,
Піва наварыці.

## 542. ДОБРЫ ВЕЧАР ТАМУ

Добры вечар таму,[1]
Хто ў гэтаму даму.

Мы самі з сабою,
З дзецьмі і з жаною.

Сталы засцілаем,
Рожджаство спраўляем.

А па гэтай мове
Будзьма ўсе здаровы.

А па гэтай казцы
Жыві, хазяін, у ласцы.

## 543. ОЙ, ДЗЯКУЙ ТАМУ, ХТО У ГЭТЫМ ДАМУ

Ой, дзякуй таму, хто ў гэтым даму.
Гаспадарочку, як сакалочку,
Гаспадынечцы, як паненачцы.

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 544. БУДЗЬ, ВАША, ЗДАРОЎ

Будзь, ваша, здароў
Як рыжок бароў!
Май торбу грошы,
Жыві ў раскошы!
Май усяго даволі,
А бяды ніколі!
Стары год канчаем,
Новы зачынаем,
З ранняю вясною,
З буйнаю травою,
З збожжам каласістым,
З зярном ядраністым,
Ды з прыятным летам,
І з грошам пры гэтым,
І з восенню яснай,
І з долечкай шчаснай!

# КАЗА

## (Песні пры абходзе з «казой»)

### 545. ШЧОДРЫ ВЕЧАР ДОБРЫМ ЛЮДЗЯМ

Шчодры вечар добрым людзям,
— Ці дома, дома сам пан гаспадар?
— Ой, дома, дома сам пан гаспадар,
Сядзіць ён сабе ў канцы стала.
— Пазвольце нашаму казлу пагуляць.
Ну-ну-ну, казёл, паварочайся,
Да і на ножачкі, да і на рожачкі,
На капыцікі на залатыя.
— Ты ж, гаспадынька, не будзь такая,
Як тая была барабаніха,
А будзь ласкава, запалі свечачку,
Запалі свечачку да пайдзі ў клетачку,
Да набяры мачку на талерачку.
Нашаму казлу не многа трэба:
Сем печ перапеч, рэшата аўса,
Рэшата аўса, паверх каўбаса.
Нарэшце, мачку на талерачку,
Было б нам, маладзёнам, на гарэлачку.
Судзі табе, божа, сынкі жаніці,
Сынкі жаніці, дочкі аддаваці
Да й нас, маладых, на вяселле звацї.

### 546. ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го, шэрая.
То на рожанькі,
То на ножанькі,
Пакланіся зграбна,
Павярніся складна.

Дзе каза паходзіць,
Там жыта зародзіць,
Дзе каза топ-топ,
Там жыта сем коп.
Паварачайся,
Не забывайся,
На капыцікі
Залаценькія.
Скажы, дзе хадзіла,
Дзе ты што рабіла?
А дзе пагасае,
Там павылягае,
Дзе каза нагой,
Там жыта капой.
Дзе каза хвастом,
Там жыта кустом,
А дзе каза рогам,
Там жыта стогам.
Дзе каза бывае,
Там шчасце вітае,
А дзе не бывае,
Там яно мінае.
Ну, каза, сагніся,
Нізка пакланіся
Гаспадару-пану,
Як таму гэтману.
Хай будзе здароў,
Як рыжык бароў,
Жыве ў раскошы,
Мае торбу грошы,
Збожжа поўны клеці,
Павагу на свеце
І ўсяго даволі,
А бяды ніколі.

Будзь ваша здароў,
Нясі нам дароў,
Пажалей нас крыху,
Не будзе вам ліха.
Йшлі ад ваяводы,
Стрэлі нас прыгоды:
Скочыў з лесу воўк,
Я струхлеў і змоўк.

Выстраліў стралок,
Збіў казе хвасток,
Каза мая ўпала,
Лягла і прапала.
Я лякарства зробіў,
Казе хвост даробіў,
Нацёр бок кійком,
Падняў бізуном.
Ну, каза, усхапіся,
Пані пакланіся
Да саменькіх ножак,
Няхай дасць піражак,
Ды з каморы пляшку
І цялячу ляшку,
І збаночак мёду
Нам на асалоду.
Каза мая ўчона
Кіем ахрышчона,
Прайшла ўсе навукі,
Знаець розны штукі.
Ну, закладай рогі,
Ды падбірай ногі,
З хаты выхадзі,
Бяду вынасі,
Хай ўцячэць хутчэй
Ад панскіх вачэй,
І ў гэтым доме
Не шкодзіць нікому.

## 547. ВОТ МЫ К ВАМ ІДЗЁМ

Вот мы к вам ідзём
І казу вядзём.
Нут-ка, козанька,
Расхадзіся-тка
І ўсяму двару
Пакланіся-тка:
І гаспадару,
І гаспадыньцы,
Яшчэ краснай Марыньцы,
А наш гаспадар,
Ён казу жалаў,

Каляду даваў.
Гаспадар ідзець,
Каўбасу нясець,
Тры кускі сала,
Каб каза ўстала,
Паўмеркі аўса,
Каб каза расла,
Чвэртку пшаніцы
На паляніцы,
Каб наша козанька
Да наелася,
Пад механошу
Павалілася.
Ну-тка, механош,
Дуй казе ў нос.
Надзмецца жыла,
Будзе каза жыва.
Го-го-го, каза,
Го-го, шэрая!
Дзе ты хадзіла
Й дзе ты блудзіла?
— А я хадзіла,
А я блудзіла
Па цёмных лясах,
Па шырокіх лугах,
А ў ляску, ляску
На жоўтым пяску
Павалілася,
Аказілася.
На гарэ каза —
З казляняткамі,
Пад гарой ваўчок —
З ваўчаняткамі.
А ваўчок, ваўчок,
За козачку чок,
А ваўчаняткі —
За казляняткі.
На палу жыта
Нагамі збіта,
А на печы авёс
Вялікі парос,
А ў тым жыцечку
Перапяліца

Дзяцей вывела.
Большыя, меньшыя —
Усе паляцелі,
А меньшанькія
Пасірацелі.
Дзе каза рогам,
Там жыта стогам,
Дзе каза нагой,
Там жыта капой,
Дзе каза хадзіла,
Там жыта радзіла.
У печы гаршчок
Повен з вадой.
Не люблю дзеда,
Што з барадой.
На дварэ мядзведзь,
Як хароміна,
А ў дзеўкі вочы,
Як смародзіна.
Дайце лясачку
Папіраціся,
Пайду к дзевачкам
Заляцаціся.
Дзевачка плача —
Замуж не хоча.
А конічак
За варотамі,
Чорт цябе бяры,
І з залётамі.
А пайду, пайду
К панову гумну,
У пановым гумне
Гарох малоцяць.
— Дай нам, бацюшка,
Мерку гароху,
Паўмеркі жыта,
Каб была наша
Козанька сыта.
Не йдзі ты, козанька,
Пад тое сяло,
Пад Журавічы.
А там жа стральцы
Мікалаеўцы,

Сабіраліся,
Рахаваліся
Козаньку забіць
І боцікі пашыць,
Боты, халявы
Ззаду дзіравы.
— Не баюся я
Тых стральцоў-байцоў,
Толькі баюся
Старога дзеда.
Стары жа дзед,
Ён не падара,
Ён жа мяне
Кіем удара.
У правае вушка —
Пацячэ юшка,
У правы бачок —
Пацячэ сачок.

## 548. ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэрая!
Наша козанька
Да й залатая!
Ну-тка, козанька,
Павярніся-тка,
Па новаму дому,
Па гаспадарскаму
Расхадзіся-тка!

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэрая!
Козанька-каза,
Каза добрая,
Бо дзе каза ходзіць,
Там жыта родзіць
І расцець карысць.

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэрая!
Махні-тка хвастом,

Зародзіць жыта
Вялікім кустом
Пану нашаму,
Расхазяіну.

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэрая!
Козанька-каза,
Каза добрая,
Бо дзе каза рогам,
Там жыта стогам,
Дзе каза нагой,
Там жыта капой.

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэрая!
Не хадзі, каза,
Пад тое сяльцо,
Пад Прылінаўку:
Там стральцы-байцы,
Добры малайцы.

Го-го-го, каза,
Го-го, шэрая!
Радзяць яны раду,
Раду худую:
Козаньку забіць,
Боцікі пашыць.

Го-го-го, каза,
Го-го, шэрая!
Бо былі б [redacted] цябе,
З добрае казы,
Боты, халявы
З боку дзіравы.

Го-го-го, каза,
Го-го, шэрая!
Нут-ка жа, каза,
Ты расхадзіся,
Развесяліся,
Пану добраму
Ты пакланіся.

Гаспадар ідзе,
Каўбасу нясе,
Сем кускоў сала,
Што б каза ўстала,
Паўмеркі жыта,
Што б каза была сыта,
Паўмеркі аўса,
Што б каза расла.

## 549. ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го, серая!
Ну-тка, козачка,
Расхадзіся-тка
Па ўсяму двару
Гаспадарскаму,
Расхадзіся-тка,
Развесяліся,
Пану Івану
Нізка ўкланіся!

Дзе каза ходзе,
Там жыта родзе,
Дзе не бывае,
Там вылягае,
Дзе каза рогам,
Там жыта стогам,
Дзе каза нагой,
Там жыта капой,
Дзе каза хвастом,
Там жыта кустом.

— Ой, сыну, сыну,
Пане-Васілю!
Не вядзі казу
Пад тое сялцо,
Пад Журавічы.
Меліся казу
Стрэльчыкі ўбіць.
— Я ж не баюся,

Не сцерагуся
Ні з поля лаўцоў,
Ні з лесу стральцоў,
Толькі баюся
Старога дзеда.
У таго дзеда
Тужанькі лучок,
Стрэлачак пучок.
Той мяне ўдарыць,
Той мяне ўразіць
Пад шчыра сэрца
Скрозь палаценца,
У левае вушка —
Пацячэ юшка,
У левы бачок —
Пацячэ сачок.

Пастаўлю казу на ляду,
Прап'ю казу на мяду.
Пастаўлю казу на тарэлцы,
Прап'ю казу на гарэлцы.

## 550. ОЙ, СЫНУ, СЫНУ

— Ой, сыну, сыну,
Пане Васілю!
Не вядзі казу пад тое сяло,
Бо ў тым сяле весяло:
Радзяцца ісці
Козаньку біці,
Скуру злупіці,
Чаботы сшыці.
Наша каза варана!
Заўтра радзі казяня.
Будзем казу даіці,
Будзем сыры ляпіці.
Паставім казу на талерцы,
Прап'ём казу на гарэлцы,
Паставім казу на ляду,
Прап'ём казу на мяду.

## 551. ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэра,
Ты расхадзіся,
Развесяліся
Па ўсяму дому
Гаспадарскаму.
Гаспадар сядзіць,
На казу глядзіць,
А гаспадынька —
На журавелька.

— Гаспадынька мая,
Будзь ты ласкава,
Вазьмі свечачку,
Пайдзі ў клецечку,
Зазірні ў бачок,
Там стаіць мачок,
Да вазьмі мачку
На талерачку,
Нашай козаньцы
На гарэлачку.
Нашай козаньцы
Нямножка трэба:
Рэшата аўса,
Наверх каўбаса,
Рэшата грэчкі,
Наверх яечкі.
Павяду казу
Я ў густу лазу,
А ў густой лазе,
Стральцы заселі.
— Я тых стральцоў
Да не баюся,
Толькі баюся
Старога дзеда.
У старога дзеда
Сіва барада.
Ён мяне наб'е,
Ён мяне ўдарыць,
З левага вуха
Пацячэ юха.

На даліне воўк
Зваўчанятамі,
На гары каза
З казлянятамі.
Як скочыць ваўчок,
За казу хапчок,
А ваўчанята —
За казлянята.
Мудра козанька
Дагадалася,
У густую лазу
Захавалася.
Як ляжа спаці,
Не можа ўстаці.
Проша што даці,
Хоць каўбасіцу,
Хоць кусок сала,
Каб каза ўстала.
У нашага дзеда
Такая жыла,
Такая жыла,
Каб каза жыва.

## 552. ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го, шэрая,
Го-го, белая!
Не хадзі, каза,
Па туром, па туром,
Па туроміне,
Пад тое сялцо
Куракоўскае:
Там стралцы-байцы,
Добры малайцы,
Радзюцца яны
Козухну біці.
— Не баюся я
Ні стралцоў-байцоў,
Добрых малайцоў,
Толькі баюся
Старага дзеда,

Барада седа.
Ён мяне зрадзе,
Ён мяне ўдара,
І ў права вушка —
Пацячэ юшка,
У левы бачок —
Пацячэ сачок.

Ну-тка ж, козухна,
Расхадзіся-тка,
Самому пану
Пакланіся-тка
І гаспадыні,
Што б падарылі:
Пяць кускоў сала,
Што б каза ўстала,
Рэшата й аўса,
Наверх каўбаса.

## 553. ГО-ГО-ГО, КОЗАНЬКА

Го-го-го, козанька,
Го-го-го, сера,
Го-го-го, бела!
Ой, расхадзіся,
Развесяліся
Па ўсяму дому,
Па вясёламу!
Ой, пакланіся
Сему гаспадару
І жане яго,
І дзеткам яго.

О-го-го, козанька,
О-го-го, сера,
О-го-го, бела!
Гдзе каза тупою,
Там жыта капою.
Гдзе каза рогам,
Там жыта стогам,
Гдзе каза ходзіць,
Там жыта родзіць.

О-го-го, козка,
О-го-го, сера,
О-го-го, бела!
Паслухай, козанька,
Гдзе й дзвоны дзвоняць,
Гдзе ў бубны бубняць,
Гдзе ў трубы трубяць,
Гдзе скрыпцы граюць.

О-го-го, козанька,
О-го-го, сера,
О-го-го, бела!
Паглядзі на грады,
Чы няма зрады?
Старая баба,
То тая зрада.
Салому сячэ,
Пірагі пячэ,
А сена смажыць,
Пірагі мажыць!

О-го-го, козанька,
О-го-го, сера,
О-го-го, бела!
Выскачыў ваўчок,
За казу чок-чок,
А ваўчанята —
За казянята.
Мудрая козанька
Дагадалася,
У ніцыя лозанькі
Захавалася.

Я ж не баюся
Ні ў полю лаўца,
Ні ў лесе стралца.
Анно баюся
Старога дзеда,
Сівабарода.
Той мяне заб'е
З тугога лучка,
З правага плечка.

О-го-го, козанька,
О-го-го, сера,
О-го-го, бела!
У нашай козанькі
Чатыры ножанькі.

О-го-го, козанька,
О-го-го, сера,
О-го-го, бела!

## 554. ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэрая!
Дзе ж ты хадзіла,
Дзе ж ты блудзіла?
— Па жоўтых пясках,
Па цёмных лясах.
— Каб ты добрая казіца,
Узяла б сярпок,
Нажала б снапок.
Сваім дзеткам,
Дзіцяняткам-казляняткам.

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэрая!
Не хадзі ты, казіца,
Пад тое сяльцо — Журавіцы,
Меліся цябе стральцы забіці.
— Я ж тых стральцоў не баюся,
А баюся старога дзеда.

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэрая!
Стары дзед ідзе,
Кіем махае, табачку чхае.

Дзе каза рогам,
Там жыта стогам,
Дзе каза нагой,
Там жыта капой.

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэрая!
Дзе каза хвастом,
Там жыта кустом.
Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэрая!

### 555. ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэра!
Дзе ты бывала?
— Ва шчырым бару
Ягадкі брала.
— Ох ты, козанька,
Не гаспадыня,
Сваіх дзетачак
Не пакарміла,
Не пагадавала,
Па шчырым бару
Не парассылала.
— Купіла сярпок,
Нажала снапок,
Свае дзетачкі
Пагадавала,
Па шчыраму бару
Парассылала.
— Не йдзі, козанька,
Да ва то сяло,
Ва Жыровічы,
Бо ў тым сяле
Усе людзі стральцы,
Мелі казу ўбіць,
Шкуру аблупіць,
Шкуру абабраць,
Грошы пабраць.

На печы жыта
Цапамі біта.
Гаспадар ідзе,
Рэшата нясе.

Рэшата аўса, —
Наверх каўбаса,
Тры кускі сала,
Што б каза ўстала.

### 556. О-ГО-ГО, КАЗА

О-го-го, каза,
О-го-го, сера,
Дзе ж ты хадзіла,
Дзе ты блудзіла?
— Кала рэчачак,
Кала быстрэнькіх,
Кала лозачак,
Кала нізенькіх.
Там стральцы-байцы,
Нікалаеўцы
Хочуць козку ўбіць,
Прыкаменаваць,
Шкурачку злупіць,
Боцікі пашыць,
Пайсці ў залёты.
Ды чорт цябе бяры
Із залётамі!
Стаіць конічак
За варотамі.
Конічак іржэ,
Естачкі хоча,
Дзевачка плача,
Замуж не хоча.
Ой, ду-ду, ду-ду
На мяцеліцу,
Зарадзі, божа,
Жыта-пшаніцу.
Што на печы авёс
Вялікі парос,
На калу жыта
Ножкамі збіта.
Што ў том жыцечку
Перапёлачка
Вывела дзеці,
Люба глядзеці.

— Ляціце, дзетачкі,
На Украіначку,
Я вас не пакіну.

Хазяін ідзе,
Каўбасу нясе
І кусок сала,
Штоб каза ўстала.
— Устань, козанька,
Развесяліся
Й хазяіну ў самыя ножачкі
Пакланіся.

## 557. ГО-ГО-ГО, КАЗА, КАЗА ШЭРАЯ

Го-го-го, каза, каза шэрая!
Гдзе каза ходзіць, там жыта родзіць,
Гдзе каза не ўхаджае, там жыта не
ўраджае,
Гдзе каза хвастом, там жыта кустом,
Гдзе каза рогам, там жыта стогам,
Гдзе каза нагою, там жыта капою.
Не хадзі, каза, каля лозанькі,
Там стральцы-байцы, усе дзятлаўцы,
Застрэляць казу з шчырага сэрца,
З шчырага сэрца з-пад палаценца.

*(Каза падае, дзед гаворыць):*
— Устань, козанька, расхадзіся,
Нашаму пану нізка пакланіся.
Ой, пан ідзе, каляду нясе,
Тры кускі сала, штоб каза ўстала.

## 558. ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го, шэрая!
Выскач ты, каза,
Выскач, нябожа,
З цёмнага лесу

На чыста поле,
На лукамор'е.
Там цябе шукаюць,
Там цябе пытаюць
Стралцы-удалцы.
— Я не баюся
Стралцоў-удалцоў,
Толькі баюся
Руса-русога,
Дзеда старога.

### 559. О-ГО-ГО, КАЗА

О-го-го, каза,
О-го-го, шэрая!
Ой, адкуль каза?
Каза із Масквы,
Із Масквы, Масквы,
З доўгімі касьмі.
Яна тыя косы
На рагах падносіць.

Дзе ж ты, козанька,
Дзе ж ты хадзіла,
Дзе ж ты блудзіла?
— Ой, я ж хадзіла,
Ой, я ж блудзіла
Па цёмных лясах
Да й па балатах,
Ой, на том сяльцы
На Міхайлаўцы.

У Міхайлаўцы
Усе хлопцы
Маюцца козаньку
Убіць, застраліць.
Ой, ударыў козаньку
Пад права вушка,
Ой, з лева вушка
Пацякла юшка.
Буць, каза ўпала,
Здохла, прапала.

— Устань, козанька,
Да расхадзіся,
Пану хазяіну
Ў ножкі скланіся,
Штоб даў пан хазяін
Вялікі пірог,
А хазяечка —
Кусочак салечка.
Штоб наша козанька
Здарова ўстала,
Здарова ўстала
Да й паскакала,
Да й паскакала,
Да й паплясала.

## 560. О-ГО-ГО, КАЗА

О-го-го, каза,
О-го-го, шэрая!
Нядаўна з Масквы
З доўгімі касмі.
На гарэ каза
З казлянятамі,
У далі ваўчок
З ваўчанятамі.
Як прыбег ваўчок,
За козачку — чок,
А ваўчаняты —
За казляняты.

Ты, каза, дурная,
Неразумная,
Ты сваім дзеткам
Не гаспадыня.
Ты вазьмі сярпок,
Пабяжы ў лясок,
Нажні травіцы
Маленькі снапок,
Пакармі сваіх
Маленькіх дзяток.

Не хадзі, каза,
Пад тое сялцо,
Пад Бабовічы.
А ў Бабовічах
Стральцы-малайцы
Рахаваліся,
Жалкаваліся.
Хочуць казу ўбіць,
Шкуру аблупіць,
Мяса парубаць,
Сабакам аддаць.

— Ох, [redacted] тых стральцоў
Я не баюся,
Толькі баюся
Старага дзеда,
Што ў таго дзеда,
Барада седа.
Той мяне ўб'е,
Шкуру абдзярэ,
Мяса парубе,
Сабакам аддасць.

— Ты, каза, устань.
Нізка пакланісь.
Хазяін ідзе,
Мех грэчкі нясе,
Мерачку жыта,
Што б каза сыта,
Мерачку аўса,
Зверху каўбаса.
Дзе каза топ-топ,
Там сена сем коп!
Дзе каза рогам,
Там сена стогам.
Дзе каза хвастом,
Там жыта кустом.

## 561. О-ГО-ГО, КАЗА

О-го-го, каза,
О-го-го, шэрая!
Нядаўна з Масквы

З доўгімі касьмі.
Касамі звяжу,
Рагамі скалю.
Выскачыў заяц,
Стаў казу лаяць,
Выскачыў ваўчок,
За казу — чок, чок!

— Ох ты, казіца,
Старая псіца,
Сваім дзетушкам
Не памошніца.
Ухваціла б сярпок —
Па полю скок, скок!
Нажала б снапок,
Пашла б на тачок,
Абмалаціла.
Абмалаціла,
Сваіх дзетушак
І накарміла,
І напаіла,
Спаць палажыла.
Не йдзі ж, козухна,
Не йдзі, любухна,
Пад тое сяльцо,
Пад Міхайлаўку.
А ў Міхайлаўцы —
Чатыры стральцы,
Яны цябе ўб'юць,
І цябе праб'юць.
З левага вушка
Пацякла юшка.
Мы казе ў жыла,
Штоб каза жыла,
А не надзьмецца,
Так і спражэцца.
І хазяіну, і хазяйцы пакланіся!

## 562. ГЭЙ, ГЭЙ, ГЭЙ, КАЗА, ГЭЙ, ШЭРАЯ

Гэй, гэй, гэй, каза, гэй, шэрая,
Дзе рогі падзела?
— На соль праела.

Соль дарагая, мера скупая.
Пашла каза пад тое сяло,
Пад Журовічы, пад Буловічы.
А ў тым сяле жылі тры стральцы,
Стрэлілі казе ў левае вуха.
Бах! Каза лажыцца і не шавяліцца,
Алі спаць лажыцца.
— Гаспадынечка, весялінечка,
Запалі свечачку да пайдзі ў клетачку.
Зірні на бачок, там стаіць мачок,
Зірні на паліцу, вазьмі каўбасіцу
І тры кускі сала, каб каза ўстала,
І мерку аўса, каб каза расла,
І мерку жыта, каб каза была сыта.

## 563. ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го, серая,
Дзе рогі дзела?
— На соль праела.

Соль дарагая,
Мера скупая.
Ох ты, казіца,
Старая псіца.

Ня йдзі ў то сяльцо,
Там жывуць стральцы,
Козіньку уб'юць,
Кожыньку здзяруць.

Ідзі ў то сяльцо,
У вялікае,
І к хадзяіну,
І к багатаму.

Наша козінька
Паваліласея,
Паваліласея
Да й забіласея.

Хадзяін ідзе,
Каляду нясе.
Хадзяечка йдзе,
Каўбасу нясе,

Каўбасу нясе
І кусок сала,
І кусок сала,
Каб каза ўстала.

Мерачку жыта,
Каб каза сыта,
Мерачку аўса,
Каб каза расла.

Дзе каза рогам,
Там жыта стогам,
Дзе каза хвастом,
Там жыта кустом.

## 564. ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го-го, сера,
Дзе рогі дзела?
— На соль праела.
Соль дарагая,
Мера скупая.
А ў том сяльцы
Ўсе людзі стральцы,
Сабіраліся,
Рыхтаваліся
Козаньку ўбіці,
Славу нажыці.
Ударылі казу
У левае вуха,
Пацякла з казы
Крывава юха.
Пуц, каза ўпала,
Здохла, прапала.

Дай казе сала,
Штоб каза ўстала,
Патанцавала.
Рэшата аўса,
Наверх каўбаса.
Рэшата пшаніцы,
Наверх паляніцы,
Рэшата бобу,
Казе хваробу,
Рэшата грэчкі,
Штоб вялісь авечкі.

### 565. ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэра.
Дзе рожкі дзела?
— На соль праела.

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэра,
Лезь, каза, на печ,
Пакажы чапец,

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэра,
Лезь, каза, на кут,
Пакажы хамут.

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэра,
Лезь, каза, на пол,
Пакажы хахол.

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэра,
На печы авёс
Вялікі парос.

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэра,
На палу жыта
Нагамі эбіта.

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэра,
А ў тым жыце
Перапёлачка.

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэра,
Вывела дзеці,
Міла глядзеці.

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэра,
Дзе каза ходзіць,
Там жыта родзіць.

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэра,
Дзе каза рогам,
Там жыта стогам.

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэра,
Дзе каза нагой,
Там жыта капой.

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэра,
А дзе каза хвастом,
Там жыта кустом.

### 566. ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го, шэрая!
Дзе рогі дзела?
— На соль праела,
Соль дарагая,
Мера скупая.

Не дыбай, каза,
Крывыя ногі,
Не станавіся

Пасрадзі дарогі:
Будзе ехаць пан,
Казу разаб'е.

На табе ляску
У залёты йці,
У залёты йці
Папірацiся.
Чорт цябе бяры
Із залётамі,
Е ў мяне конь
За варотамі.

У даліне каза
З казянятамі,
За гарою воўк
З ваўчанятамі.
Як прыбег ваўчок,
За козку, да ўцёк,
А ваўчанята —
За казянята.

Дзе каза рогам,
Там жыта стогам,
Дзе не бывае,
Там вылягае,
Дзе козачка ступіць,
Там яно кусціць.

## 567. ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го, шэрая!
Дзе рогі дзела?
— На соль праела,
Соль дарагая,
Мера скупая.

Ой, чок, чок,
Пад гарой ваўчок
З ваўчанятамі,
За гарой каза
З казлянятамі.

Як прышоў ваўчок,
За козачку — чок,
А ваўчанята —
За казлянята.

Прыбег заяц,
Стаў казу лаяць:
— Ох ты, казіца,
Старая псіца,
Узяла б ты сярпок,
Пашла б ты ў лясок,
Нажала б травіцы снапок,
У хлявушку б дзяржала,
Па трошку давала.
На печы авёс
Высока парос,
На палу жыта
Нагамі збіта.
Што ў тым жыце?
Перапяліца вывела дзяцей.
Старшыя, большыя
Проч паляцелі,
Сялядоршыя —
Засірацелі.

Не хадзі, каза,
Не блудзі, каза,
Пад тое сяльцо,
Пад Журавічы,
Там людзі — стральцы, мікалаеўцы
І змаўляюцца козаньку біць,
Шкуру злупіць, боты пашыць,
Боты, халявы з боку дзіравы.
Ну-тка, козанька, расхадзіся-тка,
Пану гаспадару пакланіся-тка.

### 568. ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го-го, сера,
Дзе рогі дзела?
— На соль праела.

Соль дарагая,
Каза залатая.
Пуц, каза ўпала,
Здохла, прапала.
Устань, козанька,
Падвесяліся.
На печы авёс
Вялікі парос,
На прыпечку жыта,
Нагамі збіта.
Што й у том жыце
Перапяліца
Вывела дзеці,
Люба глядзеці.
Старшыя, младшыя
Да й паляцелі,
Серадольшыя —
Засірацелі.

## 569. ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го-го, сера,
Дзе рогі дзела?
— На соль праела.

Соль дарагая,
Мера скупая.
Ой, пайдзі, козанька,
Пад тое сяльцо.

А ў том сяльцы
Ліхія стральцы
Сабіраліся
І змаўляліся,

Сабіраліся
І змаўляліся
Козаньку біці
Да ў левае вушка.

Козаньку біці
Да ў левае вушка,
Пацякла з козанькі
Чорная юшка.

Гаспадар ідзе,
Каляду нясе,
І калядзіцу
Шчэ й каўбасіцу,

І калядзіцу
Шчэ й каўбасіцу,
Два кускі сала,
Каб каза ўстала.

Устала козанька
Да расхадзілася
Па ўсяму двару
Да гаспадарскаму.

Ой ты, гаспадынька,
Знай сваё дзялцо,
Вазьмі свечачку,
Пайдзі ў клетачку.

Вазьмі свечачку,
Пайдзі ў клетачку,
Зірні на бачок,
Там стаіць мачок.

Ой, вазьмі мачку
На талерачку.
Свайму козлічку
На гарэлачку.

## 570. ВО-ГО-ГО, КАЗА

Во-го-го, каза,
Во-го, шэрая,
Дзе рогі дзела?
— На соль праела.

Соль дарагая,
Мера скупая.
На печы авёс
Вялікі парос,
На палу жыта
Цэпам пабіта.
Што ў тым жыцечку
Перапёлачкі,
Большыя паляцелі,
Меншыя асталісь.

### 571. О-ГО-ГО, КАЗА

О-го-го, каза,
О-го-го, сера,
Дзе рогі дзела?
— На соль праела.

Соль дарагая,
Мера скупая.
Наша козачка
Ўся залатая.

На печы гаршок
Повен з вадою,
Наша козачка
Усё й з барадою.

### 572. ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Дзе рогі дзела?
— На соль праела.
Наша соль дарагая,
Мая козачка
Уся залатая.
Не хадзі, каза,
Па таму сяльцу:
Там стральцы
Козку ўб'юць,
Шкурку здзяруць,
Боты пашыюць.

### 573. ГО-ГО, КАЗЕЛ

Го-го, казёл,
Го-го, серы,
Дзе рогі падзеў?
— На соль праеў.

Соль дарагая,
А мера скупая.
А ты, гаспадынька,
Не будзь такая.

Набяры мачку
На талерачку,
Нашаму казлу
На гарэлачку.

Нашаму казлу
Нямножка трэба:
Сем печ перапеч,
Торбу пшаніцы,
Рэшата аўса,
Наверх каўбаса.

### 574. ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэрая,
Дзе рогі дзела?
— На соль праела.
Соль дарагая,
Мера скупая.

Проша доваць,
Не жаловаць,
Каб было за што дзеньковаць.
Нам не многа трэба,
Паўбочкі грэчкі
На перапечкі,
Рэшата аўса,
Наверх каўбаса
І кусок сала,
Каб каза ўстала.

## 575. ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го, шэрая,
Дзе ты хадзіла,
Дзе ты брадзіла?

На печы авёс
Вялікі парос,
На палу жыта
Нагамі збіта.

Што б ты, козачка,
Добрая была,
Пану хазяіну
Пакланілася б.

А ты, хазяінка наш,
Падары ты нас.
Рэшата аўса,
Наверх каўбаса.
Добры вечар,
Добраму хазяіну!

## 576. ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го-го, серая!
Дзе каза пахадзіла,
Там жыта зарадзіла,
Дзе каза рогам,
Там жыта стогам,
Дзе каза нагой,
Там жыта капой,
Дзе каза хвастом,
Там жыта кустом,
Дзе каза мызай,
Там жыта з грызай.

Го-го-го, каза,
Го-го-го, серая!
Дзе рогі дзела?
— На соль праела,

Соль дарагая,
Мера скупая.
На гарэ каза
З казянятамі,
Пад гаройваўчок
З ваўчанятамі.
Ваўчок — за казу,
А ваўчанята —
За казянята.
Чок, чок, чок,
Тут каза ўпала,
Ссохла, прапала.
Дай казе сала,
Што б каза ўстала.

## 577. ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го-го, сера.
Дзе рогі дзела?
— На соль праела.
Соль дарагая,
Мера скупая,
Наша козачка
Уся залатая.
На гарэ каза
З казлянятамі,
А ў даліне воўк
З ваўчанятамі.
Выскачыў ваўчок,
Казу — за бачок.
А ваўчанята —
За казянята.
Выскачыў заяц,
Стаў казу лаяць:
— Ох ты, казіца,
Старая псіца,
Не ўмела гадаваць
Сваіх дзетачак.

Хазяін ідзе,
Каляду нясе.

— Дай калядзіцу,
Дай кусок сала,
Штоб каза ўстала.
Рэшата жыта,
Штоб каза сыта.
Рэшата аўса,
Наверх каўбаса,
Рэшата грэчкі,
Наверх яечкі.

## 578. ОЙ, НУ, НУ, КАЗА

Ой, ну, ну, каза,
Ой, ну, ну, шэра!
Паварачайся,
Не забывайся,
То на сей бачок,
То на той бачок,
То на рожачкі,
На капыцікі,
На залатыя,
На дарагія.

Дзе каза ходзіць,
Там жыта родзіць,
Дзе каза хвастом,
Там жыта кустом,
Дзе каза нагою,
Там жыта капою,
Дзе каза рогам,
Там жыта стогам.

Ой, пашла каза
У цёмныя лясы,
У вішнёвыя сады.
Ой, у том саду
Хлопцы-малайцы.
Хлопцы-малайцы
Хочуць казу біць,
Хочуць аблупіць,
Машы шубу шыць.

Тая козанька
Забаялася,
За ніцыя лозы
Захавалася.
Ой, прыбег ваўчок
Да за козаньку,
А ваўчанята —
За казянята.
Ой, прыбег заяц,
Стаў казу лаяць:
— Ой ты, казіца,
Старая псіца.
Не хадзіць было
У цёмныя лясы,
У вішнёвыя сады,
Не зведаць было
Да й вінаграду.
Узяла б сярпок,
Пашла б ты ў сцялок,
Нажала б снапок
Да эмалаціла,
Свае казяняткі
Да й накарміла.

*(Каза падае. Спяваюць далей):*

Буць, каза ўпала,
Здохла, прапала.
Гаспадар ідзе,
Каляду нясе,
А гаспадыня йдзе,
Каўбасу нясе.
А на рожанькі —
Два піроженькі,
А на хвасточак —
Сала кусочак.
Ой ты, казіца,
Да й не лянісь,
Па ўсяму двару
Да й расхадзіся!

*(Каза ўстае і пачынае*
*кланяцца.*

Прыступіся блізка,
Укланіся нізка,
Хазяіну так,
Так, як пану,
Гаспадыні так,
Так, як малінцы.

Тыя вуліцы
Разлягаюцца,
Хазяін дочкай
Набіваецца.
— Вазьмі, казача,
Няхай не плача,
Дам пару сабак,
Пойдзеш і так,
Вязку саломы,
Едзьце дадому.

## 579. ДОБРЫ ВЕЧАР ВАМ

Добры вечар вам,
Чэсным гаспадарам!
Мы не самі ідзём,
Мы казу вядзём.
Казе паскакаць,
А нам паспяваць.

— Скачы, баране!
— Не ўмею, пане,
Ой, пане Іване.
Відзім мы пса,
На гарэ каза,
З казляняткамі.

А ў даліне воўк
З ваўчаняткамі.
Як прыбег ваўчок,
За казу — чок-чок,
А ваўчаняты —
За казляняты,

Выскачыў заяц,
Стаў казу лаяць:
— Дурная, каза,
Неразумная,
Сваім дзетушкам
Да й не матушка.
Узяла б ты сярпок,
Пабегла б у лясок,
Нажала б травы
Аўсяны снапок,
Пагадавала сваіх дзетачак,
Пагнала ў возера
Да й напаіла.
Ды возера абгарожана,
Беламу цару
Прыпаручана.

Не хадзі, каза,
На тое сялцо,
Пад Міхайлаўку.
А ў Міхайлаўцы
Усе людзі стральцы
Пазбіраліся,
Зрахаваліся.
Казы не ўбілі,
Славу зрабілі.

Ударылі казу
У правае вушка,
З правага вушка
Пацякла юшка.
Тут каза ўпала
Да й не жыва стала.
Ох, толькі жыва,
Што адна жыла,
Жылка саўяла,
Каза ўстала.

Каза ўстала,
Па стану стала.
Як стаў наш казёл
Да на ножачках,
Да пабег наш казёл
Па дарожачках.

І шукаючы і плутаючы,
Караля нет дома,
Гаспадар у полі.

О-го-го, каза!
Ты расхадзілася,
Развесялілася.
Старшаму гаспадару
Ў ногі кланяйся,
А гаспадыні,
Што б падарыла
Рэшата жыта,
Што б каза сыта,
Рэшата аўса,
Наверх каўбаса.

## 580. ОЙ, НУ, НУ, КАЗА

Ой, ну, ну, каза, ой, ну, нябога,
Дасць табе наш пан паўзалатога.

Падзівіцеся, добрыя людзі,
На тую раду, старую бабу.

Старая баба салому сячэ,
Салому сячэ, пірагі пячэ.

На гары каза з казянятамі,
А ў даліне воўк з ваўчанятамі.

Як прыбег заяц, стаў казу лаяць:
— Ох ты, казінка, не гаспадынька!

Ох ты, казінка, не гаспадынька,
Узяла б сярпок, нажала б снапок.

Свае дзетачкі ды накарміла,
У ніцу ложу спаць палажыла.

Як лягла спаці — не магла ўстаці.
А проша ўстаці, што-кольвек даці:

Ці каўбасіцу, ці паляндвіцу,
Ці кусок сала, каб каза ўстала.

Ды нашай казе нямнога трэба:
Паўбочкі грэчкі на перапечкі,

Рэшата аўса, наверх каўбаса,
Паўвоза сена, каб каза села.

## 581. ГО-ГО, КОЗАНЬКА

Го-го, козанька,
Го-го, шэранька!
Павярніся складна,
Пакланіся зграбна.
Скажы, дзе хадзіла,
Дзе ты што рабіла?

Дзе каза паходзіць,
Там жыта зародзіць,
А дзе пагасае,
Там павылягае.
Дзе яна бывае,
Там шчасце вітае.
Дзе каза хвастом,
Там жыта кустом.
Дзе каза нагою,
Там жыта капою.
Дзе каза рогам,
Там жыта стогам.
Дзе каза не ходзіць,
Там жыта не родзіць.

На балоце была,
Па лесе хадзіла,
Ваўчат навучыла
Танцы танцаваці.
Каза мая вучона,
Кіем ахрышчона.
Ты, каза, сагніся,
Нізка пакланіся
І гэтаму пану,

Як таму гетману.
Хай будзе здароў,
Нам прышле дароў.

Ішлі ад ваяводы,
Стрэлі нас прыгоды:
Выскачыў з лесу воўк,
Аблупіў казе хвост,
Выскачыў стралец,
Адбіў казе хвасцец.
Каза мая ўпала,
Лягла і прапала.
Я лякарства зраблю,
Казе хвост прыляплю,
Кійком бачок змачу,
Нагою падважу.

Уставай, каза, усхапіся,
Гаспадыні пакланіся
Да саменькіх ножак,
Няхай дасць пірожак.
Гаспадыня ў рашаце
Бліны нам валачэ.
Ключыкам звякане,
Каморачку адамкне.
Нясе адтуль пляшку
І цялячу ляжку,
І збаночак мёду
Нам на ўсалоду.

Пакланіся ўсім,
Старым і малым.
Закладай свае рогі,
Падбірай свае ногі.
З гэтай хаты выхадзі,
Бяду, гора вынасі.
Уцякаюць хай хутчэй
З гаспадаравых вачэй.
Го-го, козанька!
Го-го, шэранька!
Павярніся складней,
Пакланіся зграбней.

## 582. ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го-го, серая!
Расхадзіся-тка
Па гэтаму дварцу,
Па гаспадарацы.
Гаспадары ідуць,
Каляду нясуць,
Каляднiцу-паляніцу,
Тры кускі сала,
Да й таго мала.

Дзе каза нагой,
Там жыта капой.
Дзе каза хвастом,
Там жыта кустом.
Дзе каза рогам,
Там жыта стогам.
Дзе каза не бывала,
Там жыта вылягала.

Каля рэчкі,
Каля быстрай
Хадзіла каза,
Як ударылі казе ў вуха,
Дак пацякла юха.
Стральцы-байцы,
Да ўсе рэчкаўцы.
Што ў тым жыце
Перапёлка вывела дзяцей.
Першыя паляцелі,
А другія пасіраценлі.

## 583. ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го, серая,
Го-го, белая!
Расхадзіся-тка,
Разбягіся-тка

Па ўсяму двару
Гаспадарскаму.
Прыдзі блізенька,
Пакланіся нізенька
І гаспадару,
І гаспадыні,
Штоб падарылі
Мерачку аўса,
Штоб каза пашла.
Мерачку жыта,
Штоб каза сыта.
Гдзе каза нагой,
Там жыта капой,
Гдзе каза рогам,
Там жыта стогам,
Гдзе не бывае,
Там не ўраджае.
Дабры вечар!

## 584. ГО-ГО-ГО, КАЗА, ГО-ГО-ГО, СІВА

Го-го-го, каза, го-го-го, сіва!
Ну-тка, козанька, ды й расхадзіся,
Ды й расхадзіся, развесяліся
Па ўсяму даму гаспадарскаму,
Па ўсяму двару гаспадарскаму,
Гаспадар ідзе, каляду нясе.
Гаспадар ідзе, каляду нясе,
Рэшата аўса, паверх каўбаса,
Наверх каўбаса, тры кускі сала,
Штоб наша козанька ды й паскакала.

Дзе каза ходзіць, там жыта родзіць,
Дзе не бывае, там не ўраджае.
Дзе каза нагою, там жыта капою,
Дзе каза хвастом, там жыта кустом.
Го-го-го, каза, го-го-го, сіва!
Ну-тка, козанька, ды й расхадзіся,
Ну-тка, козанька, ды й расхадзіся,
Ды й расхадзіся, развесяліся.

## 585. ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го, серая,
Го-го, белая!
Буць, каза ўпала,
Буць, каза прапала.
Стань, козухна,
Стань, молухна,
Развесяліся,
Старшаму пану
У ногі пакланіся.
Дасць табе пан
Мерачку аўса,
Наверх каўбаса,
Тры кускі сала,
Шчэ таго мала,
Чацвёрты пірог,
Штоб козы сцярог.

## 586. ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го, серая.
Го-го-го, з рагом,
Го-го, і з нагом.
Дзе каза рогам,
Там жыта стогам,
Дзе каза нагой,
Там жыта капой...

Добры вечар
Добрым людзям
І гаспадару
З гаспадыняю.
Ой ты, казіца,
Старая псіца,
Ты не ляніся,
Гаспадынечцы
Ты пакланіся.

Го-го-го, каза,
Го-го, серая.
Гаспадынечка,
Жураўіначка,
Палі свечачку,
Ідзі ў клетачку,
Нясі рэшата аўса,
Наверх каўбаса
І кусок сала,
Каб козачка ўстала.

## 587. ХАДЗІЛА КАЗА ПА ГУСТЫМ БАРАМ

Хадзіла каза
Па густым барам,
Па цёмным лясам,
А цяпер ходзе

Па божым дамам.
Пане гаспадар,
Паўчверткі аўса,
Штоб наша каза
Высока расла.
Пане гаспадар,
Паўчверткі жыта,
Штоб наша каза
Тым была сыта.

Як пашла каза
На капыцічках,
На залоценькіх,
Усё кажучы,
Прыказуючы:
— А дай жа, божа,
Да хазяіну
Да каровачку
Не ўрочлівую,
Малочлівую,
Жыта каласіста,
Ядро ядраніста.

## 588. ДОБРЫ ДЗЕНЬ ТАМУ, ХТО У ГЭТЫМ ДАМУ

Добры дзень таму,
Хто ў гэтым даму!
Мы самі ідзём
І казу вядзём.
— Го-го -го, каза,
Го-го, шэрая!
Дзе ты была?
— Кала рэчачкі,
Кала быстрае.
— Што ты парабляла?
— Ягадкі збірала.
— Каму ты давала?
— Сукіным сынам
І разбойнічкам.
— Чым цябе білі?
— Прутамі, прутамі
Бярозавымі,
Палкамі, палкамі
Лазовенькімі.

— Ох ты, козачка,
Узяла б ты сярпок,
Нажала б снапок,
Сваіх дзетачак
Да й накарміла,
Спаць палажыла.
— Ой, дзеці, дзеці,
Куды ляцеці?
Паляцім жа мы
Да на Украіну,
Там добры людзі,
Хораша ходзяць,
Дзела не робяць.

Хацелі козачку
Да й згубіці,
Шкуру садраці,
Дуду пашыці.
— Не бойся, козачка,
Ні стральцоў-байцоў,
Пабойся, козачка,

Старога дзеда
З сівай барадой.
Ён цябе згубе,
Шкуру аблупе,
Дуду пашые.

— Грай, мая дуда!
Жыў калі буду,
На вайну пайду,
Паланяначку вазьму.
Паланяначка,
Стара бабачка,
Рыбку варыла,
Перасаліла.

Штоб табе, бабачка,
Перакрышыла.
Ой, сесці, сесці
Рыбачкі з'есці.
Ой, сяду, сяду
У зялёным саду,
Пад яблынкаю,
Пад сахарнаю,
Пад ігрушаю
З Іванюшаю.

Пакланіся, козачка
Пану хазяіну
І гаспадыні,
Штоб падарылі
Рэшата аўса,
Наверх каўбаса,
Тры кускі сала,
Каб каза ўстала.
Спасіба таму
За гэту дару
І гаспадыні,
Што падарылі.

## 589. О-ГО-ГО, КАЗА

О-го-го, каза,
О-го-го, сіра,

Дзе ты бывала?
— Ягодкі брала.

— Каму давала?
— Жаўнерам, жаўнерам,
Зладзеям, зладзеям.
— Чым цябе білі?
— Дубцамі, дубцамі.
— Якімі, якімі?
— Бярозавымі.

— Як ты плакала?
— Ме-ге-ге-ге-ге.
— Як смяялася?
— Хі-хі-хі-хі-хі.

— Куды ўцякала?
— Пад тае сялцэ.
А ў том сялцы
Ўсе стралцы-байцы.

Шыхаваліся,
Рахаваліся
Козаньку ўбіці,
Шубу пашыці.

Пан казы не б'е,
Шубу не шые,
Да й дае, дае
Бочку гарошку,
А другую жыта,
Штоб наша козанька
Да й стала сыта.

А на гарэ воўк
З ваўчанятамі,
Ў даліне каза
З казлянятамі.

Як прыбег ваўчок,
За козку — цоп-цоп:
— Ой ты, козанька,
Да й не ляніся.

Да й вазьмі сярпок,
Да й ідзі ў сцяпок,
Да й нажні, нажні
Аўсяны снапок,

Да й абкалаці,
Да й абмалаці,
Сваіх дзетачак
Вазьмі накармі.

Дзе каза нагой,
Там жыта капой,
Дзе каза топ-топ,
Там жыта сем коп,
Дзе каза рогам,
Там жыта стогам.

## 590. ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го, серая,
Го-го, белая!
І дзе ты была?
— У турэцкай зямлі.
— Што ты рабіла?
— Ягадкі брала.
— Каму давала?
— Сваім дзетачкам,
Жаўнератачкам.
— Чым цябе білі?
— Розкамі, розкамі
Бярозавымі.
— Куды ўцякала?
— Берагам, берагам,
Беражыначкай.
На том беразе
Стаіць клетачка,
А ў той клетачцы
Сядзіць дзевачка
Заручоная,
Невянчоная.

Чалавек, чалавек,
Крывыя ногі,
Не дыбай ты
Упоперак дарогі:
Будзе пан ехаць,
Цябе растопча.
Паставе каня
За варотамі.
Конічак іржэ —
Естачкі хоча,
Панначка плача —
Замуж не хоча.

### 591. ПОЎНА НАШАЙ КОЗАНЬКІ

Поўна нашай козанькі
Хадзіць па панах,
Пойдзем мы, козка,
На сіне мора.
Мы к табе, Ляксандра,
Не самі прышлі,
Нас гасподзь паслаў,
Як сам свет настаў,
Штоб ты нас не біў,
Злотам-срэбрам дарыў,
Гасподнім дарам
І куском сала!

### 592. ГОЙ-ГОЙ-ГОЙ, КАЗА

Гой-гой-гой, каза,
Гой-гой, белая.
Спасіба таму,
Хто ў гэтым даму.

Спасіба таму,
Хто ў гэтым даму:
І хазяюшкі,
І хазяіну.

А дзе каза рогам,
Там жыта стогам,
Гой, гой-гой, каза,
Гой-гой, белая...

### 593. ГО-ГО-ГО, КАЗА

Го-го-го, каза,
Го-го, шэрая.
Радзіла казла,
Павяла паіць.
Павяла паіць
Круто возера.
Тое возера
Абгароджана,
Абгароджана.
Да й стала паіць.
— Пі ваду, каза,
Не аглядайся,
Да ў рэчачку
Не пацярайся.
Не сматры ў ваду —
Перакулісся,
І свету табе
Не будзе ўжо.

### 594. О-ГО-ГО, КАЗЕЛ

О-го-го, казёл,
О-го-го, серы.
Папляшы-ка,
Старому пану
Пакланіся.

Мой панок ідзе
Каляду нясе,
Мерачку аўса,
Наверх каўбаса.

Яшчэ гэтага мала —
Мерачку сала.
Дай, панок, пірог,
Пойдзем за парог.

## 595. НЕ ЙДЗІ, КАЗЁЛ, ПАД МАЕ СЯЛЬЦО

Не йдзі, казёл, пад маё сяльцо,
Пад маё сяльцо, пад Журавічы,
Бо ў тым сяльцы — удалыя малайцы.
Ударылі казла ў правае вуха,
Пацякла з казла чорная юха.
Старая баба барабаніла,
Нашага казла не падарыла.
Нашаму казлу нямнога трэба:
Сем печ перапеч,
Бочка пшаніцы на паляніцы,
Асьміна аўса на канец хваста
І дваццатачку нам на квартачку,
Сараковачку — на падковачку.
Дзе казёл ходзіць, там жыта родзіць.
Дзе казёл хвастом, там жыта кустом,
Дзе казёл нагою, там жыта капою,
Дзе казёл рагамі, там жыта стагамі.

## 596. НУ, НУ, КАЗЁЛ

Ну, ну, казёл,
Ну, ну, нябож,
Не паварочвайся,
Не зазірайся
Ні на ручанькі,
Ні на ножанькі,
Ні на залатыя
Да й капыцікі.

Дзе казёл рогам,
Там жыта стогам,
Дзе казёл нагой,
Там жыта капой.

Ну-ну, казёл,
Нашаму казлу
Нямножка трэба:
Сем печ перапеч,
Паўбочкі грэчкі.

Паўбочкі грэчкі
На перапечкі,
Бочка пшаніцы
На паляніцы.
Ты, гаспадынька,
Не стой ля печы,
Падзі да клеці,
Зірні ў бачок,
Дзе стаіць мачок,
Зірні ў другі,
Дзе стаяць крупы.

Ой, вазьмі мачку
На тарэлачку,
Нашаму казлу
На гарэлачку.
А вазьмі крупіц
На кашку зварыць,
Рэшата аўса,
Паверх каўбаса.

## 597. АЙ, НУ, НУ, КАЗЁЛ

Ай, ну, ну, казёл,
Ай, ну, ну, нябож,
Паварочвайся,
Не зазірайся,
Ні ў бачок,
Ні ў той бачок,
Ні на рожачкі,
Ні на ножачкі,
На капыцікі залаценькія,
На капыцікі даражэнькія.

Дзе казёл нагою,
Там жыта капою,
Дзе казёл рогам,
Там жыта стогам.
Дзе казёл хвастом,
Там жыта кустом.

Зірні ў бачок,
Там стаіць мачок.
Зірні ў другі,
Там стаяць крупы.
Зірні пад небяса,
Вісіць каўбаса.
А ты, гаспадынька,
Не будзь такава,
Як тая была.
Нашага казла
Не падарыла.

Нашаму казлу
Нямножка трэба:
Сем печ перапеч,
Рэшата аўса,
Наверх каўбаса.

Ты, гаспадынька,
Не стой ля печы,
Пайдзі да клеці,
Адарві лычко каўбас,
Мы пойдзем ад вас.
Скарэй дарыце,
Нас не марыце.
Кароткі світкі,
Памерзлі лыткі.

*(Як доўга не даюць, то спяваюць):*

Каб у вашых свінак
Хвасты, як бічы,
Каб было за што браць
Да за плот валачы.

## 598. ПАВАРОЧВАЙСЯ, КАЗЕЛ

Паварочвайся, казёл,
На капыцікі,
На срэбраныя,
На ўсе крутыя.
Дзе казёл ходзіць,
Там жыта родзіць,
Дзе пабягае,
Там вылягае.
Дзе казёл рогам,
Там жыта стогам,
Дзе казёл хвастом,
Там жыта кустом,
Дзе казёл нагою,
Там жыта капою.

Да пайшоў казёл
Па ўсіх старанах,
Да знайшоў казёл
Караля ў зямлі
З караліхаю,
З гаспадынькаю.
Да ты, гаспадынька,
Не будзь такая,
Як барабаніха тая.
Барабаніха нашага казла
Не ударыла, не ударыла.
Толькі смех учыніла.

Скамароху —
Бочку гароху,
А скамарыцы —
Бочку пшаніцы.
За гэту свечачку
Пайдзі ў клетачку
Да зірні ў бачок,
Дзе стаіць мачок,
Да зірні ў другі,
Дзе стаяць крупы,
Да зірні ў трэці,
Дзе вісяць лейцы.

## 599. ДА ПАШОЎ НАШ КАЗЁЛ

Да пашоў наш казёл
Да на рожачках,
Да на ножачках,
Да на капыцiках,
Да на залаценькiх
У чыстае поле,
Да сямi каралей,
Караля шукацi.

Да зарадзi, божа,
Да нашаму каралю
Жыта каласiста
Да ядранiста,
Ячмень каласён
I гарох замашон.
Да пасi, божа,
Да каровачкi
Да малочлiвыя,
Да цялятачкi
Няўрочлiвыя.

## 600. НО-НО-НО, КАЗЁЛ

Но-но-но, казёл,
Но-но-но, нябож,
Паварачвайся,
Не забывайся.

То на той бачок,
То на той бачок,
То на рожачкi,
То на ножачкi.

[То на ножачкi],
На капыцiкi
На залатыя,
На срабраныя.

Пайшоў наш казёл
Па ўсiх гарадах,

[Па ўсіх гарадах],
Па ўсіх старанах.

Найшоў наш казёл
Караля ў зямлі
З караліхаю,
З бараніхаю.

Нашага казла
Не надарылі,
З нашага казла
Смех састроілі.

Нашаму казлу
Нямножка трэба:
Сем печ перапеч,
Рэшата аўса
І наверх калбаса.
Запалю я свечачку
Да пайду я ў клетачку,
Зірну ў адзін бачок,
Там стаіць мачок.
Зірну ў другі,
Там стаяць крупы.
Давай, баба, калбасу,
А то хату разнясу.

## 601. ОЙ, НУ, НУ, КАЗЁЛ

Ой, ну, ну, казёл,
Ой, ну, ну, нябож.[1]

Паварочайся,
Не саромейся.

Нашаму казлу
Нямножка трэба:

Сем печ перапеч
Рэшата аўса,

[1] Кожная страфа паўтараецца двойчы.

Рэшата аўса,
Наверх каўбаса,

А шчэ ж аладкі,
Каб бокі гладкі,

Гладыш малака,
Каб поўны бака.

Ты ж, хаджаечка,
Не будзь такая.

Зажгі свечачку,
Пайдзі ў клетачку,

Зірні ж на бачок,
Дзе стаіць мачок.

Нашаму казлу
Нямножка трэба.

Дзе казёл топ-топ,
Там жыта сем коп.

Дзе казёл рогам,
Там жыта стогам.

Дзе казёл нагой,
Там жыта капой.

### 602. ГО-ГО-ГО, КАЗЕЛ

Го-го-го, казёл,
Го-го-го, серы,

Стань, расхадзіся,
Развесяліся. [1]

Па ўсяму двару,
Усё па панскаму.

---

[1] Кожная страфа паўтараецца двойчы.

Усё па панскаму,
Гаспадарскаму.

Гаспадынька вутка,
Паварочвайся хутка.

Запалі скепачку,
Пайдзі ў клетачку,

Ды зірні ў бачок,
Дзе стаіць мачок.

Ды вазьмі мачку
На тарэлачку.

Нашаму козліку
Нямножка трэба:

Сем печ перапеч,
Рэшата аўса,

Гладыш малака,
Наверх каўбаса.

## 603. ГАСПАДЫНЕЧКА, ВЕСЯЛІНЕЧКА

Гаспадынечка,
Весялінечка,
Запалі свечачку,
Пайдзі ў клетачку,
Стукні ў бачок,
Гдзе стаіць мачок,
Стукні ў другі,
Дзе стаяць крупы.
Майму казлу
Нямнога трэба:
Карэц грэчкі
На перапечкі
І карэц аўса
На канец хваста.

Гдзе казёл ходзіць,
Там жыта родзіць,

Гдзе казёл ступою,
Там жыта капою,
Гдзе казёл рогам,
Там жыта стогам.

## 604. А У ЛЯСКУ, У ЛЯСКУ

А ў ляску, у ляску
На жоўтым пяску
Стаіць цэркаўка
З трома вярхамі,
З трома акнамі.
Аднэ аконца —
То то соўнейка,
Другэ аконца —
То то месячык.
Трэця аконца —
То то зоранькі.
А шчо соўнейка —
То то бацюшка,
А шчо месячык —
То то матушка,
А шчо зоранькі —
То то дзетанькі.

Запалю свечаньку,
Пайду ў клетаньку,
Зірну на бачок,
Там стаіць мачок,
Зірну на другі,
Там стаяць крупы,
Крупы крупіцы,
Нашаму казлу на паляніцы.
А мачок, мачок на тарылачку,
Нашаму казлу на гарылачку,
Бочка пшаніцы на паляніцы,
Паўбочкі грэчкі
На варэнічкі,
Сем печ перапеч,
Рэшата аўса,
Наверх каўбаса.

# ВАСІЛЛЕ

## (Навагоднія віншавальныя песні)

### 605. ПАЗДРАЎЛЯЮ З НОВЫМ ГОДАМ

Паздраўляю з Новым годам,
Аўсяначка, прасяначка!

Зарадзі, божа,
Жыта-пшаніцу,
Усякую пашніцу:
У полі — капамі,
У гумне — варахамі,
У клеці — карабамі,
У печы — пірагамі,
На стале — скібачкамі.

### 606. ПАЗДРАЎЛЯЮ З НОВЫМ ГОДАМ

Паздраўляю з Новым годам,
Святы вечар добрым людзям.[1]

З Новым годам і з усім родам,
І з празнічкамі, і з каляднічкамі,
Першы празнічак — святое ражаство,
Другі празнічак — святое васілле,
А трэці празнічак — святое хрышчэнне,
Святое хрышчэнне і калядам прашчэнне.

### 607. У ПАНА ВАСІЛЯ СТАЯЛА БЯРОЗА

У пана Васіля стаяла бяроза,
Святы вечар![1]
Стаяла бяроза тонка, высока.

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

28. Зак. 1420

Залатая кара — то яго жана,
Дробныя ветачкі — то яго дзетачкі,
Засцілай, хазяйка, сталы, пячы пірагі,
Мы цябе, хазяіна, не зневажаем
І з святым Васілём паздраўляем.

## 608. СЕТА, СЕТА НА НОВА ЛЕТА

Сета, сета
На нова лета,
Ходзя Ілля,
Пад васілля.
У яго пужка
Да драцяная.
І дзе пужкай махне,
Там жыта расце,
А йдзе не махае,
Там і не бывае.
Зарадзі, божа,
Жыта, пшаніцу,
Усяку пашніцу,
У полі ядром,
У дварэ дабром.

Ой ты, дзядзечка,
Глянь на палічку,
Дай палянічку,
А ты, бабачка,
Глянь на куточак,
Дай сала кусочак.

## 609. СЕТА, СЕТА НА НОВАЕ ЛЕТА

Сета, сета на новае лета!
Радзі, божа, жыта, пшаніцу,
Усякую пашніцу,
У поле — зярно,
А ў доме — дабро.

## 610. СЕЮ, СЕЮ, ЗАСЯВАЮ

Сею, сею, засяваю,
З Новым годам паздраўляю,
З Новым годам,
З новым шчасцем!
Штоб вясёленька жылі
Да й па чарачцы пілі.

## 611. СЕЮ, СЕЮ, ЗАСЯВАЮ

Сею, сею, засяваю,
З Новым годам паздраўляю!
Паздраўляю хазяіна, хазяйку,
Усіх вашых дзяцей.

## 612. ХОДЗІЦЬ ІЛЛЯ КАЛЯ ВАСІЛЯ

Ходзіць Ілля каля Васіля,
Носіць пугу драцяную, плецяную.
Дзе пугай махне,
Там жыта расце,
А пшанічанька ўлягаецца,
Красна дзевачка ўдзіўляецца.

## 613. ХОДЗЕ ІЛЛЯ НА ВАСІЛЯ

Ходзе Ілля на Васіля,
Носе пугу плецяную, драцьвяную,
Гдзе пугай махне,
Там жыта расце,
Гдзе не бывае, там вылягае.
Зарадзі, божа, жыта, пшаніца,
Усякая пашніца!
Добры вечар!

## 614. ХОДЗІЦЬ ІЛЛЯ

Ходзіць Ілля
На васілля,
Носіць пугу
Жыцяную.
Дзе замахне —
Жыта расце.
Дзе не махае,
Там не бывае,
А ў полі ядром,
А ў доме дабром.

## 615. УЗЫЙДЗІ, ЗОРАЧКА, УЗЫЙДЗІ РАНЕНЬКА

Узыйдзі, зорачка, узыйдзі раненька,
Узыйдзі раненька, пастой маленька.
Пакуль волікі напасаюцца,
Усе нівачкі засяваюцца.
І туды ражок і сюды ражок,
А нам, дзядна, вынесь піражок,
Вынесь піражок, да яшчэ сала кусок.
Добры вечар!

## 616. ВЫЙДЗІ, ЗОРАЧКА

Выйдзі, зорачка,
Выйдзі раненька,
Пастой позненька,
Пакуль волікі напасуцца,
Пакульніванькі засяюцца.

## 617. ЯК ГЭТЫ ПІРАЖОК

Як гэты піражок,
Штоб на той год каласок,
А з таго каласка —
Поўна бочка жыта нарасла.

# КАЛЯДНЫЯ КАРАГОДЫ І ГУЛЬНІ

## 618. А СВЯТЫ ВЕЧАР ДА Й ВАСІЛЛЕЙКА

А святы вечар да й васіллейка!
Мы каму спяём, да й таму дабро,
Ой, люлі-люлі, да й таму дабро.

Чыя шапачка, таго й песенька,
А святы вечар да й васіллейка!
Мы каму спяём, да й таму дабро,
Ой, люлі-люлі, да й таму дабро.

А чый персцічак, таму й песенька,
А святы вечар да й васіллейка!
Мы каму спяём, да й таму дабро,
Ой, люлі-люлі, да й таму дабро.

## 619. ВЕЧАР ДОБРЫ ТАМУ

Вечар добры таму,[1]
Хто ў етым даму.
Пазвольце гуляці,
Пойдам хмелю драці,
Пойдам хмелю драці,
Да каго ж нам пазваці,
Да пазавём жа мы
Да Іваньку з жаною,
Да Іваньку з жаною,
З усяёю сям'ёю.

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

Яны людзі сарамяжныя,
Да й хмелю не дралі,
Да й хмелю не дралі,
Вінаград паламалі.
Вінаградка — Іванка,
А ягадка — Адарка.

## 620. А КАЛЯДАЧКІ, БЛІНЫ-ЛАДАЧКІ

А калядачкі, бліны-ладачкі,

Ой, лі, ой, люлі, бліны-ладачкі.[1]

А калядныя бліны ладныя.
А ў заінькі да тры сцежачкі.
Перва сцежачка — ў зялён гарод,
Друга сцежачка — ў вішнёвы сад,
Трэцexamя сцежачка — на крынічаньку.
У зялён гарод — усё наесціся,
На крынічаньку — ўсё напіціся,
У вішнёвы сад — прахадзіціся.

## 621. А У ЗАІНЬКІ ТРЫ ДУМАНЬКІ

А ў заінькі тры думанькі,
Коляда! [2]

Перша дума — лесам бегчы,
Друга дума — морам плысці,
Трэця дума — полем бегчы.
Лесам бегчы — ваўкі з'ядуць,
Морам плысці — заліешся,
Полем бегчы — стральцы заб'юць.

---

[1] Прыпеў «Ой, лі, ой, люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 622. АЙ, КАЛЯДАЧКІ, НАШЫ НЕЖАЧКІ

Ай, калядачкі, нашы нежачкі,

Ой, люлі, рана, нашы нежачкі.[1]

Пратапталі ды ўсе тры сцежачкі.
Перша сцежачка — да й да цэркаўкі,
Друга сцежачка — да карчомачкі,
Трэцця сцежачка — да й да мамачкі.
Перша сцежачка — да й маліцца,
Друга сцежачка — вады напіцца,
[Трэцця сцежачка — а да мамачкі],
А да мамачкі — нагаварыцца.

## 623. А КАЛЯДАЧКІ, А ВЯРНІЦЕСЯ

А калядачкі, а вярніцеся,

Ой, люлі-люлі, а вярніцеся.[2]

У майго татулькі найміцеся.
У майго татулькі трое варот,
Трое варот, усе на гарод.
У першых варотах — ясен месячык,
У другіх варотах — ярка соўнейка,
У трэціх варотах — дробныя зорачкі.
Ясен месячык — то татулька мой,
Ярка соўнейка — то мамулька мая.
Дробныя зорачкі — браты, сёстрачкі.

## 624. ВЫ, КАЛЯДАЧКІ, ВЫ ВЯРНІЦЕСЯ

Вы, калядачкі, вы вярніцеся,

Ай, люлі-люлі, вы вярніцеся.[3]

---

[1] Прыпеў «Ой, люлі, рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

[2] Прыпеў «Ой, люлі-люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

[3] Прыпеў «Ай, люлі-люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

На нас, дзевачак, агляніцеся.
Мы калядачкам наравіць будзем
Да на йгрышчыкі мы хадзіць будзем.

## 625. У КАРАГОДЗЕ БЫЛІ МЫ

У карагодзе былі мы, [1]
Ой, люлі, былі мы.

А што ж мы там відзелі,
Ой, люлі, відзелі?

Мы відалі парачку,
Ой, люлі, парачку.

Кавалера й барышню,
Ой, люлі, барышню.

Ты, парачка, прыжурысь,
Ой, люлі, прыжурысь.

Туда-сюда павярнісь,
Ой, люлі, павярнісь.

Каго любіш — выбірай,
Ой, люлі, выбірай.

Хоць нямножка прытанцуй,
Ой, люлі, прытанцуй,

Каго любіш — пацалуй,
Ой, люлі, пацалуй.

## 626. ХАДЖУ Я, ГУЛЯЮ Я Й У КАРАГОДЗЕ

Хаджу я, гуляю я й у карагодзе,

Розачка алая.[2]

Яшчэ выбіраю багатую цёшчу,
Яшчэ выбіраю багатага цесця.

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Яшчэ выбіраю мілую сястрыцу,
Яшчэ выбіраю маладога шурына,
Яшчэ выбіраю мілую па сэрцу.
Я з багатым разбярусь, я з цясцём разыйдусь,
А я цёшчу сваю са двара праганю.
Асядлаю каня — і шурына са двара,
Мілая сястрыца, з табой не жаніцца,
Я сваю мілую сто раз пацалую,
Весел я, весел сягонняшні вечар,
Я сваю мілую сем раз пацалую.

## 627. ЗВЯЧОР ДЗЕУКІ

Звячор дзеўкі, [1]
Звячор дзеўкі піва варылі,
К сабе молайцаў,
К сабе молайцаў падгаварылі.

Вот прышоў жа к ім,
Вот прышоў жа к ім нязваны-то госць,
Сталі дзеўкі,
Сталі дзеўкі пашаптываці:

— Чым мы будзем,
Чым мы будзем, як мы будзем
Госця паштаваці?

Адна за шчокі,
Адна за шчокі, другая за валасы
Цераз стол ташчаць,
Цераз стол ташчаць, аж валасы трашчаць.

Цераз хату,
Цераз хату, быццам ступу, валакуць,
Цераз сені,
Цераз сені, быццам венікам мятуць.

— Вот табе, госцю,
Вот табе, госцю, нязванаму хадзіць.

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 628. КАМУ ВЕЧАР, КАМУ ВЕЧАР

Каму вечар, каму вечар,
А мне вечарышча.[1]
А ўсім дзеўкам па казаку,
А мне аўчарнічка.

Да й пагнаў мой аўчарнічка
Да ў поле авечкі.
Да й згубіў аўчарнічка
Малое ягнятка.

Была ў мяне жуковінка
З трыма камянцамі.
Няма майго аўчарнічка
І з поля з аўцамі.

Калі б жа я шчука-рыба,
То я б панырнула.
Такі б жа я свайго аўчарнічка
К сэрцу прыгарнула.

Калі б жа я крылы мела,
То б я паляцела.
Такі б жа я свайму аўчарнічку
У вочкі паглядзела.

## 629. ДЗЕУКІ КАЛІНКУ ЛАМАЛІ, ЛАМАЛІ

Дзеўкі калінку ламалі, ламалі,
Калінавы масты масцілі, масцілі.

А туды ехаў дваранін, дваранін,
Калінавы масты паламаў, паламаў.

Дзеўкі дваранііна спаймалі, спаймалі,
Варанога каня адабралі, адабралі.

---

[1] Другі і чацвёрты радок кожнай страфы паўтараюцца двойчы.

### 630. ПАДУШАЧКА

Падушачка, падушачка
Мая пухавая,
Малодачка, малодачка
Мая маладая.

Каго люблю, каго люблю,
Таго пацалую,
Пухавую падушачку
Таму падарую.

Як прыехаў, як прыехаў
Мой міленькі позна,
Параскідаў, параскідаў
Падушачкі розна.

Як прыехаў, як прыехаў
Мой міленькі з места,
Паскладаў ён, паскладаў ён
Падушачкі ўместа.

Я і рыбачку лавіла,
Я і шатравала,
Каго верненька любіла,
Таго цалавала.

У каго жа чорны вусок,
Таму рыбкі кусок,
У каго рыжая барода,
Таму рыбкі шкода.

### 631. ПАДУШАЧКА, ПАДУШАЧКА

Падушачка, падушачка
Ты пухавая,
Малодачка, малодачка
Ты маладая. [1]

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы (апрача 6-й) паўтараюцца двойчы.

Каго любіш, каго любіш,
Таго пацалуеш,
Пухавую падушачку
Таму падаруеш.

Ваню люблю, Ваню люблю,
Ваню пацалую,
Пухавую падушачку
Ваню падарую.

Паходжана-пабраджана
Каля маёй хаткі,
Не шучыкі, не кручыкі,
Падковачкі знатны.

Як вазьму я мяцёлачку
Сляды замятаці,
Штоб не знала, не ведала
Мая родна маці.

Маці ходзіць па святліцы,
Мяне, млоду, журыць.

— Журы, журы, мая маці,
А ўжо не разжурыш,
А з кім жа я злюбілася,
З тым не разлучыш.

Пей, маці, тое піва,
Што я наварыла,
Любі, маці, таго зяця,
Што я спалюбіла.

— Я не буду піва піць,
Буду праліваці,
Я не буду зяця любіць,
Буду праклінаці:

— Ты не мой зяць, ты не мой зяць,
Я не твая цешча,
Пусці ж дачку на вуліцу,
Уцеш маё сэрца.

Пашла дачка на вуліцу,
Села пад вярбою,
Ніхто яе не чапае,
Пашла яна к двору.

А ўдарцеся, рабяты,
Аб пень галавою,
Не хадзіла на вуліцу
І хадзіць не буду.

Не хадзіла на вуліцу
І хадзіць не буду,
Не любіла маладых хлопцаў
І любіць не буду.

## 632. ПАДУШАЧКА, ПАДУШАЧКА МАЯ ПУХАВАЯ

Падушачка, падушачка
Мая пухавая,
Малодушка, малодушка
Мая маладая.

На пуховай падушачцы
Мякусенька спаці.
Прыгожую дзяўчынbackslashеньку
Люблю цалаваці.

Каго люблю, каго люблю,
Таго й пацалую,
Пуховую падушачку
Таму й падарую.

Каля лугу, каля лугу,
Каля махчавінкі,
Ці не відзеў, ці не бачыў
Харошай дзяўчынкі?

Хоць і відзеў, хоць і бачыў,
Не буду казаці,
Залажу пару коней,
Паеду шукаці.

## 633. ПАДУШАЧКА

Падушачка, падушачка
Да ты пухавая,
Малодачка, малодачка
Да ты маладая.[1]

Чые пчолы ў дуброве,
А мае ў садочку,
А хто любіць далёкую,
А я суседочку.

Далёкая — высокая,
Яна очань пышна,
Нізенькая — блізенькая,
Як у садзе вішня.

Далёкую, высокую
Людзям падарую,
А нізенькую, блізенькую
Сам я пацалую.

## 634. ПАВЯНЬ, ПАВЯНЬ, РУТА

— Павянь, павянь, рута,[2]
Божа мілы, у новым агародзе.

— У новым агародзе,
Божа мілы, як мне павянуці.

Як мне павянуці,
Божа мілы, ветрык павявае.

Ветрык павявае,
Божа мілы, дожджык накрапляе.

— Ой, красуйся, дзевачка,
Божа мілы, а ў сваёй мамачкі.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца двойчы.
[2] Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

— А ў сваёй мамачкі,
Божа мілы, як мне красавацца.

Як мне красавацца,
Божа мілы, сваты наязджаюць.

Сваты наязджаюць,
Божа мілы, вяночак здымаюць.

Вяночак здымаюць,
Божа мілы, чэпчык накладаюць.

Чэпчык накладаюць.
Божа мілы, здымаюць бялёвы,

Здымаюць бялёвы,
Божа мілы, накладаюць зялёны.

## 635. ПАСКОЧ, ПАПЛЯШ, ПЕРАПЕЛАЧКА

Паскоч, папляш, перапёлачка.
Перапёлачка мая ды сізенькая мая.[1]

Ды ў перапёлачкі галава баліць.
Галава баліць — платка хочыць.
Ды ў перапёлачкі плечы баляць.
Плечы баляць — кофты хочуць.
Ды ў перапёлачкі ножкі баляць,
Ножкі баляць — сапагоў хочуць.

## 636. ЦАРОУ СЫН, КАРАЛЕВІЧ

Цароў сын, каралевіч,
Пры гораду ходзіць,
Пры гораду ходзіць,
Шапку ў руках носіць.

Пры гораду ходзіць,
Шапку ў руках носіць,
А шапачку носіць,
Нявест выглядае.

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

— Цароў сын, каралевіч,
Ступай сюды ў горад.
Ступай сюды ў горад,
Мілай пакланіся.

Мілай пакланіся,
З мілай абніміся,
З мілай абніміся,
З мілай пацалуйся.

## 637. ЗА ГАРОЮ, ЗА КРУТОЮ

За гарою, за крутою,
Туды ехаў кіеўскі князь.
Там гуляюць тры таночкі,
Тры таночкі, усё дзевачкі.
— Бог, памажы тром таночкам,
Тром таночкам, усё дзевачкам,
Усё дзевачкам мяшчаначкам.
Абмовілася сяляначка:
— На здароўе, кіеўскі князь.
— Узяў бы цябе — не роўня мне,
У майго бацькі палепшы грубы топяць.
Грубы топяць, ваду носяць.

## 638. ПА ВУЛІЦЫ НОВЕНЬКАЙ

Па вуліцы новенькай
Ішоў Ванька маладзенькі,

Ой, лі, ой, люлі,
Ішоў Ванька маладзенькі. [1]

Ішоў Ванька маладзенькі,
Нежанаты, халасценькі.

— Што, Ванька, не жэнішся,
На каго спадзеішся?

---

[1] Прыпеў «Ой, лі, ой, люлі» паўтараецца з другім радком кожнай страфы.

— А мамка старошанька,
А сястра малёшанька.

— Жанісь, жанісь, Ванечка,
Бяры сабе жоначку.

Умную, разумную,
Гожую, прыгожую.

У полі работніцу,
У доме хазяюшку.

## 639. А ЙШОУ-ПЕРАЙШОУ

А йшоў-перайшоў,
Каляда! [1]
Месяц па небу.
А браў-перабраў
Усе звёздачкі.
А выбраў сабе
Ясней за сябе.
Рана ўсходзіць,
Позна заходзіць.
А йшоў-перайшоў
Млады Мішачка.
А браў-перабраў
Усіх дзевачак.
А выбраў сабе
Павышай сябе.
Позна лажыцца,
Кожан дзівіцца.
Рана ўстаець,
Пятух не пяець.

## 640. ВАСІЛЬ МОЙ, ВАСІЛЕЧАК

Васіль мой, Васілёчак,
Да пасадзі мяне ў садочак.
Я ў пятніцу сад садзіла,
У суботу палівала,

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

29. Зак. 1420

У васкрэсны дзень заламала.
Заламаўшы, вянок звіла,
Звіўшы вянок, пашла ў танок.
А ў тым танку мой мілы друг
У гуслі іграець.
Яго гуслі званчастыя,
Яго струны шаўковыя,
Яго смычкі дубовыя.

## 641. СТОЙ, МАЯ РОШЧА

— Стой, мая рошча,
Стой, зеляная.
Стой, мой карагод,
Не расхадзіся.
А ў тым карагодзе
Дзеўка гуляла,
Дзеўка гуляла,
Танок вадзіла,
Перад бацюшкам
Вянок раніла.
— Бацюшка, прайдзі,
Вяночак знайдзі.
Бацюшка прайшоў,
Вянка не знайшоў,

Родненькі прайшоў,
Вянка не знайшоў.
— Стой, мая рошча,
Стой зеляная,
Стой, мой карагод,
Не расхадзіся.
А ў тым карагодзе
Дзеўка гуляла,
Дзеўка гуляла,
Танок вадзіла,
Перад міленькім
Вянок раніла.
— Міленькі, прайдзі,
Вяночак знайдзі.
Міленькі прайшоў,
Вяночак знайшоў.

## 642. У РОЎНЫМ ПОЛІ ЛІПКА СТАЯЛА

У роўным полі ліпка стаяла,
Ліпка ж мая зеляненькая.[1]

Ліпка стаяла, свечка гарэла,
Свечка гарэла, іскрачка пала.
Іскрачка пала, возера стала.
На тым азёры стада вутак плавала,
Селязенькі ніводнага.
Адкуль абраўся сівы селязенька,
Усіх вутак паразганяў,
Адну вутачку сабе ўзяў.
Яна ў яго прасілася:
— Пусці мяне, сівы селязенька,
Мне па моры паплаваці,
З вутачкамі пагуляці.
— Калі пушчу, дык назначу —
Права крылцо ўкарачу.

На вуліцы карагод дзевак,
Малойчыка ніводнага.
Адкуль абраўся малады Пятруська,
Усіх дзевак паразганяў,
Маладую Гэльцю сабе ўзяў.
Яна ў яго прасілася:
— Пусці, пусці, малады Пятруська,
У карагодзе пагуляці,
З дзевачкамі папяяці.
— Калі пушчу, дык назначу —
Тваю коску ўкарачу.

## 643. ШТО З-ПАД ЛЕСУ, ЛЕСУ ЦЕМНАГА

Што з-пад лесу, лесу цёмнага,
Ой, люлі, ой, люлі, лесу цёмнага![2]

Ішлі, прайшлі да два молайцы,
Да два молайцы, парні бравыя,

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.
[2] Прыпеў «Ой, люлі, ой, люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Парні бравыя, кучаравыя.
Яны ішлі, прайшлі, да станавіліся,
За мяне, маладу, пабраніліся.
К ім прышла красна дзевачка,
Стала яна іх ўгаварываць:
— Вы не біцеся, не сварыцеся,
Не сварыцеся, не браніцеся,
Вы па чэснасці разайдзіцеся.
Аднаму каму я дастануся,
А дастануся парню браваму.
Парню браваму, кучараваму,
Бела-румянаму і рачыстаму,
Парню тонкаму і высокаму,
Парню умнаму і разумнаму.

## 644. А ШТО НОНЕШНЯ ЗІМА

А што нонешня зіма
Непагодліва была,
Ўсё круціла, ўсё муціла,
Ўсё мяцеліцу мяла.

Замяла, задула
Ўсе дарожкі, ўсе пуці,
Ўсе дарожкі, ўсе пуці,
Нельга к міламу прайці.
Я дарожку размяту,
Сама к міламу прайду.

Сцялю, сцялю пасцелечку,
Сцялю пухавую,
Каго верна я люблю,
Сем раз пацалую.

## 645. Я, МАЛАДЗЕНЬКА, НЕ УГАДЗІЛА

Я, маладзенька, не ўгадзіла,
Ці было лета, ці не было.

Мамка на вулку не пускала,
У каморачку замыкала.

А ў каморачцы акенечка,
А на акенечку кватэрачка.

А я выб'ю акенечка,
Зірну, гляну на вулачку.

На вулачцы дзеўкі ходзяць,
Дзеўкі ходзяць і гуляюць.

Дзеўкі ходзяць і гуляюць,
А мой нялюбы перад водзіць.

А бадай ён таночку не звадзіў,
Як я вяночку не знасіла.

## 646. У ЛЯВОНА КУЦЦЮ ТАУКУЦЬ

У Лявона куццю таўкуць,
Куць, куць, да куццю таўкуць.
У Лявона вароты завешаны
Сукном, сукном, чырвонаю кітайкаю.

У сераду снег напаў,
А мой мілы з каня спаў.
Як спаў, так і ляжыць,
Пакуль міла прыбяжыць.

А як міла прыбяжала,
За ручаньку прыдзяржала:
— Устань, мілы, не ляжы,
Пайдзі, каня прывяжы.

Сівы коню, сівы, маляваны санкі,
Як сяду, то паеду да сваёй каханкі.
Да ў маёй каханкі смаляныя лаўкі,
Як сеў, так і прыкіпеў.

## 647. У ЛЯВОНА КУЦЦЮ ТАУКУЦЬ

У Лявона куццю таўкуць,
Куць, куць, куць, ой, куццю таўкуць.

У Лявона снег напаў,
А мой мілы з каня спаў.

Як спаў, так і ляжыць,
Пакуль міла прыбяжыць.

А як міла прыбяжала,
Да й за ручаньку ўзяла:

— Устань, мілы, не ляжы,
Ідзі каня прывяжы.

Сівы коню, сівы,
Маляваны санкі.

Як сяду, то паеду
Да сваёй каханкі.

А ў гэтай каханкі
Да смаляныя лаўкі,

Як сеў, прыкіпеў
У сваёй каханкі.

## 648. ШУГІ-ШУГІ, КАМАРЫ

Шугі-шугі, камары,
У Карпіну бараду!

— Мар'ечка-душка,
Вазьмі памяльцо,
Выгань камарцоў.
Шугі-шугі, камары!

## 649. ПАСКАКАЎ ВЕРАБЕЙ ПА ШУМЕТНІЧКУ

Паскакаў верабей па шуметнічку,
Коляда, коляда! [1]

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

І сабраў верабей усю дружыначку.
Не паэваў верабей адной савы.
Гэта сава прыляцела сама,
Села сама на прыпечку,
Як зайграла ў скрыпачку,
Пайшлі госці танцаваці,
Сталі саву частаваці.

## 650. ПАЙДУ Я КАРОЎ ДАІЦЬ

Пайду я кароў даіць,
А за мной Давыд бяжыць.
Кіну я даёначку
Давыду ў галёначку.

— Хоць жа я павалюся,
За Манечкай пагаНюся.
Хоць жа я нагу зламлю,
Я сваю Манечку злаўлю.

## 651. ОЙ, ТАРЫ, ТАРЫ СЯРОД ДАРОГІ

Ой, тары, тары сярод дарогі,
А ў нашага Ванечкі крывыя ногі.
Дайце палачку падпірацiся,
Пайду к Ганначцы заляцацiся.
Чорт яго бяры і з залётамі,
Паставіў каня за варотамі.
Конічак іржэ, пітачкі хоча,
Ганначка плача, замуж не хоча.

## 652. ЗА ГАРОЙ САБАКІ БРЭШУЦЬ

За гарой сабакі брэшуць,
Мой мілы дарогай чэшыць.
Чэшучы, прызастаўся:
На ножцы боцік стаптаўся,
А ў штанах мотуз парваўся.

## 653. ПАГУЛЯЙЦЕ, ДЗЕВАЧКІ

Пагуляйце, дзевачкі,
Лёлі-лялё, красныя. [1]

Пагуляйце ў свайго бацюшкі,
У сваёй роднай матушкі.
Пойдзеце ў чужыя людзі —
Мінецца гулянне,
Дзявоча красаванне.

## 654. ДЗЕУКІ ІГРУШУ САДЗІЛІ

Дзеўкі ігрушу садзілі,

А я, малада, скачу, пляшу,
А я, маладзенька, гуляю.[1]

Дзеўкі ігрушу палівалі:
А ўжо ігруша прынялася,
А ўжо ігруша зацвіла,
А ўжо ігруша даспела,
А ўжо ігрушу пара трэсці,
А ўжо ігрушу пара есці.

## 655. САБІРАЛІСЯ ДЗЕУКІ

Сабіраліся дзеўкі
Да к пану ў пасядзелкі.

Дунай мой, Дунай,
Ціхі, разліўной.[2]

Да складаліся дзеўкі
Да ўсе па капейцы.

Да купілі быка,
Да яны трэцяка.

А каму быка біць,
А каму быка лупіць.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

## 656. ПАЙШЛІ БАБЫ, ДЗЕУКІ ДЫ УСЕ У ПАСЯДЗЕЛКІ

Пайшлі бабы, дзеўкі ды ўсе ў пасядзелкі,

Дунай мой, Дунай, ціханькі Дунай. [1]

Злажыліся дзеўкі ды ўсе па капейкі.
Купілі ж ба дзеўкі быка-траццяка.
Івану купляць, Ягору дзеньгі даць.

## 657. ПОЙДЗЕМ, ДЗЕВАЧКІ

Пойдзем, дзевачкі,
А ў нашлежачкі.

А Дунай мой, Дунай,
Дунай ціхенькі.[2]

Скінем, дзевачкі,
Па капеечкі.

Купім, дзевачкі,
Бычка-трацячка,

Будзем гаварыць,
Каму быка купляць?

Карпу таргаваць,
Гаўрыле купляць,

Івану плаціць,
Ціту грошы лічыць,

Максіму быка весць,
Івану паганяць,

Дзям'янку звязаць,
Трахімёнку рэзаць.

Паўлюку лупіць,
Максіму шкуру вешаць,

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Наўмену шастоў даставаць,
Васілю прывязаць,

Раману біркаваць,
Аўдакіму раздаваць,

Панасу шкура:
Яго не крыта пуня.

Антону лёгка:
Яго жонка дрогка.

Піліпу почкі:
Яго красны дочкі.

Паўлюку кішкі:
У яго ўсе кніжкі.

Твайму бацьку вока:
Глядзіць у чарку глыбока.

А Грышку ногі:
Жывець ля дарогі.

Бандысю трыбух:
У гарэлцы пратух.

Петрыку рабро:
Любіць чужое дабро.

Мікалаю печань:
Чалавек ён не дужа рэчань.

Ягору вочкі:
Ён ходзіць па ночкі.

Ляксандру галава:
Яго матка ўдава.

## 658. ЗАПРАГУ Я БУГАЯ, КУДЫ ЛЮДЗІ, ТУДЫ Й Я

Запрагу я бугая, куды людзі, туды й я,

Да гаю-гаю, куды людзі, туды й я. [1]

---

[1] Прыпеў «Да гаю-гаю» паўтараецца з другой часткай кожнага радка

Да насяку ж я да вазок пруцця.
Загараджу агарод на чатыры вуглы.
Да ў першым вугле пасею я моркву,
А ў другім вугле да пасею бурака,
А ў трэцім вугле да пасею пастарнак,
А ў чацвёртым вугле да пасаджу рэпу,
Сярод агароду — чырвону рожу,
Каму тая маркоў? Да Марцінку маркоў.
І ў хату йдзе — скрабецца, і з хаты йдзе — скрабецца.
Каму этат бурачок? Да Кіліпку бурачок.
І ў хату йдзе чырвоны, і з хаты йдзе чырвоны.
Каму эта пастарнак? Да Яўхіму пастарнак.
І ў хату йдзе — пастаіць, і з хаты йдзе — пастаіць.
Каму тая рэпа? Да Паўлюку рэпа.
І ў хату йдзе—лупіцца, і з хаты йдзе—лупіцца.
Каму тая рожа? Да Івану рожа,
Каб я яму была да дзевачка гожа,
Да гаю-гаю, да дзевачка гожа.

## 659. А КУРЫЦА, КУРЫЦА

А курыца, курыца

Канаплістая! [1]

— А й дзе ж цябе, курка,
Ды карміць будзем?

— А карміце мяне
А ў Юлькі на дварэ.

— А й дзе ж цябе, курка,
Ды паіць будзем?

— А паіце мяне
А ў Карпіных на дварэ.

— А дзе ж ты, курка,
Начаваць будзеш?

— Заначую, заначую
А ў Гаўрылы на дварэ.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

— А й дзе ж цябе, курка,
Ды мы рэзаць будзем?

— А зарэжце мяне
А ў Пархвіра на дварэ.

— А й дзе ж цябе, курка,
Ды мы скусць будзем?

— Абскубіце мяне
А ў Дзёменка на дварэ.

— А й дзе ж цябе, курка,
Ды смаліць будзем?

— Абсмаліце мяне
А ў Паўлюка на дварэ.

— А й дзе ж цябе, курка,
Патрашыць будзем?

— Патрашыце мяне
А ў Івана на дварэ.

— А й дзе ж цябе, курка,
Ды мы мыць будзем?

— А памыйце мяне
А ў Марфы на дварэ.

— А й дзе ж цябе, курка,
Рассякаць будзем?

— Рассячыце мяне
А ў Максіма на дварэ.

— А й дзе ж цябе, курка,
Ды ў гаршкі класць будзем?

— Пакладзіце мяне
А ў Івана на дварэ.

— А й дзе ж цябе, курка,
Наліваць будзем?

— Налівайце мяне
А ў Сахвана на дварэ.

— А й дзе ж цябе, курка,
Ды саліць будзем?

— А саліце мяне
А ў Касцюка на дварэ.

— А й дзе ж цябе, курка,
Ды варыць будзем?

— А варыце мяне
У Міронкі на дварэ.

— А й дзе ж цябе, курка,
Ды цягаць будзем?

— А цягайце мяне
У Іллі на дварэ.

— А й дзе ж цябе, курка,
Ды крышыць будзем?

— А крышыце мяне
А ў Наўмена на дварэ.

— А й дзе ж цябе, курка,
А мы есці будзем?

— Ах і ешце мяне
А ў Васіля на дварэ.

— А й дзе ж твае, курка,
Костачкі раскідаць будзем?

— Раскідайце мяне
А ў Максіма на дварэ.

А вы мяне раскідайце
І ў ладачкі папляскайце.

А курыца, курыца
Канаплістая.

## 660. ІВАНЬКА ПАПОЎ

Іванька папоў
Па вадзіцу пашоў,
Па вадзіцу пашоў,
Маладзіцу нашоў.

У Цярэшкі бяда стала,
З кім яго жана спала
Пад гаем зеляненькім,
З малайцом маладзенькім?

А ты ж мой дзедзечка,
А ты ж мой лябедзечка,
Пасядзі ты ў кутку,
Пакуль я кросны вытку.

Адрэжу кашулечку
Тонка-танюсеньку,
Тонка-танюсеньку,
Бела-бялюсеньку.

Будзем жаніціся,
Будзем весяліціся,
Піва нагонім
І гасцей назавём.

## 661. ПІЛІПКУ, ЗАТНІ ЛІПКУ

— Піліпку, затні ліпку [1]
Дзіцяці на калыску.

— Не буду ліпку цяці
Для чужога дзіцяці!

— Піліпку, тваё, тваё,
На цябе падобнае.

І лічанька такое,
Бо мы спалі абое!

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

## 662. ЧУБАЦЕНЬКІ ВЕРАБЕЙ

Чубаценькі верабей да
На калочку сядзіць,
На калочку сядзіць,
На капусту глядзіць.

На калочку сядзіць,
На капусту глядзіць.
То на мак, то на мак,
То на канапелькі.

То на мак, то на мак,
То на канапелькі,
Няўдалая на работу,
То на пагулянкі.

Няўдалая на работу,
То на пагулянкі,
Прагуляла лета,
Прагуляла зіму.

Прагуляла лета,
Прагуляла зіму,
Напроціў ворага
Сабрала я сілу.

Ой, напроціў ворага
Сабрала я сілу,
На калочку сядзець,
Праз каноплі глядзець.

Ой, на калочку сядзець,
Праз каноплі глядзець,
Як каноплі выбіралі,
Так і ляхі прапалі.

## 663. ОЙ, ЖАУНЕРУ, ЖАУНЕРУ

— Ой, жаўнеру, жаўнеру,
Да прыедзь у нядзелю,
Ой, не ў тую, у гэтую,
Кашкі з маслам згатую.

— Кашкі з маслам не хачу,
Гарэлачкі не люблю.
Гарэлачка горка —
Не чужая жонка.
— Любі мяне самую,
Што я цябе шаную.
А пад мостам рыба з хвостам,
Вадзіца не лее.
Харошая дзяўчоначка
Рабіці не ўмее.
Рабіць не прыбіць,
Жаці не нагнецца,
Як убачыць казачэнька,
Як не разарвецца.
Гоп!

## 664. ПАЕДЗЕМ, ДЗЕТКІ

Паедзем, дзеткі,
К бабцы ў госці,
Паедзем.
Паедзем, паедзем,
Засядзем, засядзем.

Мой муж — на куце,
Я, малада,— ля яго,
Дзеткі — ў парозе,
Будзем піць,
Будзем піць.

Мой муж — піўцо,
Я, малада,— вінцо,
Дзеткі — гарэлку.
Будзем піць, будзем піць,
Будзем есць, будзем есць.

Мой муж — буханы,
Я, малада,— пірагі,
Дзеткі — ладачкі.
У гасцях у бабачкі
Будзем есць, будзем піць.

## 665. ПАЕДЗЕМ, ПАЕДЗЕМ

Паедзем, паедзем!
Паедзем, паедзем!
Мой муж — на кані,
Я, малада,— на кабыле,
Дзеці мае — на карове,
Паедзем, паедзем!

Паедзем, паедзем!
Паедзем, паедзем!
Мой муж — к цесцю ў госці,
Я, малада,— да к татульку,
Дзеці мае — да к дзядульку,
Паедзем, паедзем!

Сядзем мы, сядзем мы,
Сядзем мы, сядзем мы.
Мой муж — на куце
Я, малада,— подле яго,
Дзеці мае — подле мяне,
Сядзем мы, сядзем мы.

Будзем есць, будзем есць,
Будзем есць, будзем есць.
Мой муж — парасяцінку,
Я, малада,— да цяляцінку,
Дзеці мае — да курацінку,
Будзем есць, будзем есць.

Будзем піць, будзем піць,
Будзем піць, будзем піць.
Мой муж — вінцо,
Я, малада,— піўцо,
Дзеці мае — салодкі мёд,
Будзем піць, будзем піць.

## 666. ЯК ПАЕДЗЕМ, ПАЕДЗЕМ

Як паедзем, паедзем.
Мой муж — к цесцю,
А я, малада,— к бацьку,
Дзеці мае — к дзеду.

А як сядзем мы, сядзем.
Мой муж — на куце,
А я, малада,— ля яго,
Дзеці мае — ля мяне.

А як вып'ем мы, вып'ем.
Мой муж — гарэлачкі,
А я, малада,— піўца,
Мае дзеці — вінца.

Як зайграем, зайграем.
Мой муж — у дуду,
Я, малада,— у трубу,
Дзеці мае — ў скрыпкі.

Як заскачам, заскачам.
Мой муж — гусака,
Я, малада,— чужака,
Дзеці мае — польку.

Як паб'ёмся мы с табой.
Муж жану пад руку,
Дзеці ў рукі палку,
— Аддай нашу мамку...

## 667. ПАЕДЗЕМ, МОЙ МУЖ — К ЦЕСЦЮ

Паедзем,
Мой муж, — к цесцю,
Я, малада,— к мамцы,
А дзеткі — к бабцы,
Паедзем.

І пасядзім,
Мой муж — на куце,
Я, малада,— проціў печы,
А дзеткі — на загнеце,
І пасядзім.

Нап'ёмся,
Мой муж — вінца,
Я, малада,— піўца,
А дзеткі — кваску,
Нап'ёмся.

Надзьмёмся,
Мой муж — мяшком,
Я, малада,— торбаю,
Дзеткі — мяшэчкам,
Надзьмёмся.

## 668. АД КУТУ ДА КУТУ ДЫ УСЕ ЖАНІШКІ

Ад куту да куту ды ўсё жанішкі,
Добры вечар добрым людзям.[1]

Сядзіць на куце ў белым кажусе,
Да прышла Дунячка, кажа: тут жа і мой,
Сядзіць на заслонцы, лічыць чырвонцы.
Прышла Аксінка, кажа: тут жа і мой,
Сядзіць на прыпечку, грае ў скрыпачку.

## 669. СЯДЗІЦЬ НА КУЦЕ У БЕЛЫМ КАЖУСЕ

Сядзіць на куце ў белым кажусе,

Святы вечар добрым людзям! [1]

Прышла Вулечка, кажа: тут і мой,
Лезе з-пад куту, цягне ласкуту.
Прышла Валечка, кажа: тут і мой,
Лезе з-пад мосту, цягне бяросту.
Прышла Хвядора, кажа: тут і мой,
Лезе з-пад лаўкі, цягне караўкі.

## 670. ДА НУ, ДА НУ, СТАРЫ

— Да ну, да ну, стары, чаму не жэнішся?
Да ну, да ну, стары, не жэнішся,
Прыдзе зіма, дзе ты дзенешся?
Да ну, да ну, дзе ты дзенешся?
— На печку папруся, у кручок сагнуся.
Прытулюся да печкі — печка пячэцца,

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Прытулюся да котачкі — котачка дзярэцца.
Я старой не хачу, малада не пойдзе,
Калі яна пойдзе, то любіць не будзе.

## 671. ПАЙДУ Я ЦЯРЭШКУ ЖАНІЦЬ

Пайду я Цярэшку жаніць,
Аж мая галоўка й баліць,
Аж мае ручачкі лянуць
Не магу на дзеда глянуць.

— Дайся, дзядулька, дайся,
На чужых не спадзявайся.
Як у лузе асінка горка,
Так табе чужая жонка.

## 672. ЦЯРЭШКА

Ай, божа мой, якая бяда —
Далі мне старога дзеда.

Ў лапцікі абуўшыся,
Ў кручочак сагнуўшыся.

Ані з ім у пір пайці,
Ані з ім дома быці.

Дома быці — сварыціся,
Ў пір паехаць — пабіціся.

## 673. БОЖА МОЙ, ВЯЛІКА БЯДА

Божа мой, вяліка бяда,
Далі мне старога дзяда:
Ні мне яго спавіваці,
Ні мне яго калыхаці.
Як стану спавіваці,
Ён мяне абнімаці.
Як стану калыхаці,
Ён мяне цалаваці.

## 674. НА ВУЛІЦЫ СКРЫПКА ІГРАЕЦЬ

На вуліцы скрыпка іграець,
Мяне стары дзед не пускаець.
Пайду я памалюсеньку,
Каля яго паціхусеньку.
А за мной стары дзед ідзець,
У руках вяроўку нясець.
— Не біся, дзедзя, ніколі
Не пайду без тваёй волі.

## 675. ЦЯРЭШКА

Цярэшка — святое дзела,
Далі мне старога дзеда,
Не ўмеець Цярэшку жаніць,
Не ўмеець бабульку лавіць.

Не ўцякай, дзядулечка,
Не ўцякай, зязюлечка.
Хоць жа я павалюся,
За дзедкам паганюся.
А хоць жа я ножку зламлю,
Я ж сабе дзядульку злаўлю.

*(Як пажэнюць пару, спяваюць):*

Кацілася калясо з клеці,
Ой, жывіце харашо, дзеці.

## 676. МОЙ ДЗЕДЗЬКА ПАПУЦЬ, ПАПУЦЬ

Мой дзедзька папуць, папуць,
Вялікі пархуць, пархуць:
Не ўмеець скоранька хадзіць,
Не ўмеець бабачкі лавіць.
— Хоць жа я й павалюся,
За бабай паганюся,
Хоць жа я ножачку зламлю,
А я сваю бабачку злаўлю.

## 677. БЕЛА РУТАНЬКА НА АКНЕ

Бела рутанька на акне
Ды няровен, дзядулька, ты мне:
Ты росту вышэйшага,
Гонару важнейшага.
Ды дайце ж мне рутаньку зняць,
Ды ж дайце мне дзядульку абняць.

## 678. НЕ ЎЦЯКАЙ, ДЗЕДЗЯ-ЛЯБЕДЗЯ

Не ўцякай, дзедзя-лябедзя,
Нап'ёмся піва па абедзе.
Не ўцякай, дзядулечка,
Я ж твая бабулечка.

## 679. ЦЯРЭШКА

— Цярэшка, чаху-чаху,
Што ў цябе ў мяху, ў мяху?

— Шпілечкі, іголачкі,
Златыя пярсцёначкі.

Цярэшку бяда стала,
З кім яго жана спала?

Пад гаем зялёненькім
З казаком малодзенькім.

## 680. ЕДЗЕ, ЕДЗЕ ЖАЛІМОН

Едзе, едзе Жалімон,
Едзе, едзе яго брат,
Едзе, едзе ўсенька
Жальманова дружына.
Быць гасцям, быць. [1]

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

— Па што едзе Жалімон,
Па што едзе яго брат,
Па што едзе разам
Жальманова дружына?

— Па паненку Жалімон,
Па паненку яго брат,
Па паненку з імі
Жальманова дружына.

— Па катору Жалімон,
Па катору яго брат,
Па катору ўсенька
Жальманова дружына?

— Па Марыльку Жалімон,
Па Марыльку яго брат,
Па Марыльку ўсенька
Жальманова дружына.

— Не дам панны, Жалімон,
Не дам панны, яго брат,
Не дам панны, ўсенька
Жальманова дружына.

— Бяры панну, Жалімон,
Бяры панну, яго брат,
Бяры панну, ўсенька
Жальманова дружына.

## 681. ЯШЧАР

Сядзі, сядзі, яшчар,
Гэй, нам, гэй! [1]

На залатым крэсле,
На ліпавым дзенцы,
У руцяным венцы.
Бяры сабе панну,
Каторую хочаш,

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Каторую любіш:
Ці ту, што ў панчошках,
Ці што ў чаравічках,
Ці за русу коску,
Ці за белу ручку.

Яшчар салгаў,
Панну не ўзяў:
Ні ту, што ў панчошках,
Ні што ў чаравічках,
Ні за русу коску,
Ні за белу ручку.

Сядзіць яшчар на куце,
Дзяржыць вянок на руцэ.
А яшчэ, паночак,
Проша мне аддаць вяночак.
Я па расе хадзіла,
Па красачцы збірала,
У вяночак звівала.

## 682. ВУТКА ЙДЗЕ, ДЗЕТКІ ВЯДЗЕ

Вутка йдзе, дзеткі вядзе.
— Дзе, вутка, дзеткі падзела?
— У сіні Дунай патапіла.
— Чаму сама не ўтанула?
— За травінку хапалася,
За беражок трымалася.

## 683. ПАМРУ, МАЦІ, ПАМРУ

Памру, маці, памру,
Спра ўдавіную дачку.
— Не ўмірай жа, мой сыночак,
Праз удавіную дачку.
А пастаў, мой сыночак,
Сярод двара баню,
Ці не прыдзе любімая —
Тая дачка ўдавіная.

А ўсе людзі прышлі,
Памыліся і пашлі.
Няма тае любімае —
Тае дачкі ўдавінае.

Пампу, маці, пампу,
Спра ўдавіную дачку.
— Не ўмірай, мой сыночак,
Спра ўдавіную дачку.
Ой, капай, мой сыночак,
Сярод двара калодзеж,
Ці не прыдзе любімая —
Тая дачка ўдавіная.
А ўсе людзі прышлі,
Ваду бралі, пашлі.
Няма мае любімае —
Тае дачкі ўдавінае.

— Пампу, маці, пампу,
Хоць на 'дзін часочак,
А ўсе людзі прышлі,
Падзівіліся, пашлі.
Прышла тая любімая —
Тая дачка ўдавіная.
Мярцвец з лаўкі схваціўся
І за шыю ушчапіўся.
— Ой, цяпер жа, мая маці,
Паедзем вянчацца.

## 684. МЕЛА МАМКА ТРЫ СЫНОЧКІ

Мела мамка тры сыночкі,

Ой, калядо-калядэц! [1]

Сталі яны ранесенька,
Умыліся бялесенька,
Узялі яны па конейку,
Паехалі да Віль-места
Выбіраці тры нявесты.

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Пішуць лісты да мацёнкі.
Рада мамка гэтым лістам,
Гэтым лістам, тром нявестам.
Рада была парадзіўшы,
Шчэ й радзейша пажаніўшы.

## 685. УЗЫШЛО, УЗЫШЛО ТРЫ МЕСЯЦЫ

Узышло, узышло тры месяцы,
Гэй, каляда, каляда! [1]

Тры месяцы, ўсе тры ясны.
Было ў маткі тры сыночкі,
Паўставалі, паўмываліcь,
Паехалі аж на места.
А на месце тры таночкі,
Тры таночкі, ўсе дзявочкі:
Адзін любіць берасцянку,
Другі любіць кабрынянку,
Трэці любіць камяньчанку.

## 686. ЕЗДЗІЎ ХЛОПЕЦ ЗА РЭЧАНЬКУ

Ездзіў хлопец за рэчаньку,
Эй, каляда! [1]

Найшоў хлапчына падаляначак.
Падаляначкі — тры паненачкі:
Адна паненка ўся ў золаце,
Другая паненка ўся ў серабры,
А трэцяя уся ў ядвабе.
Вам, дзяўчаткі, песня спета,
Песня спета да супроць лета,
Каб вялікі раслі ды замуж пайшлі,
Бацьку, матку да вяселлем страслі.

## 687. ЦЕРАЗ ГОРАЧКУ — ТРЫ СЦЕЖАЧКІ

Цераз горачку — тры сцежачкі,
Ішлі туды тры дзевачкі:

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Адна ішла ў золаце,
Другая — у аксаміце,
Трэцяя — у розуме.
Што ў золаце, то Васількова,
Што ў аксаміце, то Максімкава.
Што ў розуме, то Янечкіна.
Я золата хоць прыпазычу,
Аксаміту хоць прыкуплю,
А розуму ані ўцяць, ані ўзяць.

## 688. ЛЯТАЛА ПАВА ПА БАЛОТУ

Лятала пава па балоту,
Звіла гнездзечка з пералёту,
Знясла тры яечкі,
Сядзела тры нядзелькі,
Выседзела тры галубкі,
Не галубкі, а дзевачкі.
Адна дзевачка — Настулька,
Другая дзевачка — Ганулька,
Трэцяя дзевачка — Анелька.

Лятала пава па балоту,
Звіла гнездзечка з пералёту,
Знясла тры яечкі,
Сядзела тры нядзелькі,
Выседзела тры галубкі,
Не галубкі, а хлопчыкі.
Адзін хлопчык — Язэпка,
Другі хлопчык, то Андрэйка,
Трэці хлопчык, то Антоська.
Малада Настулька — Язэпу,
Малада Ганулька — Андрэйку,
Малада Анелька — Антоську.

## 689. ЛЯЦЕЎ КАРШУНІШЧА

Ляцеў каршунішча,
Каляда! [1]

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Цераз папялішча,
Відзеў курак стаду.
А ён жа лятаіць,
Курак выбіраець.
— А каб жа я ведаў,
Якая мне будзіць.
Што белае скрылле —
Лятучая курка,
Што жоўтыя ножкі —
Нясушчая курка,
А што ў чубочку —
Тая каршуночку.
А каб жа я ведаў,
А што мая будзіць,
Я б ножкамі браў бы,
На скрыллейку нёс бы.
А нёс бы я, нёс бы
Аж у роўна поле,
У сваё гняздзечка.
А ў новых сенях,
Там карагод дзевак,
А ў тым карагодзе,
Там Валодзька ходзіць,
Дзевак выбіраіць.
— А каб жа я ведаў,
Якая мне будзіць.
Што сінія вочкі —
Драмлівая дзеўка,
Што белыя ручкі —
Лянівая дзеўка,
Што чорныя броўцы —
Рабочая дзеўка.
А каб жа я ведаў,
Што маёю будзіць,
На коніку вёз бы,
А вёз бы я, вёз бы
Аж у роўна поле,
Аж у роўна поле,
У сваё падвор'е.

## 690. АБЛЯЦЕЎ КАРШУН

Абляцеў каршун,
Каляда! [1]

Кругом сяла,
Стаў ён выглядаці,
Каторую ўзяці.
Што белыя ножкі —
Тая нясушчая,
Што тоўстыя скрылцы —
Тая лятушчая,
А што ў чубочку —
Тая каршуночку.

Абляцеў Васілёк
Кругом сяла
Да знайшоў жа ён
Карагод дзевак.
Стаў ён выглядаці,
Каторую ўзяці.
Што сінія вочкі —
Тая драмлівая,
Што белыя ручкі —
Тая лянівая,
А што ў вяночку —
Тая Васілёчку.

## 691. АЙ, НІХТО ТАМ НЕ БЫВАЎ

Ай, ніхто там не бываў,
Гдзе зялёны ягор зацвітаў,

Ягор, ягор, ягорачка,
Ягорачка зеляненькі! [2]

Толькі бывала
Чатыры заранка:

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Перва заранка —
Малада Ганулька,

Друга заранка —
Малада Гапулька,

Трэцця заранка —
Малада Хоўрачка,

Чацвёрта заранка —
Малада Аўдулька.

А ніхто там не бываў,
Гдзе зялёны ягор зацвітаў.

Толькі бывала
Чатыры мясёнцы:

Первы мясёнчык —
Малады Іванька,

Другі мясёнчык —
Малады Якімка,

Трэцці мясёнчык —
Малады Ляксейка.

Чацвёрты мясёнчык —
Малады Васілька.

А Ганулька-кветка —
Усё Іванькава дзеўка,

А Гапулька-кветка —
Усё Якімкі дзеўка,

А Хоўрачка-кветка —
Усё Ляксея дзеўка,

А Аўдулька-кветка —
Усё Васількі дзеўка.

## 692. ПРАЛА ДЗЕВАЧКА НА ЛЕДУ ХУСТКІ

Прала дзевачка на лёду хусткі.

На лёду, на лёду-лёду, на ледаўніцы ў крыніцы.[1]

Ой, яна прала ды й пагубляла на лёду.
Пайшоў татачка хустак шукаці.
Татачка прыйшоў, хустак не знайшоў.
Пайшоў міленькі хустак шукаці.
Міленькі прыйшоў, хустачкі знайшоў.

## 693. ПРАЛА ГАННАЧКА НА ЛЁДУ ХУСТКІ

Прала Ганначка на лёду хусткі,

На лёду, на лёду-лёду, на ледаўніцы, у крыніцы.[1]

Ой, яна прала да й пагубляла.
Пайшоў татачка хустак шукаці.
Татачка прыйшоў, хустак не знайшоў.
Прыйшла мамачка хустак шукаці,
Мамачка прыйшла, хустак не знайшла.
Пайшоў міленькі хустак шукаці,
Міленькі прыйшоў, хустачкі знайшоў.

## 694. СТУК, СТУК ПА ЛАЎКАХ

Стук, стук па лаўках,
Гляну па дзеўках.
А ўсе дзевачкі, а ўсе дзевачкі
Белы, румяны, белы, румяны.
Адна дзевачка, адна дзевачка
Ды не ўмываха, ды не ўціраха.
Грышачка едзе, Грышачка едзе,
Брус мыла вязе.
— На, Галечка, на, Галечка,
Беленька ўмыйся, хустай утрыся.

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

## 695. СТУКУ-ГРУКУ КАЛЯ КЛЕТАЧКІ

Стуку-груку каля клетачкі, [1]
Да чые ета каназобачкі,
Чые коні да няпоеныя?
Іванкавы да няпоеныя,
Сам ён да на лёд пайшоў.
Яна чыкель-чыкіляючы,
Яна чыкель-чыкіляючы
Да Іванку даганяючы.

## 696. ОЙ, ДА ЛЮЛІ, УСТАВАЙЦЕ, БАЯРЫ

Ой, да люлі,
Уставайце, баяры,

Ой, да люлі! [2]

І бярыце тапары,
А пойдзем у пушчу,
А высечам хату
На чатыры углы.
А на першым угле,
Да пасеем мяту,
А на другім угле
Да пасеем руту,
А на трэцім угле
Да пасеем рожу,
На чацвёртым угле
Да пасеем рэдзьку.
Ай, да Стаську — мята,
Туды едзіць — пахніць,
Адтуль едзіць — пахніць.
А Янаку — руту,
Туды едзіць — зялёна,
Адтуль едзіць — зялёна.
А Адамку — рожа,
Туды едзіць — чырвона,
Адтуль едзіць — чырвона.

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

А Язэпку — рэдзька,
Туды едзіць — горка,
Адтуль едзіць — з жонкай.

## 697. ОЙ, НАД НАШЫМ СЯЛОМ ДА ТРЫ ЗОРКІ УЗЫЙШЛО

Ой, над нашым сялом да тры зоркі ўзыйшло:
Ой, первая зорка — Хведаркова жонка,
А другая зорка— Васількова жонка,
А трэцяя зорка — Андрэйкава жонка.
Ой, Хведарка едзе і цароўну вязе,
А цароўна плача: на цароўства хоча.
А Васілька едзе — каралёўну вязе,
Каралёўна плача: на кралёўства хоча.
А Андрэйка едзе і папоўну вязе,
Папоўна плача: на папоўства хоча.
Яе коскі бразь, бразь! З яе слёзкі кап, кап!

## 698. НА ВУЛІЦЫ ДЗІВА

На вуліцы дзіва,
На шырокай жа дзіва:
Навварыў чарнец піва,
Навварыў зеляного,
Без аўса, без ячменю,
Без ярага хмелю.
Уступіла хмялінка
У маю буйну галоўку:
Вой, нядьзя мне сагнуцца,
Вой, нядьзя здрыгануцца,
Чарнец мой, чарнец,
Чарнец маладой!
На вуліцы дзіва,
На шырокай жа дзіва:
Наварыў чарнец піва,
Наварыў зеляного,
Без аўса, без ячменю,
Без ярага хмелю.
Уступіла хмялінка
У маю серадзінку:

Вой, нялъзя мне сагнуцца,
Вой, нялъзя здрыгануцца,
Чарнец мой, чарнец,
Чарнец маладой!

## 699. НАВАРЫУ ЧАРНЕЦ ПІВА

Наварыў чарнец піва,
Без аўса, без ячменю,
Чарнец мой, чарнец,
Чарнец маладой!
Без аўса, без ячменю,
Без ярага хмелю.
Я хмель разлівала,
Хмяліну разлучала.
Ударыла хмялінка
Мяне ў серадзінку —
Нялъзя шавяльнуцца,
Нялъзя здрыгануцца,
А я шавяльнуся,
А я здрыгануся.

## 700. ДА ПАСЕЯУ ДА КАЗЕЛ ЖЫТА

Да пасеяў да казёл жыта
На нямецкаму полі.
— Ой, козле, мой козле,
Да хто тваё жыта пажне,
Чы баран, чы авечка, чы красная дзеўка?
— Не баран, не авечка, не красная дзеўка,
Ёсць у мяне матка блізка
І пажне жыта нізка,
Да і ў копачкі складзе,
І ў гуменца звязе.
Да ўжо козла ўбіта,
Чаравічкі пашыта.
— Да аб чом ані дарагія?
— Па чатыры залатыя.

## 701. У ПАПА, У ПАПА

У папа, у папа
Стаяла вярба, каляда! [1]

А на той вярбе
Дзікая каза.

Прышоў да яе
Сівы ваўчышча,

Сівы ваўчышча,
Доўгі хвасцішча.

— Ой мы, козанька,
Апытаймася з табою.

Апытаўшыся,
Пажанемася са мною.

То я зубкамі
Дравец насяку,

Я й ушыцамі
Вады прынясу,

А я хвосцікам
Печку вымету,

А я язычком
Папечку ўсаджу,

А я, козанька,
Табе дагаджу.

## 702. У ЧЫСТЫМ ПОЛІ ВЯРБА СТАІЦЬ

У чыстым полі вярба стаіць,
Каляда, каляда! [2]

---

[1] Другі радок кожнай страфы з прыпевам «Каляда» паўтараецца двойчы.
[2] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

А на вярбе каза сядзіць,
А пад вярбой ваўчок стаіць.
— А злезь, каза,
Размовімся, разгаворымся.
— А што ж у цябе, воўча, хвост бахматы?
— Я ў караля печ вымятаў.
— А што ў цябе, воўча, ножкі-качарыжкі?
— Я ў караля жар заграбаў.
— А што ў цябе, воўча, язык, як лапата?
— Я ў караля пірагі садзіў.
— А што ў цябе, воўча, вочы блішчаць?
— Я ў каралая грошы шчытаў.

## 703. А ВОУК ПАД ЛАЗУ, А КАЗА НА ЛАЗУ

А воўк пад лазу, а каза на лазу,
Каляда, каляда! [1]

— Ты козанька, ты шэрая, ты злезь з лазы,
Не бойся мяне, не з'ем цябе.
— Далоў не палезу, ты, воўча, з'ясі мяне.
Зачым у цябе, воўча, лапы шырокія?
— Я ў караля быў, жар заграбаў.
— Што ў цябе, воўча, хвост, як памяло?
— Я ў караля быў, печы мёў.
— Што ў цябе, воўча, язык шырок?
— Я ў караля быў, пірагі пёк.
— Што ў цябе, воўча, вочы ясны?
— Я ў караля быў, свечы паліў.
Ты злезь, каза, з лазы далоў.
— Не палезу, воўча, з'ясі мяне.

## 704. ЧАМУ У ЦЯБЕ, ВАУЧОК, ЛАПКІ ДОУГІ?

— Чаму у цябе, ваўчок, лапкі доўгі?
Каляда, каляда! [1]

— У караля служыў, дровы насіў.
— Чаму ў цябе, ваўчок, язычок тонак?

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

— У караля служыў, паўміскі мыў!
— Чаму ў цябе, ваўчок, хвасток доўгі?
— У караля служыў, пакоі мёў,
Пакоі мёў, палы падмятаў.

## 705. У КАНЦЫ БОРУ ВЯРБА СТАІЦЬ

У канцы бору вярба стаіць,
Каляда, каляда! [1]

На той вярбе кот сядзіць.
Прышоў да яго шэры воўча.
— Злазь, кошка, патанцуем трошка.
— Не палезу, воўча,
Твае жарты нялюдскі.

## 706. ЗА МХОМ, ЗА МХОМ НА ПОЖАНКІ

За мхом, за мхом на пожанкі,

Коляда, коляда! [1]
Зялёная жабка кросны ткала.
Прышоў жа к ёй чорны а рачак.
— Ды й спех табе, зялёная жабка.
— Спасіба табе, чорны а рачак.
— Што ж у цябе, жабка, нітачкі рвуцца?
— Што ж у цябе, рачак, вусікі дмуцца?
— Што ж у цябе, жабка, ножкі кароткі?
— Што ж у цябе, рачак, вочкі іззаду?
Зялёнаю жабку калясом сатруць,
Чорнага рачка рыбакі з'ядуць.

## 707. ЗА МХОМ, ЗА МХОМ, ЗА БАЛОЦЕЧКАМ

За мхом, за мхом, за балоцечкам,
Каляда! [1]

---

[1] Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

Зялёная жабка кросны ткала.
А прышоў к ёй чорны а рачык.
— Бог помач, табе, зялёная жабка!
— Дзякуй табе, чорны а рачык!
— Цябе, зялёная жабка калёсамі затруць.
— А цябе, чорны а рачык, папы з'ядуць,
На тарэлачках, на відэлечках разнясуць.

## 708. ІШЛА-ПАЙШЛА СІВАЯ СВІННЯ

Ішла-пайшла сівая свіння,

Кугі-кугі, сівая свіння. [1]

Аж пад дубы, у жалуды.
Спаткалася з шэдзінькім ваўком.
— Куды ідзеш, сівая свіння?
— Іду пад дубы, у жалуды.
— І я ж табе за таварыша.
— А божа ж мой, не хочацца,
Быць маёй шэрсці рассыпанай,
Быць маёй крыві разлітаю,
Быць маім дзеткам сіротачкамі.

## 709. ІШЛА-ПАШЛА СІВАЯ СВІННЯ

Ішла-пашла сівая свіння,
Кугі-кугі, сівая свіння.[1]

Аж пад дубы, у жалуды.
Спаткалася з шэдзінькім ваўком.
— Куды ідзеш, сівая свіння?
— Іду пад дубы, у жалуды.
— І я ж табе за таварыша.
— А божа ж мой, не хочацца.
Быць маёй шэрсці рассыпанай,
Быць маёй крыві разлітаю,
Быць маім дзеткам сіротачкамі.
Ішла-пашла млада Ганулька,

[1] Прыпеў «Кугі-кугі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Люлі-люлі, млада Ганулька.[1]
На высок цяром касу часаць.
Спаткалася з маладым Міколкам.
— Куды ідзеш, млада Ганулька?
— А я іду на высок церамок,
На высок церамок касу часаць.
— І я ж табе за таварыша.
— Ай, божа ж мой, не хочацца.
Быць майму ліцу заплаканаму,
Быць маёй косцы растрэпанай,
Па белых плечках папушчанай.

## 710. ІШЛА-ПАШЛА СІВАЯ СВІННЯ

Ішла-пашла сівая свіння,
Кугі-кугі, сівая свіння.[2]

Спаткалася з шэдзінькім ваўчком.
— Куды пойдзеш, сівая свіння?
— Пайду, пайду ў зялёны луга.
— А я табе за таварыша.
— Ой, божа ж мой, не хочацца.
— А й быць табе, сівой свінні,
Із шорстачкі растрэсенай,
Із костачкі разнесенай.
Ішла-пашла млода Анічка,
Люлі-люлі, млода Анічка.[3]
Спаткалася да й із Пецінькам.
— Куды пойдзеш, млода Анічка?
— Пайду-пайду ў высокі цяром,
У высокі цяром косаньку часаць.
— Ой, я з табою за таварыша.
— Ой, божа ж мой, не хочацца.
— А й быць табе, млода Анічка,
А й быць табе да й заплаканай,
Русай касе да й растропанай.

---

[1] Прыпеў «Люлі-люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

[2] Прыпеў «Кугі-кугі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

[3] Прыпеў «Люлі-люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

## 711. ВЫХОДЗІУ У ГОРАДЗЕ УКАЗ

Выходзіў у горадзе ўказ,

Люлі-люлі, у горадзе ўказ.[1]

Выходзіла каза ў красным сарафане,
Выносіла ўказ у кармане.
Хто ўказ той прачытаець?
Прачытаў жа пан Ерамея.
Ён чытаць указ не ўмее.
Стары бабы пілі — старыкоў прапілі.
Маладзіцы пілі — малайцоў прапілі.
Красны дзеўкі пілі — красату прапілі.
Пападзя піла — папа прапіла.
Дзячыха піла — дзяка прапіла.
Панамарыха піла — панамара прапіла.

## 712. ДЗЕДКА СВІНУШКУ УБІУ

Дзедка свінушку ўбіў,
Дзедка беленькую,
Спінку пегінькую.
Ай да бож'я каляда,
Прылятай к нам звысака,
Раз у жаланны год,
Палюбуйся часок.
Мы каўбаскі чынім,
Верацёнцам сверлім,
Рыльца лычкам напром,
А туда мяском наб'ём.
Ай, ёх, каляда,
Ляці швыдча звысака,
Да марозам не трасі,
Баслоўя к нам нясі!

[1] Прыпеў «Люлі-люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

# РОЗНЫЯ

## 713. ПАД ДУБАМ-ДУБАМ

Пад дубам-дубам
Ячмень малачу,
Вышай дубочка
Саломка ляціць.
Пад тым дубочкам
Рэчанька цячэць,
Па тэй рэчаньцы
Чаўначок плывець.
А ў тым чаўначку
Мой мілы сядзіць,
Чэшыць кудзёркі
Частым грабушком,
Пушчаіць кудзёркі
На быстру раку.
— Плывіце, кудзёркі,
К таму беражку,
Дзе мая мілая
Вадзіцу бярэць.
Спытайцеся ў яе,
Ці тужыць па мне.
— Няхай па ім тужыць
Камень і вада,
Я не буду тужыць
Па ім, малада.
Часаў ён трэскі
З маіх белых плеч,
Віў ён вяроўкі
З маіх русых кос,
Пушчаў ён рэчкі
З маіх дробных слёз.
— Жанухна мая,
Няпраўда твая.
Часаў я трэскі
З белай бярозы,

Віў я вяроўкі
З лёну і з пяньkі,
Пушчаў я рэчкі
З моху з балота.

## 714. ПАД ДУБАМ ДУБОЧКАМ

Пад дубам дубочкам
Ячмень малачу.
Павышай дубочка
Саломка ляціць.

Каля таго дуба
Рэчанька бяжыць,
А па той ды рэчцы
Чаўночак плывець.

А ў тым чаўночку
Маладзец сядзіць,
Чэшаць ён кудзёркі
Рыб'ім грабінём.

Пускаець пачоскі
На быстру раку,
Хай плывуць з вадою
К яго берагу.

Ды спытаюць мілу
Як прыдзе к вадзе,
Ці баліць ёй сэрца
Па ім, маладзе?

Калі яна тужыць —
Кудзёркі чарпнець,
А калі не тужыць —
Далі адпіхнець.

— Няхай па ім тужыць
Агонь ды вада,
Не я па ім тужыць
Буду малада.

Часаў жа ты трэскі
З маіх белых плеч,
Віваў ты вяроўкі
З маіх русых кос.

Віваў ты вяроўкі
З маіх русых кос,
Спускаў ручаёчкі
Маіх дробных слёз.

— Ой, не ждаў я праўды
Ад цябе такой.
Часаў жа я трэскі
З бярозкі сухой.

Віваў я вяроўкі
З мачонай пянькі,
Спускаў ручаёчкі
З быстрэнькай ракі.

## 715. ОЙ, З-ПАД СОСНЫ-СОСНЫ РЭЧАЧКА ІДЗЕЦЬ

Ой, з-пад сосны-сосны рэчачка ідзець,[1]
Па той жа рэчачцы чаўначок плывець,
А ў тым чаўначку белы маладзец
Часаў кудзёркі рыб'ім грабяшком,
Пускаў кудзёркі на быстру раку.
— Плывіце, кудзёркі, к таму берагу,
Дзе мая мілая вадзіцу бярэць,
Пытайцеся ў яе, ці любіць мяне.
— Няхай яго любіць камень ды вада,
А я не буду любіць малада.
Часаў ён трэскі з маіх белых плеч,
Віў ён вяроўкі з маіх русых кос,
Пускаў ён рэчкі з маіх дробных слёз.
— Мілая мая, няпраўда твая.
Часаў я трэскі з белай бярозкі,
Віў я вяроўкі з белага лёну,
Пускаў я рэчкі з імхоў і балотаў.

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 716. З-ПАД СОСНЫ-СОСНЫ РЭЧАЧКА ЦЯЧЭЦЬ

З-пад сосны-сосны рэчачка цячэць,[1]
А па тэй рэчачцы чаўначок плывець,
А ў тым чаўначку ўдалы маладзец.
Чэшыць галоўку частым грабушком,
Пускаець валоскі на чысту ваду:
— Плывіце, валоскі, к таму берагу,
Дзе мая міла вадзіцу бярэць,
Дайдзіце ў яе, ці тужыць па мне.
— Няхай па ім тужыць агонь ды вада,
А я не буду па ім малада.
Віў ён вяроўкі з маіх белых кос,
Шчапаў лучынку з маіх белых рук,
Шчапаў ён дроўцы з маіх белых ног.
— Няпраўды, жана, кажыш няпраўды.
Віў я вяроўкі з белых канапель,
Шчапаў лучынку з простай сасонкі,
Драбіў я дроўцы з белай бярозкі.

## 717. А БЯЖЫЦЬ РЭЧКА, РЭЧКА БЫСТРАЯ

А бяжыць рэчка, рэчка быстрая.
Ой, лялё-лялё, рэчка быстрая,[2]

Рэчка быстрая беражыстая.
Ай туды ж казак вёў каня паіць,
А мужык-дурак вёў жану тапіць.
А жана ў яго жалка просіцца:
— Не тапі ж мяне сёння звечару,
Затапі ж мяне заўтра ўтрача.
Большая дочка ночку не спала,
Ночку не спала, ўсё вартавала.
— Ах ты, папінька, дзе ж наша мамінька.
— Ваша мамінька ў новай горніцы,
Ў новай горніцы богу моліцца.
Богу моліцца, з рыбкай ловіцца.
Не плачце, дзеці, не тужыцеся,
Паставім, дзеці, новую хатку,

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.
[2] Прыпеў «Ой, лялё-лялё» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Ай, возьмем, дзеці, маладую матку.
— А згній тая новая хатка,
Прападзі ж тая маладая матка.

## 718. З-ПАД ГАРЫ ПАКАЧУСЯ

З-пад гары пакачуся,[1]
Я аб тын разаб'юся,
Рэчкаю разальюся,
Рэчкаю да быстрэнькаю,
Да травою зеляненькаю.
Няхай па мне вуткі крачуць
Да сівыя селязеньчыкі,
Няхай па мне дзеўкі плачуць,
Праўдалыя да малойчыкі.

## 719. ЕЛЬ МАЯ ЗЯЛЕНАЯ

Ель мая зялёная,
Свякроў мая шалёная.
Загадала мне тры дзела дзелаці:
Першае дзела — у нядзелю плаццe мыць,
Другое — на моры бяліць,
Трэцяе дзела — верх лесу сушыць.

Свякроўка, мая матачка,
Я не татарка — ў нядзелю мыць,
Я не вутачка — на моры бяліць,
Я не сонейка — верх лесу сушыць,
Я не зорачка — на небе качаць,
Я не мышка — ў арэшку складаць.

## 720. ШТО Ж ТО ЗА МАЛОЙЦЫ ДЫ ВАЙНЫ БАЯЦЦА

Што ж то за малойцы ды вайны баяцца?
Я ж, малада, вайны не баюся:
Сем міль барам ішла і каня ў руках вяла.

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

Я коніка вяду і ягаданькі бяру,
А ягаданькі бяру, ды не ведаю каму.
Ё ў мяне свякроўка, ды не родна матулька,
Што ягаданькі любіць, ды мяне не галубіць.

## 721. А УЧОРА МЯНЕ ДЫ СВЯКОР НАБІУ

А ўчора мяне ды свякор набіў,
Набіўшы мяне, сам у пір пайшоў.
У піру седзячы, пахваляецца,
Майму татульку наругаецца.
Ой, добра, добра піць піва п'яное,
І добра біці дзіця чужое.
Піва п'яное не співаецца,
Дзіця чужое не спіраецца,
Толькі слёзкамі абліваецца.
Уватрэць рукою — слёзкі ракою,
Уватрэць рукаўком — слёзкі ручайком.

## 722. УЧОРА З ВЯЧОРА МЯНЕ СВЕКАР БІУ

Учора з вячора мяне свёкар біў,
Біўшы, набіваўшы, з сабою гаварыў:
— Ой, добра чужыя дзеці біць,
Не адбіваюцца, толькі слёзкамі абліваюцца.

## 723. ЯК ПАЙДУ МЛАДА ПА НОВЫМ СЕНЯМ

Як пайду млада па новым сеням,[1]

Ай, лелем рана, па новым сеням.[2]

Кунню шубачку падымаючы,
Каб мая шубачка не шаснула,
Залатыя пугалькі не бразнулі.
Ай, каб не зачуў мой ліхі свёкар,

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.
[2] Прыпеў «Ай, лелем рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Ай, ліхі свёкар, свякроў горша,
Ай, каб не сказаў ён свайму сыну.
Свайму сыну, майму нялюбу.
Ой, мой нялюб-свет — мяцеліца.
Б'ець мяне, младу, за бяздзеліцу:
— Не хадзі, шэльма, ты па вуліцы,
Не гуляй, шэльма, ты з рабятамі
Ні з халостымі, ні з жанатымі.

## 724. А У ЧЫСТЫМ ПОЛІ ЗЕЛЕН ДУБ СТАІЦЬ

А ў чыстым полі зелен дуб стаіць,
А на тым дубу сіз галуб сядзіць,
Сіз галуб сядзіць, у зелен сад глядзіць.

А па тым саду Ганулька ходзіць,
А яна сваю красату содзіць.
Красата ж мая неўрадлівая,
А я ж у мамачкі нешчаслівая.

## 725. УСТАНУ Я РАНЮСЕНЬКА

Устану я ранюсенька,[1]
Умыюся бялюсенька.

Вазьму ключы залатыя,
Да й пайду я да стаенькі.

Вазьму каня варанога,
Фурманчыка маладога.

Да сяду я й паеду,
Еду польца і другое,

На трэцяе ўз'язджаю.
— Пастой, косю, паслухаю:

Ці не зязюля кукуець,
Ці не салавей шчабечыць.

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

Не зязюля кукуець,
Не салавей шчабечыць,

Мая мамка па мне плачыць,
Па мне плачыць і цяжанька ўздыхаець.

— А дзе ж маё дзіцятачка,
Ці не ваўкі яе з'елі,

Да каб ваўкі яе з'елі,
Усё б поле закрывавілі.

Пэўна, яе хлопцы ўвязлі
І вестачку мне не далі.

## 726. А ЗЯЦЁЧАК, РОДНЫ МОЙ СЫНОЧАК

— А зяцёчак, родны мой сыночак,
Аддала табе дочку белу, румяну,
А пабыла ў цябе — стала чорна, цмяна.

Досыць, зяцю, а ў бяседзі сядзеці,
А пашоў зяць свае жонкі глядзеці.

— А ты, жоначка-лябёдачка,
А што гаворыць ды мамусенька твая?

— Мужычок, мужычок, а не яркае сонца,
А ўваж, а ўваж маёй мамачкі слоўца,
Кожная маці ды жалее дзіцяці.

## 727. ЯСНАЯ ЗОРУШКА РАЗГАРЭЛАСЯ

Ясная зорушка разгарэлася.
Ой, рана-рана, разгарэлася.[1]

Дачцэ к бацьку захацелася.
— Запрагай, мой муж, пару коней.
— Ах, жана мая, калі ахвотаю,

---

[1] Прыпеў «Ой, рана-рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Калі ахвотаю, дык пяхотаю.
Іду я поле, іду другое,
А на трэцяе — я к татку на двор.
Ажно мой татухна у варот стаіць,
А мая мамухна на ганачку,
Бальшой брахнейка па двару ходзіць,
Па двару ходзіць, усміхаецца,
Мне, маладзе, наругаецца:
— Харашо, сястра, у чужых людзей?
— Запражы, брацец, тры кані сваіх,
Едзь жа, брацец, у цёмны лясы,
Насячы, брацец, тры вазы лазы,
Раскладзі ж, брацец, агонь-полымя,
Стань жа, брацец, ты к агню ліцом,
Якаво ж будзець твайму лічынку,
Такаво мне ў чужых людзей.
Па канец столу настаялася,
Усім піцухны надавалася,
Я й старому, я і малому,
Я й роўнаму, я й няроўнаму.
Ах, я старому — дзеля старосці,
Ах, я малому — дзеля малосці,
Роўнаму — дзеля раўносці,
А нялюбаму — дзеля любосці.

## 728. Й У БАРУ САСНА Й КАЛЫХАЛАСЯ

Й у бару сасна й калыхалася,

Ой, люлі-люлі, й калыхалася.[1]

Дачка к мацяры сабіралася.
Трыма мыламі вымывалася.
Першае мыла, кабы белай быць,
Другое мыла, каб румянай быць.
[Трэцяе мыла, каб прыгожай быць].
Ой, ідзе полем ды ідзе другім,
Да й на трэцяе ўзбягаючы,
Свайго татачку сустракаючы.

[1] Прыпеў «Ой, люлі-люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Да й сустрэў яе родны татачка.
— Ці добра, дачка, табе ў чужыне,
У чужых людзей, у чужой мацеры.
— Ці добра, татка, каню ў дарозе,
Каню ў дарозе, у цяжкім возе,
У цяжкім возе, шчэ й на марозе.
Так мне, татачка, у чужой мацеры,
У канец стала настаялася,
Кожнаму пітачкі надавалася.
Як старэнькаму, так маленькаму,
Свайму нелюбу шчэ й папераду.

## 729. НІКОМУ Ж ТАК НЕ ТОШНЕНЬКА

Нікому ж так не тошненька,
Як мне, маладзе.[1]

Раз'ехалася мая радзіна,
Як ліст на вадзе.

Як пайду я за вароцікі
А пасыплю карты.

А ўсе ж мае мінуліся
А дзявоцкія жарты.

Як выйду за вароцікі
А пасыплю персні.

А ўсе ж мае мінуліся
А дзявоцкія песні.

Як выйду я за вароцікі
А пасыплю дулі.

А ўсе ж мае мінуліся
А дзявоцкія гулі.

---

[1] Кожная страфа паўтараецца двойчы.

## 730. ПІЦЕ, ЛЮДЗІ, ГАРЭЛАЧКУ

Піце, людзі, гарэлачку,
Шэры гусі — воду,
Худа жыці на чужыне,
Не маючы роду.

Я роду харошага,
Лічыка краснае,
Баліць мая галованька,
Што доля няшчасная.

— Ці ты, мая мамка.
На Дунай не хадзіла,
Што мяне, маладую,
Без долі радзіла?

Што мяне, маладую,
Без долі радзіла,
Чаму, мая мамка,
У Дунай не ўтапіла?

— Утапіла б, дзіцятка маё,
Да баялася грэху,
— Цяпер жа мне, мамулька,
Гараваць да веку.

## 731. ЧЫРВОНА КАЛІНУШКА

Чырвона калінушка
Лучша арэхава цвета,
Бясшчасная мая доля
Пушча ўсяго света.

Чырвона калінушка
Усе лугі пакрасіла,
Бясшчасная мая доля
Усю радзіну засмуціла.

А хаджу ж я па каморы,
Як заблудная оўца,
Не з кім сесці прамовіці
Ды мне вернага слоўца.

А сяджу ж я ў каморы,
Як соўнінька ў крузе,
Бясшчасная мая доля,
Па век вешны сэрца ў тузе.

— Ці ж ты, мая матулечка,
У ціхі Дунай не хадзіла,
Чаму ж мяне, маленькую,
У ціхі Дунай не ўтапіла?

— Я ўтапіла б, дзіцятачка,
Баялася бога,
Не знала я, дзіцятачка,
Твае горкія долі.

## 732. КАБ Я ЗНАЛА, КАБ Я ВЕДАЛА

Каб я знала, каб я ведала [1]
Сваё горкае замужжайка,
Не сядзела б позна з вечара,
Не паліла б я лучыначкі,
Не шыла б я шырыначкі,
А скавала б я залаты крылышкі,
Паляцела б я на Ўкраіначку,
На Ўкраіначку, на рыначку.
На рыначку добры жоны жывуць,
А пасмела б я і ў іх папытаць:
— Вы, жоначкі, вы, ягадкі мае,
Ці не чулі, ці не бачылі
Варанога коніка паэбеглага,
Яснага сокала залётнага,
Маладога малойца заблуднага.
— Хоць бачылі, мы не будзем казаць,
Твайму сэрцу ўсю пячаль задаваць.
На рыначку ў новым ганачку
Заручаець ён двараначку,
Усё й купецкую дачушку.

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 733. ХУДА МАЛАДЗЕ НА ЧУЖОЙ СТАРАНЕ

Худа маладзе на чужой старане,
А я ні к татку, а ні татка ка мне,
А ні татка ка мне, ці не тошненька мне.

Напішу я запісачку, пушчу на ваду:
— Плыві, плыві, запісачка, к таткінаму двару,
А ў татулькі ў вароцейках калінка стаіць.
На каліне, на маліне ўсё й беленькі цвет,
А вясёла тая бяседачка, дзе мой татка п'ець,
Ніхто ж мяне, маладзеньку, там не асмяець.

## 734. А УСЕ ЛЮДЗІ, ЯК ЛЮДЗІ ЖЫВУЦЬ

А ўсе людзі, як людзі жывуць,[1]
Адна мая бедная галава,
Вароцікі мяцеліца задула.

— Прыдзі, прыдзі, мой татулька, да мяне.
Адмяці ж ты мяцеліцу ад мяне.

Не прыехаў мой татулька да мяне,
А не адмёў жа мяцеліцу ад мяне.

— Прыедзь жа, прыедзь, мой міленькі, да мяне,
Адмяці ж ты мяцеліцу ад мяне.

Як прыехаў мой міленькі з шасцёркай,
Адмёў маю мяцеліцу мяцёлкай.

## 735. НІХТО ТАГО НЕ ВЕДАЕЦЬ

Ніхто таго не ведаець,
Што мой муж ліхі.
Ён сам піва не наварыць
І [illegible] людзям не ідзець.
— Пусці ж мяне, міленькі,
К суседу на бяседу.

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

— А йдзі, ідзі, мая мілая,
Не загуляйся,
На малога дзіцятачку
Не забывайся.
Пайшла ж я, маладая,
Загулялася,
На малога дзіцятачку,
Да й забылася,
На дудачкі, на скрыпачкі,
Заслухалася.

## 736. ЯК ПАЙДУ Я ПА ВУЛІЦЫ, ПА МУРАЎЦЫ

Як пайду я па вуліцы, па мураўцы,
Каб мая шубанька не зашумела,
Каб мае гузічкі не зазвінелі,
Каб ды не пачуў ліхі свёкар,
Каб не сказаў ды свайму сыну,
Свайму сыну ды майму мужу.
Ах, і мой муж мяцеліца,
Наб'ець маладу за бяздзеліцу.
Як чорт надзмецць, галаву наб'ець,
А як уздобрыцца, хату падмяцець,
Хату падмяцець, вады прынясець.

## 737. ТОШНА ТАМУ, ТОШНА ТАМУ

Тошна таму, тошна таму,
Хто не люб каму.[1]

Ташней таму, ташней таму,
Хто і люб каму.

Ён ночанькі, ён ночанькі
Не ўсыпаець,

З струмен ножак, з струмен ножак
Не вымаець,

[1] Кожная страфа паўтараецца двойчы.

З-пад аконца, з-пад аконца
Не ад`язджаець,

Ён сваю мілку, ён сваю мілку
Пабуджаець:

— Ці спіш, мілка, ці спіш, мілка,
А ці так ляжыш?

Калі спіш ты, калі спіш ты,
Бог з табою,

А не спіш ты, а не спіш ты,
Моў са мною.

— Ой, рада б я, ой, рада б я
З табою мовіць,

Усё й нялюбы, усё й нялюбы
Пры баку ляжыць.

Дзіцятачка, дзіцятачка
Ля другога,

А войстра шабелька, а войстра шабелька
У галовачках.

— Я ж табе, мілка, я ж табе, мілка,
Разгадаю.

Нялюбаму сон, нялюбаму сон
Мы пакінем,

Дзіцятачка, дзіцятачка
У калысачку,

Войстру шабельку, войстру шабельку
На сіне мора.

Мы з табою, мілка, мы з табою, мілка,
Пагаворым.

А пагаварыўшы, а пагаварыўшы,
Мы паедзем.

## 738. ТЫ ЧЫРВОНАЯ КАЛІНА

— Ты чырвоная каліна,
Ах, і што цябе зламіла?
— Зламілі мяне буйныя ветры
Са лютымі марозамі.

— Ах, і беленькі малойчык
Ах, і што цябе ссушыла?
— Ссушыла мяне тая дзяўчына,
Што з чорнымі брывамі.

Хаджу я за табою
Стаю я пад канвою
— Выйдзі, дзяўчына, выйдзі, рыбчына,
Пагаварым з табою.

— Ах, і рада б я выйці
Ды з табою гаварыці.
Ляжыць нялюбы на правай руцэ,
Не магу я адкаціцца.

— Дзяўчоначка, мая люба,
Адкаціся ад нялюба.
Буду страляці, буду лучаці
З-за зялёнага дуба,

Буду страляці, буду лучаці
З-за зялёнага дуба,
Заб'ю нялюба з тугога лука,
Як сізога галуба.

— А ці ўлучыш, ці не ўлучыш,
Толькі з нялюбым разлучыш.
Засядлай каня, саязджай з двара:
Ты не мой, я не твая.

Мілы коніка сядлаець
І з конікам размаўляець:
— Бяжы, мой косю, бяжы, вароны,
Ты да ціхага Дунаю.

Дунай-рэчка возьмецъ крушу,
А ангелы — маю душу.
Ты ж мая рэчка, ты ж мая быстра,
Вынесь косці на сушу.

## 739. ЗІМУШКА-ЗІМА МАРАЗЯНАЯ

Зімушка-зіма маразяная,[1]
Прашу я цябе — не марозь мяне,
Не так ты мяне, як дружка майго,
Полем ідучы, зброю несучы,
Зброю несучы, песню пеючы,
Што жана мужа да й пацешыла,
Павяла ў сад да й павесіла,
А сама пайшла на вулку гуляць.
Гуляй, пагуляй — нагулялася,
Дамоўкі прыйшла — задумалася:
Худа жыць з мужам, горай без мужа.
Вот пайшла ў сад прыпяваючы,
Свайго мілага прабуджаючы:
— Уставай, мілы, з долу,
Пойдзем, мілы, дадому,
Ці ты кветачак не панюхаўся,
Ці салавейкі не наслухаўся?

## 740. ЗІМНЯ РОСА

Зімня роса,
Зімня роса ды й мароз будзе,
Дзе мой мілы начаваць будзе.

Ці ў дарозе,
Ці ў дарозе, ці ў абозе,
Ці на роўнай сенажаці,

Ці на роўнай,
Ці на роўнай сенажаці,
Ці ў дзяўчыны ў караваці.

Пабуджала,
Пабуджала мяне маці
На дуброву валы гнаці.

Валы ганю,
Валы ганю, лянок бяру,
Валы пасу, лянок чашу,

---
[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

Лянок чашу,
Лянок чашу бялюсенькі,
Пушчу голас цянюсенькі.

Учуў мілы,
Учуў мілы ў каморы,
Чый там голас у дуброве?

— Ці то дзеўкі,
Ці то дзеўкі, ці то ўдоўкі,
Ці то маей роднай жонкі?

## 741. НА ДВАРЭ СНЯЖОК ВЕСЬ БЯЛЮСЕНЬКІ

На дварэ сняжок весь бялюсенькі
Разліўся вадой,
Ты ж мой міленькі, чарнабрывенькі,
Разлука з табой.

А куды ж лозы пахінуліся —
Адтуль ветры веюць,
А куды ж вочы наглядзеліся —
Адтуль мілы едзець.

Веялі ветры, веялі ветры,
Ды ўжо перасталі,
Глядзелі вочы, глядзелі вочы,
Ды ўжо плакаць сталі.

А ў гародзе ялушачка,
За гародам сосна,
А я пяю, весялюся,
На маём сэрцы тошна,

Што я, млода, заўдавела,
Дзеткі пасірацелі.
Дзеткі мае —сіротачкі,
Яшчо ж яны не ўзрашчоны.

А лугі мае — зялёны,
Яшчо ж яны не кашоны,
Поле маё — шырокае,
Яшчо яно не ўзарона.

Слугі мае верненькія,
Запражыце пару коні,
Пару коні вараненькіх,
Я й паеду к свайму татку.

[Я паеду к свайму татку],
К свайму татку на параду:
— Парай, парай, мой татулька,
Як на свеце жыць?

Парай, парай, мой татулька,
Як на свеце жыці,
Што я, млода, заўдавела,
Дзеткі пасірацелі.

Лугі мае — зялёны,
Яшчо ж яны не кашоны,
Поле маё — шырокае,
Яшчо ж яно не ўзарона.

— Гаруй, дзіця, гаруй, дзіця,
Гаруй, дарагое,
Лугі твае зялёны,
Будуць яны пакашоны,

Поле тваё шырокае,
Будзець ўзарона,
Дзеткі твае сіротачкі,
Будуць яны ўзрашчоны.

## 742. КАЛЫШЫЦЕ, БРАЦІТКІ, КАЛЫШЫЦЕ

Калышыце, брацiткі,
Калышыце, калышыце.

На мяне, маладзеньку,
Не глядзіце, не глядзіце.

Бо я ўжо, маладзенька,
Заручона, заручона.

За далёкага мужа,
Аддадзёна, аддадзёна.

Ой, за лесам, за лесам,
За цямненькім, за цямненькім.

Ой, за мужам, за мужам,
За п'яненькім, за п'яненькім.

## 743. У ГАРОДЗЕ — ЧЫРВОНА Й РОЖА

У гародзе — чырвона й рожа,
Не буду хваліцца дужа,
Што бог даў добрага мужа:
Як стану работку рабіць,
Тады ён весел глядзіць,
Як стану, малада, стагнаць,
Каб цябе гэткаю не знаць!

## 744. САСЕНКА МАЯ ЗЯЛЕНАЯ

Сасёнка мая зялёная,
На табе кара дубовая,
На табе лісця пярловыя.
Малодка мая маладая,
Людзі гавораць: твой муж не п'ець,
Ён не п'ець і з карчмы не йдзець.
Ён прапіў каня варанога,
Дамоў ідзець па другога.
— Жоначка мая, люблю цябе,
Вазьмі ключы залатыя,
Адкрый скрыню грашовую,
Вазьмі рубля залатога,
Выкупі каня варанога.
Выкупіш — дамоў вядзі,
Не выкупіш — сама не ідзі.
— Не раз, не два выкупляла,
Шаўковы платкі застаўляла,
Косамі карчму вымятала,
Плечкамі сцены выцірала,
Лбом дзверы адкрывала.

## 745. ТОЙ БЯСШЧАСНЫ ЧАЛАВЕК

Той бясшчасны чалавек,
Што ў карчомцы водку п'ецъ.
Пасылала мяне маці
Свайго сына шукаці,
Ці ў лозе, ці ў дарозе,
Ці ў шынкаркі на парозе.
А ні ў лозе, ні ў дарозе,
А ў шынкаркі на парозе.
Я й не біла, не браніла,
Толькі слова згаварыла:
— А прапою, мой прапою,
Прапала я за табою.
Прапіў хату і святліцу,
Зжурыў мяне, маладзіцу.
Прапіў каня і кароўку,
Зжурыў ты маю галоўку.
Прапіў штаны і сарочку,
А сам сядзіць у куточку.
Абабралася кума,
Штаны й сарочку дала,
Вывела із сарама.

## 746. ШКАДА ДУБУ ЗЯЛЁНАГА

Шкада дубу зялёнага,
Што за сухім лесам.[1]

Шкада маёй маладосці
Што за благім бесам.

Ні я піла, ні я ела,
Ні добра хадзіла,

Толькі свае маладыя
Леты патраціла.

— Ды запрагай, мой брацітка,
Коні вараныя,

[1] Кожная страфа паўтараецца двойчы.

Ды паедзем даганяці
Леты маладыя.

Конікі ж заганялі,
Леты не дагналі.

## 747. У АГАРОДЗЕ КАНАПЕЛЬКА

У агародзе канапелька
Зіма-лета зеляненька,
Да не даў ёй бог зялёнай пабыці,
Да збіў вяршочак
Да ў жоўты пясочак,
А яе самую — у зямлю сырую.

## 748. ДОЛЯ НАША, ДОЛЯ

Доля наша, доля,
Не такая, як людская.
Людзі п'юць, гуляюць,
Яны хораша ходзяюць,
А мы не п'ём, не гуляем
І нічога не маем.

## 749. ДУМА МАЯ, ДУМА

Дума мая, дума,
Дума над думой.
І дзетачкі плачуць
І естачкі хочуць.
Дума ж мая, дума,
Дума вялікая.

## 750. ДУМА Ж МАЯ НЕВЯЛІКАЯ

Дума ж мая невялікая,
Пайшла жонка проч нябітая.
У вароцечках абувалася,
А мне, молайцу, наругалася.

## 751. НАЛЯЦЕЛІ САКАЛЫ СА СТАРАНЫ

Наляцелі сакалы са стараны,
Селі-палі на домік на двары,
Крылушкамі ўвесь двор размялі,
Вочанькамі ў святлічаньку свяцілі,
Галасочкамі ўдовушку ўзбудзілі:
— Устань, устань, удовушка-ўдава,
Устань, устань, пабедная галава,
Выйдзі, выйдзі за новыя вароты,
Прыляж, прыляж да сырой зямлі,
Ці шуміць дуброванька зялёна
Ці стогне дарожанька шырока?
— Ужо едуць казачанькі з вайны,
Майго дружка толькі лашадкі вядуць,
На кані сядзелюшка шчырая,
На сядзельцу рубашачка тонкая,
Тонка, бела, уся кроўю ўскіпела.
А мне, маладой, у прыказе было,
Што б я без вады была вымыта бела,
Што б без сонца суха высушана была,
Што б без каталкі гладка выкатана была.
А я, малада, дагадліва была:
Вымыла я гарачымі слязамі,
Высушыла кручынаю-пячаллю,
Выкатала рацівым сэрцам.
Вот ■ цяпер удовушка-ўдава,
Удовушка-ўдава, пабедная галава.

## 752. РАЗГАРЭЛАСЯ КРУТАЯ ГАРА

Разгарэлася крутая гара,
Расплакалася маладая ўдава:
— Хто мне, маладой, ды дружок будзець,
Хто ж майму дзіцяці татанька будзець,
Хто мае лугі касіці будзець,
Хто ж маю землю пахаці будзець,
Хто ж на маіх конях паязджаць будзець?
А зачуў маладзец, а зачуў малады:
— Не гары, не гары, крутая гара,
Ах, не плач, не плач, маладая ўдава:

Я ж цябе, маладу, я й сам вазьму.
Я ж табе, маладой, ды дружок буду,
Я твайму дзіцяці татанька буду,
Я твае лугі касіці буду,
Я тваю зямлю пахаці буду,
Я на тваіх конях паязджаць буду.
— Баюся, баюся, малады маладзец:
Ты ж мяне, маладу, забіваць будзеш,
Ты ж маё дзіця з горніцы выганяць будзеш,
Ты ж мае зямлі пахаць не будзеш,
Ты ж маіх конічкаў прапіваць будзеш.

## 753. ЕСЦЬ У БАРУ СОСНА

Ёсць у бару сосна,
Пад тэю сасною } 2 разы
Ды сядзеў брат з сястрою.

А седзючы гаварылі:
— Набяром, брат, ягодак } 2 разы
У вадзін кузавочак.

Панясём прадаваці,
Купім сабе маці. } 2 разы

— Дурна, сястра, дурна,
Дурна неразумна.
А няма ж тых крамак,
Што прадаюць мамак.

## 754. ЕСЦЬ У БАРУ СОСНА

Ёсць у бару сосна,[1]
Па ўсяму бору тошна.

Пад тэю сасною
Дваранін каня пасець,

Дваранін каня пасець
І ў гуселькі іграець,

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца двойчы.

У гусельki іграець,
Дзевак падмаўляець.

Прасілася дачка ў мацi
Пад сосну гуляцi.

— Пусцi мяне, мацi,
Пад сосну гуляцi.

Не жджы мяне, мацi
А ні сягодня ўвячора,

[А ні сягодня ўвячора],
А ні заўтра раненька.

А жджы мяне, мацi,
Аб зялёным свяце,

[Аб зялёным свяце],
З маладым зяцем,

З маладым зяцем
І з малым дзіцяцем,

З маленькім сынам,
З беленькім сырам.

На ж табе, мацi, сыра,
Калышы майго сына.

## 755. ДА НЕ МАК-РОЖА ЗАЦВІТАЕ

Да не мак-рожа зацвітае,
Чырвонае войска выступае,
Папярод войска сівы конь бяжыць,
На том кані жаўнер сядзіць,
Пад ім конік цяжка іграе,
Цяжка іграе, важка дыша.
— Да не дышы, конік, пада мною,
Ці я табе цяжак, ці сукны мае?
— Ты мне не важак, ні сукны твае,
Цяжка-важка ўперадзе йдучы,
Горду б'ючы, казакі сякучы.

## 756. ОЙ, КОСЮ, КОСЮ

Ой, косю, косю,
Косю вараны,
Вывезі, косю,
З чужой стараны.
Дам табе, косю,
Сена аброку,
Вывезі, косю,
З чужога боку.
Напаю, косю,
Вадой ключавой,
Накармлю, косю,
Травой-муравой.
Ой, косю, косю,
Косю вараны,
Вывезі, косю,
З чужой стараны.

## 757. ОЙ, КОСЮ, КОСЮ

Ой, косю, косю,
Косю вараны,[1]

Вывезі мяне
З чужой стараны.

Дам табе, косю,
Сена аброку,

Вывезі, косю,
З чужога боку.

Дам табе, косю,
Крынічнай вады,

Вывезі, косю,
З вялікай бяды.

---

[1] Кожная страфа паўтараецца двойчы.

## 758. УДОЛЬ ПА ВУЛІЦЫ СІВЫ КОНЬ БЯЖЫЦЬ

Удоль па вуліцы сівы конь бяжыць,

Ой, люлі, рана, сівы конь бяжыць.[1]

Сівы конь бяжыць, аж зямля дрыжыць.
Яго грывачка разлягаецца.
— А ты, кося мой, ты сівусенькі,
Не ўцяшай мяне ўдоль па вуліцы,
Ой, пацеш мяне ў цёшчы на двары,
Перад дзевачкай, перад цёшчухнай,
Перад мамачкай, перад татачкам.

## 759. А ПА ВУЛІЦЫ СІВЫ КОНЬ БЯЖЫЦЬ

А па вуліцы сівы конь бяжыць,
Сівы конь бяжыць, аж зямля дрыжыць,
Яго грывачка разлягаецца,
Яго Колечка ўцяшаецца.
— Ах ты, косю мой, косю сівенькі,
Косю сівенькі, белагрывенькі,
Ай, уцеш мяне на чужой старане,
Перад цешчаю, перад стараю,
Перад дзеўкаю, перад краснаю.

## 760. СЮДА-ТУДА, НА ВЫСОКУЮ ГОРУ

Сюда-туда, на высокую гору!
А на той гарэ шаўковая трава расце,
А на той траве дзяўчыначка каня пасе.
Аж ось ідзе да стары, барадаты:
— Памагай бог, дзяўчыначка маладая!
Да чы любіш да старога, барадатага?
— Я старога даўно не любіла,
У сваёй хаце дымком частавала,
Із сваго двара сабакамі цыкавала,
А яго слядкі каменнейкам закачывала.

---

[1] Прыпеў «Ой, люлі, рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Сюда-туда, на высокую гору,
А на той гарэ шаўковая трава расце,
А на той траве дзяўчыначка каня пасе,
Аж ось ідзе малады, нежанаты:
— Ой, дзень добры, дзяўчыначка маладая!
Да чы любіш маладога, нежанатага?
— Я маладога даўно палюбіла,
У сваёй хаце мядком частавала,
Із сваго двара очыцамі праводзіла,
А яго сляды пярсцёнкамі закладала.

## 761. РАСЦІ, УКРОПЕ, ВЫШЫ АГАРОДА

Расці, укропе, вышы агарода,
Тудой будзе ехаць стары да жанаты.
Я ж таго старога змалку не любіла,
У двор яго сухаром заманіла,
У хаце яго дымам напаіла,
З двара яго сабакамі правадзіла,
Па слядах яго каменнем пакаціла.
Так цяжанька каменю каціцца,
Так пагана са старым мужам жыці.

Расці, укропе, вышы агарода,
Тудой будзе ехаць малады да нежанаты.
Я ж таго маладога і змалку любіла,
У двор яго калачом заманіла,
У хаце яго мёдам-віном напаіла,
З двара яго музыкамі правадзіла,
Па слядах яго перстнем пакаціла.
Так лёганька перстню каціцца,
Так добранька за маладым мужам жыці.

## 762. ДА ПЫТАЎСЯ ЯНАЧКА

Да пытаўся Яначка [1]
Да ў роднай мамачкі:
— Да родная мамачка,
Ці пара мне жаніцца?

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

— Абажджы жаніціся,
Розуму набярыся,
Розуму ацецкага,
Паязду шляхецкага.

## 763. ШЛІЦЕ КА МНЕ ГАРМАНЕЮ, К БАЦЬКУ МАЙМУ

Шліце ка мне Гарманею, к бацьку майму,
Не аддасць мяне бацька — я сама пайду,
Чэраз поле тваё шэрым зайцам,
Чэраз лес сівым ваўком,
Чэраз мора шэрай вуткай,
На двор на твой цёмнай тучкай,
А ў сені твае дробным дажджом,
А ў хату тваю ясным сонцам,
За стол за твой сяду паваю,
У ложу тваю ляжу паннаю,
К печы тваёй гаспадыняю,
К клеці тваёй клюшніцаю.

## 764. ВЕЧАР, ВЕЧАР, ВЕЧАРЫНАЧКА

Вечар, вечар, вечарыначка,
Хто там едзе? — Бараніначка.
Едзе Андрэйка п'яны:
— Адчыні, Кацярынка, я твой каханы.
— Не адчынюся, брата баюся,
А проціў цябе сама лісцем сцялюся.

## 765. АХ ТЫ, СІНЕНЬКІ ГАЛУБЧЫК

— Ах ты, сіненькі галубчык,[1]
Дзе бываў, лятаў далёка,
Да ці быў жа ж ты на моры,
Да ці быў жа ж ты на сінім,

---

[1] Кожны радок паўтараецца двойчы.

Ці відзеў сваю галубку?
— За малым-малым не відзеў,
За малюсенькім не бачыў.
Як я на мора ўзлятаў,
Дык яна ў трысцё ўпала,
Да за ёй трысцё шумела,
Да за ёй вада гудзела.

— А ты, малады Ванечка,
Дзе бываў, лятаў далёка,
Да ці быў жа ты ў цёшчы,
Ці відзеў сваю Паўлінку?
— За малым-малым не відзеў,
За малюсенькім не бачыў.
Як я на падвор'е ўз'язджаў,
Дык яна ў камору ўцякла,
Да за ёй скрыпкі ігралі,
Да за ёй дзеўкі пяялі,
Да на ёй істужкі ляляелі,
Да па ёй хлопчыкі млелі.

## 766. ТЫ, ВУТАЧКА-ПЕРАБАУНІЦА

— Ты, вутачка-перабаўніца,
Ты сокала перабавіла.
— Не я яго перабавіла,
Ён да мяне сам пералёнуў.
Ён на мяне паквапіўся,
Ён на маё пер'е рабое,
Ён на маё крылле залатое.
— Ты, Кацярынка-перабаўніца,
Ты Андрэйку перабавіла.
— Не я яго перабавіла,
Ён на мяне паквапіўся,
Ён на мяне саму маладую,
Ён на маю скорую работку,
Ён на маю ціхую паходку,
Што я, малада, скора рабіла,
Што я, малада, ціха хадзіла.

# ТЫПОВЫЯ КАЛЯДНЫЯ НАПЕВЫ

ТЫП А-1

1 227, 234, 357










2 428






**3*** ♩ = 96



1. А ў лу_ зе,лу_ зе ка _лі_ на крас_на. Доб_ры ве _чар!



2. Ой, яс_ ней,крас_ней Ган_на ў та_тач_ кі. Доб_ ры ве_ чар!



3. Па двор[ы] ха_дзі_ла – ўвесь двор кра_сі_ла. Доб_ры ве _чар!



4. У се_ ні ўвай_шла – се _ні за_ззя _лі. Доб_ры ве _чар!

**4** ♩ = 72 248, 260, 280, 281, 316



Свя _ ты ве _ чор!



1. Па_не га_ спа_ да_ру, ці спіш,ці ля _жыш? Свя _ты ве _ чор!



2. Ці спіш,ці ля_жыш, што з на_мі не га_во_ рыш? Свя_ты ве_ чор!

**5** ♩ = 72 233



1. До_бры ве_чар та_му, хто ў е_том да_ му. Свя_ ты ве _чор!



2. А ў е_том да_му сам пан га_спа_дар. Свя_ты ве _ чор!

6

♩= 80 391, 497



1. А ўля_ску,ўля_ску круг_ла_е по_ле. Свя_ты ве_чор!



2.Ой там Ва_сіль_ко па_ра_ні_нку га_рэ. Свя_ты ве_чор!

7

♩= 66 184,295,305,330,431,454,496,499,502



1.Ой па-над мо_рам, па-над глу_бо_кім.Свя_ты ве_чор!



2.Там ста_яў я_вор, то_нкі,ву_со_кі. Свя_ты ве_чор!

8

MM ♩= 132



1.Ой, до_бры ве_чар, па_не га_спа_да_ру.



Свя _ ты ве _ чар!



2.Ці спіш, ці ляжыш, ці па_ці_ху ся_дзіш?



Свя _ ты ве _ чар!

**9***

УМЕРАНА



Ой, дзе мы хо_ дзім ды па _ ха _ джа _ем.



Свя _ ты ве чар!

**10*** 475

Moderato



Я ж ту_ ю дзе_вач_ку



Бег_ла ста_ро_ жа з чы_ста_га по _ля. Доб_ры ве _чар!

**11***



А ў по_лі, ў по_лі бя_роз _ ка ста_іць. Свя_ты ве_ чар!

**12** 495

♩ = 66



1. (і) А ў по_лі, ў по_лі ту_ма_ны хо_дзяць. Вой ка_ля _ дкі!



2. То ж не ту_ма _ны, то ж па _ра ко _ней. Вой ка _ля _ дкі!

**13** **450**

♩ = 61



1.Ой ку_ ры, ку _ры, не пей_ це ра_ на. Свя _ты ве [чар]!



2.Не пей_ це ра_на, не бу_дзі_це па_ка. Свя_ ты ве_[чар]!

**14** **258, 358, 453**

*Говарам*



Шчо_дры ве_чор, до_бры ве_чор, ка_му шчо – дры_ка спе_ва_ці?

МЕРНА



1. Ой, ра_ но, ра_ но ку_ ры за_пе_ лі. Свя_ты ве ... ч[ор]!



2. А ʼшчэ на_дра_нней стаў Ко_ ле_чка наш. Свя_ты ве ... ч[ор]!

15 503

♩= 84

Адзін

Усе

1. Да залейімо песню слав(ы)наму пану.

Да залей_мо пе_сню слав(ы)на_му па_ну.

2. Слав(ы)на_му па_ну, па_ну І_ва_ну.

С(і)_вя_ты вэ ... [чор]!

Сла_в(ы)на_му па_ну, па_ну І_ва_ну.

3. Да ма_ці сы_нонь_ка...

У канцы: С(і) _ вя _ ты вэ... [чор]!

♩≈ 138

Дай. бог, штоб за год да_жда_лі, ды зноў за_спе_ва_лі!

16*

ДАВОЛІ ХУТКА



Ой,ў лу_зе,ў лу_зе крас_ на ка_лі _на. Свя _ты ве _чар!

17* 457

Moderato



Ой, ку_ры, ку_ры, не цей_це ра _на. Доб _ ры ве _ чар!

18 220,221,387,390,424

♩ = 63



1. А ў ба_рку, ў ба_рку(й) на жоўтым пя_ску. С'я_ ты ве _ чор!



2. Кры_жы_чак ста_іць, га_ лу _бок ся_дзіць. С'я _ ты ве _ чор!

19 222,382,426

♩ = 66



1. Там(а) на Ту _ ра_ ве, там на му_ ра _ ве.



С'е _ ты ве _ чор!



2. Ста_іць цэр _ каў _ка не _ да_ ру _бле _ на.



С'е _ ты ве _ чор!

20

УМЕРАНА



Ой там на га_рэ пеў _ні_чак пя_ е. Свя _ты ве _ чор!

21 ♩= 58 276



1.Ой хо_дзіць, ходзіць месяц па не_бу. Свя_ ты ве_чор!



2.Зо_ры склі_ка_ець, бо_га шу_ка_ець. Свя _ты ве _чор!

22 ♩=72 440



1. (ы) Да ста_іць бя_ ро_ за, то_нка, ву_со _ ка.



Шчо _ дры ве _ чор!



2. Тон(ы) _ка, ву_ со _ ка, лісь _цем шы_ ро _ ка.



Шчо _ дры ве _ чор!

23 414

♩= 50







24

♩= 85


















25*

Allegretto







26

УМЕРАНА












333

♩ = 60

1. За_жу_ры_ла_ся кру_та_я га_ра.

Ой, грай, мо_ра, ра_дуй_ся зя_мля!

2. Што не ўра_дзі_ла шаў_ко_ва тра_ва.

Ой, грай, мо_ра, ра_дуй_ся, зя_мля!

**28**

♩ = 96



1. Я(й) у Кі _ е _ве на пе _ ра _во _ зе.



Свя _ ты ве _ чор, свя _то ва _сіль _ лё!



2. Дзе_ржыць пе _ ра _воз слы _ чна па _ не _ нка.



Свя _ ты ве _ чор, свя _ то ва _ сіль _лё!

**29** **452**

♩ = 50



Ой ра _ на, ра _ на ку _ ры па _пе _ лі.



Шчо _ дры ве _чор, свя _ ты ва _сіль _ле!

**30** **186**

♩ = 56



Ой над рэ _ка _ ю, над глы_бо _ ка _ ю.



Свя _ ты ве _ чор, свя _ ты ва _сіль _лё!

